**Вінцук Вячорка. Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016. 364 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У кнізе сабраныя нарысы пра беларускую мову, што гучалі на хвалях і публікаваліся на сайце Радыё Свабода у 2014–2016 г. Жывая практыка і прыгажосьць, якія грунтуюцца на навуковым мовазнаўчым падмурку, спалучаюцца з эканомнай лёгкасьцю выкладаньня і тонкім філялягічным густам аўтара.

Ілюстрацыі зь непазначанай крыніцай — з аўтаравага збору.


FOL

ISBN 978-0-929849-79-9

# Зьмест

## Гамлет

У век інтэрнэту,
У эпоху глябалізацыі,
У эру перакладчыкаў Google,
Калі аўтакарэктары замянілі слоўнікі
І нават Бог стаў дыгітальным,
Навошта ведаць сваю мову?
Няўжо, каб быць самім сабой?
Няўжо, каб быць?

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Моўны ўчынак

Калі паставіцца да кнігі як да зборніка моўных парадаў, то яе разьдзелы могуць называцца „Лексыка“, „Анамастыка“, „Граматыка“, „Артаэпія і правапіс“, „Моўныя кантакты і культура мовы“. Запрашаю чытаць і тых, хто трымаецца афіцыйнага правапісу, бо правапісаў два, а мова адна.

Кожны аўтар суб’ектыўны. Але я стараўся абгрунтоўваць прапановы народнаю моваю, зьдзяйсьненьнямі пачынальнікаў нашага мовазнаўства 1920-х гадоў, моўным чуцьцём клясыкаў. А нават старабеларушчынай, ад якое мы пакуль адчужаныя.

Мне мала таго, каб чытач беларускую мову „любіў і паважаў“. Я хацеў бы, каб мы ўсе, па-першае, захапіліся моўнымі пошукамі, адчулі, якая ж неадкрытая гэта рэч — наша мова. А па-другое...

У сацыялінгвістыцы бытуе тэрмін „моўны ўчынак“. Ён мае розныя значэньні, але ў беларускай рэальнасьці гэта валявы акт дзеля мовы. Моўны ўчынак — не паддацца на псыхалягічны ціск іншамоўнага наваколья. Адшукаць і пачаць ужываць беларускую тэрміналёгію ў сваёй прафэсіі.

А галоўны моўны ўчынак — гэта гаварыць па-беларуску. Патрэбнае слова знойдзецца, можа нават у гэтай кніжцы.

*Аўтар*

## Разьвітаньне з камбедамі

Неяк мая, тады малая, дачка рабіла практыкаваньне на дапісваньне канчаткаў. У яе атрымалася: *заявы разглядаліся праф**ком*** (кім-кім? прафком, няўжо ня ясна? *прафок* іх разглядае, ну як *шашок* — *шашком*); *сьпяваў камрот**ы** Весялоў* — дзіцё спытала, што значыць прыметнік *камроты* (пэўна, як *пузаты*, *валасаты*, *вялікароты*...). А яшчэ ў яе атрымаўся *Старыцк**і** МТС*, куды нехта прыехаў па разьмеркаваньні. Чаму мужчынскага роду — бо гэта ж мабільны апэратар!

Скажу шчыра, спачатку я рагатаў, чым дзіцё пакрыўдзіў. Потым пэдагагічна сказаў, што сьмяюся з падручніка, чым супакоіў. А ўрэшце зацяўся.

Кім засялілі падручнік беларускай мовы? *Прафком*, *саўнарком* і *камротымі*! Так у дзіцячай сьвядомасьці фармуецца погляд, што школьная беларуская мова ня мае нічога супольнага з рэальнасьцю (адзіная такая сувязь — *МТС*, які ў далёкія 50-я, пэўна, абыходзіўся без канкурэнтаў). Але гаворка тут ня гэтулькі пра замшэлыя саветызмы (*савет народных камісараў* ці *машынна-трактарную станцыю*), колькі пра спосаб іх утварэньня. Бальшыня зь іх утварыліся

з кавалкаў — зь першых складоў (частак) — іншых словаў.

**Чалавек істота ленаватая,** дзе можна абысьціся меншымі намаганьнямі — абыходзіцца. І ў мове дзейнічае прынцып моўнай эканоміі — скарачэньня. Але не бясконцага: могуць і не зразумець.

Чытаю беларускамоўную вэрсію навінаў дзяржаўнага агенцтва БелТА і натыкаюся на слова *дыфтарыфы*. Натуральна, першая асацыяцыя — з хваробаю *дыфтэрыяю* (народная зьбеларушчаная назва *дзехцярык*). І не адразу цямлю: гэта ж *дыфэрэнцыяваныя тарыфы* на электрычнасьць.

Або паспрабуйма зьнянацку зразумець, хто/што такое *юрасоб*. У галаве пракруціліся самыя розныя тлумачэньні ад усемагчымых *Юрасёў* да *Jurassic Park* — парку Юрскага пэрыяду; і толькі наткнуўшыся ў тым самым тэксьце на *фізасобы*, я ўцяміў, аб што ішлося. *Юрасоб* — гэта родны склон ад скарачэньня *юрыдычныя асобы*. Па-расейску *юрлица* — во дзе прастора для беларускіх асацыяцыяў наконт іхнай юрлівасьці.

**У моўнай эканоміі ёсьць рацыянальная мяжа:** зразумеласьць, нормы вымаўленьня ды традыцыя адпаведнае мовы, урэшце, эстэтычныя крытэры. Возьмем *„дзяржстрах“*. У нас гукі пад уплывам суседніх у слове могуць моцна зьмяняцца або нават зьнікаць дзеля мілагучнасьці. Гук **[ж]** зьнікае перад наступным **[с]** (і гэтую

зьяву на пісьме пазначае клясычны правапіс): у *Нясьвіжы* — *Нясьвіскі* палац Радзівілаў. Значыць, казаць трэба — *дзярстрах.* Але тады слова траціць форму і гучыць зусім страшна, аж дзярэ мяне страх... А двухсэнсоўная назва армейскай пасады *нампатылу* — намесьнік камандзера з тылавога забесьпячэньня... А часта згадваны цяпер (асабліва калі карыстацца савецкім правапісным стандартам) *спецдакладчык*…

Складовых абрэвіятураў у беларускай мове не было да савецкага пэрыяду. Яны зьявіліся ў расейскай у гады першай усясьветнай вайны й для патрэбаў ваеннай тэлеграфнай сувязі: *комполк, дегенверх* (гэта не псыхіятрычны дыягназ, а дзяжурны генэрал пры штабе вярхоўнага камандаваньня), але спачатку ў друк не траплялі.

Масава яны напладзіліся пасьля камуністычнай рэвалюцыі, бо дазвалялі моўнымі сродкамі зазначыць прыход новай палітычннай сыстэмы. Нарком, учхоз, политрук, шкраб: дзясяткі тысячаў. Фактычна зьвіўся новы спосаб словаўтварэньня і нават выцісnуў іншыя. Назваць дзяржаўную ці грамадзкую інстытуцыю ранейшым кароткім словам не выпадала — гэта быў небясьпечны клясавы грэх. Так *офицера* замянілі на *краскома* (красный командир), *учителя* — на *шкраба* (школьный работник), *міністэрства* — на *наркамат* (народны камісарыят), проста *банк* на *дзяржбанк* або *сберкассу/ашчадкасу.*

Нават Уладзімір Ленін, зазнаўшы, відаць, фантомныя болі па традыцыйнай унівэрсытэцкай

адукацыі, прыйшоў у жах ад моўных гамункулюсаў і няўпэўнена спрабаваў спыніць трыюмфальнае шэсьце *шкрабаў*.

**Ці гэтую зьяву віталі расейскія мовазнаўцы**? Не. Расейскія філёлягі й творцы традыцыйнае школы балюча ўспрымалі гэтую дэструкцыю мовы. Нездарма першым словам булгакаўскага Шарыкава — „чалавека новай фармацыі“ — было *абырвалг* (*Главрыба* наадварот). Існавалі кплівыя пародыі накшталт *замком-по-морде* ‘заместитель комиссара по морским делам’. І расейская жывая народная мова такія словы не ўспрыняла як суцэльныя: *по физ-то культуре у него пятёрка; в сбер-то кассу я и не заходила*...

Абсалютная бальшыня складанаскарочаных словаў, утвораных з складоў, **прыйшла ў беларускую мову з расейскай.** І ніводная іншая мова, акрамя ўкраінскай мовы ў УССР, не пераняла гэтай словаўтваральнай мадэлі. Літоўскай навязалі хіба што kolūkis ‘калгас’. Эстонцы так і пакінулі kolhoos, вечная яму памяць. Грузіны не скарачалі: კოლექტიური ფერმა. Палякі нават у ПНР абышліся ў крайнім выпадку літарнымі абрэвіятурамі (PGR — państwowe gospodarstwo rolne ‘саўгас’). Ані ў літоўскай, ані ў польскай нічога падобнага да *гаркамаў*, *завучаў, калдагавораў* ці там *спэцназаў* няма.

Зусім невыпадкова Дж. Орўэл у сваёй антыўтопіі „1984“ прыдумаў Newspeak, *навамоўе* таталітарнай Ангельшчыны. Ягоныя словы —

Ingsoc (*Ангсац*, „ангельскі сацыялізм“) ці Minitrue (*Мінпраў*, г. зн. міністэрства праўды; беларускі пераклад Сяргея Шупы) — будоваю да болю нагадваюць расейскія *палітбюро* і *камсорга*.

Зь іншага боку, грэцка-лацінскія карані гідра-, аква-, агра-, электра- — не абсечаныя часткі словаў. Гідрапарк, сэйсматрываласьць, вібрасьвердзел, а нават аграмястэчка.

Нельга сказаць, што аналягічная мадэль словаўтварэньня зусім невядомая іншым мовам. У ангельскай апошніх дзесяцігодзьдзяў зьяўляюцца словы накшталт *modem* (***mo****dulator*-***dem****odulator*), але гэта зусім іншая сфэра слоўніцтва — не грамадзкая, а тэхнічная, дый носьбіты беларускае не ўспрымаюць яго як складанаскарочанае слова. Злучэньнем складоў утвараюцца назвы гандлёвых марак, назвы фірмаў і кампаніяў кшталту *Kautra* (Kauno transportas) ці *Белсат,* якія не расшыфроўваецца, а знаходзіцца ў шэрагу *Viasat, Polsat, Sat Eins.*

Што рабіць, калі дбаем пра беларускасьць беларускае мовы? Найперш унікаць неўласьцівых беларускай мове скаротаў. Ня мучыцца, спрабуючы перакалькаваць расейскага *худрука* ці *физрука*. Варта ў слове *прафсаюз* пазбыцца русізму-царкоўнаславянізму *саюз* на карысьць *зьвязу* — і адразу чуваць, як не гучыць *прафзьвяз*. Усе гэтыя *дзяржмяжа, міждзяржорганы, памежпераход, пэдунівэрсытэт, тэхумовы, рэчдокі* лёгка раскрываюцца ў два словы (*дзяржмяжа* —

*мяжа*, тут слова дзяржаўная лішняе, іншыя межы ў гэтым кантэксьце рэдка згадваюцца). Або і ў адно. Нашто казаць *зарплата*, калі ёсьць *заробак*. Ужо згаданы *спецдакладчык* па-беларуску будзе (залежна ад выбару моўнай традыцыі) *адмысловы дакладчык, спавяшчальнік* або і жыўцом узяты з ангельска-францускай *рапартэр.*

Натуральна, усюды складовыя абрэвіятуры не абмінеш, яны патрэбныя для апісаньня савецкіх рэаліяў (той жа *гарвыканкам* ніяк ня *мэрыя* й не *магістрат*). Гістарызмы-саветызмы *наркамат, энкавэдэ, спэцхран* — не мяняюцца і нават захоўваюцца ў першародным расейскім абліччы. У *райсавеце* не праглядаецца беларускі *раён* (і слова *савет* — русізм/царкоўнаславянізм; няма ў нас слова *саветавацца*). Скажыце *генсак* — вас не зразумеюць, даводзіцца на расейскі лад казаць *генсек* (для маладзейшых патлумачу, што гэта *Генэральны сакратар* — галоўны савецкі правадыр).

Але „прэзыдэнцкі заггасп“, як мэтафарычна назвалі ў прэсе начальніка адпаведнага ведамства, або „заўгас“, як многія кажуць (а як такое расшыфраваць?) — чым не *аканом* (з школьных твораў Бядулі, а потым Караткевіча)?

Аднак наагул унікайма *камбедаў* як небеларускай (і неславянскай, нябалцкай — не ўласьцівай нашаму моўнаму рэгіёну) зьявы. Найбольш прыніжальная для беларускае мовы пачварка — акурат „белмова“. Абсечаныя выразы *белмоўны, белшкола* і г.д. пярэчаць самому духу беларус-

кае мовы. Дарэчы, і расейцы ж ня кажуць *русъязык*.

**Не, я не выступаю супраць усіх наагул слоўных скаротаў.** Абрэвіятуры ж бываюць і кароткія, складзеныя зь літараў ці гукаў пачатных словаў, як *БДУ* ці *ЦВК* ці *МАЗ.* Яны знаходзяцца ў рэчышчы даўняй традыцыі (узгадайма надпісы кірыліцай на крыжох *І.Н.Ц.І.— Ісус Назаранін Цар Юдэйскі* ў стараславянскай мове, і адпаведна *I.N.R.I.* па-лацінску. Або таямнічыя вязаныя скароты на Скарынавых гравюрах).

І мусім дакладна называць літары. Ня можа быць „Бэ-Нэ-Эр“, бо літара ў азбуцы завецца *Эн*. Значыць, толькі *Бэ-Эн-Эр.* Вось толькі сваю краіну ня трэба называць „эрбэ“ — не таму, што гэтаксама завецца і Рэспубліка Башкартастан, але перадусім таму, што слова *Беларусь* ня годнае таго, каб яго заганяць у канцылярскі фармуляр.

## Як зьвяртацца да выбранага прэзыдэнта ці спадчыннага манарха

Н е м е ц. *(падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыся да формы.)* О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал. *(Набок.)* Але хоча дурня клеіць, каб выкруціцца ад палону. *(Беручы „пад казырок“.)* Ваша правасхадзіцельства! Я вас павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі генэрал.

(Янка Купала. „Тутэйшыя“)

Так, *„грукнулі сенцы — завіталі немцы“*, у вуснах няўмольнага служакі *Ваша правасхадзіцельства* загучала як апошні прысуд, і галоўны герой „Тутэйшых“, беларускі геній адаптацыі да ўсіх рэжымаў Мікіта Зносак з астатніх сіл імкнецца стрэсьці зь сябе праклён гэтага *правасхадзіцельства*.

Якое ж было і ёсьць месца *правасхадзіцельства* ды іншых тытулярных русізмаў у беларускай моўнай практыцы?

***

Звароты й тытулы — істотныя моўныя маркеры нацыянальнай прасторы. Сыстэма зваротаў і тытулаў звычайна адметная нацыянальна або прынамсі сьведчыць пра належнасьць нацыянальнай традыцыі да пэўнага цывілізацыйна-культурнага арэалу.

Не пайшлі рукою найноўшыя спробы раскалоць беларускі народ — проціпастаўляючы то ўяўныя чатыры калёны пятай, то „ліцьвіноў“ „беларусцам“, то шляхту сялянству. Гісторыя Беларусі пакручастая, і людзі з розных сацыяльных пластоў, бывала, і здраджвалі свайму народу, і ратавалі нашую нацыянальную будучыню. Нехта перамагаў у бітвах, нехта зьберагаў мову.

Нам трэба рэканструяваць або ствараць наноў погляд на Беларусь ды інструмэнты беларускага жыцьця ня толькі сялянскага. Быў час, калі наша мова без праблемаў абслугоўвала ўсе пласты грамадзтва, у тым ліку дыпляматычны і дворны пратакол, а значыць, зусім не канечне нам пазычаць пратакольную лексыку ў суседзяў — гістарычна апошніх акупантаў.

Пачнем з манархаў.

А іх вакол нямала. Вось Хуан Карляс I дэ Бурбон сышоў, няхай жыве новы кароль Гішпаніі Фэліпэ (нават калі ад яго ўцячэ Каталёнія). А як да яго правільна па-беларуску зьвярнуцца ў разе патрэбы? Ці як беларускаму набэлісту па-беларуску тытуляваць Карла XVI Густава, швэдзкага караля?

Многім адразу прыйдзе ў галаву „ваша вялікасьць“, замацаваная ў тысячах штампаў раённых газэтаў: „яе вялікасць песня“, „яе вялікасць кніга“, „яго вялікасць хлеб“ (гэта пад Дажынкі).

Але ў старабеларускай мове, пры жывых нашых манархах, слова *вялікасьць* не было іхным тытулам. Слова такое было, але яно азначала мно-

ства, велічыню, веліч: *Указаў есьць нам Гасподзь Бог наш вялікасьць і славу сваю* (Скарына).

У беларускі казачны фальклёр трапіла слова *вялічаства*:

— *Добры дзень, ваша вялічаства-вымператарства!*

— *Добры дзень, каток!*

Усе пазна́юць: гэта наш „Кот Максім“, сюжэт агульнаэўрапейскі („Кот у ботах“ Ш. Пэро). Але паколькі Беларусь 145 гадоў пабыла пад Расейскай „вымпэрыяй“, то і тытулы цароў апошняй пранікლі ў народную сьвядомасьць. Хаця сваіх манархаў, якія не цары, мы мелі значна даўжэй — толькі ВКЛаўскіх шэсьць вякоў. Іхныя тытулы не маглі не застацца ў народнай памяці ды ў мове.

Слова *вялічаства* (закансэрваваны царкоўнаславянізм), *вяліцтва* (зьбеларушчаная форма) таксама было ў старабеларускай моўнай практыцы. Абазначала зноў жа якасьць — веліч: *Бог правышні царства і вяліцтва, славу і чэсьць даў Наўхадносару* (Сымон Будны). У этыкеце *вялічаства* ўжывалася толькі на экспарт — як тытул расейскага манарха:

...*Пры бытнасьці ад іх міласьцей паноў паслоў вялікіх маскоўскіх, яго царскага вялічаства дваран і зь пераводчыкам на ратушу ... узялі віна гарнец* (1686).

Сваіх тытулявалі інакш:

...*Былі тыя часы, найясьнейшы* ***міласьцівы гаспадару каралю****, калі ў том зграмаджэньню а паспалітаваньню людзкам, каторае мы Рэччу*

*Паспалітаю называем, ня правам якім апісаным або статутам, але толькі сваім зданьнем і ўпадабаньнем уладнасьць сваю гаспадары і каралі таго сьвета над людзьмі расьцягалі.*

*...Вашае* ***каралеўскае міласьці пана, пана майго міласьцівага****, найніжшы слуга і верны падданы Леў Сапега, падканцлеры Вялікага Княства Літоўскага.*

Гэта зварот падканцлера ВКЛ Лява Сапегі да Жыґімонта III (па-нашаму ён лічыцца IV) Вазы з нагоды прыняцьця Статута ВКЛ. Берасьце, 1 сьнежня 1588 году.

Такім чынам — Ваша (Яго) Каралеўская Міласьць. (Таксама можа быць і Міласьцівы Гаспадар Кароль.) Тытул пацьвярджаецца мноствам дакумэнтаў: *Гаспадар Кароль Яго Міласьць прыехаў з Кракава па каранацыі* (1507), *ліст Яго Каралеўскае Міласьці — унівэрсал на розныя акты* (1675). Яго Міласьць стасуецца і манаршага пасаду Вялікага князя Літоўскага, Рускага etc.: *Яго Міласьць Гаспадар Вялікі Князь*.

А ў народнай мове *Яго Міласьць* і *Ваша Міласьць* абжыліся нагэтулькі, што загучалі *ягомасьць* і *вашмосьць*, прычым зьвяртацца імі можна і не да караля, а да суседа і шанаванага сябра. „Ягамосьць“ — так сябры назвалі кнігу прысьвячэньняў паэту Анатолю Сысу.

*Вашмосьць* скарачаецца і далей. Іван Насовіч фіксуе пачутае ў 1870-м:

**Ва́шаць, -э́ці**, мн. **-ці, -цеў** і **-цей**, займеньнік Вы (да аднае асобы). Ваша міласьць. Вашэцю, Вашэцеў пан прасіў к сабе. Вашэцім прывез па гасьцінцу. Аддаў бы Вашэці, Вашэцім, да сабе трэба. Я вашаць, і ты вашаць; хто ж нам хлеба напашаць. Прыказка.

Такі вось займеньнік pluralis maiestatis — „множнага шаноўнага“ ліку.

З манаршымі дзецьмі, братамі й сёстрамі разьбіраемся хутчэй. *[Royal] Highness* адпавядае беларускай *Высокасьці*, якая была і ў старабеларускай практыцы.

**А што рабіць рэспубліканцам?**

Там, дзе манархаў ужо няма або будучая спадчынная манархія толькі зазначаецца, як быццам і тытулаў асаблівых ня трэба (*„У нас няма дваран!“* — Кастусь Каліноўскі). Але бываюць фармальныя сытуацыі, калі прэзыдэнтаў, амбасадараў ды іншых (ясна)вяльможных людзей на пасадах трэ назваць тытулам адпаведнага рангу.

Гараднічы. А ва-ва-ва... ва...

Хлестакоў *(такім самым голасам)*. Не расчую нічога, усё дурное.

Гараднічы. ***Ва-ва-ва... шасьць, дастойнасьць,*** ці не загадаеце адпачыць... вось і пакой, і ўсё, што трэба.

Гэта пераклад „Рэвізора“, зроблены тонкім стылістам, які зьяднаў „менскую“ і „віленскую“ моўныя традыцыі,— Антонам Адамовічам. У арыгінале было: „*Ва-ва-ва... шество, превосходительство*, не прикажете ли отдохнуть?“

*Дастойнасьць* як адпаведнік расейскаму *превосходительству* і лацінскай *excellentia* падаюць і Вацлаў Ластоўскі ў „Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку“ 1924 г., і Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў у „Расійска-беларускім слоўніку“ 1928 г. Апошнія, аднак, дадаюць і варыянт *яснавяльможнасьць.*

Тытулярны зварот *дастойнасьць* шырока ўжываецца ў беларускай мастацкай літаратуры. Прыкладам, у перакладзе „Прынца і жабрака“ Маркі Твэна (Вільня, 1928). Пераклаў не абы-хто, а Макар Краўцоў, аўтар словаў нашага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“. Праўда, *дастойнасьць* у тэксьце і графская, і рыцарская, і каралеўская; відаць, гэта больш адпавядае ангельскай *dignity — годнасьці.*

У расейскай мове ёсьць ерархізацыя: *превосходительство — высокопревосходительство* (апошняе ў сучаснай практыцы бывае прэзыдэнцкім тытулам). Для аналягічнай ярархіі ў нас мова дае магчымасьць: *вяльможнасьць* (ст.-бел.: *за дазваленьнем Тваёй вяльможнасьці*) — *яснавяльможнасьць.*

Разам з тым у сьвеце лацінскай традыцыі *Excellentia* (‘вышэйшасьць, першынство’; анг. *Excellency*) адрасуецца і прэзыдэнтам, і прэм’ерам,

і амбасадарам, і губэрнатарам, і некаторым высокім духоўным асобам і вайскоўцам.

Лацінская мова не зьвязаная ў нашай гісторыі з акупацыямі: рымляне ніколі не даходзілі да Беларусі, ну а потым і зусім зьніклі, пакінуўшы Эўропе мову навукі й дыпляматыі. Нічога кепскага ў тым, што мы бярэм з гэтай lingua franca (міжнароднага сродку камунікацыі) даўняй Эўропы гатовыя тэрміны — ня толькі матэматычныя ці біялягічныя, але і дыпляматычнага этыкету. Калі сумнеў — сьмела ўжывайма зварот *Ваша Эксцэленцыя*.

Цяпер ня маем праблемаў, пішучы нованыбраным прэзыдэнтам суседніх дзяржаваў віншаваньні. Па-беларуску, зь перакладам на суседзкую мову.

**Канфэсійныя тытулы**

Уваходзіць у гэтую далікатную сфэру рызыкоўна, бо кожная канфэсія ў кожнай мове зьберагае і падкрэсьлівае сваю адметнасьць. Спробы стварыць агульную хрысьціянскую тэрміналёгію па-беларуску пакуль што ня надта паводзяцца.

Што відавочна для рэальна беларускамоўнага чалавека — дык гэта штучнасьць у беларускай моўнай плыні складаных царкоўнаславянізмаў (*благорастворение воздухов* і падобнае). Калі ў расейскай літаратурнай мове яны адыгралі вялікую стылеўтваральную ролю і засталіся, то ў старабеларускай царкоўнай (у тым ліку праваслаўнай) традыцыі была запанавала тагачасная жывая беларуская мова. Таму па-расейску цар-

коўнаславянізм *высокопреосвященство* гучыць натуральна і ўзьнёсла, а па-беларуску *высокапрасвяшчэнства* — фанэтычна цяжка і штучна.

Каб не нарвацца на кару ад якой-небудзь з цэркваў, ня буду дэталізаваць, скажу толькі, што найвышэйшыя ярархі — Папа, Патрыярх — па-беларуску мянуюцца *Яго Сьвятасьць*. Экзархі, тыя, хто з лаціны завуцца *Эмінэнцыя* (eminentia ‘годнасьць’) — кардыналы, архібіскупы ў беларускай традыцыі могуць тытулявацца *Высокаправялебнасьць*. Мітрапаліты і архібіскупы з лаціны могуць звацца *Эксцэленцыя*. Ёсьць у ярархіі *Правялебнасьць, Вялебнасьць*. Зрэшты, Сьв. Эўфрасіньня Полацкая — проста *вялебная*. У старабеларускай мове ярархаў розных роўняў называлі *вялебнымі айцамі*, як, напрыклад, вядомага Апанаса Філіповіча, пазьней кананізаванага праваслаўнаю царквою. *Вялебны* прыблізна адпавядае царкоўнаславянізму *прападобны*.

У царкоўнай тытулятуры дзівосным чынам спалучаюцца моўныя рэсурсы розных цывілізацыяў. У грэка-каталіцкай традыцыі бытуюць лацінізмы і традыцыйная беларушчына. Гэтак архімандрыт Сяргей Гаек зьвяртаецца да кардынала Бэртонэ: *Эмінэнцыя, Высокадастойны Ўладыка Кардынал Тарчызіё!* А, скажам, у праваслаўнай царкве Польшчы Са́ва, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, тытулюецца па-беларуску царкоўнаславянізмам *Яго Блажэнства*.

## Дзядзька Янка і таварыш маёр

Зьвяртаймася па-беларуску: спадар(у) капітан(е), сябра Іваноўскі, дзяўчаты і хлопцы

Пра дылему „*спадар* ці *пан*“ вычарпальна выказаўся на хвалях Радыё Свабода і ў кнізе „Жывая мова“ Юрась Бушлякоў — на карысьць *спадара, спадарыні, спадарства.* Аргумэнты і ягоныя, і Яна Станкевіча, што адрадзіў гэты зварот у 1-й палове XX ст.,— цалкам пераканаўчыя. Абодва словы беларускія і з глыбокай гісторыяй, аднак *спадар*, адрозна ад *пана,*— унікальна беларускі набытак. А галоўнае — жывая практыка апошніх дзесяцігодзьдзяў замацавала зварот *спадар* незваротна (выбачаюся за калямбур). У тым ліку ў слоўніках. Таму спынюся толькі на дэталях яго ўжываньня.

Слова *спадар* спалучаецца з прозьвішчам (*спадар Луцкевіч*), або з тытулам/назвай пасады (*спадар настаўнік, спадар неадменны сакратар*), або — пры бліжэйшых дачыненьнях са старэйшым чалавекам — з імем (*спадар Пётра*). У апошнім выпадку часткова адпавядае расейскаму звароту імем ды імем па бацьку.

Тут дарэчы наш сёмы склон — клічны, які і ёсьць, каб зьвяртацца: *спадару Івашкевіч(у), спадару Яне.*

**Спадар(у) лейтэнант(-це), дазвольце зьвярнуцца да таварыша маёра**

Многія заўважылі, як на інаўгурацыі П. Парашэнкі да яго зьвярталіся вайскаводы: *Товаришу Президенте!*

Гэты эпізод мне нагадаў песьню Э. Ханка и Р. Сакалоўскага „Товарищ Президент, настанет тот момент“, а ва Ўкраіне ажывіў дыскусію пра вайсковы зварот. У статутах украінскай арміі з пачатку 1990-х былі зацьверджаныя абодва варыянты — *товаришу* і *пане* — але пад ціскам настальгічна-савецкіх колаў *пан* з 2005 г. быў адпраўлены ў запас. Пэўна, ён яшчэ вернецца.

Тэрміналягічная камісія ТБМ у 1997 г. выдала „Расейска-беларускі вайсковы слоўнік“ падпалкоўніка Станіслава Судніка і старэйшага лейтэнанта Сержука Чыслава. Там прапаноўваецца без варыянтаў: *Здравия желаем, товарищ полковник! — Вітаем спадара палкоўніка!*

Натуральна, прыхільнікі *таварыша маёра* знойдуць іншыя сучасныя слоўнікі; нібыта ёсьць практыка беларускамоўнае каманды ў роце ганаровай варты. У 2010 годзе — пад ціскам салдатаў, якія дамагаліся права служыць па-беларуску — нарэшце выйшлі „Агульнавоінскія статуты Ўзброеных Сіл Рэспублік Беларусь“ у перакладзе Інстытуту мовы і літаратуры Акадэміі навук накладам 350 асобнікаў.

Вайсковая тэрміналёгія патрабуе асобнай гаворкі, скажу толькі, што ў тых „Статутах“ *і „воінскі“,* і *„смірна“*. Там і *„каравул“* — *варта* ў цяпе-

рашняй нашай рэальнасьці чамусьці дазваляецца толькі ганаровая.

Закладзены ў статуты і „таварыш“. Але, на маю думку, ён занадта моцна зросься з палітычнай показкай пра падслухоўваньне: *„…товарищу майору ваша шутка понравилась“.*

Зьвяртацца да вайскоўцаў ці міліцыянтаў з словам *спадар* зусім натуральна — прынамсі ня іхным падначаленым. Сьведчу, што прымаюць.

**Mr — p.— M.— г-н — Hr.— Sr.— ?**

У ліставаньні на ўсіх мовах бывае патрэбна скарачаць зварот — накшталт Mr (= Mister), Mrs (= колішняе Mistress), г-н (= господин), г-жа (= госпожа). Вось жа давялося бачыць разасланыя з пэўнай амбасады запрашэньні на афіцыйнае прыняцьце — па-беларуску, што добра. Але на агортках (капэртах) адрасат у давальным склоне (*каму?*) пазначаўся гэтак:

........................................................

с-ру Н. Н.

........................................................

Думаю, амбасадныя сакратаркі (хутчэй за ўсё, нашыя грамадзянкі) доўга ня думаючы скалькавалі расейскія скароты „г-ну“. На жаль, вынік няўдалы. (Зрэшты, у гішпанскай Sr. гэта señor, а Sra. гэта señora.)

Натуральна, беларускія скароты маюць быць іншыя:

хто? — ***сп.*** *Варонка*; каму? — ***сп.*** *Варонку* — ува ўсіх склонах будзе *сп.*

хто? — ***сп-ня*** *Войцікава*; каму? — ***сп-ні*** *Войцікавай* — мяняецца залежна ад склону (*сп-няй, сп-ню*).

Акрамя *спадара* і *спадарыні*, *пана* і *пані*, ёсьць вялікі выбар іншых ветлівых зваротаў.

***Дзядзька*** — акрамя абазначэньня сваяцтва, яшчэ можа быць і пашанотным зваротам да старэйшага паважанага чалавека, асабліва духоўна блізкага. І, вядома, які цэніць беларускія традыцыі. Малодшыя пісьменьнікі так зьвярталіся да Купалы — *дзядзька Янка*. Ён не пярэчыў. Як не пярэчыў і *дзядзька Рыгор* — Рыгор Барадулін, чалавек зь іншага рэгіёну Беларусі. Магчыма аналягічна ўжываць слова *цётка* (хаця Ларысу Геніюш людзі майго пакаленьня, што езьдзілі да яе, кансьпірацыйна называлі *бабуля*).

Слова ўжываецца ў нефармальных дачыненьнях паміж раўналеткамі: *Слухай, дзядзька, пазыч мільён да Вялікадня,*— ды ў такім значэньні прыблізна адпавядае расейскаму *старик*.

***Сябра/сябар***. Характэрнае слова беларускае літаратурнае мовы (хаця ў дыялектах розных славянскіх моваў ёсьць роднасныя). Украінцы нас так называюць агулам. Літоўскае sėbras ‘сябрук’ — запазычаньне зь беларускай.

Іван Насовіч у 1870 годзе фіксуе для слова *сябръ* два значэньні — ‘родственникъ, братъ’ і ‘сотоварищъ’. У другім значэньні слова замацавалася ў літаратурнай мове XX ст., у тым ліку як зварот: *Шаноўныя сябры!*

Адно з старадаўніх значэньняў слова *сябар* — саўдзельнік сябрыны́ („арцелі“), кампаньён, супольнік. У гаворках яшчэ нядаўна жылі словы *сяброўскія пчолы* ‘супольныя пчолы двух гаспадароў’; *сябраваць* ‘узаемна дапамагаць у плытніцкай справе’. Адсюль лягічна вынікае значэньне ‘ўдзельнік арганізацыі’, напрыклад: *сябра Рады БНР.* Жаночая форма — *сяброўка.* Адпаведна ў афіцыйных зваротах міжсобку — *слова мае сябра Яновіч.*

Канкрэтнае значэньне слова *сябра* відаць з кантэксту. Але пры перакладах здараюцца анэкдоты. У 90-я гады ў перакладзеным на расейскую тэксьце зь мяне былі зрабілі „друга БНФ“.

**У расейскай гэтага няма**

Акрамя звыклага *вы* і згаданых у папярэднім тэксьце *вашэці* ды *ягамосьці*, у народнай традыцыі дагэтуль жыве цэлы набор пашанотных асабовых зваротаў да суразмоўцы. Прычым гэтыя словы (адрозна ад займеньніка *вы*) патрабуюць дзеяслова ў адзіночным ліку:

**Ва́ша**, -ы: Сваволіш Ваша. Худа Ваша кажаш. Гэта не для Вашы. Вашу завуць да пакою.
**Васпа́н** (і **ва́спан**), -па́на: Васпану ўсё роўна — ці сяньня, ці заўтра. Васпан ня тое кажаш.
**Васпа́ня** (або **васпані**): Васпаню прасілі ў госьці. Гэта не для Васпані.

(Слоўнік І. Насовіча, 1870)

Задоўга да Насовіча, у канцы XVIII ст., Каятан Марашэўскі напісаў знакамітую дзьвюхмоўную „Камэдыю“, дзе многія пэрсанажы гавораць жывой тагачаснай беларускай мовай. Вось сцэна, дзе Чорт спакушае Селяніна маўчаць:

Ч о р т. Ня вытрымаеш вось, каб на працягу адной гадзіны нічога не сказаць і ня піснуць.
Ж ы д. Гэта праўда, што *васпан дабрадзей* мувіс.
С е л я н і н. Ідзі проч, сьмярдзюх! Я ня выцерплю, калі табе ў морду ня дам. А што маўчаць, безь цябе патрафлю.

Зваротаў *васпанна* (да дзяўчыны) нямала ў Купалавай „Паўлінцы“:

П а ў л і н к а *(як бы бядуючы).* А-ей-ей! Вось табе і на! Так і не навучуся гэтых панскіх танцаў.
А д о л ь ф. Не бядуйце вельмі. Я буду вытылінгіваць на язык, а *васпанна* толькі прыслухоўвайся ды выробляй нагамі так, як і я.

Зь цягам часу са словамі *васпан* і падобнымі сталі ўжываць і форму 3-й асобы. Колас, „Новая зямля“: „Ну, што нам *васпан* сказаць мае? / — Наказ прынёс я да *васпана*! / Наказ такі, каб заўтра зрана / Твой брат Антось шоў да адбору…“

Ян Станкевіч дадае да гэтага шэрагу словы *сам, сама, самі*:

Калі зварачаюцца не да бацькоў або іншых старшых сваіх, дык ужываецца *„самі“*: *„Як самі маецеся?“*, *„Добра самі кажаце“*, *„Куды самі ідзяце?“* і г. д. Гэты-ж займеньнік *„сам, сама“* ставіцца і ў адзіночным ліку, што дае адценьне большае пашаны, чымся „ты“: *„Як сам маесься?“, „Добра сама кажаш“, „Куды сам ідзеш?“* і г. д.

Якая гэта часьціна мовы? Калі дзеяслоў пры такіх словах у форме 2-й асобы (*кажаш, мовіш, прыслухоўвайся*) — значыць, перад намі бясспрэчна займеньнікі 2-й асобы (дакладней, pluralis maiestatis — „множнага шаноўнага“ ліку). Іх няма ў афіцыйных граматыках, дзе толькі *я-ты-ён-яна-яно-мы-вы-яны*. Мо таму, што падобных няма ў расейскай? Прыкладам, літоўцы маюць аналягічныя звароты і адпаведна багацейшую на займеньнікі школьную ды акадэмічную граматыку.

**Мы не рабы, рабы ня мы**

І дзяржаўнае Беларускае радыё ў дзіцячых перадачах, і часта-густа настаўніцкі цэх не мудруючы кажуць:

„Рабяты!“

Акадэмічны Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (1980) падае на слова *рабяты* апакаліптычны прыклад:

„*Больш чым 900 тысяч беларускіх рабят носяць чырвоныя гальштукі*“.

У беларускай мове да слова „рабяты“ формы адзіночнага ліку няма, што сьведчыць: яно жыўцом узята з расейскай мовы (там лягічна: *ребёнок — ребята*). Этымалёгія слова — ад старажытнага ўсходнеславянскага *робъ*, якое адпавядае стараславянскаму *рабъ* і азначае тое самае. *Робенокъ, робята* (адкуль цяперашнія расейскія *ребёнок, ребята*) — гэта літаральна „дзеці рабоў“. Настаўнікі, не называйце так нашых дзяцей.

Як жа іх называць?

Па-першае — проста *дзеці*.

Па-другое — *дзяўчаткі і хлопчыкі*, калі малыя. Калі большыя — *дзяўчаты і хлопцы*.

Менавіта ў такім парадку — як *ladies and gentlemen*, ці *Damen und Herren*, ці *спадарыні й спадары*.

І правільна казаць у множным ліку — *дзяўчаты* (адна дзяўчына), *дзяўчаткі* (адна дзяўчынка). Зноў жа Юрась Бушлякоў нагадвае, што словы „дзяўчынкі“ і „дзяўчыны“ ўжываюцца ў спалучэньнях зь лічэбнікамі *дзьве, тры, чатыры*: *дзьве дзяўчыны, чатыры дзяўчынкі*.

Савецкія слоўнікі да слова *дзяўчынка* падавалі як множную форму толькі *дзяўчынкі* (упэўнены, што не без уплыву рас. „девчонка — девчонки“). Нарэшце, у 1996 годзе Тлумачальны слоўнік зафіксаваў лікавую пáру *дзяўчынка — дзяўчаткі*, якая цалкам адпавядае народнаму канону.

## Пэсыміст: Усё прагулялі, пракачалі, прагерцалі! Аптыміст: Яшчэ ня ўсё!

*Выгуляць* і *прагуляць, брамнік* і *нападнік, кутні* і *карны* — беларускія спартовыя словы

У пачатку 1980-х мы зь Сержуком Сокалавым-Воюшам студэнтамі хадзілі на матчы яшчэ таго менскага „Дынама“, якое папраўдзе было зборнай Беларусі ў чэмпіянаце СССР, па-беларуску гукалі воклічы й спадзяваліся заразіць беларушчынай суседзяў па лаве — традыцыйных савецкіх *балельшчыкаў*.

Спробы зачапіць моўную сьвядомасьць футбольнага гледача рабілі многія. Як паэты Алесь Разанаў і Алег Бембель, стварыўшы трыяду *заўзятар—заўзей—заўзюк* (апошні ну зусім ужо заўзяты).

Заўважу, што словаў *фанат* і пагатоў *ультрас* тады шчэ не было, і творцы як бы прадбачылі ў іх патрэбу, даўшы наватворы на ўласнабеларускай аснове.

А потым Лявон Вольскі ў альбоме „Я нарадзіўся тут“ прапанаваў і беларускую вэрсію ўсясьветнага футбольнага гіта:

*Самалёты лятуць над краінай,*
*Самаходы нэрвова гудуць,*
*Стадыёны ў парыве адзіным*
*Плачуць, равуць і пяюць:*
*Оле-оле-оле-оле!*
*Беларусь жыве!*

Але — ці не галоўнае — ужо была Беларуская тэлевізія Генадзя Бураўкіна зь беларускімі футбольнымі рэпартажамі. Сам чуў, як хлапчукі ў дварах ганялі мячык, пад нос сябе камэнтуючы: *трапны ўдар*!

Аднак плён прыйшоў пазьней: гэта цяпер арганізаваныя футбольныя заўзятары з розных гарадоў не сумняюцца ў вартасьцях беларускае мовы на стадыёне. Па-беларуску гучаць спокічы, напісаныя банэры, пад уплывам заўзятараў вяртаецца беларуская мова ў стадыённыя аб'явы, а клюбы афармляюць па-беларуску эмблемы. Падобнае 30 гадоў таму было цяжка ўявіць.

Хочацца, каб лексыкон заўзятараў быў угрунтаваны на багацьці й самабытных рэсурсах нашае мовы. Традыцыйны беларускі *брамнік* лепшы за скалькаванага *варатара*, у той самай словаўтваральнай парадыгме — *нападнік*; *карная пляцоўка* і *кутні ўдар*. Нямала гэтых словаў замацавалі ў „Русско-белорусском словаре спортивных терминов" 1995 году накладам 3000 асобнікаў Зьміцер Паўлавец і Ўладзімер Старчанка з Гомеля.

**Гуляць — ня граць**

Ключавое для спартовых гульняў дзеяньне — *гульцы гуляюць*. Пра гэтыя словы казаў на Радыё Свабода Юрась Бушлякоў, пісаў пільны дбаньнік пра культуру мовы праф. Павел Сьцяцко ды іншыя.

Значэньне слова *гуляць* 'рабіць нешта дзеля забавы' вельмі старажытнае, і словаўтваральнае гняздо даўняе. *Гульню* знойдзем у Скарыны:

*Ілі есьлі жа бы некаторы мастар дойлід (...) дрэва крыва і сукоў поўна, выдаўбець пільна ў **гульні** сваей. І ўменьнем мастэрства сваяго ўпадабленьне ўчыніць яму, і прыраўняець яго к вобразу чалавечаму ілі к некаему ад зьвер* (Кніга прамудрасьці Божай).

Тут *у гульні*, відавочна, ‘дзеля творчай забавы’. Паступова разьвілося і значэньне ‘займацца пэўнаю гульнёю’.

У Скарыны і наагул у старабеларускай мове падобнае значэньне маглі мець і словы *(і)грацi, iгра*. Але зь цягам часу *гуляць* і *граць* сэмантычна разышліся. Вацлаў Ластоўскі ў сваім „Расійска-крыўскім слоўніку“ 1924 году катэгарычны:

*Мы гулялі ў карты, у вугалькі, у сьлепака (жмурки)*. Але нельга: *ігралі ў карты*, бо іграць можна толькі на якім музычным інструманце; гэтаксама нельга *„ігралі вясельле“*, а трэба *„гулялі вясельле“* (...) Выключэньне становіць сцэнічная гульня, аб якой гаворыцца *„ігра“*, але *„гульня“* прыроды, выабражэньня.

А нязломны моўны пурыст (прыхільнік чысьціні мовы) Янка Станкевіч прапаноўваў і *гуляць* „у дваццаць адно“, і *гуляць* на сцэне драму, і *гуляць польку*, і нават *гуляць у ляскаўкі* (ударны музычны інструмэнт).

Я. Станкевіч у такім пашырэньні сэмантыкі слова *гуляць* ня надта далёкі ад народнага адчуваньня. Паслухайма Купалу. Пан Адольф хоча, каб

Паўлінка скакала зь ім панскія танцы, і кажа музыкам: „*Зайграйце* нам гэрц-польку!“ А музыкі яе ня ўмеюць. Тады ён зьвяртаецца да Паўлінкі:

А д о л ь ф. Не бядуйце вельмі. Я буду вытылінгіваць на язык, а васпанна толькі прыслухоўвайся ды выраббляй нагамі так, як і я.
П а ў л і н к а. Значыцца, будзем ***гуляць пад язык***.

І аўтарская рэмарка драматурга:

*Сьмех. Адольф* ***іграе на язык*** *і бяз толку выкручваецца з Паўлінкай.*

*Гуляць пад язык*: для Купалы слова *гуляць* — пра танец. (Ну а *вытылінгіваць* значыць імітаваць языком інструмэнтальную музыку.). І вясёлка ў іншым Купалавым творы *гуляе*, ня *грае*.

## Не гулец, а на дудзе ігрэц

Слова *гулец* жыве ў беларускіх гаворках, у тым ліку ўсходніх: *Што ты за гулец, што ня можыш пы мячыку пыпасьць*? (Запольле Шклоўскага р-ну). Слова трапіла ў першыя слоўнікі беларускае літаратурнае мовы — братоў Гарэцкіх 1920 году, М. Байкова і С. Некрашэвіча 1926 году. Вацлаў Ластоўскі нагадвае і пра *гулецкія карты* (слоўнік 1924 г.; у „Нашай ніве“ 1907 году яшчэ былі „ігральныя“).

*Іграе* іншы чалавек. *Іграч*, напрыклад, як на Вялейшчыне: у *кожнай хаце свой іграч быў*. Вядома, *ігрэц* таксама: *Ён і жнец, ён і шавец, і на дузе ігрэц* — скажуць у Коласавай Мікалаўшчыне

(Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі, 1990). Яшчэ ёсьць народная сытуацыйная прымаўка *„Грай, а то грала паб'ю!“*

Як бачым, прыклады — толькі пра музы́ку. Хаця часьцей скажуць *скрыпач* ці *гарманіст(ы).* Слова „ігрок“ у старадаўняй і народнай беларускай мове няма.

**Гуляць можна, а выгуляць нельга?**

Нават у беларускамоўным рэдактарска-журналісцкім цэху бытуе думка, што пра паразу ці перамогу па-беларуску можна сказаць толькі „прайграць“ і „выйграць“.

Такія формы былі б лягічныя, свойскія, калі б было хаця невялікае поле для слова *іграць* у значэньні „весьці гульню“. Але такога ў беларускай няма. Затое ёсьць словаўтваральны ланцужок: *гуляць — згуляць — дагуляць — перагуляць*, і сюды ж *прагуляць* і *выгуляць*.

*Прагуляць* (у карты) — звычайнае слова для беларускіх сялянаў і мяшчанаў, якіх у XIX стагодзьдзі слухаў Іван Насовіч.

Слова *выгульваць* і *прагульваць* у гулецкім значэньні падаюць браты Гарэцкія. Сьцяпан Някрашэвіч і Мікола Байкоў (слоўнік 1928 г.) даюць *прагульваць, прагуляць*. Слова *прайграць* таксама ў іх ёсьць, але ў другую чаргу.

Нават у 6-тамовым тлумачальным слоўніку пад рэдакцыяй К. Крапівы слова *прагуляць* мае таксама значэньне „пацярпець паразу ў гульні“. Праўда, пасьля абавязковага савецкага значэньня „зрабіць прагул“ на працы.

Паэт Анатоль Сыс балюча пісаў:

*Я ведаю.*
*Я ў карты* ***прагуляны***
*зайздроснымі паэтамі.*
*Малю:*
*калі заб'еце — не смакчыце з раны*
*барвовую паэзію маю.*

Затое слова *выйграваць* можа ўжывацца зусім у іншым значэньні — музычным:

*А салаўі вясёлай песьняй*
*Блізкое раньне* ***выйгрываюць****.*

(Янка Купала. Пераклад
„Слова аб палку Ігаравым“)

**Да чаго дагуляліся суседзі?**

Расейскае *гулять* зусім ня мае значэньня ‘гуляць у якую-н. гульню’, яго сэмантыка (акрамя „прогулки“) хіліцца ў бок словаў „разгуляй“, „разгул“ і пад.

Дарэчы, наша слова *бульба* расейскія старавеӏры некалі пачулі як „гу́льба“; Уладзімір Даль (Т. І. С. 407) піша:

***Гу́льба****, картофель, картошка, чортово или земляное яблоко; особ[енно] у раскольниковъ: по преданію, табакъ и картофель родились отъ распутства (...)*

То бок расьліны амэрыканскага паходжаньня ў Расеі пракліналі задоўга да цяперашніх галоўных санітарных дактароў.

І калі з суворай ацэнкай тытуню яшчэ можна пагадзіцца, то рэпутацыю нашага нацыянальнага культавага прадукту мусім бараніць (зрэшты, падазраю, што стараверы, што ўцякалі ад рэпрэсіяў з Расеі ў ВКЛ, у нас тую „гу́льбу“ спакойна елі, як і ядуць дагэтуль).

**Гульня — беларускі эксклюзіў**

Вялікае гняздо словаў, аднакаранёвых з *гуляць*, якія абазначаюць гульню і ўсё, што зь ёю зьвязана,— **чыста беларуская лексычная зьява**. Яны вылучаюць нас сярод усіх суседніх славянскіх моваў, розьняць ад гістарычна ўплывовых польскай і расейскай. Гэткі цікавы прыклад „упартасьці“ беларускае мовы.

Ва **ўкраінскай** — *грати у футбол*, а гулец — *гравець* або *грач*. Слова *гуляти*, вядома, ёсьць: у значэньні ‘шпацыраваць’, таксама *вітер гуляє*, *гуляти на весіллі*. Але ўкраінскія дзеці *грають(ся)*.

І ў **польскай** мове спартовыя ды іншыя гульні апісваюцца словам gra, grać. Палякі ведаюць слова hulać, але яно прыйшло, як лічыцца, з украінскай і азначае ‘гучна забаўляцца’, але таксама ‘біць, нападаць, красьці’.

А вось у **літоўскай** розныя дзеяньні, якія па-расейску называюцца адным словам „играть“, перадаюцца многімі словамі. Разьмяжоўваецца, з аднаго боку, граньне на інструмэнтах (якое ў сваю чаргу завецца па-рознаму для скрыпкі, для фартэпіяна, для духавых), а з другога боку, гульня (прычым спартовыя і газардовыя гульні

таксама розна завуцца). А яшчэ літоўцы маюць асобныя словы для акторства і для пераліваньня колерамі (крышталю ці сонца, як у нас „А на Купала сонца грала“).

Разьмежаваньне *гуляць / граць*, уласьцівае беларускай і літоўскай мовам, адрозьнівае іх ад усіх суседніх (у тым ліку ад латыскай, якая і гульню ў футбол, і граньне ў скрыпачку абазначае германізмам *spēlēt*).

**Гудзем!**

Зрэшты, і беларуская мова мела лексычныя рэсурсы разьмежаваць граньне на розных музычных інструмэнтах. Акрамя слова *граць*, ужываўся дзеяслоў *гудзець* (або *гусьці́*), часьцей для струнных: „*сьпяваючы, весела гудучы на гусьлях*“ („Кроніка“ Марціна Бельскага, пач. XVII ст.). Гэтым займаўся *гудзец*.

Старабеларуская мова ведала *гудзьбу* (ці *гудбу*) — гэта быў і струнны інструмэнт, і му́зыка наагул: „*Кароль Марка ... казаў прывесьці ўсякія гудбы, і дуды, і бубны, трубы, шахі, варцабы*“ („Аповесьць аб Трышчане“, к. 1580 г.; шахі і варцабы значаць ‘шахматы і шашкі’).

Слова *гудзець* у музычным значэньні дажыло да XX стагодзьдзя, прынамсі ў народных песьнях: *Чаму ж мне ня пець, чаму ж не гудзець?*

**Абсупонім! Venceremos!**

Айцы-заснавальнікі беларускае лексыкаграфіі дапускалі паралельнае ўжываньне каранёў

*гуляць* і *граць*, у тым ліку калі ідзецца пра перамогу/паразу ў гульні. С. Некрашэвіч і М. Байкоў у слоўніку 1928 году да расейскага *выигрыш* далі пераклады *выйгрыш* і *выйгра́нка* (апошняе слова прызнаваў і Кандрат Крапіва, праўда, ня ў слоўніках, а ў творах). В. Ластоўскі расейскаму *проигрыш* супастаўляе беларускія *пройгры* і *пройгрыш.* Адчуваецца ўплыў і расейскай мадэлі *проигрыш—выигрыш* (але ж там яшчэ і *наигрыш, обыгрыш, отыгрыш, розыгрыш*), і польскіх *wygrana—przegrana*, а нават чэскага *prohra*.

Але неабавязкова шукаць даслоўныя адпаведнікі расейскім „проиграть—выиграть“, „проигрыш—выигрыш“, асабліва калі ідзецца не пра спартовую гульню, а пра суд або вайну — якая ж там гульня.

Мова клясычнае „Нашае нівы“ ў 1907 годзе толькі фармавалася, таму ня дзіва там знайсьці такую фразу: *„Судзи ўзяли грошы з абодвых старон, а* ***выграў дзела*** *Врублеўски“*. Відаць, што ўзьніклы пазьней выраз „выйграць справу“ — русізм. Лепш — *перамагчы ў судзе / у працэсе, у вайне*. Або *пацярпець/зазнаць паразу*.

Раней для картаў і *крэгляў* (або *крэглы*, *кароглі* — кеглі ці гарадкі; футболу ж яшчэ не было) ужывалі таксама іншыя словы. У таго ж Насовіча дужа вобразныя словы-сынонімы для *абгуляць* і *прагуляць*:

**Абсупоніць** [ад **супоніць** у значэньні ‘біць’]: *Прыдзіць к нам, дай усякі раз абсупоніваець, абсупоніць цябе ў карты.*

Слова той жа сэмантыкі — **абхвастаць**.
Ад *герцаць* ‘мотать, плутовать’ утворана яшчэ адно „Насовічава“ слова **прагерцаць** (Напр.: *Прагерцаць грошы, сьвітку з плеч*). А **пракачаць** можна яйка, калі імі гуляюць на Вялікдзень.

***

Карацей, свойскіх словаў нам не бракуе. Бывае, можам і *прагуляць*, але ўсё ж лепей *выгульваць*.

## Каго люстраваць, а каго і лягчаць

Словы на *-іраваць* у беларускай мове — з 1937 году

Па-беларуску *рэгуляваць*, *рэгістраваць*. Па-расейску „регулировать“, „регистрировать“. Як правіла, расейскім дзеясловам на -ировать адпавядаюць беларускія на *-аваць*. Бальшыня іх паходзіць ад лацінскіх (раманскіх) ці германскіх каранёў, радзей — ад іншых. Беларуская мадэль карацейшая прынамсі на адзін склад, а то і на больш (як у пары *госпитализировать — шпіталяваць*).

Наагул дзеясловы на *-аваць* вельмі старажытныя, мадэль агульнаславянская. *Вера — вераваць, мілы — мілаваць, гора — гараваць, чары — чараваць.* Генадзь Бураўкін вярнуў ва ўжытак слова *вечараваць* — усе ведаюць песьню І. Лучанка на ягоны верш у выкананьні клясычных „Песьняроў“:

*Гэта я з табой вечарую,*
*Туманамі цябе я чарую,*
*Васількоў шапатлівай моваю*
*Зачароўваю, зачароўваю,*
*Закалыхваю я цябе...*

І ад чужаземных пазычаньняў наша мова з глыбокай даўніны ўтварала дзеясловы падобным чынам. Назаву германізмы: *тынк — тынкаваць, гандаль — гандляваць, рыса — рысаваць* (гэта ня тое самае, што *маляваць*, а — ‘выяўляць

нешта рысамі’, расейцы ў нас запазычылі слова, зьмяніўшы значэньне), *гэбаль — габляваць* (напрыклад, дошку); *фарба — фарбаваць*, параўнайма старое нямецкае farbieren.

## Зацята канфрантавалі, але і шчодра фундавалі

У пару́ ВКЛ гэты спосаб асваеньня пазычаньняў расквітнеў і пашырыўся на лацінскія асновы. Нашыя статуты, кронікі, угоды, судовыя справы ўжо з XV—XVI ст. поўныя словаў накшталт: *аґітавацi* (праўда, са значэньнем ‘разглядаць у судзе’), *адміністравацi, анігіляваці* (не ў фізычным, а ў праўным сэнсе: *„Мы, суд ... запіс тот касуем і анігілюем“,* 1697 г.), *ілюмінавацi, імаґінавацi* ‘уяўляць сабе’, *інкарпаравацi*, *канвэрсавацi* ‘падтрымліваць сувязь’, *канфрантавацi*, *касавацi, люстравацi*, *фундавацi* і г.д. (як бачым, некаторыя мелі крыху інакшае значэньне, чым цяпер).

Старабеларуская мова ведала слова *інфармавацi* прынамсі з XVI ст., яно ўжывалася ў розных моўных стылях:

*Стафан кароль заразом па сваей каранацыі абраў сабе чалавека годнага, Яна Замойскага, каторы бы яго ... у многіх рэчах асьцерагаў і інфармаваў* (пераклад Кронікі М. Стрыйкоўскага).

Корань слова *інфармаваць* — лацінскі. Пісьменныя беларусы ў той час ведалі лацінскія дзеясловы і дапасоўвалі іхныя карані да нашых звычайных дзеяслоўных мадэляў: **inform**are → ***інфарм**авацi*, **limit**are → ***ліміт**авацi* і пад.

„…У старой пісьмовай беларускай мове дзеясловы з суфіксам *-ірава-* не ўжываліся. Іншамоўныя асновы, як і ўласна беларускія, утваралі дзеясловы пры дапамозе суфіксаў *-ава- (-ява-), -ова-,* а некаторыя запазычанні на *-аваць, -оваць* прыйшлі, напэўна, праз польскую мову: *апробовати, апелевати, арештовати*...“,
— пісаў знаўца пытаньня праф. Мікалай Васілеўскі ў кнізе „Дзеяслоўнае словаўтварэнне“ (1985). Наконт меркаванага пасярэдніцтва польскае мовы зазначу: лаціна бытавала і ў Беларусі, беларусы наўпрост кантактавалі з германамоўнымі людзьмі, а таму падобныя пазычаньні маглі асвойвацца адначасова і на польскай, і на беларускай глебе. І ўкраінская мова паводзілася падобна.

А па-расейску — „информировать“. Слова замацавалася ў мове суседзяў значна пазьней, у пачатку XVIII ст., як і іншыя на -ировать. Туды яно прыйшло не наўпрост з лацінскай, а празь нямецкае informieren ці францускае informer. За ўзор расейцы бралі нямецкія, францускія, а таксама галяндзкія — праз эпізод біяграфіі Пятра — дзеясловы на -ieren, -er, -ir, -eeren. Устаўка -ир- ад іх.

Ёсьць патрэбнае беларускае слова *касаваць* — адмяняць нешта, прыкладам, дакумэнт ці рашэньне. Скасаваць можна квіток у транспарце, судовую пастанову, а яшчэ канцэрт музы́кі з „чорнага сьпісу“ і кантракт зь няўгодным.

У нас слова вядомае з XVI ст., ад лацінскага cassum reddere — ‘зрабіць пустым, несапраўд-

ным’, у расейскай значна пазьнейшае слова „кассировать“ мае вылучна судова-працэсуальнае значэньне (кассация). Расейска-нямецкі этымоляг Макс Фасмэр прасочвае ягоны шлях у расейскую празь нямецкае kassieren з франц. casser, іт. cassare, і толькі апошнія — ад лацінскага.

**Пацака транклюкируем!**

Расейская мова пераймала з францускай і нямецкай моваў іхныя дзеясловаўтваральныя наросты. Так утвораных словаў у расейскай пад тысячу, колькасьць іх расьце.

Там магчымыя амаль якія заўгодна словы на -ировать. Не абышлася бязь іх камэдыйная антыўтопія пра ўбогасьць таталітарызму „Кін-Дза-Дза“ Г. Данэлія. Эцылоп (паліцыянт; некаторыя словы прыдуманай мовы адгадваюцца чытаньнем з канца) выносіць прысуд: „*Пацака транклюкируем, чатланину — пожизненный эцих с гвоздями*“.

Нарост -ировать стаў выціскаць уласна расейскія словаўтваральныя мадэлі. Зь ім у бальшавіцкі час пачалі ўтварацца канцылярскія саветызмы нават ад сваіх, не пазычаных, каранёў: „складировать“, „молнировать“ (слаць хуткую тэлеграму — „молнию“); з падвойным нарашчэньнем -изировать: „большевизировать“, „советизировать“, „военизировать“, „яровизировать“ і „озимизировать“ (пшеницу), „коренизировать“ (часовая бальшавіцкая кадрава-ідэалягічная палітыка 1920-х гадоў у „нацыянальных рэспубліках“).

Саветызм таксама „бронировать“ у значэньні ‘рэзэрваваць нешта за некім’.

А нам лепш так і сказаць у гатэлі: „На мяне зарэзэрваваны пакой“, „Маю рэзэрвацыю“. У бальшыні суседніх краінаў зразумеюць безь перакладу.

### Дакляпую не даваць мытніку яблыка

Беларуская народная мова, як сьведчыў згаданы Мікалай Васілеўскі, ня ведае дзеясловаў на *-іраваць* увогуле. Слова *шпацыраваць* утворанае ад *шпацыр* — прагулянка.

А вось дзеясловаў з іншамоўнымі (у тым ліку лацінскімі) каранямі на *-аваць* у гаворках нямала. Скажам, *турбаваць*, *фундаваць* (у народнай мове ў значэньні ‘частаваць’). Слова *дакляраваць* у навейшым ужытку азначае ‘абвяшчаць/укладаць дэклярацыю’ — палітычную, мытную. Але ў гаворках яно існуе даўно ў значэньні проста ‘абяцаць’: *Дакляраваў ёй, што пайду ў грыбэ* (Вялікія Баяры, Шчучынскі р-н). *Я дакляраваў даць яблык, ды ня даў* (Міратычы, Карэліцкі р-н).

Такім чынам, і для старабеларускае мовы, і для беларускіх гаворак дзеяслоўная мадэль на *-іраваць* чужая.

### Усесаюзны стандарт

Кагадзе давялося чытаць мэтадычны тэкст, пісаны настаўніцаю беларускае мовы і літаратуры (sic!), дык там ажно стракаціць: „асацыіравацца“, „генерыраванне“, „маніпуліраванне“,

„скарэкціраваць“ і г.д. Адкуль жа навала гэтых дзеясловаў у сучасным афіцыйным моўным стандарце?

Праф. Мікалай Васілеўскі заўважае:

Дзеясловаў на *-іраваць* не фіксавалі і першыя руска-беларускія і беларуска-рускія перакладныя слоўнікі 20-х гадоў. Нават самы вялікі па тым часе Расійска-беларускі слоўнік 1928 г. [С. Некрашэвіча і М. Байкова] не фіксаваў у беларускай частцы слоўніка ніводнага ўтварэння на *-іраваць.* Усе запазычаныя дзеясловы ўводзіліся ў беларускую лексічную сістэму або пры дапамозе суфікса *-ава-* (*авансировать — авансаваць, агитировать — агітаваць, аккомпанировать — акампанаваць, амнистировать — амніставаць, ампутировать — ампутаваць*), або пры дапамозе іншых суфіксаў ці перакладалі апісальна, некалькімі словамі (*ассимилировать — прыпадабляць, атрофироваться — адміраць, кастрировать— лягчаць, ангажировать — запрашаць у скокі, датировать — азначаць дату, акцентировать — вымаўляць з націскам, галлюцинировать — марыць, рецензировать — ацэньваць, резюмировать — абагульняць* і г.д.). Гэтай нормы прытрымліваліся ўсе выданні рэспублікі.

Хваля словаў на *-ір-* прыйшла пасьля, у 1930-я гады.

Сваю кнігу М. Васілеўскі пісаў у камуністычныя часы. Адсюль абавязковыя ацэнкі, якія пярэчылі выкладзеным тут жа фактам:

„Руска-беларускі слоўнік (1937) і быў першым беларускім лексічным даведнікам, які ўзаконіў дзеясловы на *-іраваць,* зрабіў іх нормай беларускай літаратурнай мовы, чым значна ўзбагаціў беларускую дзеяслоўную сістэму. Усяго ў гэтым слоўніку, у рускай яго частцы, налічваецца 202 бяспрэфіксныя дзеясловы на *-ировать,* якім адпавядаюць 132 беларускія дэрываты зь *-іраваі* 70 з *-ава-*. І хоць складальнікаў слоўніка можна папракнуць за тое, што яны недастаткова папрацавалі, каб вызначыць, якія запазычаныя дзеясловы падаваць з суфіксам *-іраваі-,* а якія з *-ава-,* ім трэба аддаць належнае: яны ўпершыню зрабілі дзеясловы на *-іраваць* літаратурнай нормай“.

(Тут ідзецца пра адкрыта русіфікатарскі слоўнік пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча; вылучэньне маё.— *В. В.*).

І тут жа М. Васілеўскі пераканаўча даказвае, наколькі чужародныя для нашае сучаснае літаратурнае мовы падобныя ўтварэньні ў параўнаньні з расейскаю, зь яе „яровизировать“ і „складировать“:

...У беларускай літаратурнай мове няма ніводнага прыкладу, каб пры дапамозе *-ірава-* быў утвораны дзеяслоў ад уласна беларускай асновы. Або хоць бы і ад іншамоўнай, але каб дзеяслоў гэты быў арыгінальны, не скалькаваны з аналагічнага рускага. Вось чаму гэты тып

дзеясловаў нельга лічыць прадуктыўным на марфалагічным, словаўтваральным узроўні, хоць ужываецца ён у беларускай мове больш як 50 гадоў.

А Павел Сьцяцко, спэцыяліст у словаўтварэньні ды заснавальнік цэлай навуковай школы культуры мовы, цьвердзіць ужо без паліткарэктнасьці:

Гісторыя мовы сьведчыць, што суфікс *-ірава-* быў навязаны нашай мове за савецкім часам усесаюзным стандартам (расійскаю мовай).

Менавіта савецкім часам у беларускую літаратурную мову былі зацягнутыя шматлікія дзеясловы на *-іраваць*. Аналягічныя — бязь лішняга суфіксу — або бытавалі ў беларускай мове раней — як *карэктаваць (карыгаваць)*, *музыкаваць*, *прэпараваць*, або лёгка афармляюцца паводле традыцыйнай мадэлі: *асацыявацца*, *генэраваць*, *кадраваць*, *траўмаваць*, *кадаваць*.

**Dies irae (‘Дзень гневу’, лац.)**

Афіцыйныя слоўнікі сталінскай і пасьлясталінскай пары дэзарыентуюць неабазнанага ў савецкай моўнай палітыцы чытача. Колькасьць дзеясловаў на *-іраваць* у чарговых слоўніках то расла, то зьніжалася паводле актуальнай устаноўкі на ступень русыфікацыі.

Праф. Павел Сьцяцко трапна заўважыў, што суфікс *-ір-аваць* пераважаў там, дзе ўкладальнікі ці рэдактары слоўнікаў трымалі кампартыйную лінію на „зьліцьцё нацыяў, іх культуры і мовы“. Але калі аўтары „*добра адчувалі жывое народнае слова і былі прыхільнікамі нацыянальнай культуры і мовы*“, як мовазнаўца і пісьменьнік Мікола Лобан, то і ў рэдагаваным ім першым томе „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы“ (1977) дзеясловаў на *-ір-* зусім мала.

Адсылаю цікаўных да грунтоўнага аналізу *-іраваць* і *-аваць* у слоўніках, які ў дапаможніку для ВНУ зрабіла мовазнаўца Іна Бубновіч[1].

Пільны чытач знойдзе разнабой у афіцыйных слоўніках, рыхтаваных адной установай і нават выдадзеных адначасова. Скажам, „Беларуска-рускі слоўнік“ (НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; пад рэд. А. Лукашанца. Мн.: Беларуская Энцыклапедыя, 2012) падае словы *асацыявацца* і *праграмаваць* бязь *-ір-*, а „Слоўнік беларускай мовы“ (НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; навук. рэд. А. Лукашанец, В. Русак. Мн.: Беларуская навука, 2012) патрабуе пісаць *асацыіравацца* й дапускае варыянты *праграміраваць/праграмаваць*.

Адшукаць тут нейкія прыхільнасьці або сыстэмныя падыходы цяжка: выключна варыянт зь *-ір-* — *маніпуліраваць*, *гастраліраваць* — на-

[1] Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю. Гродна, 2000. http://www.elib.grsu.by/doc/517, доступ 13.12.2015.

адварот, патрабуе пісаць першы слоўнік, а другі дазваляе абодва варыянты.

А вось у тэрміналягічных слоўніках першай паловы 1990-х гадоў, якія ўкладалі прафэсіяналы ў адпаведнай галіне супольна з мовазнаўцамі, зусім іншая сытуацыя. Напрыклад, у „Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ“ (Мн.: „Навука і тэхніка“, 1993), „Руска-беларускім фізічным слоўніку“ (Мн.: „Навука і тэхніка“, 1994) словаў на *-ір-* (*-ыр-*) няма ўвогуле. Спэцыялісты ў дакладных навуках і да таго ж дасьведчаныя ўнівэрсытэцкія выкладнікі сьвядома не падаюць чужых беларускай мове мадэляў, а таксама рацыянальна выбіраюць карацейшыя словы (*групаваць, індукаваць, камутаваць, эмульгаваць, флюктуяваць, храмаваньне* ‘хромировка’), бо ўстаўка *-ір-* не дадае ніякіх нюансаў значэньня.

## Цыціруем і муціруем

Далейшыя развагі адрасую тым, каму „*-ір-аваньне*“ муляе.

Носьбіт жывое беларускае мовы адчувае, што, як правіла, словы на *-іраваць/-ыраваць*, *-іраваньне* (і асабліва *-іроўка!*) — словаўтваральныя русізмы, ды імкнецца іх замяняць. Звычайна можна знайсьці слова таго ж кораню бязь *-ір-* (*-ыр-*): *міграваць, камэнтаваць.*

Дарэчы, у русіфікаваным варыянце беларускае мовы перад *-ір-* патрабуецца пераход **[т]** у **[ц]**.

Словаўтваральныя повязі затуманьваюцца, інтуіцыйна зразумець значэньне дзеяслова ня так лёгка: „даціраваць“, „муціраваць“, а нават, выбачайце, „цыціраваць“ — была і такая форма ў савецкіх слоўніках. Несумненна, у напісаньні і вымаўленьні *мутаваць* лягчэй распазнаць *мутацыю*, чым у форме „муціраваць“.

Ад словаў з асновай на **[j]** ці на галосны гук накшталт *прэмія*, *копія*, *флюктуа*цыя, *тату* лягічна ўтвараем *прэміяваць*, *капіяваць*, *флюктуяваць*, *татуяваць*. Ад *дыфэрэнцый*ны — *дыфэрэнцыяваць* (у матэматычных слоўніках 1990-х гадоў ёсьць і форма *дыфэрэнцаваць*), *канструяваць* ад лац. *construo*, *парадыяваць* ад *пародыя*.

## Фармуючы гліну, скульптар фармуе сьвядомасьць

Часам у абарону дзеясловаў на *-іраваць* у беларускай мове кажуць, што яны дазваляюць перадаць інакшае значэньне. Сапраўды, у расейскай мове *формовать* і *формировать* маюць розны сэнс. Таму і па-беларуску нібыта *фармаваць* можна толькі нешта матэрыяльнае, як гліну, а „фарміраваць“ — штосьці абстрактнае.

Але гэта мэханічны перанос расейскіх сэмантычных падзелаў на беларускую глебу. Рас. *формировать* і *формовать* адпавядаюць у францускай, польскай, чэскай, украінскай аднаму дзеяслову з гэтым коранем: *former*, *fortować*, *fortovat*, *формувати*. Бо сэмантыка іхная тая самая, адно што ў *формовать* яна „матэрыяльная“,

а ў *формировать* мае пераноснае значэньне (як, напрыклад, „дайсьці“ ў пары *дайсьці да пляцу* і *дайсьці да праўды*). Па-беларуску слова *фармаваць* выдатна дае рады як у наўпроставым значэньні — *скульптар фармуе гліну* — так і ў пераносным — *прэса фармуе грамадзкую думку.*

[Падазраю, дарэчы, што слова *формовать* у расейскую некалі прыйшло зь беларускае мовы.]

І неабавязкова нам браць з расейскай мовы дзеяслоў зь *-іраваць* нават тады, калі форма бязь *-іраваць* мае зусім іншае значэньне. Напрыклад, расейскаму *суммировать у* нас адпавядае не *суміраваць* і не *сумаваць*, а *падсумоўваць/падсумаваць.*

Таксама з часоў адраджэньня 1920-х гадоў лёгка знаходзяцца адпаведнікі іншым расейскім дзеясловам на -ир-, прычым часьцей за ўсё непазычаныя:

Командировать — *выпраўляць, дэлегаваць. Службовая выправа.*

Пикировать (пра самалёт) — *ырцаваць, рабіць піке.*

Маркировать — *пазначаць.*

Урэшце, бомбардировать — *бамбіць.*

Утвараючы дзеяслоў ад слова *плёмба,* няма патрэбы яго „плямбіраваць“. Зуб (як і той нямецкі вагон для даставы Леніна) плямбуюць. Хіба што працэс зьвязаны ня з зубам, а з размазваньнем марозіва „плямбір“. Тады, сапраўды, твар „плямбіраваны“.

### Газаваная вада

Ідэолягі савецкіх моўных канонаў, нягледзячы на супраціў самой мовы, імкнуцца захаваць прастору для набытай у 1937 годзе чужой мадэлі. Яны цьвердзяць, што калі з словаўтваральных русізмаў прыбраць *-ір-/-ыр-*, то тыя, маўляў, згубяць „сваю фармальную і семантычную акрэсленасць: шакіраваць, бісіраваць, бравіраваць, гарманіраваць, драпіраваць, лабіраваць, грасіраваць, курыраваць, лавіраваць, дэкарыраваць, сервіраваць, фантазіраваць, лакіраваць, штудзіраваць, мусіраваць, татуіраваць і інш.“ (В. Іўчанкаў).

Таксама ўяўная праблема, калі два дзеясловы — з расейскім *-іраваць* і безь яго — маюць зусім іншыя значэньні. Абаронцы *-іраваць* называюць, акрамя ўжо згаданых, аформленыя на расейскі ўзор дзеясловы буксіраваць (пры буксаваць), газіраваць (пры газаваць), адпаведна пасіраваць, тушыраваць, парыраваць і некаторыя іншыя.

Асабіста я ня бачу праблемаў разуменьня такіх словаў, як *шакаваць*, *лябіяваць*, *дэкараваць*, *сэрваваць*. *Студыяваць*, *фантазіяваць* — як *татуяваць*, пра што ішлося вышэй. Слова *парафаваць* — ад сярэднелац. *paraphus* (скажоны *параграф*), заўсёды ўжываецца ў адпаведных кантэкстах (*парафавалі пагадненьне*), з парафінам ніхто ня зблытае. *Газаваць* ваду і *газаваць* правым понажам у машыне, *праектаваць* дом і *праектаваць* выяву на экран — таксама кантэксты розныя.

І ў слове *трэнаваць* добра чутны корань *трэн-*, параўн. *трэнаж*, *трэнэр* (і нават гопніцкія *трэнікі* ☺). А як жа „трэніроўка“? А пра назвы працэсаў на *-ка* асобная размова: „коўка-штампоўка“ — чыстыя русізмы, мала таго, саветызмы. Па-беларуску працэсы часьцей перадаюцца словамі на *-ньне*. Трэнаваньне.

Калі надта карціць зьберагчы замежны корань, то нагадаю, што рас. „муссировать“ паходзіць ад фр. mousser ‘пеніцца, зьбіваць у пену’, а мы ведаем слова *мус* (у 2-м значэньні — дэсэрту), дык і *мусаваць* па-беларуску нармальна. Хаця „муссировать слухи“ — гэта проста *пашыраць чуткі/пагалоскі*. Аднаўляецца лацінскі першакорань у слове *кватаваць* (= „котировать“).

Натуральна, калі-нікалі словы на *-іраваць/-ыраваць* утвараліся ад назоўнікаў на *-ір*, як *шпацыраваць* ад *шпацыр*, таму магчымае і ўтварэньне ад *буксір* — *буксіраваць*.

Што да расейскага слова „лавировать“, то ў сучасным жыцьці яно ўжываецца найперш у пераносным значэньні, якое ў беларускай мове адэкватна перадаюць шматлікія словы й выразы: *манэўраваць* (напр., паміж кімсьці), *абмінаць вострыя куты*, а то і *выкручвацца*, [рабіць нешта] *ці скокам ці бокам* ды інш.

Застаецца значэньне вузка тэрміналягічнае, вядомае бальшыні сухаземных беларусаў толькі з марскіх кніжак: ‘рухацца пад ветразямі супраць ветру, мяняючы кірунак’. І ў ангельскай, і ў сучаснай нямецкай гэтае паняцьце перадаюць

словы, зьвязаныя з шытвом, як бел. *фастрыгаваць* або *крыжаваць*.

„Лавировать“ — позьняе (1720 г.) запазычаньне ў расейскую, відаць, з галяндзкай. Але раней з новаверхненямецкай гэтае слова прыйшло ў чэскую і польскую, захаваўшы, што ўнікальна, суфікс *-ір-*. Дарэчы, польская ўжо мела іншае запазычаньне, з францускай,— *lawować* ‘падмалёўваць вадкаю фарбаю’. Калі аматары вятружніцтва не запрапануюць нечага лепшага, хай будзе, як у іншых мовах Балта-Чарнаморскага моўнага зьвязу, *лявіравáць*, вадаплаў *лявірýе* (такі націск падаваў Вацлаў Ластоўскі).

Часам замест суфікса *-ір-* больш дарэчны *-эр-*. Правільная форма — гародніну *пасэраваць*, г. зн. крыху абсмажваць (расейскае з націскам на 2-м складзе „пассúровать“ — увогуле з акрабатычнай тэрміналёгіі). Лягічна па-беларуску будзе не „грэйдзіраваць“, а *грэйдэраваць*, гэта значыць выроўніваць паверхню дарогі *грэйдэрам*. Таксама *гравэраваць*, *крэйсэраваць*, *плянэраваць*, *лідэраваць* (нароўні з *ачольваць*). У старабеларускай было *палераваць* (слоўнік Некрашэвіча і Байкова дае таксама варыянт *глянсаваць*) ад слова *полер*.

Мэтафарычна яго ўжывае В. Ластоўскі:

*Бо што ж, калі прывык*
*чужых багоў*
*ў чужацкай мове славіць,*
*з чужыны браць чужацкі* ***полер***
*і чціць чужы на сьцягах колер!*

Таксама іншым дзеясловам з *-ир-*, і ў расейскай мове часам манерным і рэдкім, могуць адпавядаць у беларускай мове свае ўласныя, не пазычаныя. „Утрировать“ — *перабольшваць*. „Бравировать“ — *выхваляцца*. „Грассировать“ — *картавіць*. „Гармонировать“ — *пасаваць*. „Курировать“ — як *кураваць*, так і *апекавацца*. „Парировать“ — *адпрэчваць (-ыць), адбіваць (адбіць)*.

Дарэчы, народная мова падказвае больш натуральныя варыянты. „Фаршировать“ — *надзяваць, крапаць*:

*Печань, лёгкія і ныркі крышылі і крапалі трыбух* (Лісна Верхнядзьвінскага р-ну). Паводле этнографа А. Нікіфароўскага, немясныя каўбасы называлі *надзяваныя кішкі*. *Вантробы крышаць, дабаўляюць яйкі і надзяваюць кішкі ці кіндзюк* (Мсьцібава Ваўкавыскага р-ну; *кіндзюк* — страўнік у жывёлы, напрыклад, сьвіны).

Падобна мяркуюць многія лінгвісты. Піша Іна Бубновіч:

...улічваючы заканамернасці беларускай мовы, таксама трэба імкнуцца пазбягаць чужароднага элемента, які нічога, акрамя падкрэслення слабой ступені засваення гэтых дзеясловаў беларускаю моваю, не нясе. Таму больш рацыянальна ўжываць: *баражаваць, балатаваць, татуяваць, прэпараваць, трасаваць, санаваць* і інш. Невыкарыстанне элемента *-ір-* не перашкаджае дакладнаму разуменню сэнсу гэтых дзеясловаў, пра што сведчыць фіксацыя такіх дзеясловаў

без элемента *-ір-* у слоўніках 20—30-ых гадоў і ў сучаснай моўнай практыцы (*балатаваць, татуяваць, скандаваць, легаваць*). Значыць, рэч не ў тым, што элемент *-ір-* выконвае нейкую функцыю, а ў крыніцы непасрэднага пазычання. Пэўнае значэнне мае і звычка, стэрэатып мыслення, боязь адысці ад рускіх адпаведнікаў. (...) Вызваленне ад неўласцівых беларускай мове элементаў (…) працэс незваротны, і ў словах, дзе можна яго ўнікнуць, ужываць яго няма патрэбы.

(І. Бубновіч. Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю. Гродна, 2000)

Такім чынам, абыходзьмася бязь *-іраваць*. „Транклюкіраваць“ па-беларуску няможна. Затое можна (каго трэба) *люстраваць*, а хатніх катоў (каго трэба) дастаткова *лягчаць*.

## Небеларускі Савецкі саюз

Не „вучоны савет“, а навуковая рада,
Эўрапейскі — не „Саюз“, а Зьвяз

Два словы, пачуўшы якія, яшчэ тры дзесяцігодзьдзі таму сотні мільёнаў людзей мусілі дэманстраваць ляяльнасьць і захапленьне — *Савецкі саюз.*

„Савецкі Саюз“, як усе мусілі ведаць — хоць сярод ночы абудзі — непарушны, вялікі і магутны. І па-расейску, і па-беларуску *савет* і *саюз* гучаць амаль аднолькава, калі не лічыць нашага моцнага аканьня. Але ці нашыя гэта словы?

Слова *совет у* расейскай мове шматзначнае і мае нямала роднасных: *советоваться, совещание, советчик* (але *„антисоветчик“* — не ягоны антыпод☺) і нават *советолюбивый советоискатель.*

У беларускай слова *савет* адасобленае (калі не лічыць яўных русізмаў накшталт *саветнік*) і абазначае толькі орган, установу. Гэта сьведчыць, што яно не сваё, а прыйшло з расейскае.

### Парадзь раду, раду добрую

Дый у самой расейскай мове слова *совет* хоць даўняе, але не спрадвечнае. Яно ўзятае з мовы царкоўнаславянскай, фактычна старабаўгарскай (дзе ў сваю чаргу гэта была калька з грэцкае мовы). Як і тысячы іншых царкоўнаславянізмаў, якія або выціснулі спрадвечныя расейскія народ-

ныя словы, або занялі месца ў „высокім“ стылі: *благословить, глава, одежда, гражданин, восторг, тщетный, юноша.*

Беларуская ж мова ўжо з XV ст. разьвівала лексычную сыстэму не на царкоўнаславянскай, а на ўласнай аснове. Дасьледнік гісторыі пазычаньняў праф. Аляксандар Булыка тлумачыць прычыну:

„Звужэнне царкоўнаславянскага лексічнага струменю ў старажытнай беларускай пісьменнасці было выклікана перш за ўсё абмежаваннем сферы ўжывання царкоўнаславянскай мовы ў Беларусі, што наступіла ва ўмовах ізаляцыі беларускіх зямель ад Маскоўскай Русі — тагачаснага цэнтра праваслаўя і папулярызацыі царкоўнаславянскай літаратуры на ўсходняй славяншчыне — і ўзмацнення эканамічных і культурных кантактаў беларусаў з заходнімі краінамі, ахопленымі гуманістычным рухам“.

Ёсьць у расейскай цэлыя словаўтваральныя мадэлі царкоўнаславянскага паходжаньня, напрыклад, з прыстаўкай *со-*, калі яна перадае супольнасьць дзеяньня і пад.: *сочинить, сосуд, собеседник, состав, собор, современный, соперник, соискатель, сословие.* Да гэтай групы належаць словы *совет* і *союз.* Але ў беларускай прыстаўка *са-* ў такім значэньні амаль не ўжываецца. У нас *с-, з-, су-, спа-*: *склад, збор, сучасны, сузор'е, су-*

*пар, спаборнік*. Таму і з словаўтваральнага гледзішча ***савет*** і ***саюз*** для нас русізмы.

Затое ў беларускай мове жывуць словы *рада, радзіць, раіць, параіць.* І ў гаворках яны пашыраныя ад захаду да ўсходу са Смаленшчынай уключна, і ў старабеларускай мове запісаныя прынамсі з XIV ст.

Слова *рада* ў нас мае шмат роднасных: *раднік, райца, дарадчы, парада, нарада* і нават *здрада* (некалі *зрада* у значэньні ‘змова’ або ‘шкодная парада’). Зь ім ужываюцца сталыя выразы: *даць рады* (справіцца): *Авой, як жа я ўсяму гэтаму дам рады?* Або: *Няма рады, давядзецца ехаць. Як ты сабе радзіш?* — значыць як спраўляесься. *Ра́дны чалавек* — „порядочный, честный, чинный“. Усялякіх *радаў* поўна ў фальклёры, напрыклад, у валачобнай песьні, у велічальным звароце да гаспадара:

*Пане гаспадару, парадзь раду, раду добрую, валачобную.*

Беларускае, а таксама ўкраінскае, польскае, чэскае, славацкае і сэрбалужыцкае слова *рада* этымолягі звычайна супастаўляюць зь нямецкім *Rat* і лічаць германізмам. Калі яно і сапраўды германізм, то вельмі даўні, запазычаны не пазьней, чым словы *мур*, *дах* ці *рынак*.

Але магчыма, што слова *рада* ўласнае, спрадвечнае. Расейскі зьбіральнік словаў Уладзімер Даль сьведчыў, што яшчэ ў XIX стагодзьдзі слова *радить* ведалі і Пскоўшчына, і паўднёварасейскія гаворкі, куды германізмы наўрад ці масава

пранікалі. А прыклад падае відавочна беларускі: *Па шкодзе радзіць* (г. зн. калі ўжо запозна).

Менавіта слова *рада* замацавалася ў нас для кансультацыйных і прадстаўнічых органаў. У Вялікім Княстве кожны ведаў, што бывае *рада каралеўская, судовая, духоўная, сьвецкая, меская* (гарадзкая па-цяперашняму, ад слова *места*, што і значыць ‘горад’ — напрыклад, *рада меская Магілёўская*, 1590 год). І ўрэшце *Рада Вялікага Княства Літоўскага* (якую звалі таксама *Панове Рады*, або *Рада Паноў*) — найвышэйшы орган дзяржаўнай улады, назва якога на лацінскую мову перакладалася як senatus. *Панове Рады* былі гарантамі абароны гонару і годнасьці грамадзянаў ВКЛ:

**Артыкул 28**

*Каму бы шло а чэсьць, яка борзда справядлівасьць учынена быці маець*

Тэж абяцуем і будзем павіньні кождаму з падданых нашых, каму бы шло а чэсьць, прудкую і неадвалочную справядлівасьць учыніці на першам блізкапрышлам Сойме вялікам вальнам з **паны радамі нашымі Вялікага Княства Літоўскага** без усякае адвалокі.

(Статут Літоўскі 1588 г., разьдзел 1)

Як толькі беларусы пачалі адбудоўваць сваю дзяржаўнасьць, слова *Рада* аднавілася ў назвах

дзяржаўных установаў: *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі* (першы старшыня Іван Серада) і *Рада народных міністраў БНР* (старшыня Антон Луцкевіч, потым Вацлаў Ластоўскі).



**Першыя саветы, другія саветы…**

Але натуральны працэс аднаўленьня беларускай дзяржавы і нацыянальна-дзяржаўнай тэрміналёгіі спынілі расейскія бальшавікі, якія замаскавалі іншасказам „саветы“ сваю дыктатуру.

Цікава, што камуністычная ўлада, напрыклад, ва Ўкраіне і Літве спрабавала ўвесьці больш звыклую для адпаведных моваў назву. У Літоўскай ССР Савецкі саюз афіцыйна называўся *Tarybų Sąjunga* ад слова *taryba* — рада, нарада, але самі людзі звалі рэжым *sovietai*. Тое самае ва Ўкраінскай ССР, дзе афіцыйна бытаваў тэрмін *рада, радянський*. Але ў практыцы, асабліва Заходняй Украіны, як піша ўкраінскі мовазнаўца, слова *совєт* ужывалася як назва прыхадня — з сынонімамі *комуніст, більшовик* і нават *червона орда* ці *червоні окупанти*. І сёньня ва Ўкраіне слова *совєць-*

*кий* або *совіцький* афарбаванае рэзка нэгатыўна. Падобна ў Польшчы (*radziecki — sowiecki*).

У БССР было трохі інакш: ад пачатку бальшавікі тут замацавалі слова *саветы*. Нацыянал-камуністы і маладыя рамантыкі, якія паверылі камуністам ды ўзяліся будаваць беларускі дом пад бальшавіцкай уладай, у 1923—24 гадох паціху вялі дыскусію, ці не ўкараніць словы *рада, радавы* для бальшавіцкіх саветаў. Акурат тады афіцыйная газэта „Савецкая Беларусь“ друкавала літаратурна-мастацкі часопіс „Радавая рунь“, спарадычна зьяўляўся скарот БРСР, то бок „Беларуская Радавая Сацыялістычная Рэспубліка“.



БРСР. Беларускі ЦВК Рад дэпутатаў. Сяброўскі білет У. Ігнатоўскага. 1924. *Зборы Нацыянальнага гістарычнага музэю Беларусі, перадаў У. Ляхоўскі.*

Але Антон Луцкевіч зь Вільні прадбачліва пытаўся:

Цікава толькі, ці Беларуская Сацыялістычная Радавая Рэспубліка акажацца настолькі „важкай“ установай, каб да голасу яе прыслухаліся „старэйшыя браты“, што запраўды кіруюць

усенькім „Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік“?

I неўзабаве розным, ня толькі моўным, дыскусіям быў пакладзены канец. Бальшавіцкім саветам няможна было звацца адным імем з Радаю БНР.

Яшчэ ў 1928 годзе найбольш аўтарытэтны слоўнік Некрашэвіча і Байкова расейскае слова *совет* у звычайных значэньнях перакладаў беларускімі *рада, парада, дарада, нарада*; але ўстановы фармальнай улады мелі звацца Савет (народных камісараў ды інш.). Усе іншыя інстытуцыянальныя „советы“ яшчэ заставаліся ў беларускай мове *радамі*: „педагогический совет“ — *школьная рада*, „учёный совет“ — *навуковая рада*. У 1930-я гады і яны сталі „саветамі“. Перакладныя г.зв. акадэмічныя слоўнікі савецкага часу паўтаралі матрыцу:

совет I (орган государственной власти в СССР) — *савет*;

совет II (совещание) — *нарада*;

совет III (коллегиальный орган) — *савет* (у тым ліку „ваенны“, „вучоны“ і „педагагічны“);

і толькі ў апошнім значэньні дазвалялася *рада*:

совет IV (указание) — *парада*, *рада*.

Так штучна пашыралася сэмантычнае поле для русізму „савет“.

Хаця ў жывой народнай мове слова зьяўлялася толькі з прыходам савецкіх камуністаў і абазна-

чала іхную ўладу ды іх самых. Кожны жыхар Заходняй Беларусі ведае — ці з уласнага досьведу, ці з аповедаў старэйшых, што такое „першыя саветы“ (1939—1941 год) і „другія саветы“ (гэта ўжо з канца вайны).

Мяркую, міжнародная лацінская назва спэцыфічнага гатунку чалавека, выведзенага ў СССР,— homo sovieticus, а таксама пэрыфраза „Салавецкі саюз“ падказваюць нам: словы *саветы* і *савецкі* апісваюць толькі і выключна палітычны рэжым СССР і яго атавізмы, накшталт галоўнай газэты *„Советская Белоруссия“, „Савету Рэспублікі“* ці *„гарадзкіх саветаў“*, якія папраўдзе нічога не вырашаюць і нават не *„саветуюць“*. Для ўсяго іншага ў беларускай мове ёсьць слова *рада* і аднакаранёвыя. *Рада бясьпекі ААН.*

Дарэчы, спадзевы менскіх уладных палітычных тэхнолягаў вечна гуляць на савецкай настальгіі, выдаючы цяперашнюю Беларусь за адзіны савецкі запаведнік, натыкаюцца на магутную плынь у цяперашнім расейскім імпэрскім дыскурсе, якая заяўляе: *„Советский — значит русский!“* і ставіць Леніна-Сталіна ў адзін шэраг з Іванам Жахлівым і Суворавым.

**І да прывязан будзець саюзам жалезным…**

Слова „савецкі“ неадлучна зьвязанае зь іншым словам — „саюз“, і разам яны выклікалі або агіду і жах, або захапленьне. Захапляецца герой тэатралізаванай песенькі Лявона Вольскага ў „Народным альбоме“ палітычна правільны заходнебеларускі пралетар Юзік:

*Усім прывітаньне! Завуць мяне Юзік.*
*Я хачу жыць у Саве-е-ецкім саюзе!*
*Я просты хлопец, я хлопец зь вёскі,*
*На пілараме пілую я дошкі.*
*Дошкі пілую ад рана да рана,*
*А скутку няма, бо працую на пана.*
*Маю заробак — мізэрныя грошы,—*
*П'ю самагонку, куру папяроскі.*

Наколькі слова „саюз“ беларускае? Вось жа анінаколькі.

Як і слова „савет“, яно ня мае свайго гнязда ў беларускай мове. Гэта ў царкоўнаслявянскай слова *союз* заканамерна ўтваралася з ужо згаданай прыстаўкай со- і коранем -юз, „юзы“ значыць ‘повязі, вузы’. Расейская мова ўспрыняла слова разам са шматлікімі іншымі царкоўнаславянізмамі.

Слова *саюз* не ўжываў нават схільны да кансэрвацыі царкоўнаславянізмаў у біблійных тэкстах Скарына. У яго пабачым іншы варыянт — *соуз*, які, хутчэй за ўсё, ён вымаўляў адпаведна беларускай фанэтыцы [савуз]. Слова мела ў яго значэньні ‘сувязь, зьвяз’, ‘мэталёвая акоўка’ і ўрэшце — вось як — ‘аковы’:

*(Страж сьвяты) ... і да прывязан будзець* ***савузам*** *жалезным і мядзяным...*

У перакладных слоўніках XVI—XVII ст. слова „союз“ разглядалася як чужое, яно вымагала перакладу. Рукапісны слоўнік *„Синонїма славенорусскаѧ“* дапамагае тагачасным чытачам

знайсьці адпаведнік словаў роднае мовы ў царкоўнаслявянскай:

*__Зьвязак__ — уза, юза, союзъ*

*Зьвязак малжэнскі — брачный съюзъ*

І ў слоўніку Памвы Бярынды *„Лексіконъ славенорѡсскїй и именъ Тлъкованїє“* (Кіеў, 1627 і Куцейна пад Воршай, 1653) слова *союз* як іншаземнае перакладаецца:

*союз = __зьвязак__, зьвязаньне, зьвязка, злучэньне, спае́ньне.*

Беларускія знаўцы мовы зусім іншай эпохі — XX стагодзьдзя — таксама лічылі слова *саюз* чужым. Вацлаў Ластоўскі перадаваў яго значэньне словам *сувязь* (што дакладна адпавядае сваім складам паўднёваслявянскаму „со-юзу“). І адпаведна, укараняючы тэорыю ў прыктыку, стварыў „Сувязь незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі“ — палітычную арганізацыю, якая існавала ў 1917—18 гг. у Вільні.

Браты М. і Г. Гарэцкія ў *„Маскоўска-беларускім слоўніку“* (Вільня, 1920) расейскае „союз“ перадаюць як *хаўрус* і *зьвязак*.

А вось С. Некрашэвіч і М. Байкоў у слоўніку 1928 году (бальшавікі ўжо стварылі „Савецкі саюз“) як адпаведнік „союзу“ ў розных значэньнях даюць *хаўрус* (гэбраізм з паходжаньня), *суполка,* але *Саюз ССР.* Наколькі мне вядома, спробаў называць гэтае апошняе ўтварэньне інакш у БССР не было.

У народна-дыялектнай жа мове для перадачы адпаведнага значэньня ўжываліся тыя самыя словы, што і ў старабеларускай, ніякага „саюзу“ яна ня ведала. Іван Насовіч запісаў з гаворак XIX стагодзьдзя словы *зьвязь* і *зьвязак* — у значэньні ‘связь, соединение’. *Нядобрая зьвязь твая зь ім!*

Хутчэй за ўсё, згэтуль паходзіць укарэненае Янам Станкевічам слова *зьвяз* — менавіта як злучэньне, аб’яднаньне. Слова пайшло ў практыку.

У нерусыфікаванай беларускай вайсковай тэрміналёгіі *зьвяз* — назва падразьдзелу, што ўваходзіць у склад роты ці батарэі. *Артылерыйскі зьвяз.* Адпавядае расейскаму „взводу“. Калі армія іншай дзяржавы ваюе на нашым баку, то яны нам *супольнікі* або і — з лацінскай — *альянты* (ёсьць жа слова *альянс*). Беларускія скаўты *зьвязам* завуць аб’яднаньне *дружынаў.*

Юрась Бушлякоў на хвалях Радыё Свабода зьвяртаўся да дылемы *саюз — зьвяз* і асьцярожна канстатаваў, што слова *зьвяз* пашырае сваю сэнсавую прастору. Тое было ў 2003 годзе. Сёньня можна сказаць, што Юрась не памыліўся ў прагнозах. Тэрміналягічнае спалучэньне *Эўрапейскі Зьвяз* пасьпяхова канкуруе зь „Еўрапейскім Саюзам“. Нават пераклад аднае з кніг папулярнай сэрыі Джона Толкіна называецца *„Зьвяз Пярсьцёнка“.* Думаю, калі слова пайшло ў масавую культуру, яго ўжо выкараніць няма як.

Натуральна гучыць па-беларуску *прафэсійны зьвяз*, *зьвяз плямёнаў* ці *Траісты зьвяз* (з гісторыі).

Магчыма, і нашыя пісьменьнікі ды іншыя творцы (калі ўжо ня будзе праблемаў зь перарэгістрацыяй назваў) некалі адмовяцца ад успадкаванага з савецкіх часоў слова „саюз“ у назвах сваіх згуртаваньняў. Нагадаю, што „Союз советских писателей“ у маштабе ўсяе бальшавіцкае імпэрыі дзеля поўнага кантролю над літаратарамі загадаў стварыць Сталін: у 1932 годзе наконт гэтага была прынятая пастанова ЦК ВКП(б) „Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый“, мясцовыя ЦК ў „саюзных рэспубліках“ яе прадублявалі і стварылі філіі ССП СССР — мясцовыя „саюзы“, у нашым выпадку „*Саюз савецкіх* пісьменьнікаў БССР“ (як бачым, у назьве ёсьць абодва культавыя словы).

Калі савецкая імпэрыя валілася, на зьезьдзе беларускай пісьменьніцкай арганізацыі ішла гарачая дыскусія пра лёс слова „Саюз“ у яе назьве. Маладзейшыя патрабавалі яго памяняць, давалі варыянты і *суполка*, і *хаўрус*, а ўрэшце Сяржук Сокалаў-Воюш усім стомленым ад палемічнага запалу прапанаваў назвацца *пісьменьніцкі мярлог*☺. Але, здаецца, варыянту *зьвяз* тады не гучала, слова яшчэ не вярнулася з вымушанай эміграцыі. Зрэшты, ёсьць яшчэ *злучнасьць, задзіночаньне, згуртаваньне, таварыства* — беларуская мова багатая. Дык мо „як толькі, дык адразу“?..

У канцы песеннага абразка Л. Вольскага люмпэн, а па-цяперашняму „ватнік“ Юзік не пакідае сумневаў у тым, як ён разумее словы „Савецкі саюз“ і што яны нясуць:

*Чакаю з надзеяй*
*На рускія танкі!*

Так, „Савецкі саюз“ — гэта лагодны сынонім Расейскай імпэрыі, асноўны інструмэнт для пашырэньня якой — зброя. Таму пакіньма два словы — „савецкі“ і „саюз“ — для гістарычнага абазначэньня імпэрыі зла і, магчыма, яе вытворных: „Эўразійскі саюз“. А ў іншых значэньнях лепш хай будуць нашыя ўласныя *рада*, *радныя* і *зьвяз*.

## Менчукі ці мінчане

У пачатку 90-х у Менску ладзіліся беларускамоўныя гарадзкія сьвяты, вяртаўся да ўжытку гарадзкі герб з выяваю Божае маці (на адпаведным магдэбурскай эпосе авальным шчыце адліты Валяр'янам Янушкевічам і вывешаны ў залі гарадзкой рады), не без інэрцыйнага супраціву адраджаліся да паўнавартаснага афіцыйнага жыцьця словы — накшталт *мытні*, выходзіла менская гарадзкая газэта „Добры вечар“.

Вось жа на старонках тае газэты на мяне напаў пэўны гістарычны публіцыст. За слова *мянчук*, адраджэньню якога я тады як мог спрыяў. Асноўным контраргумэнтам было тое, што форма жаночага роду ад *мянчук* нібыта мае быць *мянчучка*, а жыхаркі Менску пакрыўдзяцца. Я тады грунтоўна адказаў спрэчніку. Гісторыя нас рассудзіла: сёньня мала хто з тых, хто рэальна гаворыць па-беларуску, сумняваецца ў праве на жыцьцё формы *мянчук*. І ўсё ж нагадаю свае доказы.

*Мянчук* — традыцыйная, праўда, не летапісная (там былі *мяняне*) ці зафіксаваная ў ВКЛаўскіх дакумэнтах, а народная форма. Яе рэха — ва ўсходнебеларускім прозьвішчы *Мінчукоў* (хаця, магчыма, яно ад формы імя *Міна*), у псэўданіме *Міншчук*, які, паводле Я. Карскага, прыбраў мен-

скі пісьменьнік XIX стагодзьдзя Аляксандар Валіцкі, каб падкрэсьліць сваю беларускасьць усупор польскаму *mińszczanin*. Заўважма, што фармант *-(ч)анін* у гэтым слове яднае расейскую (*минчанин*) і польскую мовы.

„Мянчук“ („Мінчук“) — менавіта гэтак звалася выдавецтва, куды перш аддаў сваю „Жалейку“ ў 1906 годзе малады Янка Купала. Сярод заснавальнікаў выдавецтва — крытык і публіцыст Уладзімер Самойла, які ў адным зь лістоў заявіў сваё, так бы мовіць, credo: *Я ж — не вільнюк, а мянчук*. Вось так. Жыхары абодвух вялікіх гарадоў, што адыгралі знакавую ролю для беларускай гісторыі й дзяржаўнасьці, называліся ў народнай мове пачатку XX стагодзьдзя пры дапамозе суфіксу *-ук* (або *-юк*).

(Наагул была тады мода называць выдавецтвы найменьнямі гараджанаў: Шаўчэнкава „Кацярына“ пад рэдакцыяй таго ж Купалы выйшла ў віленскім выдавецтве „Палачанін“.)

Што да Вільні, то былі і старадаўні *вільневец*, і ноўшы *віленец*, і, урэшце, *вілянчук* (сам чуў, як сябе так называў Лявон Луцкевіч). *Вільнюк* — больш народная форма; сёньня яе ўжываюць носьбіты так званай пальшчызны крэсовай зь Віленшчыны.

***

На жаль, у сучасных акадэмічных слоўніках — Тлумачальным, перакладных расейска-беларускіх — няма назваў жыхароў беларускіх паселішчаў (хаця *кубінец*, напрыклад, ёсьць). Яны ня тра-

пілі таксама ў тапанімічныя даведнікі — зборы геаграфічных назваў. Іх няма ані ў 6-тамовым даведніку Я. Рапановіча 1980-х гадоў, ані ў добра вывераным, амаль вычарпальным даведніку пад рэдакцыяй В. Лемцюговай, што выйшаў апошнімі гадамі. Назвы жыхароў паселішчаў (навуковая назва *катайконімы*, ад грэцкага „паводле месца жыхарства“), апынуліся як бы паміж уласнымі назвамі, ад якіх яны ўтвораныя, і звычайнымі словамі агульнай лексыкі.

Каб мы ведалі сваю моўную традыцыю, не было б непаразуменьняў. Кагадзе ў незалежным віцебскім інтэрнэт-выданьні зьявілася эмацыйная публікацыя — маўляў, нам, жыхарам гораду, навязваюць штучную саманазву *віцябляне*. А трэба *віцябчане*. Вось жа дыскусія гэтая пэрыядычна вяртаецца, не раўнуючы камэта, з кожным наступным пакаленьнем.

Думаю, усё ж *віцябляне*. Гэтую назву, якой, пэўна, гэтулькі сама гадоў, колькі гораду, апошнія гадоў сорак спрабуе выціснуць іншая: *віцябчане*. Легенда прыпісвае выбар кіраўніку камуністычнай партыі Беларусі. Маўляў, у слове *віцябляне* ён пачуў нядобрыя сугуччы, і калі ў 1974 годзе на 1000-годзьдзе Віцебску прагучаў ягоны выступ — там былі толькі *віцябчане*, якія такім чынам замацаваліся. Цяпер так паназывалі і фабрыкі, і іншае.

Хаця такую форму называлі і раней. Вядомы этнограф П. Шэйн у „Дополнениях и заметках к толковому словарю Даля“ (1873) прапаноўвае фіксаваць у нарматыўных слоўніках назвы жы-

хароў і дужа своеасабліва тлумачыць, чаму гэта трэба:

*„Наконецъ есть такія имена этого разряда, которыя поставятъ въ тупикъ лучшаго этимолога. Онѣ прямо уклоняються отъ школьнаго производства, а между тѣмъ подводятъ себя къ счастливому, легкому окончанію совершенно своеобразнымъ путемъ. Напр. имена городовъ: Смоленскъ, Витебскъ, Пинскъ, Минскъ — производныя имена жителей по этимологіи были бы: Смоленщикъ, Смоленщанинъ, Пинщанинъ, Пинщикъ, Минщанинъ, Минщикъ, Витебщанинъ, Витебщикъ, а въ практическомъ живомъ употребленіи выходитъ: Смолянинъ, Пинчукъ, Минчукъ (послѣднія два слова — съ польскаго), Витебецъ, Витеблянинъ, Витебчанинъ“.*

Выглядае на калекцыю, дзе перамяшаныя аўтэнтычныя найменьні з прыдуманымі самым Шэйнам. Ён запісаў *пінчука* і *мінчука* ў палянізмы, а значыць, ня надта адчуваў словаўтваральныя адрозьненьні паміж мовамі. Што да Шэйнавага *віцябчаніна*, то, відаць, ён сам утварыў гэтую форму зь *віцябшчаніна.* Цікава, што і Гістарычны слоўнік беларускай мовы апошнюю форму фіксуе, але гэта… удзельнік сэкты.

Віцябляне (віцьбляне) шчыльнымі радамі йдуць праз летапісы й юрыдычныя дакумэнты Вялікага Княства Літоўскага. *„Што жъ послу изъ нашее земли, из Литовъское, и гостю,— или ляхъ, или русинъ, или полочанинъ, или витблянинъ и смолнянинъ,— тымъ путь чыстъ изо всее моее*

*отчыны въ Псковскую землю“* — гэта з дамоўнай граматы вялікага князя Казімера з Псковам ад 30 сьнежня 1440 году.



**Витеблянинъ, видбленинъ, видблянинъ, витбленинъ, витблянинъ, витьбленинъ, витьблянинъ** *наз. Жыхар Віцебска.* послу изъ нашее земли изъ Литовскоѣ, и гостю — или Ляхъ, или Русинъ, или Полочанинъ, или Витблянинъ, или Смолянинъ, — тымъ путь чыстъ изъ всее моее отчыны (АЗР, I 51, 1440); почаша твердо добывати града витебска поушкы поставиша витьблѧне (Віл., 450); Видблянамъ нашыхъ рекъ або озеръ не тапти (КЗ, 848, 1503); кубокъ сребреный съ рынктомъ, у Витьбленина купилъ (АЮЗР, I, 1529, 77); ильѧ грибовъ не хотѧчы тое слѹжбы самъ с нами слѹжити ѡкѹпилъ чоловека видбленина ж на ймѧ ѡзарка (КВЗС, 91, 1533); и почали твердо добывати, города и Витблене не могли терпѣти и далисѧ Витовту (Рач., 326); Витеблѧне не могли терпети (Патр. II., 103); который Витблянинъ вмирая откажетъ останокъ своего именія кому и въ то намъ не вътупатися (ИЮМ, II, 234, 1634).

**Витебщанинъ** *наз. Прадстаўнік рэлігійнай секты.* рожатаѧ котораѧ ѡд бортиѡновъ ѡт витебщановъ зтопътана ест (Зб. 259, 583).

Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т. 3. Менск, 1983. С. 295.

Слова *віцяблянін* утворанае ад асновы *Віцеб-*, а яна — ад назвы рэчкі *Віцьбы*. Фанэтычна гэта як *рымлянін* ад *Рыму*: пасьля губных **б** або **м** устаўляецца **ль**. Прыдзьвінскія гарады часта завуцца ад меншай рэчкі: Полацак ад Палаты, Дзісна ад Дзісны-Дзісёнкі. Што ж да Віцьбы, то ад яе магчымае яшчэ адно ўтварэньне: *віцьбічы*. Такі псэўданім сабе прыбраў народжаны ў цяпер падрасейскім Вяліжы Юрка Шчарбакоў — Юрка Віцьбіч (во ў каго моўнае чуцьцё). Але пакіньма гэты назоў кніжна-рамантычнаму стылю. *Віцябляне* ёсьць і ў гістарычным слоўніку беларускае мовы, і ў знакамітым „Расійска-беларускім слоўніку“ С. Некрашэвіча і М. Байкова 1928 году.

***

Жыхарка Віцебску — бясспрэчна, *віцяблянка*. А жыхарка Менску й Вільні? Няўжо *„мянчучка“ і „вільнючка“*?

Мова сьведчыць, што жаночы варыянт на *-учка* магчымы. Скажам, жыхар легендарнай палескай сталіцы кветак Давыд-Гарадка завецца *гарадчук*, а жыхарка — *гарадчучка*; вёска Тонеж — *таняжучка*, Лельчыцы — *ляльчучка*. Урэшце, *паляшук* і *паляшучка*; сапраўды, на Палесьсі такая мадэль найбольш пашыраная.

Але неабавязкова мужчынскія і жаночыя формы назваў паводле месца жыхарства маюць быць блізкія, сымэтрычныя: у Коласавым Сьвержні („…а ў Сьвержань пойдзе — купіць пляцку“) *сьвяржанін* і *сьвержаніца* (ацаніце велічнасьць жаночага найменьня!), у палескіх Велямічах — *велямюк* і *велямі́чанка*, урэшце — *туравé́ц* і *тураўлянка*. Дарэчы, з агульнай лексыкі: *шляхцюк* — *шляхцянка*. То зусім нармальная й гарманічная пара: *мянчук* і *мянчанка*. Слова *Віленка* занятае, гэта рэчка ў Вільні, за якой раён Зарэчча (багемны У́жупіс па-цяперашняму). То *вільнянка*, *вілянчанка*.

Зь вёскамі прасьцей. Усё ж і ў вёску, і ў гэтую моўную сфэру абрусеньне прыйшло параўнальна нядаўна, людзі зьберагаюць шматвекавыя беларускія традыцыі называньня, таму проста слухайма, асабліва старэйшых. Часам проста песьня: *семігошчаніца* — жыхарка Семігосьцічаў, *галавянча́ньня* з Галавенчыцаў, *барталамеевец* — з Рудні Барталамееўскай, *кня́жбарац*

з Княжабор’я. І пра мілагучнасьць дбалі. Людзей з Задуб’я — радзімы гісторыка і літаратуразнаўцы Анатоля Сідарэвіча — газэта „Зьвязда“ наўздагад назвала *задубцы* — ён неадкладна паправаў: *задубе́нцы*!

Трэба ўслухоўвацца ў народную мову ды ў гістарычную традыцыю, каб не памыліцца з назвамі жыхароў большых гарадоў, якія зазналі палянізацыю і асабліва русіфікацыю. Скажам, суфіксы *-віч-ы* ды *-шчын-а* пры ўтварэньні народных катайконімаў прапускаюцца. З Паўлавічаў — *паўлаўскія* ці *паўлаўцы*. Таму як у Сейлавічах *сейлаўцы*, так у Баранавічах *баранаўцы*, у Ра́дашкавічах *ра́дашкаўцы* (ужываў літаратар Уладзімер Содаль), а ў Асіпавічах *асі́паўцы*.

У даўніну больш пашыраны быў суфікс -*анін*, некаторыя старыя гарады яго сабе зьбераглі: *віцябляне, палачане, лідзяне, мазыране, случане.* Але што да Слуцку — ноўшая, народная назва *случакі* замацавалася дзякуючы Слуцкаму збройнаму чыну і цяпер зусім раўнапраўная.

А найбольш тыповая мадэль для сучаснае мовы — з суфіксам *-ец*. *Берасьцейцы, гарадзенцы, магілёўцы, гомельцы* (хоць ёсьць і *гамельчукі*; падазраю, што гэты назоў утвораны пакаленьнем адраджэнцаў 1980-х гадоў на ўзор *менчука-віленчука*; у старой мове былі *гамяляне*). Усё па-нашаму, усё самабытна й пазнавальна. Трымаймася свайго — нават калі пад рукой няма слоўніка.

У межах Рэспублікі Беларусі цяпер 23981 „жывое“ паселішча, а яшчэ ж ёсьць зьніклыя вёскі, традыцыйныя раёны гарадоў (г. зн. ня „Ленінскі

раён“ у Менску, а, прыкладам, Серабранка, Лошыца, Тры Карчмы), і жыхароў ды жыхарак усіх іх трэба неяк па-беларуску называць. Як і насельнікаў гарадоў, мястэчак і вёсак па-за межамі дзяржавы — тых самых Вільні ці Смаленску. Гэта патэнцыйна дзясяткі тысячаў словаў. На слоўнікі надзеі пакуль няма, спрабуйма самі ўлавіць дух беларускае мовы. Што да назваў жыхароў меншых паселішчаў — вёсак, хутароў — то заклікаю ўсіх неабыякавых пачуць старэйшых людзей і занатаваць за імі гэтыя моўныя пэрліны — дзеля наступных пакаленьняў беларускамоўных.

## Аддайма Брэст брэтонцам!

Нямала паселішчаў Беларусі носяць імёны, укладзеныя зь беларускіх утваральных частак, адпаведныя гукавым законам беларускае мовы. Няцяжка здагадацца пра паходжаньне і значэньне назваў *Полацак* — на рацэ *Палацé*, *Слуцак* — на *Случы*; *Масты, Бяроза, Гарадок, Каралёў Стан*.

Сярод цяперашніх афіцыйных назваў гарадоў Беларусі *Гродна, Круляўшчызна, Навагрудак, Драгічын, Брэст* вылучаюцца, бо і гучаць не па-беларуску, і ня маюць празрыстага значэньня ў межах беларускае мовы. Кожнай з гэтых назваў адпавядае звыклая для беларускага вуха форма (слова, корань): горад, кароль, новы горад, дарога, бераст. Традыцыйныя назвы —

***Горадня, Каралеўшчына, Наваградак, Дарагічын, Берасьце.***

У гэтых каранях ёсьць так званае поўнагалосьсе — спалучэньні -ора-, -аро-, -ера-; яшчэ бываюць -ала- і падобныя. У польскай мове ім адпавядаюць няпоўнагалосныя -ro-, -re-, -le-: малако — mleko, варона — wrona, а таксама droga, gród (ва ўскосных склонах grodu), król (чытаюцца прыблізна як ґруд — ґроду, круль). Такім чынам, у згаданых вышэй тапонімах бачым вынік спольшчваньня беларускіх назваў у канцы існаваньня Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

## Русіфікацыя польскімі назвамі

Калі ў канцы XVIII ст. праз тры падзелы Рэчы Паспалітае Беларусь была захопленая Расейскай імпэрыяй, акупанты напачатку ня надта разьбіраліся ў этнамоўных нюансах далучаных тэрыторыяў (хаця спокліч *Отторженная возвратихъ* і быў на мэдалі, выбітым да падзеі). Яны лічылі сваіх супрацоўнікаў палякамі і карысталіся польскамоўнымі мапамі ды сьпісамі паселішчаў „возвращенных“ тэрыторыяў, адкуль як умелі трансьлітаравалі тапонімы на расейскую.

Так, беларускі тапонім *Горадня/Горадзен* мае польскую вэрсію Grodno, зь якой расейскае (расейскі?) Гродно.

Адпаведна *Каралеўшчына* → Królewszczyzna → Крулевщизна, *Навáгарадак* (цяпер мясцовыя людзі кажуць *Навáградак*) → Nowogródek → Новогрудок.

(Можна дадаць іншыя, бяз поўнагалосься, прыклады, калі ў расейскай мове замацаваліся польскія формы беларускіх тапонімаў: *Хвойнікі* — Хойники, *Янаў* — Иваново.)

## Фасмэр пасьпяшаўся

Але як стала расейскім „Брестом“ спрадвечнае Берасьце (або Берасьць)?

Старабеларуская назва гораду над Бугам пісалася *Берестье, Бересте, Береcть*.

Того ж року 96, за митрополита Рагозу, за
Жикгимонта Третего, за канцлера Лва Сапегу,
у Берестю правдиве на соборе владыка луцкий,

владыка володимерский, владыка полоцкий, иных мало не вси приступили и подписалися до нового календару.

(Баркулабаўскі летапіс, 1596)

Яна вымаўлялася ў бальшыні дыялектаў беларускае мовы *Бéрасьце, Бéрасьць.* Апошняя форма жыве дагэтуль у гаворках навокал — *Бéрэсьць, Бэ́рэсць, Бэ́рэсть.* Паходзіць ад назвы дрэва *берраст* — або назвы ўсіх вязавых (Ulmus L.), або канкрэтнага малога вязу Ulmus minor Mill., значэньне мае хутчэй за ўсё зборнае — бераставы гай. Дарэчы, гэты гатунак дрэва расьце не ва ўсёй Беларусі, але ў берасьцейскім рэгіёне дакладна ёсьць. Пагатоў ёсьць і легенда пра заблуканага набожнага купца, які ў балацявіне таго *берасьця* загразь, а выбраўшыся, паставіў храм, ад якога нібыта і пайшоў горад.

Дрэва *бераст* па-польску называецца *brzost* (бжост), а меркаваная зборная форма — *brześć* (бжэсьць). Адпаведна законам польскай фанэтыкі старажытны мяккі гук [r] становіцца шыпячым. Так палякі і завуць і свой *Brześć* (*Kujawski*, на Куявах, гістарычнай зямлі ў Вялікапольшчы), і наш горад (дадаючы залежна ад эпохі *Litewski, nad Bugiem, Białoruski*).

На першы погляд, наўрад ці такая форма магла даць расейскі *Брест*, ад якога цяперашні афіцыйны *Брэст*.

Няўжо сапраўды не абышлося без уплыву на галяманаў (аматараў францушчыны) расейцаў

французкага (а дакладней, брэтонскага) Брэста на процілеглым канцы Эўропы?

Нямецкі этымоляг (спэцыяліст у паходжаньні словаў) Макс Фасмэр, аўтар культавага „Этимологического словаря русского языка“, фіксуе яшчэ „старажытнарускае“ *Берестье*, якое, як і польскае *Brześć*, зьвязвае зь *бе́рест* „вяз“. Далей ён сьцьвярджае:

*„Др.-русск. название было вытеснено польск. звучанием, которое претерпело видоизменение под влиянием франц. Brest (город в Бретани); см. Эльи 143; Ляпунов 190“.*

Як народжаны ў Берасьці, я зацікавіўся заявою аўтарытэтнага нямецкага русіста. Праверыў крыніцы, на якія ён спасылаецца.

Выявілася, што ані швайцарскі навуковец Johann Jacob Egli ў фундамэнтальнай працы „Геаграфічныя імёны“ (*Egli J. J., Nomina geographica. Sprach- und Sacherklärung von 42000 geographischen Namen aller Erdräume. Leipzig, 1893*), ані расейскі мовазнаўца Барыс Ляпуноў нічога ня пішуць пра ўплыў брэтонскага Брэста на імя нашага Берасьця.

Ё. Я. Элы ў пошуку паходжаньня назвы нашага „Брэста“ пералічвае назвы дрэва і ўтвораных ад іх тапонімаў у заходне- і паўднёваславянскіх мовах: славенскі *brêst*, чэскія *břest* і *Břestek* і г.д. (Брэтонскі *Брэст* у яго асобным артыкулам, мае кельцкае паходжаньне.) Відавочна, расейцы не маглі запазычыць назвы з гэтых моваў. Хаця сучасны расейскі мовазнаўца Ул. Неразнак і лічыць,

што нехта мог штучна скарыстаць для асваеньня назвы гораду стараславянскае (г. зн. старабаўгарскае) слова *брѣстъ* са значэньнем таго самага дрэва, але ў XVIII і XIX ст. па-расейску назва гораду пісалася празь літару **е**, а ня ѣ.

Б. Ляпуноў у 1899 годзе задаецца пытаньнем, адкуль зьявілася „нынешняя русская форма“ *Брест*, і спыняецца на думцы, што яе магчымая крыніца — зрэдчас сустраканая форма *Brest* у старапольскіх тэкстах.

Так я неўспадзеўкі зьняпраўдзіў самога Фасмэра, усьлед за якім думку пра форму „Брэст“ як наступства пецярбурскае галяманскае моды паўтараюць сучасныя аўтары. І быў задаволены, знайшоўшы словы буйнога беларускага этымоляга, індаэўрапеіста Віктара Мартынава: *„Гіпотэза Фасмэра пра ўплыў францускага Brest на беларускі Брэст не вытрымлівае крытыкі“.*

## Мэталічнае рэха лаціны

Папраўдзе форма *Brest* бывала ў пісьменстве Польшчы і Рэчы Паспалітае — але толькі ў тэкстах на лацінскай мове. Нагадаю, што ў Кароне Польскай лацінская была ня толькі богаслужбовай, але фактычна дзяржаўнаю. На ёй пісаліся дакумэнты каралеўскай канцылярыі, вялося судаводзтва, і жывой польскай мове даводзілася пераадольваць ціск аўтарытэту высокаразьвітай і міжнароднай лаціны. У Вільні ж першымі лацінамоўнымі пісарамі былі палякі.

Польскі Brześć Kujawski спачатку, як і наша Берасьце, меў назву ніякага роду — Brzeście,

з канца XIII ст. зьяўляецца Brześć мужчынскага роду. Па-старапольску і ў пісаных на лацінскай мове дакумэнтах назвы беларускага і польскага гарадоў перадаваліся аднолькава (і аднолькава непасьлядоўна).

Але па парадку.

Вітаўт, да таго як стаць Вялікім князем, стаў князем Берасьцейскім. Вось як выглядае гэты тытул па-лацінску ў подпісах пад дакумэнтамі:

*Alexander alias Witoldus dei gracia duc* ***Brestensisi*** *et Hrodensisi* (sic!) *etc.* (1387).

*Allexander alias Withowdus dei gracia dux* ***Brzestensis*** *et heres Hrodensis necnon aliarum terrarum Lythuanie et Russie* (1388).

Апошняе значыць: „Аляксандар або Вітаўт, з ласкі Божай князь Берасьцейскі й дзедзіч Гарадзенскі, а таксама іншых земляў Літвы і Русі“.

Бачым, што лацінскі прыметнік запісваецца то з польскім спалучэньнем Brze-, то ў форме Bre-. Апошняя — або памяць пра час, калі ў польскай мове яшчэ не было шыпячага памякчэньня [r], або спроба „лацінізаваць“ назву, прыбраўшы характэрныя польскія гукі: старажытныя рымляне дакладна ж ня ведалі спалучэньняў [бжэ] ці [пшэ]. Такі самы выпадак: горад *Przemyśl*, *Пшэмысьль* (*Перамышль*) у лацінамоўных дакумэнтах спрадвеку запісваўся *Premislia*.

У прывілеі Берасьцю ад 1408 г. ужо бачым: *civitatis Brzestensis* (гораду Берасьцейскага). Аднак напісаньне назвы па-лацінску было нестабільнае. Ягайла як кароль польскі падпісвае наказ

суду 7 кастрычніка 1427 г., і месца выданьня наказу пазначана *Datum in Brest* („выдадзена ў Берасьці“, гаворка пра нашае Берасьце Літоўскае).

Наагул у XV—XVI ст. прыметнік „берасьцейскі“ ў дакумэнтах па-лацінску бытуе ў формах пераважна *Brestensis*, радзей *Brescensis*. Польскае шыпячае памякчэньне ў дакумэнтах на лацінскай мове зьяўляецца паступова, спачатку ў каронных дакумэнтах, а потым і ў літоўскіх. У сьпісе ўдзельнікаў цырымоніі выбараў Яна Сабескага (1674 г.) згадваецца *Palatinus Brzescensis, Stephanus Kurcz* = ваявода берасьцейска-літоўскі Стэфан Курч.

У сучаснай лацінскай мове, якая выкарыстоўваецца як богаслужбовая і навуковая мова каталіцкае царквы, аднавілі (не без уплыву ўкраінскіх грэка-каталікоў) поўнагалосную форму тапоніму. Дакумэнты Берасьцейскай вуніі ды яе стваральнікаў выйшлі ў 1970 годзе пад назовам *Documenta Unionis **Berestensis** eiusque Auctorum (1590—1600).*

**Расея. Войны**

У расейскіх дакумэнтах назва Берасьця зьяўляецца ў сувязі з войнамі. Так, расейскія аўтары — вайскаводы, выведнікі — апісваючы паходы маскоўцаў на Беларусь падчас крывавага „патопу“ 1654—1667 г., пасьлядоўна ўжываюць форму „Бресть“, прычым жаночага роду:

*В нынешнем, государь, во 164-м году, отшед от Брести в дватцати в пяти верстах в деревне Верховичях стали, и Павел Сопега учал*

*готовитца с полскими людми против твоих государевых ратных людей на бой.* (Гэта князь Аляксей Трубяцкой піша цару справаздачы — „отписки“ — пра перамогі над „литовскими людьми“. 1655 г.)

Дарэчы, адтуль жа пра тое, што акупанты чынілі *„милостью Божіею“*:

…и милостью Божіею, и пречистой Богородицы помощью и заступленіемъ, и всѣхъ святыхъ молитвами, и отца твоего государева, великаго государя, святейшаго Никона, патріарха московскаго и всеа великія, и малыя, и бѣлыя Росіи молитвами, а твоимъ государевымъ... и сына твоего государева... счастьемъ, въ городкѣ Мыши литовскихъ людей, которыхъ застали, побили и языковъ взяли многихъ людей, и городокъ Мышь выжгли и совсѣмъ разорили безъостатку.

Форма *Бресть* — напалову фанэтычна польская: няпоўнагалосьсе, але няма шыпячага памякчэньня. Жаночы род тут, відаць, паводле расейскіх аналёгіяў: *Рязань, Тверь, река Хмость.*

Пераможны для расейцаў бой *„под Брестью и в Верховичах“* 1655 году на загад цара Аляксея Міхайлавіча пачалі культываваць. У адмысловы „Синодик по убиенных в брани“ былі занесеныя дваране і баярскія дзеці, што загінулі „под *Брестью*“, і некалькі стагодзьдзяў гэтая формула паўтаралася ў расейскіх цэрквах — вось яшчэ адна магчымая крыніца формы *Брест.*

**Расея. Анэксіі**

У дакумэнтах Кацярыны II, якія датычаць адміністрацыйнага ўладкаваньня сьвежазахопленага „Сѣверо-Западнаго края“, пануе тапанімічны разнабой.

*...приписавъ къ Гроднѣ, на примѣръ остатки Новоградскаго,* ***Брестъ-Литовскаго*** *и часть Троцкаго воеводствъ...* (указ „Аб падзеле Вялікага Княства Літоўскага на тры часткі і аб спосабе кіравання імі“, 30.10.1794 г.).

*...чтобы изъ первыхъ податей съ земли собранныхъ отложили вы и составили достаточные капиталы для главнѣйшихъ городовъ Литовскихъ, какъ то: Вильны, Гродно, Ковно,* ***Бржеста****, Розненны* [відаць, Расіены — Raseiniai.— *В. В.*], *и другихъ по усмотренію вашему для вымѣну ассигнацій...* (указ „Аб увядзеньні ва ўжытак асыгнацыяў ва ўсіх займаных войскамі мясьцінах Літоўскага Княства“, 14.12.1794 г.).

Дакумэнты цікавыя ня толькі тапанімічным матэрыялам. Яны нагадваюць, што цяперашняя анэксія Крыму — ня першы захоп тэрыторыяў Расейскаю імпэрыяй. Альгарытм выпрацаваны, толькі мяняюцца геаграфічныя назвы. Вось указ ад 14 сьнежня 1795 году „О присоединеніи к Россійской Имперіи всей части Великаго Княжества Литовскаго, которая по прекращеніи мятежей в Литвѣ и Польшѣ занята была войсками“, і Маніфэст пры ім. Тут яшчэ няма тэзаў пра прыналежнасьць да „рускага міру“ захопленых земляў: захапілі паводле „права моцнага“ — і ўсё.

*Божіею поспѣшествующею милостію,*
*Мы, Екатерина Вторая, Императрица и Самодержица Всероссійская и проч. и проч. и проч.*
*Намъ любезновѣрнымъ подданнымъ Великаго Княжества Литовскаго Духовнымъ, Благородному Рыцарству и Земству, городамъ и всѣмъ обывателямъ.*
*Присоединивъ на вѣчныя времена къ Имперіи Нашей Области Великаго Княжества Литовскаго, въ нижеозначенной чертѣ лежащія, а именно начиная отъ предѣловъ Волынской Губерніи внизъ по теченію рѣки Буга до Бржеста Литовскаго, и спускаясь далѣе по теченію сей рѣки до предѣловъ Подляхіи, потомъ простираясь по рубежамъ Воеводства Бржестскаго и Новогрудскаго къ рѣкѣ Немену противъ Гродны (...) до моря Балтійскаго, такъ, что все земли, города и округи, въ сей черте находящіяся, навсегда имеютъ состоять подъ скипетромъ Россійской Державы, жители же техъ земель всякаго рода, пола, возраста и состоянія въ вечномъ подданстве онаго (...) Впрочемъ удостовѣрены Мы, что вы имѣя уже толикіе опыты попеченія Нашего о благѣ вашемъ, сохраненіемъ ненарушимой вѣрности Намъ и Преемникамъ Нашимъ и усердіемъ къ пользѣ и службѣ Государства Нашего потщитеся заслуживать продолженіе Монаршаго благоволенія.*

*Данъ въ Санкт-петербургѣ Декабря 14 дня, въ лѣто отъ Рождества Христова 1795, Царствованія же Нашего Всероссійскаго тридесять четвертое и Таврическаго четвертоенадесятъ.*

Г. зн. чарговым ашчасьліўленым, у тым ліку беларусам, Кацярына прапаноўвала „заслугоўваць працяг Манаршае зычлівасьці“ праз чатырнаццаць год пасьля расейскага захопу Таўрыі — Крыму.

У афіцыйным дакумэнце аб анэксіі беларускія тапонімы ўжываюцца ў фанэтычным (*Немен*) ці правапісным (*Бржест*) абліччы, блізкім да польскага.

Толькі з часоў Аляксандра ІІ (1802 г.) у дзяржаўнай дакумэнтацыі Расейскай імпэрыі пачынае пераважаць форма *Брест, Брестскій*. Нягледзячы на гэта, форма *Бржест* рэгулярна зьяўляецца ў расейскай практыцы нават у 1812 годзе: *По занятии французами Вилны, Гродны, Ковны и* ***Бржеста*** *курьиры должны делать большой круг, переезжая к нам в армию...* (В. Вяземскі).

## Франкафоны не вінаватыя

Яшчэ адна гіпотэза — магчыма, Сувораў ды іншыя расейскія генэралы, будучы франкафонамі ды галяфіламі, зьмянілі назву важнага захопленага гораду. Аказваецца, не. Зьвернемся да іхных рапартаў з 1794 году.

М. Рапнін — М. Салтыкову: *... они [войскі] найдутся близко* ***Бржесца*** *литовского, а потом*

*по обстоятельствам властны будут потянутся к Слониму и тем обеспечить Несвиж и тамошнюю границу.*

У лісьце да Кацярыны II той самы Рапнін піша інакш: *...Обращение войск, тут находящихся, к наступательным действиям много прибавят вам средств к скорейшему и окончательному истреблению бунта. Прибытие же господина графа Суворова-Рымникского с корпусом к* ***Бржесту****-литовскому и утверждение связи им и генерал-поручиком Дерфельденом и тот край обеспечит.*

А. Сувораў — П. Румянцаву: *Сираковский с иными генералами и по прежним известиям свыше 16000 при 28-ти орудиях, выступя из-под* ***Бржесця****, расположился при монастыре Крупчице, от Кобрина 15 верст, в намерении нас на другой день атаковать!*

П. Пацёмкін — А. Суворაву: *Вследствие победы, одержанной над неприятелем при монастыре Крупчиц, о новой и наиблистательной победе, одержанной вашим сиятельством в околичностях* ***Бржесцы****, представляю.*

Т. Туталмін — П. Румянцаву-Задунайскаму: *в заграничном местечке Кобрине, лежащем в семи милях от литовского* ***Бреста****, ожидают токмо соединения конфедератов, дабы идти в наши пределы.*

Урэшце, на дзьвюхмоўнай расейска-француской (!) апэрацыйнай мапе штабу Суворава, укладзенай у Тарэспалі 8(19).IX.1794 г., па-расейску ***Брестъ***, а лацінкай — ***Brzescz***.

**Французы ды іншыя эўразьвязаўцы**

У самой гіпатэтычнай мове-крыніцы расейскага *Бреста* — францускай — пераход да новага расейска-імпэрскага стандарту напісаньня тапоніма адбываўся павольна. У пачатку XIX стагодзьдзя, падчас існаваньня напалеонаўскага Княства Варшаўскага, у французаў панавала ранейшае польскае напісаньне:

*...sur la route que l'armée pourrait tenir en se portant par* ***Brzesc*** *sur Kamienieck.* (Памятная запіска францускай урадавай камісіі з 1807 году — пра кантраляваную арміяй дарогу празь Берасьце на Камянец).

Берасьце называў Briestie/Brestzie знакаміты швэдзкі інжынэр Эрык Дальбэрг, які суправаджаў свайго караля падчас вайны.




Briestie Litepski — на рысунку Э.І. Дальбэрга. 1657. З кнігі *Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa brzeskolitewskiego, część V, t. I, Kraków 2013.*

На эўрапейскіх мапах XVII—XVIII ст. наш горад пазначаецца Brizestije (Антвэрпэн, 1612), Breßia al Brieʃtz (Амстэрдам, 1632), Bresʃia (Амстэрдам, 1661), Brzesc (Лёндан, 1799).

Старая польска-лацінізаваная форма назвы гораду не была вядомая пазьнейшым заходнеэўрапейскім картографам. Больш за тое, многія зь іх трымаліся польскае формы *Brzesc*, хаця іншыя назвы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай лацінізаваныя (*Varsovie, Cracovie*).

## Я твайго не вазьму, я свайго не аддам

Такім чынам, француская мова і брэтонскі тапонім *Brest* ня маюць дачыненьня да ўзьнікненьня расейскага слова *Брест*. Форма гэтая ўзьнікла ў выніку складаных і невідавочных працэсаў асваеньня расейцамі польскай формы *Brześć*, магчыма, з пэўным уплывам на адукаваных расейцаў даўнейшага лацінскага напісаньня *Brest-* (таксама з паходжаньня польскага).

Назва *Брэст*, якая ў выніку ўтварылася, ня мае ў сабе кораню, ад якога пайшло першапачатнае імя гораду, і ў беларускай мове застаецца ізаляванай, чужароднай. Заканчваецца на *-ст* — для беларускіх паселішчаў фіналь дужа рэдкая. Праўда, ёсьць *Пагост,* але з празрыстаю словаўтваральнаю будоваю, ягоны жыхар будзе *пагашчанін*. У расейскай прыдумалі назву жыхара „Бреста“ — *„брестчанин“*. Але па-беларуску ад *Брэст* немагчыма ўтварыць „брашчанін“, бо гучыць штучна і сугучнае з коранем „брэша“. Таму прыдумалі грувасткую канструкцыю *брастаўчанін*. Не параўнаць з гістарычным *берасьцянінам* ці больш сучасным *берасьцейцам*.

***

Вось такая цьмяная гісторыя ўзьнікненьня назвы „Брэст“ для гораду над Бугам. Спляценьне чужых памылак і выпадковасьцяў, вынік чужынскай абыякавасьці да моўнае гармоніі гэтай зямлі. Адзін з найбольш значных гарадоў Беларусі не заслужыў на такі лёс.

Аддайма „Брэст“ брэтонцам і лепш павучэмася ад іх уменьню бараніць сваю мову ў варунках, цяжэйшых за нашыя. А сабе пакіньма ***Берасьце***.

## Дня-прО! Дня-прО! Падказка для беларускіх ultras

Адказваю на просьбу футбольнага заўзятара.

Як правільна мусіць пісацца назва магілёўскага футбольнага клюбу „Дняпро“?
Праграма „Тутэйшы футбол“, якую выпускае tut.by, піша па-беларуску „Днепр“. Але гідронім мае беларускую назву „Дняпро“. Адтуль і пайшла назва футбольнага клюбу. Але глядзіце, што мне адказалі ў tut.by:
„Мы уточняли, „Дняпро“ — это литературное слово, в случае с названием команды допускает „Днепр“. Есть такое правило, по которому название команды, предприятия и прочее можно читать так, как есть. Можно переводить, а можно нет“.
Скажыце, калі ласка, чыя праўда?

Я праверыў — сапраўды, у беларускамоўных выданьнях ды інтэрнэт-рэсурсах назву клюбу пішуць розна. Але, прыкладам, газэта „Зьвязда“ зь яе дзяржаўным статусам у штодзённых футбольных навінах і табліцах пасьлядоўна ўжывае форму „Дняпро“ (Магілёў).

Незалежныя беларускамоўныя мэдыя абодвух правапісаў таксама часьцей пішуць „Дняпро“.

Фармальна арганізацыя ці фірма можа назвацца хоць „Абырвалг“ (як у булгакаўскага Шарыкава) і захоўваць такую назву ва ўсіх мовах. Мы кажам „Форд“ і „Таёта“, „Рэал“ і „Ювэнтус“, дарма што тыя назвы ўласна па-беларуску нічога не абазначаюць.

Аднак ясна, што назва клюбу ня створаная штучна, а роўная гідроніму — назьве ракі. *Беларускую* каманду ў *Беларусі* назвалі ў гонар *беларускай* ракі. А па-беларуску адпаведны гідронім гучыць і пішацца *Дняпро*.

Назва *Дняпро*, як бальшыня імёнаў вялікіх рэк, вельмі старажытная. Этымолягі (П. Крэчмэр, У. Тапароў, Р. Агеева) узводзяць гэтую назву, вядомую з IV ст. у грэцкай форме Δανάπρις, да іранскіх моваў (якімі гаварылі летапісныя скіфы й сарматы), параўн. асэтынскае don ‘вада’, авэстыйскае apara- ‘больш аддалены’. Да таго ж кораня *дон* можна ўзьвесьці таксама Дон, Данец, Дунай, Днестар.

Мовы народаў, якія пасяліліся або ўтварыліся ў басэйне Дняпра, кожная па-свойму „апрацавалі“ гэтую назву. У беларускіх гаворках Дняпро — мужчынскага роду, хоць гэта і рака. Так, як імя Пятро. І з характэрным беларускім „яканьнем“.

Праўда, у некаторых беларускіх даведніках можна пабачыць як бы ў дужках і форму „Днепр“, але гэта вынік чужамоўных уплываў на беларускія геаграфічныя назвы (як зь *Вяльлі* ці *Вільлі* зрабілі Вілію). Па-беларуску і вымавіць у адзін склад немагчыма — ДнеПР, язык міжволі хоча

рассунуць зычныя, і атрымліваецца „Днепар“. Менавіта гэтак чуваць у заўзятараў магілёўскай каманды. Далібог, Дня-прО гучаў бы ў падобным рытме лепш.

А ва ўскосных склонах (акрамя вінавальнага) абедзьве формы аднолькавыя: з Дняпра, на Дняпры, Дняпром.

Платон Галавач пачынаў пісаць цэлы раман „Вялікі Дняпро“, але быў забіты экавэдзістамі ў 1937 годзе.

Прыдняпровец Караткевіч у сваёй геніяльнай „Беларускай песьні“ (якая і гучыць як песьня, яе паклалі на музыку ўжо некалькі кампазытараў) замацаваў форму „Дняпро“ рыфмай са словам „кроў“:

*Дзе мой край? Там, дзе вечную песьню пяе*
*Белавежа,*
*Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую*
*кроў,*
*Дзе на ўзвышшах Наваградзкіх дрэмлюць*
*суровыя вежы*
*І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.*

У Беларусі і ва Ўкраіне, якім у выніку каляніяльнага панаваньня была навязаная расейская мова, часта зьвяртаюцца і да зваротнага перакладу на сваю мову назваў арганізацыяў ці прадпрыемстваў — утвораных раней па-расейску. Прыкладам, па-беларуску адпаведныя футбольныя каманды ніжэйшых лігаў завуцца „Хваля“ (Пінск), „Зорка-БДУ“, а нават „Гомельчыгунтранс“. Спэцыялісты кажуць, што ў бліз-

кароднасных мовах часта ўласныя назвы, якія адрозьніваюцца формай, але маюць агульнае паходжаньне, выкарыстоўваюцца для перадачы адно аднаго. Гэтак піша вядомы маскоўскі лінгвіст Дзьмітры Ермаловіч. Сапраўды, у тоеснай сытуацыі днепрапятроўская каманда заве сябе па-ўкраінску „Дніпро“.

Аказваецца, у складзе магілёўскага футбольнага клюбу „Дняпро“ ёсьць і жаночая каманда, якая займае высокія месцы ў чэмпіянаце Беларусі. Завецца яна па-расейску грувастка „Надежда-Днепр“. І як перадаць па-беларуску такую назву? Ясна, першая частка — „Надзея“, бо не „Надзежда“ ж. Значыць, і другая частка павінна быць адаптаваная да беларускае мовы. *Надзея-Дняпро* або — яшчэ лепш — *Дняпро-Надзея*. Па-мойму, лёгка, мілагучна і рытмічна.

***

У арганізаваных беларускіх заўзятараў — так званых ультрас — цяпер імкліва пашыраецца беларуская мова: у спроклічах, на харугвах і банэрах, на сайтах. Думаю, менавіта заўзятары зрушаць справу „зваротнай беларусізацыі“ назваў. Так, эмблема магілёўскага клюбу — амаль бездакорная, яе графічная аснова — гістарычны, з часу Магдэбурскага права, герб 1661 году (пацьверджаны ў 2005) з брамаю і дзяржаўным гербам Пагоняй над ёю. Дзеля поўнае гармоніі на эмблеме бракуе беларускай мовы і слова *Дняпро.* Дысгармонію явачным парадкам пераадольваюць заўзятары.

Наагул назвы ў беларускай футбольнай найвышэйшай лізе натуральна бытуюць па-беларуску, скажам, „Нафтан“ — гэта ад беларускага слова „нафта“. Але вось форму „Н**ё**ман“ варта адстойваць, бо „Неман“ — гэта польска-расейскае гучаньне назвы яшчэ адной вялікай беларускай ракі. Дарма што некаторыя беларускамоўныя гарадзенцы задаюцца такім вымаўленьнем. Як няшчасны лірычны герой песьні Віктара Шалкевіча:

*„...Але ў ботах вайсковец перабег нам дарогу:*
*Я ўначэ раз іду, а яны ўдвох на нЕманскім мосьце стаяць...“.*

(„Ганка, дзеўка з Пагулянкі“)

І ня трэба выдумляць гібрыдныя напісаньні накшталт „Дінамо“ празь беларускае **і** (як гэта рабілі ў хакейным клюбе), а гаварыць і пісаць па-беларуску, не саромеючыся, „ДЫНАМА“.

Дарэчы, Барысаўскі БАТЭ быў патрапіў у адну групу Лігі чэмпіёнаў зь вядомым данецкім клюбам. І ўсе чулі, што міжнародныя футбольныя чыноўнікі, гаворачы па-ангельску, кажуць „Шахтар“ — зьберагаюць украінскую фанэтычную форму назвы.

І, урэшце, назву „Дняпро“, якая паходзіць ад гідроніму, можна „падвесьці пад закон“, а менавіта Закон „Аб найменьнях геаграфічных аб’ектаў“, які патрабуе ад усіх *„захаваньня найменьняў геаграфічных аб’ектаў Рэспублікі Беларусь як неад’емнай часткі гісторыка-культур-*

*най спадчыны Рэспублікі Беларусь“.* А паводле арт. 17 згаданага Закону, *„у Рэспубліцы Беларусь найменьні геаграфічным аб’ектам прысвойваюцца на беларускай мове, зь якой спосабам трансьлітарацыі перадаюцца на рускую мову“.*

Такім чынам, і нашае пытаньне павінна вырашацца зусім наадварот: маем падставы і па-расейску, і лацінкаю ва ўсіх лацінапісьмовых мовах пісаць **„Дняпро“ / Dniapro**.

## Не страляйце пад Лёзна!

Бо раптам пад тым Лёзнам радовішча лупняковага газу. (Папраўдзе тэма зусім мірная — скланяйма беларускія геаграфічныя назвы!)

***Увага!*** **Замак у Крэве**, а ня „замак у Крэва“. Бо „ў Крэве“ — гэта „дзе“, а „ў Крэва“ — „куды“.

Купалава паэма „Бандароўна“ ёсьць у школьным курсе літаратуры:

*Ў слаўным месьце Берастэчку —*
*Слаўны Бандарэнка,*
*Ў яго дочка — Бандароўна,*
*Пашукаць — паненка...*

*Места* Берастэчка — у старабеларускай традыцыі значыць тое, што цяпер „горад“. Але для сяньняшняй гаворкі істотна, што паэт скланяе два словы як цэлае: у *месьце Берастэчку*. Купала зазначыў, што паэма паводле народнай песьні. Такая ёсьць (відавочна, беларуска-ўкраінская). Фальклярыст Павел Шэйн запісаў у XIX ст. беларускую жаўнерскую песьню:
*У **мястэчку** Берасьцечку каманда стаяла,*
*Маладая Бандароўна ў ратушы гуляла.*

*У месьце Берастэчку, у мястэчку Берасьцечку* — усюды назва мястэчка скланяецца!

У чым праблема? — спытае нехта. А ў тым, што скрозь у цяперашніх беларускіх тэкстах, дый у этэры, можна сустрэць фразы накшталт: „Клімук і Пракаповіч разам вучыліся ў **вёсцы Тамашоўка**“.

Або: „**У горадзе Жодзіна** вырабляюць вялікія кар’ерныя самаскіды“.

Вось жа гэта ў *расейскай* літаратурнай мове назвы геаграфічных аб’ектаў у спалучэньні з агульным родавым словам, як правіла, не скланяюцца: „в местечке Ельск, на озере Байкал“. Дазваляецца скланяць назвы гарадоў, і то ня ўсіх: рэдкія і назвы на **-о** не скланяюцца („в городе Ровно“). Нельга зьмяняць у спалучэньнях множналікавыя назвы: „в городе Мытищи“. Назвы вёсак, хутароў і — сюды ж — рэспублік скланяюцца, толькі калі іхны род аднолькавы з родавым словам: „в деревне Ивановке“, але „в селе Ивановка“, „в Республике Индии“, але „в Республике Вьетнам“. Як бачым, расейская граматыка істотна і хітрамудра абмяжоўвае свабоду нават сваіх уласных тапонімаў, ня кажучы пра чужаземныя.

А на практыцы там часта зусім іх не зьмяняюць. Такая завядзёнка — зусім граматычна не зьмяняць назвы — асабліва замацавалася ў расейскай мове ў пару Другой усясьветнай вайны. Мэталічны голас радыёдыктара Юр’я Левітана („Ад Савецкага інфармбюро“) так і казаў: „Овладели городом Белгород“. Быў загад у армейскіх і афіцыйных дакумэнтах ніякія назвы не скланяць — відаць, каб ня блытацца. Як пісала расейская знаўца імёнаў Аляксандра Суперанс-

кая, „у выніку атрымаліся абсалютна нярускія спалучэньні накшталт *на реке Волга, на горе Поклонная, в городе Саратов*“.

То ня дзіва, што папулярызатары „русского міра“ ў Беларусі ўжываюць менавіта такую, стылізаваную пад граматыку сталінскай пары, моўную канструкцыю — „Российский центр науки и культуры в г. Брест“. Міжволі думаеш: цэнтар *дзе* („в городе“) ці цэнтар *куды*? Куды — па жалуды…

***

А што сьведчыць гісторыя і клясычная традыцыя беларускае мовы?

***У мястэчку Ра́ве**, на абедзе, купілі аўса меркі дзьве.* (Запісы падарожнікаў з 1692 году)

***У мястэчку Красным**, Віленскай губэрні, хоць праваслаўныя пераважывалі, але ... выбралі тутака двух каталікоў і чатырох праваслаўных, мяркуючы, якая была прапорцыя. Вось гэта справядліва: трэба заўсягды ўважаць, каб ня скрыўдзіць тых, каго менш.* („Наша Ніва“, яшчэ тая, з 1907 году)

Уладзіслаў Чаржынскі, аўтарытэтны філёляг, пачынае біяграфічны нарыс пра Якуба Коласа ў ягоным Зборы твораў (1928 год) словамі:

*Калі **ад м. Стоўбцаў** падацца ўверх **па р. Нёману**, то, прыблізна праз 9 вёрст, натрапіш на фамільнае гняздо Якуба Коласа, **сяло Мікалаўшчыну**, раскінутае на правым беразе гэтае слыннае беларускае ракі. (...) Канстантын*

*Міхайлавіч Міцкевіч ... нарадзіўся ў 1882 г. 22 кастрычніка ст. ст. у* ***засьценку Акінчыцах****...*

Ад мястэчка Стоўбц**аў**. На сяло Мікалаўшчын**у** (там сапраўды вымаўляюць Мікал*аў*шчына). У засьценку Акінчыц**ах**. Геаграфічная назва пры агульным родавым слове нармальна скланяецца.

## § 1. Вялікія літары.

**Правіла 1.** Пісаць пачынаюць з вялікай літары. З вялікай літары пішуць і пасьля пункту. Апроч таго, з вялікай літары пішуцца ймені людзей, іх прозьвішчы, назовы вёсак, сёл, гарадоў, мястэчак, рэчак, гор, краін, мясцовасьцяй, сьвят і інш. (*Адам, Ксяневіч, Шчорсы, Німан, Пажарніцы, Украіна, Купальле, Першае Мая*).

**Увага.** У пісьмах (лістох) з вялікай літары пішуцца такія словы, як *Вы, Вас, Яўмосьць, Імосьць* і іншыя словы, што заменяюць імя тае асобы, да каторай пішуць пісьмо.

Таксама з вялікай літары пішуцца назовы звычайных прадметаў, калі ім надаецца асаблівае значэньне, прыкладам, у байках і падобных творах (*Дуб і Чарацінка, Сьвіньня й Салавей, Воўк і Авечка*).

**Практыкаваньне 1.** У нашае Касі прыгожая сукенка. Каля Навасёлак цячэ рэчка Шчара. У мястэчку Берасьцечку каманда стаяла. Працоўны люд сьвяткуе Першае Мая. Дабрыдзень на Вялікдзень, дабрывечар на Каляды. Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. У Марылі сшыткі заўсёды чыстыя. Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай. Язык Кіева дапытае. Менск стаіць на рэчцы Сьвіслачы. Навагрудзкі й Ашмянскі паветы сумежныя паміж сабою. Дняпро цячэ ў Чорнае мора. У Вільні засталося шмат старасьветчыны. Каля Вільні йдуць Панарскія горы. Беларусь ляжыць пасярэдзіне Эўропы. Наша старонка называецца Беларускай Раднаю Соцыялістычнаю Рэспублікай. Вітайце дзень Першага Мая!

**Практыкаваньне 2.** *Вынісаць спачатку прыклады з іменьнямі людзей, потым—з назовамі гарадоў, а нарэсьце—з назовамі рэчак і сёл.*

Маленькі Грышка ўмее чытаць. У Касі чырвоная сукенка. У сяле Шчорсах таргуюць збожжам. Аўдзей

Язэп Лёсік. Беларускі правапіс. 1925.

Родны дзядзька Якуба Коласа і выдатны беларускі граматыст Язэп Лёсік у сваіх некалі вядомых кожнаму школьніку падручніках прадумана дае наступныя практыкаваньні:

*Менск стаіць* ***на рэчцы Сьвіслачы****. У* ***сяле Шчорсах*** *таргуюць збожжам. Я радзіўся* ***ў засьценку Няйгертаве****.*

І ўрэшце наш час. Арсень Ліс пра Аляксандра Ўласава:

*У пасьлярэвалюцыйны час насуперак розным панкам з польскай адміністрацыі здолеў адкрыць у* ***родным мястэчку Радашкавічах*** *беларускую гімназію і доўгі час утрымліваць яе.* (Пэўна, насуперак панка́м, ня па́нкам. І зважайма на правільны націск: Ра́дашкавічы.)

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч (ужывае іншамоўны тапонім):

*Ён, Якога не можа агарнуць увесь Космас, нарадзіўся ў канкрэтным месцы — у невялічкім* ***мястэчку Бэтлееме****.*

Як бачым, у нас, адрозна ад расейскай завядзёнкі, у спалучэньнях геаграфічнай назвы з родавым словам назва пераважна скланяецца. *Да мястэчка Луны. З хутара Краснага. На рацэ Дзьвіне* (дарэчы, наша *Дзьвіна* цячэ ў Балтыйскае мора безь ніякіх дадатковых прыметнікаў. А ў Белае мора цячэ *Двіна*). *У горадзе Баранавічах.* Гэта гнуткасьць і натуральнасьць мовы, непрыманьне чужога канцылярыту.

***

І зусім супярэчаць духу жывое беларускае мовы „замарожаныя“ назвы бяз родавага слова, накшталт „дом-сядзіба Тадэвуша Касьцюшкі пад Косава“. Толькі — **пад Косавам** (цяпер тая сядзіба ўжо фактычна ў Косаве).

Таксама: *бітва **пад Дуброўнам*** (альтэрнатыўная назва Грунвальдзкай). ***Сянном** валодалі Сапегі й Агінскія* (а вось цяпер адтуль родам Давыдзька). *Колас настаўнічаў у **Люсіне**.* Бо гэта свае назвы, і скланяюцца яны як *вакно* ці *калена*. Тапаніміст Васіль Шур пераканаўча піша:

„Такія тапанімічныя назвы асобнымі аўтарамі (…) не скланяюцца. Відаць, стэрэатып рускіх тапонімаў тыпу Иваново, Колпино, Рощино, Бородино, а таксама мадэль замежных нескланяльных назоўнікаў тыпу *кіно, кімано* падзейнічалі і на такія беларускія найменні. А таму можна прачытаць: быў у Маладзечна, сустрэнемся каля Шарашова і інш., хаця карэнныя жыхары пра гэта скажуць: *быў у Маладэчне (Маладзечне)*, *сустрэнемся за Шарашовам…*“

(З гісторыі ўласных імёнаў. Менск, 1993)

(Пра Шарашова больш дарэчны быў бы іншы адмоўны прыклад, напр., „зьбярэмся пад Шарашова“. А далейшыя развагі сп. В. Шура спрэчныя: „Лінгвісты раяць такія тапанімічныя назвы не скланяць толькі тады, калі яны выкарыстоўва-

юцца як прыдаткі да агульных назваў (…): выступаў у горадзе Жодзіна, быў пад горадам Маладэчна і г.д.“. Жывая мова — і старабеларуская, і дыялектная, і клясычнае літаратуры — гэтай парадзе пярэчыць, прыклады гл. вышэй.

Ёсьць сумежная праблема, якую слушна падымае В. Шур: расейскія чыноўнікі мянялі граматычны род некаторых назваў. *Косаў, Янаў, Койданаў, Жодынь, Буда-Кашалёў, Зьдзітаў* перапісвалі на Косава, Іванава, Койданава, Жодзіна, Буда-Кашалёва, Зьдзітава).

Гэта ўсё скланяльныя назвы: *у Крэве, у Дзятлаве, у Калдычэве, у Свольне* (нарадзіўся Ян Чэрскі). Граматычна зьмяняюцца і падобныя геаграфічныя назвы з славянскіх моваў: замак *у Кладне*, бой *пад Шырокінам*, тролі *ў Ольгіне*.

Легендарны стрэл, адна з дагэтуль цьмяных інтрыгаў выбараў прэзыдэнта 1994 году, быў *пад Лёзнам*, а не „пад Лёзна“ (ці пагатоў „Ліёзна“). „Стрэл пад Лёзна“ азначае кірунак — стралялі ў кірунку Лёзна (а можа і пад зямлю, дзе раптам залягае гарант нашай энэргетычнай незалежнасьці лупняковы газ, а ён тады выбухне ☺). Але ж тады нібыта стралялі ў машыну кандыдата ў мясцовасьці непадалёк ад Лёзна. То ня блытайма кірункі.

Вось У. Караткевіч правільна ўжывае адпаведную канструкцыю. Герой „Лісьця каштанаў“ кажа пра свайго бацьку: *Пасьля былі вызвалены два невялічкія лапікі Беларусі, і „продка“ майго паслалі на вызваленую тэрыторыю, некуды **пад Лёзна***.

На маю думку, у 1991 годзе ўсе мы недаглядзелі (бо было шмат іншых клопатаў). Прымаючы для незалежнай беларускай дзяржавы назву *„Рэспубліка Беларусь“*, Вярхоўны Савет не сказаў пра яе скланяльнасьць адпаведна нормам беларускае мовы. І павялося граматычна замарожваць слова „Беларусь“ у гэтым спалучэньні, нібыта яно чужаземнае ды іншароднае. „Закон Рэспублікі Беларусь“, „дамова ратыфікаваная Рэспублікай Беларусь“ — як быццам Каралеўствам Тонга або Рэспублікай Гандýрас. Вядома ж, мае быць Закон *Рэспублікі Беларусі*, пагадненьне ратыфікаванае *Рэспублікай Беларусьсю.* (Цікава, што тут нават расейскія граматысты не запярэчаць, бо род агульнага слова „Рэспубліка“ і назвы Беларусь супадае.)

***

Такім чынам, выразы „расейскія танкі — у Янакіева“ і „расейскія танкі — у Янакіеве“ азначаюць зусім рознае, і блытаніна паміж „куды“ і „дзе“ ў крытычных умовах, калі няма як дадаткова тлумачыць, можа шмат каштаваць. Таму скланяйма сваё і па-свойму.

# Як зьбеларушчыць назвы менскіх вуліцаў і пляцаў

Упершыню ня маю заўвагаў да комплексу найменьняў станцыяў мэтро. Гаворка пра пачатак трэцяй лініі: *„Слуцкі Гасьцінец“, „Немаршанскі Сад“, „Аэрадромная“, „Кавальская Слабада“, „Вакзальная“, „Плошча Францішка Багушэвіча“, „Юбілейная плошча“*.

Тут і беларускасьць, і функцыянальная пазнавальнасьць, і адраджэньне да новага жыцьця трох старадаўніх тапонімаў. Ведаю, што слова мелі спэцыялісты — знаўцы гісторыі й тапанімічных прынцыпаў.

У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XX ст. беларускае грамадзтва ўпершыню за доўгі час дамаглося было права голасу ва ўпарадкаваньні тапаніміі наагул ды ўрбананіміі (назваў вуліц, пляцаў і г.д.) у прыватнасьці. Пачаліся пазытыўныя зьмены — дэсаветызацыя, дэкалянізацыя, вяртаньне да беларускіх традыцыяў. Камісія найменаваньняў і перайменаваньняў вуліц і плошчаў пры Менскім гарадзкім выканаўчым камітэце працавала публічна. У яе ўваходзілі мастак Яўген Кулік, гісторык Віталь Скалабан, якіх ужо няма сярод нас; літаратуразнаўца Адам Мальдзіс, гісторык Захар Шыбека, мастак Мікола Купава ды іншыя, у тым ліку ваш адданы слуга. Рашэньні Камісіі перадаваліся на разгляд выканкаму, а ўжо там іхны лёс бываў розны.

Камісія ініцыявала перайменаваньне пл. Леніна ў *пл. Незалежнасьці*, пр. Леніна ў *пр. Скарыны* (лепшая была б прыметнікавая форма *Скарынаўскі*; у кожным разе я тады думаў, што пасьля паўтузіну перайменаваньняў галоўная магістраль сталіцы займела назву навечна, бо Скарына, здавалася, нікому ня муляе. Але памыляўся).

Чытачы гарадзкой газэты „Добры вечар" анкетным галасаваньнем падтрымалі прапановы.

Удалося вярнуць вуліцы імя чэкіста Апанскага назву *Кальварыйская* — пагатоў яна вядзе да гістарычных Кальварыйскіх могілак; вярнуць *Ракаўскую*; перайменаваць вуліцу Горкага ў гонар *Максіма Багдановіча* (які нарадзіўся на гэтай вуліцы). Трапная была прапанова Захара Шыбекі надаць вуліцы, за савецкім часам званай імем чэкіста Ўрыцкага, назву *Гарадзкі Вал*, бо яе траса супадае з колішнім валам — мяжой старажытнага гораду. Быў адроджаны ў назьве вуліцы старадаўні тапонім *Раманаўская Слабада* (савецкая назва — Рэспубліканская).

У мяне зьбярогся пратакол паседжаньня Камісіі ад 10 лістапада 1993 году, дзе сярод іншага абмеркавалі назвы станцыяў мэтро. Зафіксавалі прапановы *„Пятроўшчына", „Грушаўка", „Дойлідзкая", „Уручча", „Барысаўская"* ці *„Смаленская"* для 1-й лініі (як бачым, часткова ўвасобленыя). Горш аказалася з 2-й лініяй. Разглядаліся імёны *„Кальварыйская"* ці *„Кальварыя"*

для тады плянаванай *„Маладзёжнай“, „Цівалі“* для цяперашняй *„Пушкінскай“, „Ракаўская“* ці *„Мядзьвежына“* для цяперашняй *„Спартыўнай“, „Красны Бор“* (*красны* ў тапонімах значыць ‘прыгожы’) ці *„Віленская“*.

Таксама абгаварылі перайменаваньне кінатэатру *„Октябрь“* і прапановы А. Мальдзіса *„Волат“, „Мянеск“, „Полацак“, „Скарыніч“*. А нават найменьні гатункам піва (у пратаколе фігуруюць варыянты: 11% — *„Няміга“, „Кменнае“, „Верхні горад“*; 13% — *„Граф Чапскі“, „Сьвяточнае“, „Старавіленскае“, „Залаты прамень“*; 15% — *„Кірмашовае“, „Беларускі спадар“, „Прадзедаўскае“)* — прычым без дэгустацыі!

Да выніку бальшыня рашэньняў не дайшла (праўда, у асартымэнце „Аліварыі“ зьявіўся-такі *„Чапскі“*). Неўзабаве зьмянілася ўлада, а за ёй і склад, і падыходы тае камісіі.

Зрэшты, былі гэта лякальныя, тактычныя захады. Камісія ж думала стратэгічна і ўхваліла поўнае вяртаньне аўтэнтычных дакаляніяльных назваў у межах менскага гарадзкога валу: *пл. Свабоды → пл. Высокі Рынак, пл. 8 Сакавіка → пл. Нізкі Рынак*, *Леніна → Францішканская* (праўда, нехта настойваў на каляніяльным варыянце *Губэрнатарская*)*, Камсамольская → Фэліцыянаўская, Інтэрнацыянальная → Зборавая* і *Валоцкая* (ад Энгельса ўніз)*, Энгельса → Дамініканская, Куйбышава → Плябанская* і г.д.



„Планъ губернскаго города Минска“, 1911. Назвы вуліц. Значная іх частка — вынік адміністрацыйных перайменаваньняў расейскай улады. *Са збору У. Крукоўскага*

Аднак чапаць чырвоны тапанімічны запаведнік тагачасная улада збаялася. Чыноўнікі выканкаму, практычна ўсе выхадні з камуністычнае намэнклятуры, надзвычай неахвотна, малымі порцыямі, толькі пад ціскам шырэйшых колаў грамадзтва пагаджаліся на прапановы Камісіі.

Цяперашняя ўлада, нягледзячы на яе заявы, ня мае ўсеабдымных ідэалягічных канонаў. Яна зацята бароніць савецка-расейска-бальшавіцкі сынодык у прэстыжным і знакавым цэнтры сталіцы дзяржавы — усе гэтыя Камуністычныя і Камсамольскія, Леніна і Энгельса — але ўжо ня мае ідэяў, як называць сотні новых вуліц.

Таму яна папусьціла лейцы на менскіх ускраінах, дзе, акрамя назваў, утвораных адпаведна нацыянальным тапанімічных традыцыям (як матываваныя геаграфіяй *Каменнагорская, Казіміраўская, Люцінская*), дазваляецца мэмарыялізацыя імёнаў *Алеся Гаруна, Янкі Брыля* ці нават *Ежы Гедройця*.

Але яшчэ ў пачатку 90-х Тапанімічная камісія ТБМ прыняла **„Канцэпцыю ўпарадкаваньня ўрбананіміі (унутрыгарадзкой тапаніміі) Беларусі“**. Найважнейшае палажэньне Канцэпцыі:

Тапанімічныя сыстэмы паселішчаў да пэўнага гістарычнага моманту фармаваліся натуральным шляхам, у выніку народнае моватворчасьці.
Ва ўмовах Беларусі прынцып гістарызму пры ўпарадкаваньні ўрбанонімаў, г. зн. вяртаньне аўтэнтычных назваў, дзейнічае для назваў, узьніклых да сярэдзіны XIX ст., калі ўлады Расейскай імпэрыі пачалі выкарыстоўваць унутрыгарадзкую тапанімію Беларусі ў сваіх ідэалягічных мэтах і зьвярнуліся да перайменаваньняў.
Аўтэнтычныя гістарычныя ўрбанонімы ёсьць аб’ектамі нематэрыяльнай культурнай спадчыны, а значыць, падлягаюць ахове й аднаўленьню.

Асноўныя прынцыпы ўпарадкаваньня гарадзкой тапанімічнай гаспадаркі, паводле Канцэпцыі,— гістарызм; адпаведнасьць унівэрсальным тапанімічным прынцыпам і нацыянальным тра-

дыцыям; зьберажэньне ўнікальных тапанімічных комплексаў розных паселішчаў і недапушчэньне ўніфікацыі; адпаведнасьць нормам беларускае мовы.

Акупацыйныя, антыдэмакратычныя рэжымы выкарыстоўваюць гарадзкую тапанімію для сьціраньня памяці, абсяканьня гістарычных каранёў, зьнішчэньня сьлядоў духоўнае творчасьці народу. У выніку і цяпер стаўленьне шмат каго да ўнутрыгарадзкой тапаніміі паўтарае савецка-таталітарныя матрыцы. Маўляў, мапы гарадоў — tabula rasa, дзе можна пісаць начыста адпаведна сваім уяўленьням, як „павінна быць“. Замяніць адзн набор імёнаў на іншы. Але ж у гістарычных цэнтрах бальшыні старажытных гарадоў Эўропы мы амаль ня знойдзем адыменных назваў; наадварот, з імёнаў вуліц відаць, якая даўніна перад намі, якое глыбокае карэньне мае той народ на той зямлі.

Аўтэнтычныя тапонімы — помнікі нематэрыяльнай культуры. Нельга нішчыць адзін помнік культуры дзеля ўсталяваньня другога, нельга адбіраць пэрспэктыву ўзнавіць з-пад намазанага пазьней кітчу старажытную фрэску. Адыменныя назвы — зьява позьняя.

Зьявілася правільная ідэя назваць адну зь менскіх вуліц у гонар Васіля Быкава. І прапанавалі перайменаваць Ульянаўскую — бо вуліца Леніна, маўляў, ужо ёсьць — і нават зьбіралі за тое подпісы.

Але вуліца, званая цяпер Ульянаўскай, належыць да гістарычных. Ляхаўка (Ляхаўская

слабада, Ляхаўскае прадмесьце) — адна з старажытных частак гораду; назва фіксуецца з XVI ст. Фрагмэнты трасы вуліцы мелі матываваныя, унікальныя, беларускія назвы: *Ільлінская*, *Гарбарная* (там спрадвеку сяліліся гарбары, нездарма і гарбарны завод працаваў на Ляхаўцы да вынасу ў Гатава), *Ніжне-Ляхаўская*. Ці адна зь іх, ці ўсе тры, несумненна, будуць адноўленыя.

Сталічная магістраль імя Васіля Быкава павінна быць. І яна заслугоўвае статусу праспэкту. Дарэчы, беларускай урбананімічнай традыцыі ды граматычным законам адпавядае прыметнікавая форма: *Быкаўскі праспэкт*. (Адной з матываваных прапановаў было б перайменаваньне ўрбаністычна важнай вуліцы Ціміразева, якая пачынаецца ад дому, дзе пісьменьнік жыў. Там поруч мэтро 2-й лініі — станцыя *„Быкаўская“* замест „Фрунзенскай“, будучая вузлавая).

Што да Горадні, то там цяперашняя вуліца Парыскай Камуны, якую былі вызначылі для кампаніі за наданьне імя Быкава, нават больш старажытная за менскую: вуліца фіксуецца ў дакумэнтах з XV стагодзьдзя (!). Наколькі ведаю, яна насіла імёны *Бэрнардынская* і *Курганская/Курганная* (апошняя назва ўнікальная ў маштабах Беларусі).

Сьмею меркаваць, што сам спадар Васіль наўрад ці быў бы ўсьцешаны вымушаным саўдзелам у выцясьненьні і так панішчаных сьветамі помнікаў беларускае гісторыі папярэдніх эпохаў:

Ацэнкі многіх культурных зьяў мінулага
былі скажоныя, сапраўдныя каштоўнасьці
нацыянальнай культуры засталіся нам
невядомыя.

(Васіль Быкаў. Зб. „На крыжах“, інтэрвію 1991 г.)

Яшчэ прыклад, які, магчыма, некага зьбянтэжыць. У 2006 годзе, падчас падзеяў на пляцы, які афіцыйна, але гістарычна беспадстаўна завецца Кастрычніцкім, узьнікла прапанова пераназваць яго ў пляц ці плошчу Каліноўскага. Ідэя разьвілася, зьявілася думка некалі паставіць там помнік вялікаму беларускаму паўстанцу. Аднак зноў жа — мясьціна гэтая належала да гораду вельмі даўно, была часткаю так званага Новага Места. Як зазначае знаўца менскай урбананіміі Іван Сацукевіч, ад царквы Сьвятога Юр’я (некалі стаяла на месцы музэю Вялікай айчыннай вайны, які ў сваю чаргу таксама зьнішчылі) мела імя вуліца Юраўская, што акурат пралягала праз цяперашні пляц. Вось жа *Сьвятаюраўскі пляц* (або плошча Сьв. Юр’я). А выява Сьвятога Юр’я якая? — Пагоня! Вось вам і конны помнік. Зьберагайма ў тапаніміі ўсе пласты нашай вялікай гісторыі.

Але гэта пэрспэктыва, а трэба ж дадаць станоўчых прыкладаў упарадкаваньня гарадзкой тапанімічнай гаспадаркі.

У Беларусі ёсьць горад, які мог пахваліцца колішнім добрым разьвязаньнем тапанімічнай праблемы ў цэлым. Гэта Маладэчна (называю па-

водле тамтэйшай народнай традыцыі). Кіраўнік выканаўчай улады гораду ў 1991—1994 г. Генадзь Карпенка проста даверыў справу назваў вуліц абазнаным у беларушчыне і неабыякавым людзям.

Мясцовыя актывісты беларускага руху ўклалі прапановы, а ў 1992 годзе зьвярнуліся да Тапанімічнай камісіі ТБМ, якую тады ўзначальваў вядомы гісторык праф. Леанід Лыч, па навуковую падтрымку. (Фактычна маладачанскі беларускі дзяяч Алесь Капуцкі, які на той час працаваў інструктарам гарадзкога Савету дэпутатаў, змовіўся са мной як намесьнікам старшыні тае камісіі.)

Праф. Л. Лыч падтрымаў справу. Мы напісалі ліст да маладачанскай улады з канцэпцыяй упарадкаваньня гарадзкой тапаніміі, ужо часткова апрабаванай у Менску: вяртаньне гістарычных тапонімаў дарасейскага пэрыяду, дэідэалягізацыя астатніх.

Мы хацелі б адзначыць высокую якасьць праведзенай вашай Камісіяй працы. Вернутыя вуліцам гістарычныя назвы *Замкавая, Гарадоцкая, Віленская*, а таксама нададзеная назва *Лібава-Роменская* функцыянальныя, лёгка арыентуюць жыхара горада і падарожніка. Наданьнем вуліцы назвы *Бухаўшчына* ваша Камісія і выканкам паклалі пачатак адраджэньню і захаваньню тапонімаў, страчаных у сувязі з пашырэньнем горада. Надзвычай удалы выбар зроблены для назвы плошчы *Старое Места*. Вяртаецца ў актыўнае быцьцё самабытнае

беларускае слова *места* ў значэньні ‘гарадзкое паселішча’.
На нашую думку, разьвіцьцём канцэпцыі, вызначанай пералічанымі назвамі, стала б названьне галоўнай вуліцы горада *Вялікі Гасьцінец*. У беларускай і — шырэй — у эўрапейскай традыцыі называць галоўныя вуліцы функцыянальна: *Галоўная, Вялікая* — або ўнікальна (узгадайма кіеўскі *Хрещатик*). Гасьцінец — значны гандлёвы шлях. Імя пасуе да насычанай гандлёвымі аб’ектамі магістралі. Акрамя таго, арыгінальнае, самабытнае слова ўпрыгожыла б горад як яго візытоўка. Мадэль пэрспэктыўная, бо дазваляе ўтвараць іншыя тапонімы (*Менскі Гасьцінец, Малы Гасьцінец* і г.д.).

(1992 г.)

Ліст меў вынік. Было зацьверджана перайменаваньне больш як 20 значных вуліц. У горадзе (замест Камуністычных, Камсамольскіх, Чырвоных, Энгельса, Савецкіх) аднавіліся геаграфічна ці гістарычна матываваныя *Лебедзеўская, Заслаўская, Рымарская, Новы Сьвет.* Зьявіліся непаўторна беларускія *Сьвятаянская, Купальская, Мястачковая, Крынічная.*

Нямала адыменных мэмарыяльных назваў — у гонар тых, хто быў зьвязаны з горадам і рэгіёнам: *Якуба Ясінскага, Ігната Буйніцкага, Аляізы, Язэпа Лёсіка.* Таксама *Грамадоўская* — у гонар Беларускай сялянска-работніцкай Грамады,

якая была вельмі дзейсная акурат там. Такі тапанімічны ляндшафт унікальны і пазнавальны. Але таксама ёсьць вуліцы імя дзеячоў агульнанацыянальнага маштабу — *Кастуся Астроскага, Адама Міцкевіча, Максіма Гарэцкага*.

Галоўную магістраль (былую Леніна) сапраўды назвалі *Вялікі Гасьцінец*, і на гэтае прыгожае беларускае імя дагэтуль ніхто не падняў руку. Калі б яшчэ вывешвалі шыльды толькі па-беларуску.

На жаль, найноўшыя тапанімічныя рашэньні маладачанскай улады слаба грунтуюцца на беларускай традыцыі ды навуковых падыходах. Але маладачанскае ўпарадкаваньне пачатку 90-х гадоў можа служыць майстар-клясаю для актывістаў і нацыянальна адказнай выбранай мясцовай улады, калі такая нарэшце зьявіцца, у іншых беларускіх гарадох.

## Пётра Машэра, або Як русіфікавалі прозьвішчы

Было на БТ такое шоў „Подводная одиссея команды Кухто“. Назва без асаблівых згрызотаў перанятая ад тэлевізійнага цыклю знакамітага францускага акеаноляга, вынаходніка сучаснага аквалянгу, кінэматаграфіста Жака-Іва Кусто.

Кожны сам — да пэўнае мяжы — распараджаецца сваім прозьвішчам, у тым ліку для стварэньня „брэндаў“. Мяне дык прозьвішча тэлежурналіста натхняе ўзгадаць не Кусто, а радкі Максіма Багдановіча пра знакамітага друкара: „…*У друкарні пана Марціна Кухты*“. У 1914 годзе М. Кухта выдрукаваў адзіны Багдановічаў прыжыцьцёвы зборнік „Вянок“.

Марцін Ку́хта (Martynas Kukta) — этнічны літовец, а прозьвішча з паходжаньня беларускае. *Кухта, кухцік* — ‘памочнік кухара’ (старабеларуская мова, І. Насовіч), у сучасных беларускіх дыялектах ёсьць іншыя значэньні слова *кухта, кухця*. М. Кухта быў знакавай асобай у Вільні. Ён друкаваў кнігі па-беларуску і па-літоўску. У 1907 годзе быў абвінавачаны ў выданьні кнігі антыўрадавага зьместу — вершаў Аляізы Пашкевічанкі (Цёткі). У літоўскай гісторыі М. Кухта зазначыўся і тым, што першы выдрукаваў улётку з Актам Незалежнасьці Літвы 16 лютага 1918 году.

Відавочна, на нейкім гістарычным этапе носьбіты беларускага прозьвішча *Кухта* памяняλі ў ім націск (або нехта дапамог). Але чаму




і навошта? Вось жа гэта толькі адна з праяваў цэлага вялікага працэсу.

## Расейскі стандарт

*“Наша Вера выходит замуж! — Вот хорошо! — радовался я. Да только фамилия немножко смешная —* ***Нога****! — Нога? Разве бывают такие фамилии? — у хохлов и не такие случаются“*. (Андрей Лесков. Жизнь Николая Лескова)

*“Был еще преподаватель духовного училища, уроженец Умани, со странной фамилией* ***Кривда*** *— украинец в вышитой рубашке“*. (В. Катаев. Разбитая жизнь)

*„Отец рассказывает матери о делах на шахте, о новом главном инженере со смешной*

*фамилией **Пирожок**“.* (Юрий Щербак. Возвращение блудного сына)

*„В комнате № 475 была еще одна Анна — Анна Борисовна **Глеб** — такая уж странная фамилия!“.* (Сергей Залыгин. Южноамериканский вариант)

*„Высокий и худой подполковник со странной фамилией **Чиж**“.* (тамсама)

Беларусам дык сапраўды „странно“ чуць такое ўспрыманьне звычайных у нас і нават шырокавядомых прозьвішчаў футбаліста Глеба ці аматара „странной“ архітэктуры Чыжа.

Але Пётр Сталыпін, паводле сьведчаньня графа Вітэ, сфармуляваў прынцып: каб быць верным сынам сваёй радзімы, вялікай Расейскай імпэрыі, вернападданым гасудара, трэба быць праваслаўным, нарадзіцца ў цэнтры Расеі і — мець прозьвішча, якое канчаецца на „-ов“.

“Прозьвішчы на *-ов, -ев, -ин* і ўспрымаюцца ў якасьці звычайных, нармальных для расейскае мовы прозьвішчаў. …Прозьвішчы іншага, субстантыўнага [г. зн. якія супадаюць формаю з назоўнікамі.— *В. В.*] тыпу ўспрымаюцца як адхіленьні ад нормы“.

(Л. Калакуцкая. Склонение фамилий и личных имен в русском литературном языке. Москва, 1984.— Прыклады таксама адсюль.— *В. В.*)

Расейскія мовазнаўцы называюць тыповыя для беларускай і ўкраінскай (і чэскай, і польскай,

і літоўскай…) антрапанімічнай традыцыі прозьвішчы накшталт *Мядзьведзь, Пузыня, Трубач, Серада* „фамилиями прозвищного *[мянушкавага]* типа“ і сьцьвярджаюць, што такія належалі людзям, якія стаялі на ніжэйшых прыступках сацыяльнай лесьвіцы (Л. Калакуцкая).

У Маскоўскай дзяржаве / Расеі, пэўна, так і было, а ў нас такія прозьвішчы зь сярэднявечча годна насілі і простыя людзі, і дзяржаўная ды інтэлектуальная эліта: *Сапегі, Пацы, Кішкі. Скарына*. Сярод продкаў расейскай манархічнай дынастыі Раманавых быў наш род Кабылаў, і беларус Кабыла нічым ня горшы за расейца, скажам, Сухаво-Кабыліна. (А Мядзьведзь за Мядзьведзева можа нават і лепшы ☺).

Расейскі дасьледнік іменаў Уладзімер Ніканаў піша: *„Словаўтваральнаму складу расейскіх прозьвішчаў, у процілегласьць украінскім ці беларускім, чужая стракатасьць. Уражвае маналітнасьць, у вёсцы нават абсалютная, на велізарных прасторах расейскай раўніны. Суфіксы* ***-ов, -ин*** *па-за канкурэнцыяй“.*

Вось чаму тысячы беларускіх прозьвішчаў, што ня маюць звыклых вуху ўсходніх суседзяў суфіксаў, былі перароблены малапісьменнымі расейскімі пісарамі пасьля захопу Беларусі Расеяй у канцы XVIII стагодзьдзя.

Зрэшты, працэс ішоў ажно да XX стагодзьдзя. Часта ў расейскім-савецкім войску беларуса са звычайным прозьвішчам Заяц рабілі Зайцавым, або і самі носьбіты прозьвішча яго перараблялі, каб ня быць, як іх пераканалі, сьмешнымі. У 20-я

гады малады чалавек Сымон Баран памяняў сваё беларускае прозьвішча на прозьвішча Баранаў, а ўжо стаўшы неблагім празаікам, усьведаміў памылку і ўрэшце прыдумаў родавы псэўданім — Сымон Баранавых (таксама ня надта ўдалы, бо сыбірскае мадэлі). Паэт Анатоль Вялюгін успамінаў, што дзед ягоны быў Вялюга, пакуль не ўмяшаліся імпэрскія пісары.

Журналіст Аляксандар Шабалін успамінае прызнаньне кіраўніка савецкай Беларусі Пятра Машэрава: *„А ведаеш, і маё прозьвішча без прыгод не абышлося. Я ж Машэра, а не Машэраў! Так-так. Нехта з маіх продкаў дужа захацеў быць рускім, вось і дадаў у пашпарце апошнюю літару“.*

Вось цяпер вернемся да *Кухты* → Кухто. Гэты выпадак далёка не самотны.

**Скрыпко, Галаўко, Лапато**

Мяняліся *Лапа* на Лапо, *Галоўка* на Галаўко, *Скрыпка* на Скрыпко, *Кукса* на Куксо, *Лапата* на Лапато. Прозьвішча адмяжоўваецца ад беларускага слова-першаўзора. Гэтым абураўся яшчэ Ўладзімер *Дубоўка* (таксама ж маглі зрабіць Дубаўко!). А прычынаю зноў-такі сілавое поле расейскай традыцыі фамільных найменьняў:

*„...Імкненьне адрозьніць прозьвішчы ад адпаведных апэлятываў* [агульных назоўнікаў. — *В. В.*] *выяўляецца рознымі спосабамі, у тым ліку пераносам націску“* (Л. Калакуцкая).

Знаўца культуры мовы Алесь Каўрус ухвальна ацаніў тое, што многія беларускія творцы і дзеячы вярнулі сваім прозьвішчам спрадвечны націск: *Каўка, Кенька, Клышка, Саўка, Сіцька.* Але мноства людзей, хутчэй за ўсё, нават ня ведаюць пра некалі зьдзейсьненую фанэтычную падмену іхнага радзіннага імя. Зь вялікай верагоднасьцю яна адбылася ў прозьвішчах накшталт Драко, Сілко, Галко.

**Сваё — жывое**

У выніку перасоўваньня націску на канцавое -о ў расейскай мове такія прозьвішчы перастаюць скланяцца: „команда Кухто“. І ў беларускай афіцыйнай граматыцы пад уплывам расейскае прозьвішчы на -о, нават калі яны свае, скланяць не дазваляецца — як запазычаньні з францускай *Кусто, жабо, арт-нуво* і *камільфо.*

Але наша мова флектыўная, гэта значыць назоўнікі ў ёй маюць багатую сыстэму зьмены, а калі які не зьмяняецца — значыць, ён адчуваецца як чужы, неасвоены. Бываюць прозьвішчы беларускага паходжаньня з аўтэнтычным канцавым -о. Яны часьцей за ўсё паходзяць ад формаў імёнаў накшталт *Юрко, Санько.* Такія формы ўласьцівыя паўднёва-заходняй Беларусі, прычым, паколькі ў гаворках там няпоўнае аканьне, -о ў канцы можа быць і пад націскам, і без. У Гарадной (цяпер Столінскага раёну) быў *Юлько́ Вячорка* (брат майго прадзеда, які на кірмашы паспрачаўся, што занясе дахаты на плячах целюка, і занёс, і забраў). Вядомыя формы імёнаў

*Пятро* (хоць на поўначы толькі *Пётра*, на чым настойвае Пётра Садоўскі), *Зьмітро*.

Беларускія мужчынскія імёны і прозьвішчы на -о, калі яны свае,— жывыя, не застылыя, і маюць скланяцца як адушаўлёныя назоўнікі *хвалько, гняўко, нямко*. Спытай *хвалька, гняўка, нямка, Пятра, Зьмітра*. Раман Віктара *Казька́*. І толькі жаночыя прозьвішчы на -о пад націскам не скланяюцца.

У расейскай мове адбываецца іншы працэс: скланеньне „неўласьцівых“ прозьвішчаў замірае. Яшчэ Пушкін скланяў прозьвішчы на -ко: „к Родзянке“. У расейскай граматыцы 1953 году дазвалялі скланяць мужчынскія прозьвішчы на -енко. Але ў граматыцы 1970 году гэтага пункту ўжо няма.

**Сапежанка — ня толькі гатунак ігрушы**

Ці скланяюцца беларускія жаночыя прозьвішчы накшталт *Масла*, *Пятрэнка*? У старабеларускай мове такога пытаньня быць не магло, жаночыя формы прозьвішчаў мелі асобную суфіксацыю, прычым для незамужняй дзяўчыны адну, для мужавай жонкі іншую:

*панна Катарына Сапежанка, падканцлеранка Вялікага Княства Літоўскага* — **дачка** Сапегі, падканцлера,

але

*пані Багданавая Сапежыная, судзьдзіная земская* — **жонка** Багдана Сапегі, судзьдзі земскага.

Дачка менавалася таксама на *-оўна/-аўна*: *Радзівілаўна, Саковічаўна*. У Фурса была дачка

*Фурсаўна*, а жонка — *пані Фурсавая. Гедройцевая, Тышковічавая*. Усе такія формы лёгка скланяюцца.

Такі прынцып захаваўся ў літоўскай мове. Калі мужчына Навіцкас, то ягоная жонка Навіцкене, а дачка Навіцкайце. Адрозьненьне дзявочага прозьвішча ад радзіннага найменьня замужняй жанчыны яшчэ нядаўна дапамагала мужчынам вызначыцца пры знаёмстве, але цяпер літоўкі нярэдка пакідаюць сабе дзявочае прозьвішча, выйшаўшы замуж. Або прынамсі бяруць падвойнае. Марыя Іванаўскайце-Ластаўскене — жонка нашага Вацлава Ластоўскага, якая разам зь сястрой пісала пад псэўданімам Лазьдзіну Пяледа — Ляшчынная Сава.

Згаданая вышэй „экстрэмістка“ Цётка, якую мы ведаем з школьнага курсу як Алаізу Пашкевіч, папраўдзе не цуралася беларускага кшталту свайго радзіннага прозьвішча — Аляіза *Пашкевічанка,* а паводле прозьвішча мужа-літоўца менавалася *Кейрысовая*.

Але замацаваная вякамі сыстэма жаночых прозьвішчаў, якія натуральна скланяліся, была разбураная пад чужым панаваньнем. Зьявіліся нескланяльныя беларускія жаночыя прозьвішчы на зычны: *умацавалі каманду вясьляркай Кацярынай Хадатовіч* (якая цяпер Карстэн).

**Жаночыя беларускія прозьвішчы на галосны -а скланяцца павінны.** Сяржук Вітушка апошнія дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця пражыў у Вільні. Ён пераканаў літоўскія ўлады, каб про-

зьвішча дачкі афіцыйна запісалі *Віту́шчанка* — паводле старой беларускай традыцыі. Вядома, яно скланяецца: каго — *Вітушчанкі,* каму — *Вітушчанцы*. Але ж на *-анка, -энка, -енка* заканчваюцца тысячы як мужчынскіх, так і жаночых прозьвішчаў у паўднёва-ўсходняй Беларусі ці ўкраінскага паходжаньня. Граматычна яны нічым ня розьняцца і таксама маюць скланяцца: мэдаль каму? Вікторыі *Азаранцы*.

Нагадаю толькі, што мужчынскія і жаночыя прозьвішчы на -а ва ўскосных склонах гучаць па-рознаму. Напісаў *Алесю Яўсеенку* і *Вальжыне Цярэшчанцы*, *Лявону Муху* і *Тэклі Мусе*.

## Калавур, ратуйце! Нечаканыя вынікі палянізацыі беларускіх прозьвішчаў

Папярэдняя нататка была пра русіфікацыю прозьвішчаў. Але беларускія прозьвішчы, як і імёны, цягам гісторыі зазнавалі зьмены і пад уплывам заходніх суседзяў. Палянізацыя выяўлялася празь перанос націску на перадапошні склад: *Каваль* станавіўся Ковалем, *Казёл* — Козелам. (Хаця і тут магчымы ўплыў расейскага імкненьня адрозьніваць прозьвішча ад звычайнага слова.). Відаць, адсюль таксама *Горбач, Толкач, Борыс, Пе́тух* і нават *Пётух*. Або ў імёнах: *Уладзісла́ў*ператвараўся ва Ўлады́слава, *Міха́л* — у Міхала, *Вацла́ў* — у Ва́цлава. Але калі прозьвішча беларускага спэцыяліста ў энэргетыцы, аўтара канцэпцыі Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара Станіслава Гусака іншыя часам вымаўляюць Гу́сак, сам ён трымаецца традыцыі радзіннага найменьня *Гуса́к* (а паходзіць з украінамоўнай вёскі на Данеччыне).

Пэўны час шляхта былога ВКЛ пераймала моду ад шляхты польскай — падвойваць зычныя ў звычайных тутэйшых прозьвішчах на ўяўна лацінскі/італьянскі ці то нямецкі лад. Як *Lucullus, Sulla, Crassus; Grimm, Bopp, Gott, Knuppe;* ці той самы *Otello*. Не зважаючы на рэальнае вымаўленьне, бо ў беларускай мове, як і ў польскай, літоўскай, украінскай, у такіх пазыцыях (у корані і наагул не на сутыку марфэмаў) зычныя ў вымаўленьні не падаўжаюцца. Адсюль шмат-

лікія выпадкі напісаньняў накшталт *Radziwiłł, Skirmuntt, Усс, Котт, Лаппо, Шуппо, Стомма, Груммо, Гастелло, Забелло, Бирилло, Шипилло,* беларускімі першаўзорамі для якіх былі *Радзівіл, Скірмунт, Вус, Кот, Лапа, Шупа, Стома, Грума, Гастэла* ці *Гасьціла, Забела, Бірыла, Шыпіла* і нават *Kołłupajłło.* Як быццам апошні праз двойчы падвойнае **лл** пераставаў быць нашым свойскім *Калупайлам*.

І назвы нашых сьвятаў, бывала, „ушляхотнівалі“ вось такім чынам:


T. VI, VII.

ŚĆEROŬSKIJE DAŽYNKI.

KUPAŁŁA.

APOWIEŚCI

Palескае шляхоцкае прозьвішча *Бут-Гусаім* пісалі па-польску Butt-Hussaim, некаторыя яго носьбіты ў сучаснай Беларусі пішуцца праз два **т**. (Зрэшты, у падвойным напісаньні **s**, магчыма, выяўляецца ўплыў усходніх моваў.) І яшчэ на адным аналягічным прозьвішчы спынюся адмыслова.

**Каллаур / Калавур**

У зьвязку зь фінансавымі землятрусамі загучала адметнае прозьвішча старшыні Нацыянальнага банку — па-расейску *Каллаур* зь дзьвюма літарамі **л**. Па-беларуску яго цяпер спрабуюць вымаўляць рознымі спосабамі. Нават зьявіліся тэматычныя публікацыі, дзе прапаноўваецца

пісаць па-беларуску „Калаўр“. На маю думку, памылкова. Выкладу свае мікрадасьледзіны — толькі таму, што за словам крыюцца цікавыя моўныя факты і каб натхніць кожнага ўведаць гісторыю свайго радзіннага імя.

Прозьвішча гэтае палескае, яго носьбіты сканцэнтраваныя ў басэйне Гарыні. Паходжаньне, хутчэй за ўсё, цюрскае. Гісторыкі палескай шляхты Станіслаў Дзядулевіч і Раман Гарашкевіч сьцьвярджаюць, што род Калавураў, як і тамтэйшыя *Бут-Гусаімы, Орды, Багатырэвічы,*— татарская шляхта. Продкі беларускіх татараў — крымскія татары, якім шляхоцтва пачаў надаваць яшчэ Вітаўт Вялікі. Многія беларускія татары зазначыліся ў гісторыі годнасьцю, адвагай і патрыятызмам.

Паводле Р. Гарашкевіча, пачынальнікам роду быў Хведзька Лянковіч Калавур, які жыў у пачатку XVI ст. У беларускіх гаворках было і ёсьць слова *калаву́р.* Яго фіксаваў Іван Насовіч у слоўніку 1870 году са значэньнем, якое супадала з расейскім „караул“ — як ‘варта’ і як кліч па дапамогу: *Калавур! Ратуйце!*

Сучасныя гаворкі таксама ведаюць гэтае слова. *Калаву́р, калаву́рны* — вартаўнік. *Каля амбару калавур ходзіць* (Курапольле Пастаўскага р-ну). Вядомае і на поўначы (Глыбоччына), і на поўдні (Капыль). Паходзіць ад агульнацюрскага слова са значэньнем „вартаўнік“ — *qaravul* у крымска-татарскай, *каравыл* у татарскай, падобна ў нагайскай ці казаскай (дарэчы, у цюрскіх мовах бывае ўстаўны **-v-**). Але калі-нікалі задаюць пытаньне,

ці гэты цюркізм прыйшоў у беларускую праз расейскую, ці ўсё ж наўпрост.

Украінскі дасьледнік Юры Радзько палічыў сынанімічнымі паміж сабою два ўкраінскія прозьвішчы, зьвязаныя з вайсковай службай: расейскай — *Калаву́р* „перекручене з „караул“, і аўстрыйскай — *Шельвах* з Schildwache ‘варта, вартавы’.

Аднак украінскі аўтар, відавочна, ня ведаў паходжаньня роду Калавураў і матэрыялаў старабеларускай мовы, сабраных беларускім антрапанімістам Мікалаем Бірылам. Гэта імёны-мянушкі і прозьвішчы XVI—XVII стагодзьдзяў, паміж іншым, з Попісу войска ВКЛ 1567 году. *Иван, Пронко Денисович* і *Федор Калаур* зь Пінскага павету былі ў мабілізацыйным сьпісе нашай дзяржавы (М. Бірыла. Беларуская антрапанімія. Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы. Мн., 1966).

КАЛАУР рэг. калавур ‘каравул’ (Нас.).— *Калау́р, Калаву́р.* Бел[арускія імёны-мянушкі] у XVI—XVII стст. *Калаур, Калавур.*

(М. Бірыла. Беларуская антрапанімія, вып. 2: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969)

Ясна, што калі прозьвішча ўжывалася ў XVI ст., яно ня мае дачыненьня да расейскай вайсковай тэрміналёгіі.

Бачым, што ў гаворках слова *калавур* ужываецца з націскам на апошнім складзе (як у бальшыні цюркізмаў) і з устаўным гукам [в]. Таму М. Бірыла пашырае такое вымаўленьне і на прозьвішча. У тэкстах на старабеларускай мове націск у сучасным сэнсе ня ставілі ды прыстаўнога **в** не пазначалі, але пісалі адпаведнае прозьвішча ў тры склады. Калі б яно вымаўлялася з ў нескладовым — „Калаўр“ — то яго пісалі б паводле старабеларускай нормы „Калавръ“ — як „мавръ“ (вымаўляецца [маўр]), але такога няма. І ў польскіх, і ў расейскіх дакумэнтах так не пісалі. Грэцкае прозьвішча *Калавріос*, спатыканае ва Ўкраіне, зусім іншага кораню. Яно паходзіць ад гр. Καλαβρία — паўднёвая Італія.

Такім чынам, прозьвішча *Калавур* супадае з агульным назоўнікам беларускай дыялектнай мовы і мае тры склады.

Наступнае пытаньне — ці абгрунтавана ўжываць у ім устаўны гук [в].

У родных мясьцінах Калавураў, у вёсцы Белавуша, на месцы прыстаўнога (устаўнога) [в] можа быць гук [г]: [гулыця], [Бэлогуша]. Так мне цытаваў аўтахтонную назву гэтай гіганцкай вёскі мой бацька, які рос па другі бок Гарыні.

Тыя райцы, што прапанавалі беларускамоўным мэдыям пісаць „Калаўр“ праз **ў** нескладовае, не ўлічылі, што гук [у] тут утварае і пачынае склад, а значыць, перад ім у літаратурнай мове патрабуецца [в] незалежна ад націску. Гэта не адзінае такое прозьвішча ці проста слова. Першы

міністар абароны Рэспублікі Беларусі быў Пётра *Чавус*, ня Чаўс. Таксама шматлікія *Рэ́уты/Рэвуты* (і адсюль *Равуцкія*) — ня Рэўцкія. (І Ржавуцкія маюць беларускі адпаведнік найменьня Равуцкія, як Пржавальскія й Кржыжаноўскія — Перавальскія і Крыжаноўскія.)

*Навум* — *Навумовіч*, аналягічна як *пабачыў павука́*, а не *паўка́*. А вось літаратурныя расейская і польская мовы прыстаўных і ўстаўных гукаў ня ведаюць, і беларусы часта-густа іх пазбываліся ў сваіх імёнах і прозьвішчах пад чужым уплывам.

Зрэшты, другі варыянт прозьвішча разгляданых намі носьбітаў гербу Астоя і паводле польскамоўных шляхоцкіх гербоўнікаў — *Калувур.*

У адносінах да прозьвішчаў — напісаньне, вымаўленьне — часта назіраецца самачыннасьць з боку іх носьбітаў і рэгістратараў (у загсах, пашпартных сталах) і проста моўная недасьведчанасьць. У выніку прозьвішча набывае форму, якую цяжка ўзгадніць з законамі беларускай мовы, напрыклад: Астраух, Белаокая, Белаусаў, Ляошка, Углік, Крупеніо (мабыць, з Крупеня), Сухій (ад прыметніка Сухі), Кяшко.

(Алесь Каўрус. Шануйма сваё імя і род)

Знаўца культуры мовы меў на ўвазе, што беларускім фанэтычным законам адпавядаюць формы *Астравух, Белавокая, Белавусаў, Лявошка, Вуг-*

*лік, Крупеня, Сухі, Кешка.* Відавочна, *Калавур з* гэтага шэрагу.

І ўрэшце — куды падаў націск у прозьвішчы *Калавур*? У бальшыні цюркізмаў ён прыпадае на апошні склад. Успомнім словы *базар*, расейскія *сундук, казна*. Гэтаксама і *караву́л-калаву́р.*

Але найбольш пераканаўчае сьведчаньне першароднага націску прозьвішча *Калавур* — назва паселішча: *Калаву́равічы*. Заснаванае кімсьці з гэтага роду. У такіх тапонімах націск імя ці мянушкі заснавальніка зьберагаецца: *Ані́сім — Ані́сімавічы,* таксама *Дарапе́евічы, Каладзе́евічы, Мікала́евічы, Паўтара́навічы*. Усе прыклады падабраныя зь Берасьцейскай вобласьці, каб было недалёка.

Вядомы лінгвіст Вячаслаў Вярэніч, сам родам з-над Гарыні, сабраў унікальны „Палескі архіў“— з узорамі дыялектнага маўленьня. Крыніца надзейная. Фанэтычная транскрыпцыя прафэсійная, з націскамі. Вось як гучыць назва вёскі ў вуснах яе жыхароў: *Kałavúrovyču, w Kałavúrovyčax, s Kałavúrovyč*. Назвы жыхароў: *kałavúrovec, kałavúrowka, kałavúrowcy.*

Але націск прозьвішча ў розных паселішчах розны:

Вёска Лазічы, Барычавіцкі сельсавет. Тут „…жили дворяне (Шоломицкий, Горегляд), мещанские (Лозицкий, Шпаковский, *Каллау́р*) “.
„Полховскый Мыха́л — Калаву́ровых“;
в. Полхава
*Kałavúrows’ka* — сенакос; в. Відзіборац

„Осовцы были фольварком помещика *Калла́ура*. Каллауры происходят из татарского рода, считали себя поляками, дома и со службой разговаривали по-польски“.

Менавіта апошні абшарнік, які гаварыў па-польску, і называў сябе як бы на польскі лад Кала́ур. Звычайныя мяшчане ж часьцей заставаліся з націскам на апошні склад — *Калаву́ры*.

**Кожны вырашае сам**

Вядома, прозьвішча — гэта асаблівае слова, на яго ёсьць пэўная прыватная ўласнасьць. Разам з тым прозьвішча — спосаб сацыялізацыі асобы, сям'і, роду ў пэўнай нацыянальнай супольнасьці. У Беларусі прозьвішчы (як і імёны) апошнія колькі стагодзьдзяў запісваліся паводле правілаў іншых моваў — расейскай і польскай, і гэта заклала памылковае ўяўленьне пра тое, што ў іх „правільна“, а што „няправільна“.

А націск хай самі носьбіты прозьвішча вызначаюць. Справа мовазнаўцаў — падказаць ім, як гэта будзе больш па-беларуску. Захочуць — прыслухаюцца.

## Літвін — ня Пуцін. Асаблівасьці скланеньня прозьвішчаў

Калі Алеся Русін пабралася зь Міхалонам Літвіном, яна стала Алеся Літвін. Пра беларускія прозьвішчы на -ін

Беларускія прозьвішчы на *-ін* або *-ын* маюць інакшае паходжаньне, чым расейскія. І адпаведна інакш зьмяняюцца ды ўтвараюць жаночыя формы.

Вось жа расейскія прозьвішчы на -ин/-ын утвараюцца ад іменаў ці мянушак абодвух родаў. Яны некалі былі прыналежнымі прыметнікамі, адказвалі на пытаньне „чей?“. *Ильин, Гришин, Путин, Распутин, Рагозин, Затулин*. І скланяюцца падобна прыналежным прыметнікам.

Кім хоча стаць Пуцін? „Путин хочет стать Сталиным-2“,— мяркуе аналітык Станіслаў Бялкоўскі. *Сталиным* і *Лениным* — як *батиным*, *дядиным*.

У беларускай жа мове прыналежныя прыметнікі ад словаў мужчынскага роду — толькі на *-оў, -еў, -аў*. Чый? *татаў, Алесеў, Янкаў, Пецеў.* Адпаведна прозьвішчы на *-ін/-ын* ад імя бацькі або дзеда ў нас разьвіцца не маглі. Па-беларуску прыналежныя прыметнікі на *-ін/-ын* — толькі ад словаў жаночага роду. Чый? *матчын, даччын, Вольжын, Алесін.*

Беларускія ж прозьвішчы на *-ін/-ын* — зусім не ад колішніх імёнаў бацькі ці далейшага продка-мужчыны.

Прыкладам, *Літвін* або *Ліцьвін, Русін, Жамойцін, Валошын, Вугрын, Турчын* — родавыя найменьні паводле нацыянальнасьці, або паходжаньня, або зьвязанай зь імі мянушкі: *валошын* — жыхар цяперашняй Малдовы, *вугрын* — мадзяр, жыхар Вугоршчыны або, як цяпер кажуць на польскі лад, Венгрыі.

Калі *Мурын* — беларускае прозьвішча, то яно можа быць ад экзатычнага продка ці ад мянушкі Мурын, якую маглі даць чалавеку зь цямнейшай скурай.

Ёсьць і прозьвішчы паводле назвы жыхара мясцовасьці або паселішча: *Гаранін, Азяранін, Лучанін* (ад *лу́ка*), *Лужанін.*

Адпаведна і зьмяняцца ўсе такія прозьвішчы маюць ня як расейскія Пуцін-Сталін (на прыметнікавы ўзор), а як назоўнікі:

У суаўтарстве зь *Міхалонам Літвіном, з Максімам Лужанінам*.

Форма жаночага роду ад агульнага назоўніка *літвін/ліцьвін* будзе *літвінка/ліцьвінка*, *гаранін* — *гаранка*. На прозьвішчы такая мадэль не пераносіцца. Ліцьвінова жонка — таксама *Ліцьвін*. Падобна як Пятро Каваль і ягоная жонка Яніна Каваль. Таксама *Натальля Русі́н* (або *Ру́сін*, калі настойваюць на націску), *Вера Турчын*, *Марыля Гаранін*. Хіба што вернуцца старыя нацыянальныя мадэлі ўтварэньня жаночых формаў прозь-

вішчаў — *Ліцьвіновая*, калі жонка, і *Ліцьвінянка*, калі дачка.

А ёсьць жа іншыя прозьвішчы на *-ін/-ын*, узьніклыя на беларускай глебе — зь непразрыстай этымалёгіяй, накшталт *Хвоін, Чыквін, Гурын, Чыгрын*, ці тоесныя імёнам, як *Логвін* ці *Логін*. Спэцыяліст у словаўтварэньні Павел Сьцяцко рэгулярна прысьвячае іх жаночым варыянтам вострыя тэксты:

Беларускія прозьвішчы нярэдка перакручваюцца на небеларускі лад, напрыклад, *Гавін, Гурын, Літвін, Логвін, Русін, Чыквін* і падобныя пры абазначэньні асобы жаночага полу раптам набываюць канчатак ***-а***: *Гавіна, Гурына, Літвіна, Логвіна, Русіна, Чыквіна*. Ці апраўданая такая форма? Не, нічым ня можна яе абгрунтаваць. Форму жаночага роду маюць толькі тыя прозьвішчы, якія паходзяць ад уласных жаночых імёнаў і ўтвораныя ад іх з выкарыстаньнем суфікса ***-ін-***: *Зініна, Зосіна, Ларына*.

Праф. Сьцяцко спасылаецца на літаратара Івана Чыгрына са Слонімшчыны, які сьведчыць, што вяскоўцы згадвалі ў размове ягоную маці Хіму так: *„Раіліся з Хімаю Чыгрын“, „Казалі пра Хіму Чыгрын...“*.

**Як Папа Гігін**

Натуральна, найперш ад носьбітаў прозьвішча залежыць, ці захочуць яны ўжываць яго адпа-

ведна беларускай граматычнай мадэлі. Ёсьць прозьвішчы, паходжаньне якіх можа быць дваякім. Напрыклад, *Гігін*. Калі прозьвішча прыйшло з Расеі — тады яно павінна мяняцца па граматычных родах і скланяцца як прыметнік: з Гігіным.

Але калі прозьвішча беларускае — іншая рэч. Тады яно паходзіць або ад балцкага кораню gig- , што мог абазначаць гатунак хвашча (параўн. слова *гігель*, прозьвішча *Гігевіч*), або ад грэцка-рымскага імя Hyginus (’Υγίνος, корань той самы, што ў слове *гігіена*). Быў такі рымскі паэт Гай Юліюс Гіґін, што выклаў вершам паданьне пра Ахілаву пятку, а ў II стагодзьдзі быў Папа Гіґін, дарэчы, кананізаваны ў сьвятыя.

Імя хрысьціянскае, кананічнае. Хоць рэдкае, ужывалася і ў нашых землях сярод каталікоў. Напр., кс. Гіґін Антановіч „з-над Вяльлі“ служыў капэлянам на Каўказе ў 1840-я — 50-я гады; у Відзах служыў кс. Гіґін Дырмэйка (1880 г.).

А прозьвішчы, якія цалкам супадаюць зь невытворнымі формамі імёнаў, у Беларусі ня рэдкасьць: *Логвін, Касьпер, Макей, Сяргей, Багдан/Богдан, Барыс/Борыс, Раман/Роман, Конан.* Рамуальд *Клім*, алімпійскі чэмпіён у кіданьні молата,— беларус з-пад Нясьвіжа.

Таму носьбіты прозьвішча Гігін самі выбіраюць, ці скланяцца як *Ленін*, *Сталін* і *Пуцін*, ці як *Ліцьвін*, *Русін* і *Жамойцін.* Або з *Гігіным*, або з *Гігінам*. (Ня быць жа нам зусім бяз Гігіна☺)

**„...Склонять, как положено по-русски“**

Выйшла ў сьвет кніга „Забыцьцю не адданае“. Гэта ўспаміны Юлі Андрусышын, з дому Кахаsucceedноўскай, з роду Луцкевічаў па матчынай лініі. Успаміны ў тым ліку пра даўнейшы Менск. Некаторыя чытачы задалі пытаньне, чаму імя аўтаркі на вокладцы — Юля *Андрусышын*, не Андрусышын**а**.

Муж сп-ні Юлі — Паўло Андрусышын з украінскай Тарнопальшчыны, сыны Данчык — Багдан Андрусышын, журналіст Радыё Свабода і сьпявак, і Юрка.

У прозьвішчах на *-ішын/-ышын* дайшлі да нашага часу старадаўнія прыналежныя прыметнікі ад найменьня жонкі ці ўдавы паводле мужа. Такія найменьні ведалі і беларуская, і ўкраінская мовы. Мовазнаўца Мікалай Бірыла пісаў пра „размоўна-бытавыя найменьні“: *Паўлючыха, Тодарыха* — *(чый?) Паўлючышын, Тодарышын; (чыя?) Паўлючышына, Тодарышына.* Іваніха — Іванішына хата. Міколішына карова — значыць Міколіхі (Ушаччына). Аднак гэта ня прозьвішчы.

А ва ўкраінскай мове, найперш у Галіччыне, паводле такой мадэлі фармаваліся менавіта прозьвішчы: *Іванишин, Гаврилишин, Андрусишин.* У даўнія часы жаночыя формы такіх найменьняў узьнікалі як прыметнікі: *Марія Іваниха Данилишина, Анна Николиха Федишина* (напр., Метрика хрещених села Розвадова, 1753—1784 рр.). Але ўжо ў XIX ст. заходнеўкраінскаю нормаю сталі нязьменныя жаночыя формы прозьвішчаў накшталт *Петрів* і *Гаврилишин.* У сучаснай украінс-

кай літаратурнай мове фармальна дапушчаюцца абодва варыянты — і Марія Гаврилишина (больш пашырана, зразумела, на Ўсходзе), і Марія Гаврилишин (Заходняя Ўкраіна). Але філёлягі, якія дбаюць пра культуру мовы, лічаць формы на *-шина* вынікам русыфікацыі.

Украінскія нязьменныя жаночыя прозьвішчы на *-шын* чамусьці нэрвуюць расейскіх камэнтатараў у сацыяльных сетках:

*„Так что вы как хотите, а всем желающим соблюдать здесь правила грамматики русского языка я предлагаю и вас, и прочих Михалишиных-Степанишиных склонять, как положено по-русски. А правила русской грамматики они, знаете ли, одни и те же что в России, что в Африке, что на Луне. К тому же здесь таки Россия — русская соцсеть, на русских серверах и с русскими владельцами“.*

Зразумела, трэба паважаць традыцыю і выбар носьбітаў прозьвішча *Андрусышын*, пагатоў беларускай мове нязьменная мадэль на *-ін/-ын* вядомая.

**Ziganshin Boogie, Ziganshin Rock**

Тут яшчэ момант. З савецкай гісторыі вядомае прозьвішча *Зіганшын*, людзі майго пакаленьня яго памятаюць з падручніка ангельскай мовы.

Асхат Зіганшын — татарын, адзін з савецкіх вайскоўцаў, што змагаліся за выжываньне на баржы ў дрэйфе і якіх не шукала (хто б дзівіўся) уласнае камандаваньне, а ўратавалі амэрыканцы. Нехта напісаў тады рок-н-рол на тэму, хоць

падпольны, але шалёна папулярны: „Ziganshin Boogie, Ziganshin Rock, Зиганшин съел второй сапог…“

Прозьвішчы татараў (валжанскіх) імпэрскія чыноўнікі масава запісвалі паводле расейскіх словаўтваральных мадэляў прыналежных прыметнікаў. Так узьніклі прозьвішчы на -шын ад імёнаў на -шаһ: Мухаметшин ←Мухаметша ← Мөхәммәтшаһ. Адпаведна жаночыя іх формы паўтараюць расейскую мадэль: Мөхәммәтшина. Вось жа ўкраінскія нязьменныя жаночыя прозьвішчы на *-шын* кантрастуюць яшчэ і з татарскімі.

## Леў Талстой — не таўсты леў

І яшчэ. У беларускай мове няма прыметнікаў на *-ой*. Расейскія *сухой, кривой, морской* — беларускія *сухі, крывы, марскі*. Адпаведна расейскія прозьвішчы на *-ой* (Толстой, Трубецкой, Полевой, Крутой) па-беларуску ня могуць успрымацца як прыметнікі, бо яны трапляюць у шэраг звычайных назоўнікаў на *-й* (*лой, набой, надой, спакой, гемарой, трамвай*). А таксама імёнаў накшталт *Сысой* або чужаземных мужчынскіх найменьняў, як *Маккой*. Так, як *прыпынак трамвая*, мела б быць *кніга Талстоя*. А не „Талстога“, як усе прызвычаіліся. Выдатны расейскі філёляг Леў Усьпенскі казаў: *„Площадь Льва Толстого совсем не то же, что площадь толстого льва“* (кніга „Ты и твоё имя“). Ён меў на ўвазе адрозьненьне ўласных імёнаў ад звычайных словаў,

але нам гэтая рэмарка яшчэ нагадвае, што маем іншую граматыку.

Таўсты леў — ня Леў Талстой, і скланяць іх варта адрозна. Інакш у граматыцы ўзьнікае не абгрунтаванае ўнутранай лёгікай беларускае мовы выключэньне.

(Некалі ў савецкі час мовазнаўца Пётра Садоўскі падвёў мяне, асьпіранта, з гэтай тэмай да Аляксандра Падлужнага, тагачаснага намесьніка дырэктара Інстытуту мовазнаўства імя Я. Коласа. Сп. Падлужны не знайшоў контраргумэнтаў і сказаў толькі нешта накшталт: „Гэта ўжо занадта“).

Адваротны станоўчы прыклад. Быў знакаміты авіяканструктар, першы склад чыйго прозьвішча стаў брэндам самалётаў „Су“, беларус з Глыбокага. Хоць ён жыцьцё пражыў пераважна ў Расеі (СССР), дзе цяпер расейская дзяржаўная кампанія „Сухой“ экспартуе зьнішчальнікі, усё ж у беларускай даведкавай літаратуры прозьвішча *Сухі* ў назоўным склоне пішуць, на шчасьце, па-беларуску. Тады заканамерна: *Павел Сухі — унівэрсытэт імя П. Сухога*. Гэты выбар стаіць перад усімі беларускімі носьбітамі аналягічных прозьвішчаў: Крывой або *Крывы*, Грушавой ці *Грушавы*, Цернавой ці *Цернавы*.

## Як жывая беларуская мова адолела камісарскі загад 1933 году

Сьвята *футбола* ці *футболу*? Бяскрыўдны канчатак роднага склону стаў аб’ектам вайны, сапраўднай, з ахвярамі

Перад вачыма рэдактара адукацыйнага сайту вісіць паперка з двума слупкамі.

Зьлева — канчатак роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду **-а (-я)**: *праекта, урока, семінара, факультатыва, курса.*

Справа — канчатак **-у (-ю)**: *конкурсу, фестывалю, перапынку.*

Кожны беларускі рэдактар і карэктар, які працуе паводле афіцыйных моўных стандартаў, ведае гэты праклён. Хоць у лоб страляй — ня ўцяміш, якая нябачная сэмантычная (ці фанэтычная) розьніца раскідала два абстрактныя назоўнікі *праект* і *конкурс* па розныя бакі граматычнае барыкады. Чаму *пасьля ўрок**а***, але *пасьля перапынк**у***. Чаму назоўнік бывае пэўнага *род**у*** і *лік**у***, але *склон**а***. Чаму *факультатыв**а***, але *фестывал**ю***. Інтуіцыя тут ні да чога.

Але так было не заўсёды.

**Пачынальнікі ішлі за жывою моваю**

Браніслаў Тарашкевіч у сваёй легендарнай „Беларускай граматыцы для школ“ апісаў вы-

бар канчаткаў каротка і проста (5-е выданьне, Вільня, 1929):

**§ 17. Увагі аб розных канчатках. I. Родны склон адз. ліку** мае канчатак **у** або **а**, як у цьвёрдым, так і ў мягкім скланеньні (у мягкім пішацца *-ю, -я*).

Канчатак **-а**, (*я*) знаходзім:

1) у прадметніках, што азначаюць жывыя творы, напр.: чалавека, Язэпа, брата, ваўка, вала, злодзея, вераб'я і інш;

2) у прадметніках *вобразных*, што можна бачыць, лічыць, асабліва, калі націск прыходзіцца на канчатак: грош — грашȧ, куст — кустȧ, малаток — малаткȧ, нож — нажȧ, нос — насȧ, кош—кашȧ, коўш—каўшȧ і інш.

3) у назовах месяцаў: студня, сакавіка, красавіка і г. д.

Іншыя прадметнікі *звычайна* маюць канчатак **у** (ю):

розуму, болю, жалю, сьмеху, смутку, грому, роду, міру, абычаю, дару, страху, веку, року, пакою, усходу, заходу, ценю ([illegible] *цень*), плачу, ураджаю, жару, прымусу, люду, народу, краю, бору, узору, лесу, сьнегу, лёду, попелу, алею, шроту, хвойніку, дроту і шмат іншых.

Тэрміналёгія з таго часу крыху памянялася: цяпер кажуць ня „вобразныя прадметнікі“, а „канкрэтныя назоўнікі“. Але — галоўнае — Тарашкевічаў падыход адпавядаў жывой мове і быў мэтадычна абгрунтаваны: ён вычарпальна пералічыў назоўнікі мужчынскага роду, дзе *абавязкова* будзе **-а (-я)** у родным склоне, і пакінуў шырокую прастору канчатку **-у (-ю)** для астатніх.

Па савецкі бок мяжы падзеленай Беларусі мовазнаўцы разважалі падобна. У тым самым 1929 годзе ў Менску выйшла 8-е выданьне „Беларускага правапісу“ Язэпа Лёсіка (нагадаю — ён зь Мікалаеўшчыны, дзядзька Якуба Коласа):

„ПРАВІЛА 26. У родным склоне адзіночнага ліку канчатак а—я маюць іменьнікі мужч. роду, калі азначаюць:

1) прадмет жывы: *сына, брата, кума, свата, гаспадара, пісара, стоража, Язэпа, Васіля, Грыгора, каня, вала, воўка* і *ваўка*...

2) прадмет няжывы, але *непадзельны,* г. зн. такі, часьць якога ня можа назвацца імем цэлага прадмета: *бота, плуга, сярпа, нажа, пня, кошыка*...

3) названьні часьцей цела: *пальца, кіпця, языка, зуба, вуса, локця, носа* і г.д.

4) названьні месяцаў: *месяца кастрычніка, лістапада, сьнежня, студня, мая, траўня*...

5) названьні мер, грошай, танцаў: *сажня, гарца, хунта, пуда, мэтра, літра* і пад.; *граша, рубля, траяка, шэлега, франка, даляра* і пад.; *казака, вальца* і пад.

(…)

Канчатак **у—ю** ў родным склоне адзіночнага ліку маюць іменьнікі мужч. роду, калі яны азначаюць:

1) названьні матэрыялаў і наогул няжывых прадметаў, часьць каторых наз. імем цэлага прадмета: *цукру, тутуну*...

2) разумовыя паняцьці: *розуму, жалю, гневу, сну, часу, клопату, суму, болю, страху, смутку, запалу, поступу, грому, лому, рынку, веку, року, роду, міру, дару, усходу, заходу, ценю, звычаю, пакою*...

3) прадметы зборныя: *люду, натоўпу, народу, лесу, гаю, бору, саду, хвойніку*...

4) іменьнікі чужаземнага пахаджэньня: *факту, акту, дакумэнту, фундамэнту, экзаміну, працэнту, працэсу, курсу, тому, мэталу, ганку, пляцу, маху, гатунку, густу, гумару, кантракту, камісарыяту, інстытуту, унівэрсытэту* і пад.;

5) часам адзін і той-жа іменьнік у родным склоне ўжываецца то з канчаткам **а—я**, то з **у—ю** ў залежнасьці ад таго, што ён абазначае, напр.:

а) калі абазначае *асобны* прадмет з пэўнаю формаю, то будзе канчатак **а—я**: няма (асобнага прадмета) *каменя, гада, зьвера, ліста, папера* (дакуманта, напр.);

6) а калі гэтым-жа іменьнікам абазначаецца нешта зборнае, то будзе канчатак **у—ю**: „няма *каменю*“ (каменьняў, масы); „там *зьверу шмат і* ўсялякага *гаду*“; „назьбіралі *лісту*“; „не хапіла *паперу*“; „ня было *вечару*“ (забавы), але „*чакаў вечара*“ (канец дня);

6) у некаторых словах у родным склоне канчатак а-у ўжываецца аднолькава, з роўным значэньнем, напр.: з *моста* і *з мосту, аўса* і *аўсу, чацьвярга* і *чацьвяргу, дня* і *дню, плота* і *плоту, дома* і *дому, да поўдня* і *да поўдню, з воза* і *з возу* (…)“

Лёсік таксама заўважыў, што ў тапонімах (геаграфічных назвах) бываюць абодва канчаткі. Толькі канчатак **-а (-я)**: з *Барысава, з Кракава, з Магілёва, зь Міра, зь Любліна, з Капыля* і пад. (пазьней Янка Станкевіч зазначыў, што гэта тычыцца ўсіх назваў на **-ў**). Толькі **-у (-ю)**, калі аснова канчаецца на к: зь *Менску, Слуцку, Сма-*

*ленску, Полацку,* а таксама з *Каўказу, Крыму, Эгіпту, Дону, Дунаю, Лёндану, Рыму, Мадрыду.* Урэшце, ёсьць варыянты: *з Гомеля* і *з Гомелю, зь Нясьвіжа* і *зь Нясьвіжу, з Бэрліна* і *з Бэрліну, з Парыжа* і *з Парыжу.*

Як відаць, асноўным канчаткам роднага склону для неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду граматысты клясычнай эпохі бачылі **-у (-ю)**. Ужываньне ж **-а (-я)** абмяжоўвалі ясным пералікам. Гэта невыпадкова.

У старабеларускай мове раньняе пары выбар канчаткаў залежаў ад старажытных гукавых асаблівасьцяў. Тымчасам у жывой народнай мове пашыраўся канчатак **-у (-ю)**. Мовазнаўцы А. Булыка, А. Жураўскі, І. Крамко кажуць, што канчатак **-у (-ю)** неадушаўлёных назоўнікаў (найперш рэчыўных, зборных, абстрактных) запанаваў і ў пісьмовай мове з канца XV — пачатку XVI ст.: *попелу, саду, розуму, абычаю, сораму,* а таксама *сойму, замку, муру, Дамаску, Рыму, Царагораду.*

Пашырэньне **-у (-ю)** — шматвяковы і жывы моўны працэс. Дасьледнікі беларускіх дыялектаў новага часу, зафіксаваўшы формы *заводу, сельсавету, калхозу, Мінску, з млыну,* адзначаюць, што працэс пашырэньня канчатку **-у** за кошт канчатку **-а** ў гаворках працягваецца і цяпер *(Нарысы па беларускай дыялекталогіі, 1964).* Падобныя зьмены зазнавалі і ўкраінскія гаворкі, і польскія. І расейскія таксама, але пра гэта ніжэй.

## Разварот моўных рэк. 1933

Пасьля 1920-х прыходзяць 1930-я. У БССР спыняецца „беларусізацыя“, многія ўдзельнікі яе пазбаўляюцца свабоды і самога жыцьця. Аб’ектам пільнай увагі бальшавікоў становіцца беларуская мова — яе словы, правапіс і нават граматыка. У тым ліку злашчасны родны склон назоўнікаў. Апошні афіцыйны дакумэнт, пісаны ў БССР клясычным правапісам і граматыкай — дзеля таго, каб іх скасаваць:


Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу

ПАСТАНОВА САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР

„…Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх працоўных мас, ствараў штучны бар’ер паміж беларускай і рускай мовамі і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі…

У мэтах рашучага выгнаньня з беларускага правапісу нацыянал-дэмакратычных уплываў і скажэньняў, палягчэньня шырокім працоўным масам вывучэньня беларускай пісьменнасьці, аслабаненьня школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэньні беларускага правапісу, у мэтах далейшага разьвіцьця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкаваньня беларускага правапісу задачам выхаваньня працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму, Савет Народ-

ных Камісараў БССР пастанаўляе ўнесьці ў існуючы правапіс наступныя зьмены: (…)

18. Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку пісаць пераважна з канчаткамі „а“, „я“: завода, цэха, трактара, інстытута, сацыялізма, універсітэта, правапіса, але: жалю, болю, гаю, лесу, краю, цэменту.

(…)

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР
**М. ГАЛАДЗЕД.**
Кіраўнік спраў Савету Народных Камісараў
БССР **С. КАНДЫБОВІЧ.**
26 жніўня 1933 г.“

Гэты пункт зьявіўся нечакана для нешматлікіх мовазнаўцаў, якія шчэ заставаліся на свабодзе. Дыскусіі пра яго раней не было, не было і тэндэнцыі так пісаць і гаварыць. „Правіла“ пашырала ўжываньне канчатку **-а (-я)** радыкальна і да незразумелых межаў, як піша дасьледнік гісторыі беларускага мовазнаўства С. Запрудзкі.

Мовазнаўцы і навуковая грамада Заходняй Беларусі асудзілі рэформу 1933 году ў цэлым. Пашырэньне канчатку **-а (-я)** як прыклад граматычнае русіфікацыі падае Станіслаў Станкевіч („Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу“):

”Яшчэ рэформа 1933 году ўвяла ў беларускую мову некалькі чужых ёй расейскіх марфалягічных асаблівасьцяў, выкінуўшы зь яе адпаведныя ім беларускія асаблівасьці. Гэтак

для бальшыні назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку рэформа ўвяла канчатак -а (*завода, інстытута, сацыялізма*), заміж ужыванага ў беларускай мове канчатку -у (*заводу, інстытуту, сацыялізму*)“.

**А што самі расейцы?**

У расейскіх сталых выразах, у мове, стылізаванай пад народную, канчатак **-у** адпаведнага склону сустракаецца: *„Однажды, в студеную зимнюю пору, Я из лес**у** вышел; был сильный мороз“; час от час**у** не легче; со страх**у*** і г.д. Захавалася гэтая форма пры абазначэньні часткі цэлага: *выпить чаю.*

Сапраўды, расейская народна-дыялектная мова перажывала такі самы працэс пашырэньня канчатку **-у (-ю)** на месцы колішняга **-а (-я)**, што і беларуская ды ўкраінская. Аднак у расейскай літаратурнай мове ён пад уплывам царкоўнаславянскае нормы быў спынены і канчаткова разьвернуты ў процілеглы бок у сярэдзіне XIX стагодзьдзя. (У першай палове стагодзьдзя рэцыдывы былі: *„Но прежним чувствам нет возврат**у**...“* — М. Лермантаў, 1832 год.)

Язэп Юльян Сянкоўскі (Осип Сенковский, псэўданім Барон Брамбэўс) — вядомы расейска- і польскамоўны пісьменьнік, выдавец (часопіс „Библиотека для чтения“), вучоны-ўсходазнаўца. Нарадзіўся ў 1800 годзе пад Вільняй, вучыўся ў Менскім калегіюме і Віленскім унівэрсытэце.

Вось жа Сянкоўскага за „-**у**-каньне“ жорстка высьмейваў вядомы кожнаму савецкаму школьніку рэвалюцыйна-дэмакратычны крытык Бялінскі — „неистовый Виссарион“: *„После этого стиха**а**, о „Библиотеке для чтения“ скорее можно сказать, что она не выдумает порох**у**, нежели, что она не сочинит стих**у**...“* (1841). Крытык „неистово“ вычвараўся ў адрас Сянкоўскага і пазьней: *„И мне кажется, что я уже слышу громкий хохот и бешеного восторг**у**, оттого, что в поэме нет никакого размер**у**, а может и от смешной претензии пыхтящего рецензент**у** преобразовать правописание язык**у**, который чужд ему и которого дух**у** он совсем не знает“* („Литературный разговор, подслушанный в книжной лавке“, 1842).

Недзе выпальвалі канчаткі гарачым словам, недзе — і палымяным словам, і куляй энкавэдзіста.

## „...Прызрак бродзіт па Яўропе, прызрак камунізмА!“

*(З народнай прыпеўкі)*

Пасьля 1933 году навукоўцы, якіх засталося няшмат, спрабавалі спалучыць зададзены кірунак на русіфікацыю граматыкі і моўную рэальнасьць. Ю. Шакаль і М. Жыркевіч у „Граматыцы“ 1938 году захавалі рытуальны выраз „больш пашыраны канчатак **-а, -я**“, але зарэзэрвавалі **-у (-ю)** за рэчыўнымі (*мёд**у***), зборнымі (*лес**у***) і абстрактна-разумовымі паняцьцямі (*друк**у**, уздым**у***).

У 1962 годзе аўтары вялікай акадэмічнай „Граматыкі беларускай мовы“ вымушаныя былі сур'ёзна ўлічыць супраціў беларускага моўнага арганізму нэўралептычнай іньекцыі году 1933. Адпаведны пункт правілаў быў пашыраны наколькі магчыма, але адмовіцца ад **„-а**“-тэндэнцыі не выпадала, дробная дэталізацыя разьдзьмула правіла на тры вялікія старонкі. Згаданыя ў граматыцы *„каля плот**у**“* ў Коласа, *„песьні чутны з палацу“* ў Купалы, *„цыбуля з агароду“* ў Чорнага — гэта ўсё парушэньні „нормы“.

Легендарным стаў наступны пункт:

З канчаткам **-у (-ю)** ужываюцца …абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць: (...)
г) Грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя і навуковыя плыні, навуковыя тэорыі і інш.: *капіталізму, феадалізму, матэрыялізму, дарвінізму*... Выключэнне з гэтай групы складаюць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм*, якія па традыцыі ўжываюцца з канчаткам **-а** (*камунізма, сацыялізма, марксізма, ленінізма*).

Як успамінае мовазнаўца Іван Лепешаў, на ягоныя спробы ў 1978 годзе пераканаць Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук скасаваць недарэчнасьць Міхась Суднік (тагачасны дырэктар Інстытуту — між іншым, як асобнай установы яго няма з 2007 году) адказаў:

„Ня так тут усё проста, як вам здаецца. Вы ж наўрад ці ведаеце, што перш чым пабачылі сьвет новыя „Правілы…“ [правапісу], іх шмат тыдняў разглядалі ў галоўным штабе камуністаў — ЦК, а потым і нас запрасілі туды. Усё высокае начальства было там, усе паказвалі сябе нібыта вялікімі знаўцамі мовы, уносілі папраўкі. Асабліва абурыла некаторых тое, што ў праекце „Правілаў...“ у лік абстрактных назоўнікаў, сярод іншых з суфіксам *-ізм (рэалізм, патрыятызм, феадалізм, дарвінізм)*, трапілі і гэтыя чатыры словы. „Як гэта вы,— саромілі яны нас,— *сацыялізм*, які мы ўжо даўно пабудавалі, які стаў для ўсіх працоўных нашых рэальнасьцю, лічыце нейкай абстракцыяй?! І *камунізм* не абстрактна-разумовае паняцьце, а наша рэальнае, блізкае заўтра! Што, і *ленінізм* для вас абстрактнасьць?!“ Нехта з нас асьмеліўся быў сказаць, што граматыка ў паняцьце „абстрактныя назоўнікі“ ўкладае свой пэўны сэнс, але — дзе там! І слухаць ня хочуць, і рота разявіць не даюць. Так і мусілі ўвесьці ў „Правілы...“ гэтыя чатыры словы як выключэньне — з канчаткам *-а*“.

Невядома, як там было папраўдзе: ці ідэя захаваньня „*камунізм**а***“ зыходзіла ад ЦК, ці ад саміх перастрахоўшчыкаў. Вось так складаліся акадэмічныя нарматыўныя граматыкі савецкай, хай сабе ўжо ня сталінскай, пары.

Знакаміты пэдагог і музэйнік, адраджэнец Алесь Белакоз з Гудзевічаў кажа, што да скасаваньня анэкдатычнага правіла спрычыніліся лісты ягоных вучняў у Акадэмію навук. Маўляў, назвы грамадзкіх фармацыяў, навуковых плыняў і тэорыяў на *-ізм* у родным склоне маюць канчатак **-у**. У той жа час пішацца *камунізм**а*** і *марксізм**а***. Дык ці не вынікае адсюль сумнеў у тым, што камунізм — гэта грамадзкая фармацыя, а марксізм — гэта навуковая плынь?.. Карацей, паводле паданьня, гадаванцы Алеся Мікалаевіча прымусілі менскіх кадыфікатараў ізноў скалануцца ад ідэалягічнага жаху, але як бы „ў другі бок“ (а мо далі аргумэнты насьмеліцца?). У кожным разе, у акадэмічнай „Беларускай граматыцы“ 1985 году найбольш відавочнай недарэчнасьці ў правілах роднага склону ўжо не было.

**Заапарка і заасада**

Але пасьлядоўнасьці ў савецкім варыянце граматыкі пабольшала ненашмат. Прыкладаў мноства: „ніз**у**“, „верх**у**“, але „цэнтр**а**“. Нехта скажа — дык *цэнтар* можа быць дзіцячай творчасьці. У адной сытуацыі — апісваючы, скажам, мапу — *цэнтар* будзем разглядаць у адным шэрагу зь *верхам* і *нізам*. У другой *цэнтар* будзе назвай установы. І г.д. Ці школьнік (аўтар) мае штораз мучыцца, спрабуючы адгадаць, дзе які нюанс значэньня?

Безупынна зьвяртацца да слоўніка дужа клопатна, а галоўнае — гэта можа заблытаць. Шасьцітамовы Тлумачальны слоўнік беларускай мовы

(том 2, 1978 год) патрабуе пісаць *заапарк**у**, заасад**у**,* а Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы (1996 год) — *заапарк**а**, заасад**а**.*

Глядзім слова *парк* — слоўнікі прапаноўваюць разьбірацца ў яго значэньні. Аказваецца, права на канчатак **-у** роднага склону маюць *парк*, які абазначае *‘вялікі сад або пасаджаны гай з алеямі, кветнікамі’,* падобна *парк* як *‘сукупнасць транспартных сродкаў, рухомы састаў, а таксама наогул сукупнасць машын, механізмаў’.* Калі ж *парк* — гэта *‘перасоўны склад для забеспячэння арміі’* ці *‘месца стаянкі і рамонту транспартных сродкаў’* — толькі канчатак **-а**. А што калі на месцы стаянкі і рамонту той рухомы састаў і стаіць? А *парк высокіх тэхналёгіяў* або *тэхнапарк*? а *люнапарк* атракцыёнаў?

Чаму *лесу*, але *сквера*? Скажуць — бо сквэр мае дакладныя межы. Дык і канкрэтны лес іх мае. Як сказаць пра лес у Парыжы, які фактычна парк: ля Булёнскага *лес**у*** ці мо ўжо „*лес**а***“? Чаму *спорт**у***, але *футбол**а***? Чаму *матч**у***, але *тайм**а***? *Абед**у*** і *ранк**у***, але *снядан**ка**, падвячорк**а**, вечар**а***?

Вывучыць правіла? Але нават у найноўшай „Кароткай граматыцы беларускай мовы“ 2007 году ў ім — разам з дадаткамі і выключэньнямі — фактычна **дваццаць чатыры пункты**. І даўжэзны пералік парушэньняў, якіх папусьціліся беларускія пісьменьнікі, а таксама словаў, якія могуць мець ці той, ці гэты канчатак залежна ад значэньня. Напрыклад: *„парашк**а** (лекавае рэчыва пэўнай дазіроўкі ў раздробленым выглядзе) — парашк**у** (раздробленае на дробныя*

*частачкі цвёрдае рэчыва)“; „гардэроб**а** (шафа для адзення; месца ў грамадскім будынку для захоўвання верхняга адзення) — гардэроб**у** (усё адзенне аднаго чалавека)“, „суд**а** (установа) — суд**у** (думка, вывад)“; „пераезд**а** (месца, дзе можна пераехаць цераз што-н.) — пераезд**у** (дзеянне паводле дзеяслова пераехаць — пераязджаць)“* і яшчэ дзясяткі падобных параў. Паспрабуйце ўцяміць розьніцу.

Пятро Жаўняровіч дасьледаваў правіла з гледзішча яго практычнага ўжываньня журналістамі ды зрабіў несуцяшальную выснову: *„...Даволі грувасткае правіла размежавання канчаткаў можна выкарыстаць толькі тады, калі вядома значэнне слова і існуюць навыкі аднясення яго да адпаведнага разраду: бейсбола (гульня), тварагу (рэчыўны), стыку (месца)... і г. д.“* Звычайнаму, безь лінгвістычнай адукацыі, чалавеку гэта не пад сілу. Падсьвядомы ўспамін пра бабуліну вясковую мову, начытанасьць клясычнаю літаратураю не дапамогуць.

Штучнае правіла натуральным чынам парушаюць нават дзяржаўныя мас-мэдыя: *„...стварэнню адметнага асяродк**у** пражывання»; „Бутэлька мандарынавай гарэлкі выпуску 1821 года знойдзена пры правядзенні рэканструкцыі старога будынк**у** ў Шчучыне“* („Звязда“). Шчыра кажучы, сумняюся, што правіла ведаюць нават самі яго стваральнікі.

***

Ня варта чакаць, пакуль афіцыйныя слоўнікі ды граматыкі пераадолеюць інэрцыю 1933 году, перастануць шукаць у Купалы, Гарэцкага і Чорнага парушэньне нормаў і пакінуць выбар канчаткаў на волю моўцы.

Вышэй я даў цытаты клясыкаў нашага мовазнаўства; думаю, Язэп Лёсік можа быць у добрай прыгодзе. А калі сумняваемся — пішам **-у**:

*Спорт**у**, футбол**у**, хаке**ю**. Парк**у*** і *сад**у**, лес**у*** і *гаю. Конкурс**у*** і *фэст**у**, сэмінар**у*** і *ўрок**у**, дэмарш**у*** і *кантракт**у**.*

Часьцей за ўсё не памылімся.

Для некаторых словаў магчымыя варыянты. Іх ня трэба баяцца: граматычныя варыянты — зусім не прыкмета недастатковага ўпарадкаваньня, а прастора, патрэбная мове для жывога разьвіцьця.

## Тату, тату, лезе чорт у хату!

*Спада́ру Івашкевіч, спада́ру Яне!* Клічны склон — умоўна кажучы, сёмы склон назоўніка. Чаму ўмоўна — бо склонаў можна налічыць і болей, чым школьных шэсьць (назоўны, родны, давальны, вінавальны, творны, месны), але пра тое пры іншай нагодзе. У клясычнай беларускай школьнай і навуковай традыцыі (Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Лёсік, Ян Станкевіч і г.д.) сем склонаў.

Юрась Бушлякоў у кнізе „Жывая мова“ паводле праграмаў „Свабоды“ казаў быў пра сучасны патэнцыял клічнага склону, пералічыў асноўныя правілы яго ўтварэньня. Я нешта нагадаю, а нешта і дадам — пра гістарычны, дыялектны і міжмоўны кантэкст.

### Клічны склон і Брутаў штылет

Клічны склон — неад’емны складнік граматыкі клясычных індаэўрапейскіх моваў. Усе ведаюць, як уражаны быў Гай Юліюс Цэзар, пабачыўшы, што сярод ягоных забойцаў шчыруе і *Брут* (у назоўным склоне па-лацінску *Brutus*), блізкі сябра. Паводле легенды, Цэзар выбраў момант паміж штылетавымі ўдарамі й выгукнуў:

*Et tu, Brute?! —*

ужыўшы клічны склон. На беларускую гэты вокліч засмучэньня здрадаю сябра перакладаем таксама з клічным:

*І ты, Бруце?!*

Лацінская і беларуская формы вельмі падобныя, бо абедзьве мовы маюць супольныя старажытныя індаэўрапейскія карані.

Клічны склон як паўнавартасная частка граматыкі назоўніка ёсьць у суседніх украінскай (*пане президенте!*), польскай (*panie prezydencie!*), літоўскай (*pone prezidente!*) мовах, зь якімі нашую мову яднаюць шмат якія рысы.

У беларускай літаратурнай мове гэты склон мае асобнае аблічча ў назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку з асновай на зычны гук (*сват — сваце!, князь — княжа!*). У іншых выпадках клічны формаю супадае з назоўным (*мама! сябры!*).

У старабеларускай мове клічны склон квітнеў: *Пане-лебедзю, ня бі ты мяне! Сыну мілы, едзь да Галілеі!* І пры зьвяртаньні да неадушаўлёных рэчаў таксама: *Сьвяты доме!*

У беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя, мова якой грунтавалася на аснове жывых гаворак, клічны склон зусім натуральны. Прыклад — знакаміты верш, падпісаны Паўлюком Багрымам (гэта 1-я палова XIX ст.):

*Зайграй, зайграй, **хлопча** малы,*
*І ў скрыпачку, і ў цымбалы,*
*А я зайграю ў дуду,*
*Бо ў Крашыне жыць не буду.*

*Бо ў Крашыне пан сярдзіты,*
*Бацька кіямі забіты,*

*Мацi тужыць, сястра плача:*
*“Дзе ж ты пойдзеш,* ***небарача****?“*

*Дзе ж я пайду? Мiлы* ***Божа****!*
*Пайду ў сьвет, у бездарожжа,*
*У ваўкалака абярнуся,*
*З шчасьцем на вас азiрнуся.*
*(...)*
*Ой,* ***кажане, кажане****!*
*Чаму ж ня сеў ты на мяне?*
*Каб я большы не падрос*
*Ды ад бацькавых калёс.*

„Беларускi правапiс“ Язэпа Лёсiка вытрымаў 8 выданьняў i заклаў асновы чуцьця лiтаратурнае мовы для цэлага пакаленьня. Цытую выданьне 8-е, 1929. Наклад 50 тыс. асобнiкаў уражвае.

„5. Клiчны склон.

ПРАВIЛА 30. У значэньнi клiчнага склону часта ўжываецца назоўны склон: Паслухай, *братка*! Годзе маркоцiцца, *хлопцы, дзяўчаты*! Гнiся, *кум,* ня гнiся, а каля кiшэнi павярнiся!

У iменьнях жаночага i нiякага роду клiчны склон заўсёды аднолькавы з назоўным, напр.: *Лiтва,* родная зямелька! Жальцеся, звонкiя *струны*! *О, поле, поле,* хто цябе ўсеяў мёртвымi касьцямi?

Клiчны склон мае свае асобныя канчаткi толькi ў iменьнях мужч. роду.

А) у клічным склоне іменьнікі мужч. роду адзіночнага ліку маюць канчаткі: 1) **у—ю,** 2) **е—а.**

1. Канчатак **у** маюць:

а) іменьнікі з асноваю на **к:** *братку, галубочку, дубочку, коніку, лябедзіку, хлопчыку, чалавечку, сынку, дзядзьку* і інш.

б) іменьнікі з асноваю на зацьвярдзелыя гукі — **ж, ш, ч, р:** *мужу, вужу, пісару, гаспадару, бору, яшчару, Лукашу* і інш.

Канчатак **ю** маюць усе іменьнікі з мяккай асновай (з мяккім зычным перад канчаткам) і з канчаткам **й** (ёт) у назоўным склоне: *коню, прыяцелю, селезьню, кавалю, краю, гаю, гультаю, дабрадзею, пакою, караваю* і інш.

2. а) Канчатак **е** маюць усе іншыя іменьнікі з цьвёрдаю асноваю: *браце, Іване, голубе, дубе, Паўле, родзе, суседзе, Сямёне, саколе, абедзе, гаросе* (і — *гароша*).

б) Але некаторыя іменьнікі заместа **е** (а часам і поплеч з **е**) маюць канчатак **у:** *сыну* (Бачыш, *сыну* мой, як гаруема; бачыш, *сыне* мой, як працуема), *дзеду, духу, тату, люду, дубу* (і — *дубе*), *свату* (і — *сваце*).

в) Калі аснова канчаецца на **-г, к, х, ц,** то гэтыя гукі ў клічным склоне зьмяняюцца на **-ж, ш, ч, і** тады заместа **е** будзе канчатак **а:** *друг — дружа,* луг — *лужа, чалавек — чалавеча,* казак — *казача,* воўк — *воўча,* айцец — *ойча,* хлопец — *хлопча,* купец — купча.

Б) у множным ліку клічны склон ад іменьнікаў мужч. роду мае канчатак **-ове:** *мужове, сватове, людкове, швагрове, братове, сынове* і інш.

**Практыкаваньне 42.** Сьпісаць і клічныя формы падчыркнуць.

*Барысе, Барысе, сам бараніся! Язычa, язычa! ці ліха цябе мыча: ва мне сядзіш, а мне дабра ня зычыш. (...) Станьма, Ясю, начаваць, агонь сіні раскладаць! Ой, воўча, сядзі моўча! На табе, нябожа, што мне ня згожа. Мой мілы пакою, добра мне з табою! Прыступі, гаспадару, да свайго караваю! Люлі, сьпі, мой сынку! Ой, Дунаю, Дунаю! як-жа нам да пазваць цябе? (...) Квіта, пане Мікіта! Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай...*“

У Лёсікавай сыстэматызацыі хіба што формы на *-ове* (*братове*) не зусім клічны склон, а рэшткі старога множнага ліку. (Параўнай „*Браты*! Да шчасьця мы падходзім!“ у нашым нацыянальным гімне „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“.) І лепш — з прыстаўным — *айцец→войча*. А рэшта ня надта страціла актуальнасьці.

### Расейская мова

У расейскай мове стары традыцыйны клічны склон з шэрагу прычынаў зьнік яшчэ ў XVI ст., застаўшыся толькі ў царкоўнаславянскіх формулах і рэдкіх, часьцей зьвязаных з царквою, застылых выразах (*Господи, Боже, отче*). З інэрцыі, а таксама пад уплывам царкоўнаславяншчыны, у расейскіх граматыках да канца XIX ст. з*вательный падеж* апісваўся, але потым зьнік і адтуль.

Быў аспрэчаны сам статус клічнага як склону; расейскія мовазнаўцы сьцьвярджалі, што паколькі такія формы ў сказе ізаляваныя, не зьвязаныя зь іншымі словамі, то і склонам іх лічыць нельга. Але іншыя лінгвісты, не расейскія, падкрэсьліваюць, што клічная форма перадае дачыненьне аб’екту да выказваньня ў цэлым, а значыць, яна ёсьць адным са склонаў.

Патрэба мець адмысловую форму для звароту ў расейскай мове засталася. І там зьявіліся вось такія „новыя клічныя“ формы:

*Вань, Лен, Петь, Вить, Тань, Зинк, мам, пап* і нават *бабушк*.

Уладзімер Высоцкі сьпяваў з пазнавальным вымаўленьнем калісьці заселенай беларусамі маскоўскай Мяшчанскай слабады:

*Ты, Зин, на грубость нарываисси...*

Форма *Зин* і падобныя, магчыма, утварыліся дзякуючы пашыранай у расейскай мове рэдукцыі галосных (гэта калі галосны гук не пад націскам скарачаецца і нават „зьядаецца“: напр., усім вядомае на слых расейскае вымаўленьне [м?лако] „молоко“). Хаця такія формы вядомыя крайняму ўсходу беларускамоўнага абшару, усё ж яны — набытак расейскае мовы на ўсім яе прасьцягу. У беларускай літаратурнай мове ім ня месца.

### Нацдэмаўскае, гэта значыць народнае

Яшчэ ў праекце правапісу Беларускае акадэміі навук 1930 г. клічны склон быў належна апісаны. Але пасьля трагічных для беларускага мовазнаўс-

тва падзеяў пачатку 30-х гадоў і моўнай рэформы 1933 году клічны склон у абавязковых для БССР граматыках паступова маргіналізуюць.

Прыежджы навуковец Цімафей Ломцеў, кіраўнік аўтарскага калектыву акадэмічнай „Беларускай граматыкі“ 1936 г., у прадмове да яе разгромна піша:

„Граматыкі Лёсіка і Багдановіча не маюць нічога агульнага з навуковымі мэтамі і з’яўляюцца нацдэмаўскімі, контррэвалюцыйнымі. Такім чынам, наша граматыка з’яўляецца першай спробай і праграмай далейшага даследавання беларускай літаратурнай мовы“.

Склонаў тут ужо толькі шэсьць. Але, відаць, не выпадала цалкам ігнараваць жывы моўны матэрыял, і клічны склон (пад назваю клічнае формы) усё ж каротка апісваецца: „*Лукашу, гаспадару, Змітру, сынку* і г.д. (…) *чалавек — чалавеча, друг — дружа, Цімох — Цімосе* (…) Падобныя формы клічнага склона даволі пашыраны ў беларускіх дыялектах, што знаходзіць свой адбітак у літаратурнай мове, асабліва мастацкай“. З таго моманту клічнага **склону** ў школьных падручніках Беларускай ССР больш не было, няма і дагэтуль.

Але дыялекталягічныя дасьледаваньні пасьляваеннае пары пацьвярджаюць: клічны склон у гаворках на большай частцы Беларусі жывы.

Тым ня менш і ў пасьляваенных афіцыйных граматыках яго выводзяць па-за межы нормы: „Пад уплывам народных гаворак у мастацкай літаратуры, асабліва першай палавіны XX ста-

годдзя, шырока ўжываліся формы клічнага склону назоўнікаў, якія ў наш час не з’яўляюццца літаратурнай нормай“ (акадэмічная „Граматыка беларускай мовы“ 1962 г.). Але пасьля гэтае камуфляжнае прадмовы аўтары сфармулявалі правіла зь 9 пунктаў, як утвараецца клічны склон розных назоўнікаў, а мы тут падамо спрошчаную таблічку:

| **заканчваецца на:** | **канчатак** | **прыклады** |
|---|---|---|
| цьвёрдыя зычныя, **-ў** | -е | народзе, беларусе, сыне, Вацлаве |
| **-р, -ж,** таксама дзе**д** | -у | званáру, вýжу, дзеду |
| **-ц** | -(ч)а | хлопча, малойча, старча |
| **-к** (-ік, -ык, -ак) | -у | хлопчыку, каханку, паночку |
| **-г, -к**, таксама княз**ь** | -(ж)а, -(ч)а | дружа, чалавеча, воўча, казача; княжа |
| мяккія зычныя | -ю | коню, ягамосьцю, Міхасю, Антосю, гаю, краю, дабрадзею |

Янка Станкевіч у фундамэнтальнай працы „Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік“ (1305 старонак, больш як 60 тыс. артыкулаў, выйшаў у 1990 г. у Нью-Ёрку пасьля сьмерці

аўтара) палічыў прынцыповым даць канчаткі клічнага склону для бальшыні назоўнікаў мужчынскага роду, Напр.: *каўзун* ‘катающийся по льду; ездящий по коленям ребенок’ будзе мець клічны склон *каўзу́не.* І нават неадушаўлёных: *каўнер — каўнеру.* Бо раптам каму спатрэбіцца да таго каўняра зьвярнуцца.

Заўважма, што націск у клічным склоне падае на аснову: *каўнéру, спадáру.*

**Жывое**

У галаве кожнага з нас поўна прыкладаў клічнага склону. Нават тыя, хто ня рос у атачэньні жывой народнай мовы, чулі народныя казкі. Вось „Коцік, пеўнік і лісіца“ (у апрацаваньні А. Якімовіча). Певень жаласна і марна кліча сябра:

*Коце, браце,*
мяне ліска нясе
у высокія горы,
у глыбокія норы,
па барах, па карчах,
аж бярэ мяне страх!

Кожны, нават расейскамоўны, беларус прыпомніць мноства сталых выразаў: *Папаўся, жучку, у панскую ручку*; крылатыя цытаты зь літаратуры, у тым ліку і школьнага рэпэртуару: *Краю мой родны! Як выкляты Богам — Столькі ты зносіш нядолі* (Багдановіч)*;* народныя песьні:

Ой, *дубе* мой, *дубе*,
Кучаравы *дубе*,
Ой, на табе, *дубе*,
Два галубы гудзе…

Дарэчы. Акрамя формы *коню*, ёсьць яшчэ асаблівая, даверлівая, песенная форма звароту да каня —

Ой, *косю* мой, *косю*,
чаму ж ты ня весел,
чаму ж ты, мой *косю*,
галовачку зьвесіў?..

Гэта любімая песьня Ўладзімера Караткевіча, захаваліся і запісы ягонага сьпеву.

**Тату, тату, лезе чорт у хату!**

Што да назоўнікаў жаночага роду, то асобны клічны склон для іх зьбярогся ў Беларусі там, дзе няма поўнага аканьня, г. зн. захоўваецца вымаўленьне **о** не пад націскам: *мам**о**, Вал**ё**, дочк**о**.* Гэта паўднёва-заходняя Беларусь.

У тых гаворках зьвернуцца і да мужчыны: *бацюхн**о**, зяцюхн**о**.* А таксама *тат**у**, дзядзьк**у**, бацьк**у*** (гэта Піншчына, але ня толькі).

Сярод значных пасьляваенных пісьменьнікаў ужываў такія формы ўсходні паляшук Іван Мележ.

„Набраўшы вады, дзяўчына ўжо звыкла намерылася пацягнуць вочап і раптам адумалася, аслабіла рукі. Нахіліўшыся больш над калодзежам, прытрымліваючы рукой вочап, каб не ва-

гаўся, стала глядзець уніз, чакаць, калі вада супакоіцца. Яна хацела, мусіць, паглядзецца ў ваду, але з хаты раптам пачуўся нездаволены крык:

— ***Ганно-о!*** *Дзе ты, нячыстая сіла?!.*

— *Я — зараз!.. Нясу ўжэ!..*“

(Іван Мележ. *Людзі на балоце*)



Дыялекталягічны атляс беларускае мовы. 1963. Клічная форма назоўнікаў жаночага роду.

Пішучы **афіцыйны ліст**, непазьбежна задумваемся, што рабіць, калі звароты нанізваюцца адзін на адзін. Ці ставім у клічным склоне толькі першы назоўнік, ці ўсе? Вось жа абодва варыянты прымальныя, а будучыня пакажа, які пераважыць:

*Спадару дацэнт* ці *Спадару дацэнце*

**Багацьце склонаў**

Клічны склон — не адзіная адметная рыса і сьведчаньне багацьця граматыкі беларускага назоўніка (у параўнаньні з расейскаю моваю). Маем праявы так званага частковага склону, які перадае значэньне ня толькі матэрыяльнай часткі нечага (папіў *вады*), але і часовасьці. *Дай алоўка!* — г. зн. дай на час, вярну. (А *дай алоўак* — назусім, не вярну.) Ёсьць яны і ў жывой мове, і ў клясычнай літаратуры:

П а л а н е я *(да Даміцэлі)*. Я думала, што маю куму і суседку дарэчную. Прыляціць, бывала: пазыч рэшата, пазыч *чапялы*! Усё давала, а яна вунь якія падступкі мне робіць. Мужа роднага адбівае!

Янка Купала. *Прымакі*

І, вядома, у фальклёры:

*Малая ночка Купалінычка —*
*Нашы хлопцы ня выспаліся,*
*За валамі ідуць, хліпаючы,*
*Хвастамі вочы праціраючы.*
*Быцю, быцю, пазыч хваста —*
*Працерці вочы пасля ночы.*

Купальская песьня
Палескі (Крастунова), Лунінецкі р-н

## Паўтара выбарчага бюлетэня. Лічым па-беларуску

Пакрысе адгукаюся на просьбы шаноўных чытачоў. Лічым па-беларуску.

Лічыць трэ кожнаму: зьмесьціва кішэні, цагліны для будоўлі, кілямэтры дарогі (хіба што выбарчыя бюлетэні ў нашай рэальнасьці лічыць неабавязкова). Але паколькі ўсе мы вучыліся лічыць у школе — то прапаную задачу:

*паўтрацяста* +
*паўпятадзясят* +
*паўчварта* = *?*

З досьведу прадказваю шмат варыянтаў адказаў. Але правільны адказ будзе **298,5.**

Адкуль ён узяўся? Для гэтага мусім найперш высьветліць, што азначаюць словы *паўтраця, паўчварта*, *паўпята, паўвасьма, паўдзесята.*

Найпрасьцейшы шлях — вырашыць, што *паўчварта* — гэта палова чацьвёркі, то бок двойка,— шлях памылковы. *Паўчварта* — гэта *першы, другі, трэці і палова ад чацьвертага ліку* пры лічэньні: 3½, тры з паловай!

Так, выкарыстоўваючы адно слова, па-беларуску можна назваць цэлую чараду мяшаных дробаў (г. зн. дробаў з цэлаю часткаю). А пачынае чараду слова *паўтара*, якое паходзіць ад старажытнага спалучэньня *паў* + *утара* (параўн. *уторыць* ‘падпяваць другім голасам’). Такім чынам,

*1½ = паўтара (паўтары), 2½ = паўтраця (паўтраці), 4½ = паўпята (паўпяты).*

Адпаведна *паўпятадзясят* = 4,5 × 10 = 45, а *паўтрацяста* = 2,5 × 100 = 250. Дадамо яшчэ 3½ — і маем вышэйзгаданы адказ.

Зрэшты, лічэбнікі накшталт *паўвасьмаста*, відаць, засталіся ў гісторыі, хоць у старабеларускай мове іх поўна: *Тавары свае прадаваці... лісіцы, норыцы па паўтрацяста* (1580); *Адзін заламы каштаваў паўпятадзясят грошай літоўскіх* (1582), гэта значыць сорак пяць.



Дыялекталягічны атляс беларускай мовы (Менск, 1963). Пашырэньне лічэбнікаў тыпу *паўтраця, паўпята, паўшаста, паўсяма*.

Але што да словаў накшталт *паўтраця* і нават *паўтрыццаця (25)* — яны бытуюць у нашых дыялектах: *Прынёс на плячах паўшаста пуда* (Альхоўка, Наваградзкі р-н). Дасьледніца бела-

рускага лічэбніка Алена Чабярук сьведчыць, што сыстэмна ўжываюцца такія словы на захад ад умоўнай лініі Дрыса — Ушача — Смалявічы — Мар'іна Горка — Бабруйск — Шацілавічы (Сьветлагорск) — Камарын. На ўсход таксама ёсьць, але радзей.

Афіцыйныя слоўнікі савецкае пары фіксуюць такія словы, аднак з абмежавальнаю пазнакаю „размоўнае, устарэлае“. Прыклад з шасьцітамовага Тлумачальнага слоўніка, том 4, 1980:

ПАЎТРАЦЯ, колькасны лічэбнік. Два з палавінай. *Сьвінчо невялікае ды худаватае, так пуда на паўтраця можа.* Крапіва

У слоўніку ёсьць яшчэ „размоўна-ўстарэлае“ *паўчварта* — і ўсё. Але прыклад з мастацкае прозы Кандрата Крапівы можна дапоўніць шматлікімі іншымі — з палітычнае публіцыстыкі XX стагодзьдзя, зь філязофскіх эсэ, дзе няма ніякай стылізацыі „пад старыну“ ці гутарковы стыль.

*За **апошнія паўтраця году** Вільня й Менск — гэтыя два галоўныя цэнтры Беларусі — жылі ў зусім розных варунках — як палітычных, так і агульных... Вільня за час вайны аказалася цэнтрам беларускай культурна-нацыянальнай працы, а Менск — палітычным цэнтрам...*

Гэта пачатак хрэстаматыйнага тэксту Антона Навіны (Антона Луцкевіча) „Два цэнтры“, напісанага ў 1918 годзе. І каб яго правільна зразумець, увайсьці ў кантэкст, трэба ведаць, які гэта пэрыяд — „апошнія паўтраця году“.

І патрыярх Адраджэньня Аляксандар Уласаў ва ўспамінах пра пачаткі „Нашае Нівы“ ўжывае адпаведны лічэбнік зусім натуральна:

*Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы.* ***Паўтраця году*** *мы з Антонам Луцкевічам пісалі ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Моладасьць, нязломная воля і энтузіязм! Трэба было выпрацоўваць літаратурную мову. Пазьней зьявіліся памацнікі. (...) Помню, зайшоў да нас хлапец, з выгляду падобны да клерыка, каторы адразу сеў пісаць сотні адрасоў. Піша дзень, другі, трэці... Прыклеіўся да работы. Пытаюся ў Івана, як яго прозьвішча? Іван кажа: „А чорт яго ведае! — але малайчына“.*

Аналягічныя словаўтваральныя мадэлі ў літоўскай мове — у межах літаратурнае нормы. Іх ведалі, пэўна, і ўсе славянскія мовы. У расейскай яны зьніклі даволі даўно. Ва ўкраінскай і польскай вядомыя, але лічацца састарэлымі ці гутарковымі. Іх шмат у Адама Міцкевіча, які гадаваўся на фоне беларускае мовы:

*Chociaż wody nie było i nawet nie grząsko:*
*Studnia na **półczwarta łokcia**,*
*Za wysokie progi*
*Na lisie nogi.*

(Міцкевіч, байка „Ліс і Казёл“: ліс уваліўся ў студню глыбінёю на паўчварта локця.)

На жаль, перакладнікі не захоўваюць гэтую, несумненна, беларускую дэталь у Міцкевічавай мове:

*Хаця вады няма і нават ня гразка,*
*Але сядзі вось цяпер, калі ласка,—*
*Завысокі парог*
*Для лісіных ног.*

(пераклад Ул. Корбана)

Яшчэ Міцкевіч:

*Sernica w górze miała wszerz **sążni półczwarta**,*
*A u dołu na jednym wielkim słupie wsparta*
*Niby gniazdo bocianie. Stary słup dębowy*
*Pochylił się, bo już był wygnił do połowy...*

(Быліца IX „Пана Тадэвуша“: старую сырніцу Судзьдзі шырынёю *сажня паўчварта* Войскі з Возным у наступных радках абвалілі на *маскалёў*.)

Браніслаў Тарашкевіч у перакладзе „Пана Тадэвуша“ (зробленым у польскай турме) прынамсі захаваў прыблізны памер сырніцы (на паўсажня павялічыўшы):

*Ушыркі так сажні чатыры та сырніца мела*
*уверсе, а ўся на стаўбе на вялізным тырчэла,*
*як бусла гняздо. А той стоўб быў стары, хоць*
*дубовы,*
*ужо пахіліўшыся, выгніўшы аж да паловы...*

А Язэп Семяжон у сваім перакладзе зусім абмінуў фармат згнілае сырніцы, сканцэнтраваўшыся на яе зьнішчальным эфэкце.

***

Трэба правільна ўжываць назоўнікі (назвы прадметаў, якія мы лічым) пры словах *паўтара*, *паўтраця* і падобных. Яны не скланяюцца, толькі мяняецца іхны род: *паўтара мільёна* і *паўтары тысячы* (зручна падбіраць прыклады з жыцьця, калі ўсе мільёнамі апэруюць!), *паўтраця літра* і *паўтраці гадзіны*.

Увага: няправільна ставіць пры слове *паўтара* назоўнік у множным ліку. У ім жа хаваецца дроб „адна цэлая адна другая“. Таму — *паўтара грама*, а ня „грамы“.

***

Ёсьць таксама істотная розьніца ў чытаньні звычайных (праз рысачку між лічнікам і назоўнікам) і дзесятковых дробаў у расейскай і беларускай мовах.

2/5 — гэта *дзьве пятыя*. (А па-расейску будзе канчатак *-ых*.) Чаму так?

Возьмем дзесятковы дроб, напрыклад, 1,3. Гэта адна цэлая тры дзясятыя. Маецца на ўвазе —

і прапускаецца — слова *частка*. Адна цэлая частка і *тры дзясятыя часткі*. Таму і *тры чацьвертыя, чатыры сёмыя*.

***

І яшчэ пра лічэньне. Па-расейску — *два бара́на,* як у вершы Чукоўскага. А ў нас — ***два бараны́, тры дамы́, чатыры гарады́***. У расейскай мове тут форма роднага склону *адзіночнага* ліку, і толькі зь пяці прадметаў пачынаецца множны лік: *пять баранов*. А ў беларускай мове лікі 2, 3, 4 патрабуюць пасьля сябе *назоўнага склону множнага* ліку[1]. Вось жа ***2, 3, 4 камэнтары***, а не „камэнтара“, як памылкова закладзена ў форму зваротнае сувязі аднае з сацыяльных сетак.

Цяжка сказаць, якая розьніца мэнталітэту двух народаў за гэтым можа хавацца, але атрымліваецца, што па-беларуску мноствам лічыцца тое, што большае за адзінку, а па-расейску — большае за пяць. Я вам скажу, што рацыя ў беларускім падыходзе ёсьць. У мяне дома жылі два каты́ — і гэта сапраўды множны лік, яны запаўнялі сабой усю прастору.

[1] Часам зь нюансамі (дзьве дачкі, два сялы). Папраўдзе тут стары парны лік.

## Вышэйшая ліга — яшчэ не найвышэйшая

### або Як параўнаць Віленскі ўнівэрсытэт з Акадэміяй кіраваньня пры прэзыдэнце

У бібліятэцы Радыё Свабода выйшла кніга „Жыцьцё пасьля раку“. У абвестцы — запрашэньні на прэзэнтацыю кнігі быў і такі сказ: *Каханьне* ***мацнейшае*** *за лекі.* Вось жа пагаворым пра спосаб, якім беларуская мова параўноўвае.

Нагадаю: ёсьць дзьве ступені параўнаньня. Вышэйшая ступень — калі нейкі прадмет мае якасьць большую, чымся іншы:

*Белы вечар быў* ***цяплейшы за*** *ўчарашні* (Чорны).

І найвышэйшая ступень — калі нехта або нешта абсалютна перамагае ў параўнаньні з усімі астатнімі сабе падобнымі:

*Тут сьмех і жарты, таўканіна,—*
***Найцікавейшая*** *часіна.*

(Якуб Колас, „Новая зямля“)

Нашыя ступені параўнаньня прыметнікаў істотна розьняцца ад прынятых у расейскай літаратурнай мове: *мацнейшае за* лекі — па-расейску „сильнее лекарств“. Людзі робяць памылкі пад уплывам расейшчыны.

Там **супадае** вышэйшая ступень параўнаньня прыметнікаў (які?) і прыслоўяў (як?).

Михаил ростом (какой?) выше брата,
але таксама скажуць
Михаил стоял (где?) выше брата.

У нас жа прыметнік і прыслоўе ў параўнальнай форме выразна **кантрастуюць**:

*Міхал* (які?) ***вышэйшы за*** *брата.*
Але
*Міхал стаяў* (дзе?) ***вышэй за*** *брата.*

Ня блытайма — гэта істотная памылка.

Тут нехта прыпомніць вывучаную ў школе змрочную баляду Аркадзя Куляшова „Камсамольскі білет“:

*— Вось і білет твой,— сказаў ён ласкава,—*
*І ад яго на вачах у людзей*
*Ты адцурайся; выгодная справа:*
*Жыць застанесься — **жыцьцё даражэй**.*

Памылка. Але выбар Куляшова можа вынікаць ня толькі з патрэбы рыфмы, а і з дыялектнай асновы ягонае мовы. Дыялектолягі сьведчаць, што ў гаворках усходу Беларусі сапраўды часам прыметнікі ў параўнальнай ступені супадаюць з прыслоўямі. У літаратурнай жа мове асноўная форма — *жыцьцё даражэйшае.*

Бальшыня параўнальных формаў утвараюцца суфіксам *-эйш-*. Але ёсьць асаблівыя: *добры — лепшы, вялікі — большы.*

У старабеларускай мове і ў гаворках знойдзем формы *нізкі — ніжшы, багаты — багатшы.*

Моцна агітаваў за іх Янка Станкевіч (спасылаючыся і на Аль-Кітабы беларускіх татараў, пісаныя арабскім пісьмом: *цнатліўшыя, шчасьліўшае*), але яны так і не вярнулі сабе ключавой пазыцыі ў літаратурнай мове.

Калі адным словам перадаць параўнаньне цяжка, ужываюць дапаможнае слова *больш*: *больш цывілізаваныя за суседзяў.*

Па-беларуску з вышэйшаю ступеньню прыметніка часьцей за ўсё ўжываецца прыназоўнік *за*:

*Добры сабака* ***лепшы за*** *ліхога чалавека.*

Гэта народная мова. Знойдзем прыклады і ў старой кніжнай мове, прыкладам, у Сымона Буднага:

*...Абы есь Богу* ***за жанівыя прыемнейшы*** *быў* (пра бясшлюбнасьць сьвятароў і манахаў).

Але можа быць і прыназоўнік *ад*:

*Мне ся відзіць, як ест* ***лепшыі злота ад срэбра****, так* ***лепшая*** *таго віцязя пані* ***ад нашае кралёвае*** („Трышчан і Іжота“, старабеларуская вэрсія).

*Ой, кажане, кажане!*
*Чаму ж ня сеў ты на мяне?*
*Каб я* ***большы*** *не падрос*
*Ды* ***ад*** *бацькавых калёс.*

(Паўлюк Багрым)

А таксама *над:*

*Не пазычай чалавеку мацнейшаму над цябе!* — дае нам мудрую інструкцыю Ф. Скарына (Кніга Ісуса Сірахава). І яшчэ Скарына: *Хлеб сакрыты*

*смачнейшы* (гэта ён рыхтуе суайчыньнікаў да бальшавіцкіх прадразьвёрстак).

Можна ўжыць і слова *чым*, а таксама *чымся*:

*Трэба прыдумваць нешта другое, больш дасканалае, чымся звычайны напад* (М. Лынькоў пра крэатыў партызанаў).

А калі ўзьнімаемся да **найвышэйшай** ступені параўнаньня, то часьцей проста далучаем да формы **вышэйшай** ступені прыстаўку **най-**: *найбольшы, найсьвятлейшы*.

Паэты дазваляюць сабе формы на *-ш-*, якія пачынаюць гучаць высокастылёва:

*Так будзе ён царам прыроды,*
*Сам* ***найдасканальшага*** *роду,*
*І будзе цар гэты навек*
*Названьне насіць — чалавек.*

(Янка Купала. „Адвечная песьня“)

*Ён вочы узьняў да блакітных палёў,*
*Ён вочы узьняў да* ***найсіньшых*** *нябёс.*

(Уладзімер Дубоўка. „Кругі“)

Але на гэтай ступені нас падпільноўвае яшчэ адна пастка граматычнай русыфікацыі.

У расейскай мове найвышэйшая ступень утвараецца са знаёмым нам суфіксам -ейш- (у беларускай мове ён пазначае вышэйшую ступень)

ды часьцей за ўсё без прыстаўкі: „пусть победит сильнейший“.

Да таго ж там супадаюць вышэйшая і найвышэйшая ступені параўнаньня некаторых прыметнікаў:

„ЛУ́ЧШИЙ, лучшая, лучшее.

**1.** сравн. к *хороший*. Дело принимает лучший, чем я ожидал, оборот. Все к лучшему. Ничего лучшего я и не желал.

**2.** превосх. к *хороший*; наилучший. Лучший из всех. Лучший сорт. В лучшем случае“.

(Д. Ушаков. *Большой толковый словарь современного русского языка*)

Беларуская ж мова мае асобныя граматычныя сродкі для кожнага значэньня:

***лепшы*** (за некага), але
***найлепшы*** (г. зн. сярод усіх)

Гэтаксама —

*найлепшыя пачуцьці, найразумнейшы чалавек, найсьвяцейшы сынод. Не зрабіў нават найменшага ўражаньня. Хай пераможа наймацнейшы! Найбуйнейшая археалягічная знаходка.*

У біялёгіі — *найпрасьцейшыя* (або аднаклеткавыя).

Калі адным словам перадаць найвышэйшую ступень не выпадае, у прыгодзе будзе дапаможнае слова *самы* або і *сама*: *самы неабыякавы, сама дакладны*; *найбольш*: *найбольш істотны.*

Пад уплывам расейскай граматыкі надта пашырылася памылка, калі словы *лепшы, вышэйшы* ўжываюцца замест *найлепшы, найвышэйшы*. Вось жа ў спаборніцтве ці конкурсе пераможца — *найспрытнейшы, найхутчэйшы, найразумнейшы, найхітрэйшы*. Агулам кажучы — *найлепшы*. Вось Таварыства беларускай школы назвала свой прыз правільна: *Кубак Найлепшага Настаўніка*. А ня проста „лепшага“. Бо тады трэба было б дадаваць — *лепшага за ўсіх*.

Усе спартовыя лігі, дывізіёны, якія на самым версе ярархіі, а таксама максымальныя балы ў спорце і адукацыі — *найвышэйшыя*. *Прайшлі ў найвышэйшую лігу, атрымала найвышэйшую адзнаку, найвышэйшы пілятаж*. Калі беларуская футбольная ліга проста „вышэйшая“, значыць, над ёю ёсьць яшчэ нейкая ліга — ці не эўразійскай супольнасьці? — западозрым малаабазнаных у беларускай мове футбольных чыноўнікаў.

Мовазнаўца праф. Павел Сьцяцко слушна крытыкуе моўны шаблён у прагнозе надвор'я: „у бліжэйшыя суткі“. „Бліжэйшыя“ павінны быць за нейкія іншыя, а тут відавочна ідзецца пра *найбліжэйшыя* ці *наступныя* (а слова „суткі“, якое мае ў гаворках зусім іншае значэньне, можна замяніць на *содні,* ці наагул прасьцей сказаць „заўтра“).

Калі-нікалі намагаюцца „перакласьці“ з расейскай тамтэйшыя прыметнікі на -ейш-, якія страцілі значэньне параўнаньня, беларускімі параўнальнымі формамі. Напрыклад, сказ „В озере чистейшая вода“, гэта значыць ‘вельмі чыстая’,

нельга перакладаць са словам „чысьцейшая“. Па-беларуску скажам *чысьцюткая вада*.

### Самая высокая школа

Некаторыя колішнія параўнальныя формы „застылі“ і страцілі параўнаўчую ролю: *старэйшы прапаршчык* і *малодшы лейтэнант*.

Ёсьць немалое гняздо тэрмінаў на *-эйш-*, зьвязаных з адукацыяй: *вышэйшая адукацыя, вышэйшая школа, вышэйшая навучальная ўстанова*. Сапраўды, школа *вышэйшая* за якую, а ці ёсьць над ёй *яшчэ вышэйшая* (можа гэта „Акадэмія кіраваньня пры прэзыдэнце“?) — задаецца пытаньнем беларуская моўная лёгіка.

Граматычная праблема, агульная для многіх эўрапейскіх моваў, тут вырасла з лацінскай мовы — маці эўрапейскай адукацыі. *Educatio superior* — гэта адукацыя трэцяй ступені ў сярэднявеччы, а слова *superior* — гістарычна параўнальная ступень, азначае ‘вышэйшы за нешта’. Вось жа новыя эўрапейскія мовы перанялі з лаціны гэтую назву ступені адукацыі ў параўнальнай форме (анг. *higher education***,** ням. *höhere Bildung*).

Але ў лаціне тое слова ўжывалася і без параўнаньня — проста як ‘высокі’ ці ‘верхні’. Як *labium superius* — верхняя губа. Выраз *Schola Superior* перадаецца як ‘высокая школа’ — *high school, Hochschule* (пры ўсёй розьніцы сучасных сыстэмаў адукацыі ў розных краінах). Падобны тэрмін замацавалі сэрбы, харваты (*висока школа, visoka naobrazba*), чэхі й славакі (*vysoká škola*).

І ва ўкраінскай цяпер два стандарты — кіеўскі (*вища школа*) і львоўскі (*висока школа*). Можа і нам варта падумаць пра большую лёгіку ў называньні цэлай вялікай адукацыйнай галіны. Сказанае датычыць і „вышэйшай матэматыкі“.

***

Дарэчы, ёсьць такое аднакаранёвае, але страшнае жаргоннае савецкае слова *вышка* — ад „высшая мера наказания“, „высшая мера социальной защиты“. То бок сьмяротная кара. Дык так і трэба казаць.

****

Але закончым аптымістычна — „Майскай песьняй“ з „Народнага альбому“ (верш Міхала Анемпадыстава):

*Раз-два-тры, раз-два-тры,*
*Ein-zwei-drei!*
*Адгуляе і пойдзе Май,*
*Не сказаўшы нікому „бывай“,*
*Хай ідзе, ты яго не трымай,*
*Веры дай і ўсё будзе „най“ —*
*Найпрыгажэйшым,*
*Найвесялейшым,*
*Найразумнейшым,*
*Найлепшым у сьвеце.*
*Най-най. Най-най-най.*
*Най-най-най. Най-най-най-най.*

## Каралёвая Бона, ейны муж і Пітагорава тэарэма

Беларуская мова — за прыватную ўласнасьць на ўсё

Вось беларускі сказ:

*Папрасі яго забраць рэчы — і ягоныя, і братавыя.*

Усё зразумела.

Але ў паслоўным перакладзе на расейскую яснасьць затуманьваецца:

„Попроси его забрать вещи — и его, и брата“.

Прыналежнаму займеньніку (чый?) *ягоны* адпаведніка ў расейскай мове няма. У клясычнай беларускай моўнай традыцыі прыналежныя займеньнікі ўтвараюць цэласную сыстэму. Акрамя звычайных для кожнае мовы

*я, ты — мой, твой; мы, вы — наш, ваш,*

ёсьць

*ён — ягоны*

*яна — ейны*

*яны — іхны*

(або *іхні*)

*усе — усіхны*

(можна яшчэ нагадаць і пра ветлівае *Вашаць — Вашэцеў, Вашэцін*).

Звычайна, калі аналягічных словаў у расейскай няма ці не засталося, то беларускія слоўнікі

і граматыкі савецкай традыцыі іх або не падаюць зусім, або стылёва абмяжоўваюць.

Вось і шасьцітамовы Тлумачальны слоўнік запісвае прыналежныя займеньнікі 3-й асобы ў „размоўныя“. Але прыклады падае паэтычныя або нэўтральныя, прычым ад аўтарытэтных творцаў:

**Ейны**. Размоўнае. Тое, што і *яе* (у 2 знач.). *Струны на скрыпачцы — яшчэ ня ўсё, каб можна было ад* ***ейных*** *песень аж плакаць.* (Віктар Карамазаў)

**Ягоны**. Размоўнае. Тое, што і *яго* (у 2 знач.). *Зеленюка ўжо не было. У* ***ягоным*** *пакоі непрыкметна кінулася ў вочы халоднае бязладзьдзе.* (Міхась Зарэцкі)

Слова ж **іхны**, таксама нібыта „абласное“, Тлумачальны слоўнік пад рэдакцыяй К. Крапівы ілюструе прыкладам з самога Крапівы, а акадэмічная граматыка — прыкладам са Зьмітрака Бядулі:

*Вабяць вочы, нібы ўспаміны,*
*Цэлы сьвет іграе ў* ***іхным*** *зьзяньні...*

Затое ў несавецкім „Ангельска-беларускім слоўніку“ Валянтыны Пашкевіч (2006) ангельскія their, her, his нармальна перадаюцца як *іхны, ейны, ягоны/яго* (плюс варыянт значэньня ‘свой’).

Беларуская мова ведае яшчэ займеньнік *наскі* — з дадатковым адценьнем свойскасьці, роднасьці. *Ён наскі чалавек.*

Адрозна ад расейскага „нашенский“, слова *наскі* пасуе і нэўтральным выказваньням, і ўзьнёслай паэтычнай мове. У 70-я гады яго запісалі ва „ўстарэлыя“, але Генадзь Бураўкін без сумневу і адэкватна яго ўжывае:

*У кіраўнічых суровых прамовах*
*Бэсьціцца зноў беларуская мова:*
*Быццам бы* ***наскія*** *словы ня здатны*
*Выказаць талент і розум выдатны.*

(1995)

„Нарысы па беларускай дыялекталогіі“ (1964, мапа 21) ужываньне *ягоны, ейны* адносяць да параўнальна невялікай тэрыторыі — Віцебскай і поўначы Менскай абласьцей. Але ёсьць запісы і з Жыдомлі Горадзенскага раёну (*ягоны*, „Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці“ Т. Сьцяшковіч, 1972), і зь Пяшчаткі Камянецкага раёну (*ейны,* беластоцкі „Czasopis“). Словы *ейны* і *ягоны* ваўсю ўжываў у п’есах Андрэй Макаёнак, а ён паўднёва-ўсходніх — рагачоўскіх — каранёў. Відавочна, словы агульнабеларускія.

Часта слова, якое ў беларускай мове нэўтральнае, фактычна нарматыўнае, у расейскай лічыцца „прастамоўным“. Так і з словам „ихний“ (з народна-дыялектнай мовы): яго фіксуюць слоўнікі расейскай літаратурнай мовы (напр., Ушакова) менавіта як прастамоўнае. На жаль, у савецкі час абмежавальныя пазнакі з расейскіх слоўнікаў мэханічна перапісвалі ўкладальнікі слоўнікаў беларускіх.

У нас жа суіснуюць *іхны* ды *іхні*. У Тарашкевічавай „Беларускай граматыцы для школ“ толькі *іх**ны***. І Тарашкевіч як пісьменьнік пасьлядоўна ужываў менавіта гэтую форму, якая ўтварае сыстэму зь *яго**ны*** і *ей**ны***.

**Каралёвая Бона ў Каралёвым Стане**

Значэньне прыналежнасьці маюць і адказваюць на пытаньне „чый“ шматлікія прыметнікі. Тэарэтычна іх можна ўтварыць амаль ад кожнага назоўніка (найперш, вядома, ад імёнаў і назваў асобы, але ня толькі!). *Сынаў* заплечнік*, бацькава* воля*, Васілёва* калекцыя. Коласавы „*Міхасёвы прыгоды“, „Рыбакова хата“, „Нёманаў дар“ у* расейскіх перакладах называюцца „Приключения Михася“, „Дом рыбака“ і „Дар Немана“.

Ад словаў мужчынскага роду прыналежныя прыметнікі ўтвараюцца з *-оў, -аў, -ёў, -еў*.

Калі ровары належаць *хлопцам* Алесю і Жэню — гэта *Алесеў і Жэнеў* ровары.

*Алесін і Жэнін* ровары будуць у *дзяўчат* Алесі і Жэні.

“~~Пецін, Колін, Мішын~~“ па-беларуску быць ня можа, бо *-ін/-ын* сьведчыць пра жаночы род уладальніцы!

Адпаведна *Скарынавы(я)* старадрукі. А слова *скарынаўскі* абазначае нешта шырэйшае, чым прыналежнасьць: *скарынаўская традыцыя* (не скарынінская!), *Скарынаўскі праспэкт* (калі да гэтага зноў дойдзем у Менску).

Прыналежныя прыметнікі ў беларускай мове ўсюдыісныя. Напрыклад, у назвах ступеняў сваяцтва для жанчын: *братавая, дзядзіна*. У сталых выразах: *чортава племя*. У фальклёры: казка „*Зайкава хатка*“. У тым ліку ў калядных і шчадроўскіх песьнях:

***Бацькава*** *дачка, ясна панначка.* ***Хрыстова*** *раджэньне людзям на збаўленьне.*

*Ямін-яміна, узьвесяліся, дружына /* ***Хрыстовая****!* („Ямін-яміна“ ў выкананьні Зьмітра Вайцюшкевіча)

А ў караля жонка — чыя? *Каралёвая*! Падобна як *братавая, сынавая*. Кароль і ягоная каралёвая:

*У Вільні ўмёрла* ***каралёвая*** *маладая, каралёвая Альжбета* (Кроніка, 1580).

***Каралёвая*** *пачала крычаці* (беларуская вэрсія рыцарскага раману „Трышчан і Іжота“).

У продкаў жаночыя найменьньні паводле бацькі й мужа грунтоўныя, утвараліся разнастайна, ня толькі прыналежнымі прыметнікамі, і выглядалі не раўнуючы раскошныя кара́лі:

*Таміла Стафанаўна Лускіянка Іванавая Грыгоравіча Гутаравая судзіная былая кгродзкая Віцебская*

(г. зн. Таміла, дачка Стафана Лускіяна, жонка Івана Грыгоравіча Гутара, судзьдзі былога ґродзкага Віцебскага).

У старабеларускай мове з *-ін/-ын* маглі ўтварацца формы ад найменьняў мужчынскага роду, таму *судзіная*. Сёньня скажам *судзьдзёвая*.

Чараўніца *Раіна **Грамычына**-Манькоўская*, што жыла ў Ятры на Наваградчыне, відочна, была жонкай Грамыкі. Яна быццам бы навяла ўрок на Яна Сапегу, за што была ў 1631 г. спаленая.

Калі ў складзе тапоніма прыналежны прыметнік, ён „чытаецца“ больш вобразна. ***Каралёў*** *Стан* — не цароў! Каторы наш кароль стаяў станам пад Менскам? Дарэчы, былы амбасадар Злучаных Штатаў Джордж Крол, што сам выдатна вывучыў беларускую мову і ўсім у амбасадзе загадаў, назваў быў сваю рэзыдэнцыю ***Кролава*** *Хата*.

Нямала назваў паселішчаў на *-оў, -аў, -яў* утварыліся менавіта як прыналежныя прыметнікі. Чый горад, дом, хутар, шляхоцкі засьценак? *Тураў. Крычаў. Скрыгалаў* (ля *Петрыкова*; паводле Ластоўскага, там беларускі Стоўнгэндж — каменнае сьвяцілішча Сонцу). *Янаў* (ад якога цяпер засталася толькі назва чыгуначнай станцыі *Янаў-Палескі*, а горад перайменавалі на расейскі лад ў „Іванава“).

Для пісьменьнікаў-клясыкаў гэтая катэгорыя прыметнікаў была незаменная. Янка Купала шчодра адорваў імі таксама неадушаўлёныя прадметы: *палацавы вокны, ветравы песьні, скрыпчыны струны, Дняпровы хвалі;* нават *самалётава крыльле, дзяды кастрычнікавы*. Утвараў і ад формаў ніякага роду: *сэрцавы струны*. А ў Дубоўкі — *Сонцава дачка*.

Пятро Глебка адзначыўся тым, што прыналежныя прыметнікі ўтвараў ад ідэалягічна правільных словаў: *дні камунізмавы, саўгасавы палі*. Зрэшты, сама ідэя прыналежнасьці штохвілінна спараджае пачуцьцё прыватнай уласнасьці ды пярэчыць Глебкавым канструктам (а можа ён такім чынам ратаваў прыналежныя прыметнікі ад палітычных рэпрэсіяў?). У кожным разе чым больш у мове прыналежных — займеньнікаў, прыметнікаў — тым цяжэй яе носьбітаў ізноў зацягнуць у чарговы калгас.

Прыналежнасьць знойдзем у мянушках, народных імёнах па бацьку — чый хлопец? — *Андрэеў*, і па маці — *Алесін* у Алесі, *Лявонішын* у Лявоніхі, *Андрусішын* у Андрусіхі (адсюль украінскае прозьвішча Андрусышын, утворанае паводле тых самых прынцыпаў). Так, тут чарганьне: замест **к, х, г** зьяўляюцца шыпячыя гукі **ч, ш, ж**. Аленка — *Аленчына* радасьць. *Матчын* дар. *Веранічын* сын. *Ядвіжсын* пасаг. *Вольжсына* войска (калі пра княгіню).

**Беларускі эксклюзіў**

Ці ёсьць такія формы ў суседзяў? Можна ўспомніць перададзеныя па-расейску антычныя *Авгиевы конюшни, Прокрустово ложе*. У расейскай гутарковай мове і ў дыялектах прыналежныя прыметнікі на *-ов* яшчэ здараюцца, але рэдка: *дедов дом* (хутчэй скажуць „дедовский“, але гэтае слова мае значэньне шырэйшае, чым прыналежнасьць).

Прыналежныя на *-ин* (*сестрин, дядин, Колин*) — у расейскай гутарковай мове. Ад асабовых назоўнікаў на *-а (-я)*, што абазначаюць прафэсіі ці род заняткаў (проводница, повариха, судья, бродяга), не ўтвараюцца.

У выніку там узьнікла праблема „нанізваньня“ назоўнікаў роднага склону са значэньнем прыналежнасьці: „*Дом племянника жены кучера брата доктора*“. У беларускай мове заўсёды можна „разбавіць“ такі ланцужок прыналежным прыметнікам: *доктаравага брата*, *братавага фурмана, фурманавай жонкі*.

Чаму так сталася? Славуты расейскі лінгвіст Віктар Вінаградаў яшчэ ў 1940-я гады задумваўся:

Суфікс *-ов, -ев,* …які перадае прыналежнасьць адной пэўнай (…) істоце, у кніжных стылях літаратурнай мовы згасае. Ён выцясьняецца родным склонам назоўніка, які перадае як адзінкавую, так і калектыўную прыналежнасьць. Нязручнасьць прыналежных на *-ов* палягае на тым, што яны паказваюць на прыналежнасьць толькі адзінкавай асобе і ня могуць пазначаць множнага ўладальніка.

(Виноградов В. В. Русский язык. Грамматическое учение о слове. Москва, 1947)

Паводле Вінаградава, прыналежныя прыметнікі на *-ов* у расейскай мове адышлі, бо могуць абазначаць прыналежнасьць толькі адной асобе

(істоце), а мноству — ня могуць. Мовазнаўца меў на ўвазе, што мова імкнецца да ўніфікацыі: *дом кузнеца — дом (нескольких) кузнецов.* Але ж у беларускай мове аналягічныя прыналежныя прыметнікі (прынамсі да эпохі русыфікацыі) зусім не „згасалі“, а наадварот, пашыраліся. Больш істотна, што ў расейскай мове суфікс -ов/-ев аказаўся „заняты“ прозьвішчамі. І ад такіх прозьвішчаў ужо ня ўтворыш пасэсываў. *Иван — Иванов дом.* Але *(Пётр) Иванов — дом (Петра) Иванова.*

(А можа ў развагах Вінаградава ў 1930-я — 40-я гады меў значэньне ідэалягічны фон — калектыўнае важнейшае за індывідуальнае?)

Вінаградаў нагадвае, што суфікс *-ов, -ев* замацаваўся ў расейскіх прозьвішчах, а таксама выступае ў непрыналежных прыметніках на -ов-ый (*крокодиловый*). Пры замене *отцов* на *отцовский* прыметнік пачынае перадаваць і якасьць: *отцовское отношение.*

Беларускія ж прыметнікі выразна адрозьніваюць прыналежнасьць (паходжаньне) ад іншых характарыстык: *зайцаў хлеб,* але *заечае мяса, заечая душа* (па-расейску ўсё гэта будзе „заячий, заячье, заячья“).

***

Наагул ёсьць спакуса патлумачыць розныя шляхі суседніх моваў мэнталітэтам: непапраўнаму індывідуалісту беларусу абазначаць у мове прыватную прыналежнасьць жыцьцёва важна, а чальцу расейскай „абшчыны“ — неабавязкова.

Як пісаў абуджаны А. Герцэн, расейскі селянін пазбаўлены прыватнаўласьніцкіх інстынктаў.

Аднак прыналежных прыметнікаў і займеньнікаў (3-й асобы, аналягічных *ягоны, іхны*) зусім няма ў літоўскай мове (хаця літоўцы ня меншыя за беларусаў прыватныя ўласьнікі). Далей ад нас — у чэскай і славацкай, у харвацкай, сэрбскай — прыналежныя прыметнікі ўжываюцца шырока. Прыналежныя займеньнікі 3-й асобы ёсьць у сэрбалужыцкіх мовах, але няма ў літаратурнай украінскай.

І ў польскай літаратурнай мове гэта хіба што прыкмета так званай „пальшчызны крэсовай“ — польскай мовы жыхароў Беларусі, Літвы, Латгаліі. Знакаміты міжваенны аўтар польскамоўных дэтэктываў пра заходнебеларускіх кантрабандыстаў Сяргей Пясэцкі ўстаўляў словы накшталт „ейны“ для мясцовага калярыту.

*Otóż pewnego razu* ***„jejny“*** *mąż zechciał zrobić hecę i do trzydziestu jaj, które ona wbijała na patelnię, dodał jeszcze trzydzieści. Baba przyszła, usmażyła jajecznicę i zabrała się do żarcia. Ledwie potrafiła wszystko wetknąć.*

[*Вось жа аднаго разу* ***„ейны“*** *муж вырашыў пазабавіцца і да трыццаці яек, якія яна ўбівала на патэльню, дадаў яшчэ трыццаць. Баба прыйшла, засмажыла яечню і ўзялася жэрці. Ледзьве здолела ўсё ўвапхнуць.*]

(С. Пясэцкі. Каханак Вялікай Мядзьведзіцы)

Такіх словаў няма нават у ня менш тутэйшага Адама Міцкевіча. Пачатак „Пана Тадэвуша“

(5—8 радкі) у перакладзе Браніслава Тарашкевіча:

*Паненка, што Ясну бароніш Гару Чанстаховы*
*І сьвеціш у Вострай у Браме, што горад замковы*
*Бароніш Наваградзкі зь верным* ***ягоным*** *жа людам!*

Параўнайма Міцкевічаў арыгінал:

*Panno Święta, co jasnej bronisz Częstochowy*
*I w Ostrej świecisz Bramie! Ty, co gród zamkowy*
*Nowogródzki ochraniasz z* ***jego*** *wiernym ludem!*

І прыналежных прыметнікаў ад імёнаў Міцкевіч практычна не ўжывае. З быліцы 4-й:

***Koń Tadeusza*** *w stajni czekał osiodłany...*

Пераклад Браніслава Тарашкевіча:

***Тадэевы конь*** *жа у стайні чакаў асядланы...*

Карацей, прыналежныя прыметнікі, як і займеньнікі, выразна адрозьніваюць нашу мову ад усіх суседзкіх.

## На Пракруставым ложку ў Пітагоравых нагавіцах

Традыцыю называць паселішча паводле першапасяленца ці ўласьніка перанесьлі на новаадкрытыя землі й моры, называючы іх імем адкрывальніка ці ў гонар выдатнай асобы.

Такія назвы ў расейскай геаграфічнай тэрміналёгіі ня маюць сыстэмнасьці:

Баренцево, Берингово, Тасманово море, Баффинов залив, Гудзонов пролив, але море Бофорта, остров Врангеля, залив Амундсена, бассейн Фокса.

Недарэчна пераносіць гэтую словаўтваральную блытаніну да нас. Адпаведна духу й традыцыям беларускае мовы павінна быць

*Бафортава, Росава, Дзюрвілева* мора,

*Амундсэнава* затока,

*Урангелеў* востраў (ці выспа).

Дарэчы, пра выспы. У Ціхім акіяне *Велікодная выспа*, ня „Пасхі“.

Падобна ў тэхнічных і навуковых тэрмінах ад імёнаў адкрывальнікаў. І зноў жа па-расейску —

Евклидово і Фарадеево пространство, Ньютонова жидкость, жартоўныя „Пифагоровы штаны“, але теорема Евклида, теорема Пифагора, законы Ньютона.

Па-беларуску сыстэмнасьць лёгка забясьпечваецца:

як *Эўклідава прастора* —

так і *Пітагорава тэарэма*,

*Ґаўсава тэарэма,*

*Ньютанавы(я) законы,*

*Омаў закон,*

*Тэйлараў шэраг,*

*Габлава схема,*

*Эдысанава лямпа.*

(Але, натуральна, *лямпачка Ільліча* — куды ж мы безь яго. Савецкія прапагандызмы пакідаем нязьменнымі.)

Часам такіх формаў не дазваляе граматыка: *табліца Мендзялеева,ківач/вагальнік Фуко.* І падвойнае аўтарства: *закон Джоўля—Ленца.*

Па-польску моцны шторм — *10 w skali Beauforta*. Як памятаюць людзі майго пакаленьня, знакаміты гіт сьпявалі калісь Кшыштаф Кленчан і „Тры кароны“, потым песьню перанялі „Чэрвонэ гітары“. А ў нас будзе *Бафортава шкала*. (Beaufort — хоць і брытанскі контра-адмірал, але з старога францускага роду, і часта зьберагаюць у ягоным прозьвішчы францускі націск — на апошні склад.) Таму песьню лёгка не перакладзеш на беларускую, трэба пісаць іншую.

## Пад чым гетман Астроскі перамог 80000 маскавітаў?*

Хаця юбілейная дата 8 верасьня 2014 году мінула, але пяцісотгадовы юбілей перамогі нашых продкаў не забываецца. Ізноў паўстае пытаньне пра назву гораду, пад якім адбылася пераможная бітва:

ПАД ОРШАЙ ці ПАД ВОРШАЙ?

Адказ зьвязаны з важнымі законамі беларускай фанэтыкі, з адчуваньнем мілагучнасьці па-беларуску.

„Другое месца беларускай паводле мілагучнасьці пасьля італьянскай“, ды яшчэ нібыта паводле нейкіх дасьледзінаў ААН,— на жаль, толькі прыгожая байка, якая цешыць нашае самалюбства. Няма і ня можа быць унівэрсальных крытэраў мілагучнасьці для розных моваў сьвету. Недзе ёсьць музычны тон або націск, як у кітайскай, ці грэцкай, ці літоўскай. Недзе амаль адныя галосныя, як у ціхаакіянскіх мовах (выспа *Eiao* ў Францускай Палінэзіі), а недзе суцэльныя зычныя, як у мовах чаркесаў, якіх на месцы цяперашняга Сочы нішчыла Расейская імпэрыя: *ххъкІбкъвылкІ* або забароненай у Расеі абазінскай лацінкай *xqk'bq'wəlk'* ‘тры дзежкі пад сьмятану’ па-абазінску. І кожнаму мілыя гукі ягонае мовы.

Беларуская мова прыблізна пасярэдзіне. Слова *мілагучнасьць*, магчыма, прыдумаў Вацлаў Ластоўскі, але першае рацыянальнае азначэньне яму даў тонкі, чуйны да слова паэт — Уладзімер Дубоўка. Ён браўся за мовазнаўства — кранаў і лексыку, і стылістыку, і нават графіку: ствараў літары. Друкаваў сваё ў часопісе „Ўзвышша“, які рэдагаваў. Дубоўкавы мовазнаўчыя працы, вельмі паэтычныя, пасьля ягонага арышту ў 1930 годзе замоўчваліся, адкрыліся яны шырокаму чытачу толькі напярэдадні развалу СССР.

Трэба адзначыць (...), што найбольш мілагучныя мовы сьвету (італьянская і ўкраінская) маюць тую асаблівасьць, што бадай заўсёды ў словах, сказах спатыкаецца роўная колькасьць галосных і зычных (1:1).
...Беларуская мова збольшага набліжаецца паводле чаргаваньня галосных і зычных гукаў да згаданых моваў (1:1,2; 1:1,3), але ўсё ж поўнай раўнавагі не дасягае. На дапамогу прыходзяць асабліва музычныя гукі (падвойныя мяккія зычныя, а такжа д’з’; ц’; л’; н’ і г.д.), якія, спатыкаючыся ў вялікай колькасьці, надзвычайна ўзбагачаюць гукавую кампазыцыю. На фоне гучаньня гэтых мяккіх цьвярдыя вылучаюцца ў якасьці акампануючых, што ў агуле і дазваляе дасягнуць найвялікшай мэлядыйнасьці.

(„Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы“. Узвышша, 1927, № 4)

І далей Дубоўка тлумачыць, якая зьява парушае „мэлядыйнасьць“. Гэта зьбегі падобных:

*...У нашай мове, як і ў іншых, часта-густа спатыкаецца зьбег галосных і зычных гукаў, чым парушаецца мілагучнасьць. Першы выпадак ...умовімся азначаць беларускім словам **жось**, другі выпадак ...умовімся азначаць словам **турэц**.*

Гэтыя ёмістыя словы Дубоўка ўзяў з мовы дзьвінскіх плытагонаў, запісанай паводле корніка (старэйшага плытагона) Пятра Рудака зь Дзісны:

*„**Жось** — ...прыцішаная плынь вады па пяшчаным і ўсыпаным каменьнем дне. **Турэц** — прысьпешаная плынь вады, сьцісьненая з двох бакоў каменнымі стромкімі лехамі“.*

Словы ня штучныя, я праверыў. *Жось* — мае варыянт *жэсь* ‘камяністая мель’, віцебскае. „Этымалягічны слоўнік беларускай мовы“ ўзводзіць слова да таго ж кораню, што і *жарства* ‘буйны пясок з каменьчыкамі’, але, на маю думку, тут бліжэйшы балцкі корань, напр., літ. *žiezdra* ‘жвір, шчэбень’.

*Турэц* — больш празрыстае слова, параўнайма *турыць* ‘хутка ехаць, бегчы’. Іван Насовіч лічыў слова гукаперайманьнем — ад грукату колаў пры хуткай язьдзе. Адсюль жа *турок* — цацка ваўчок; прыклад з Насовіча: „*Мяне туды-сюды ганяюць, як турка́*“.

Каб гісторыя Беларусі ў XX стагодзьзі пайшла інакш, хто ведае, мо гэтыя словы — *жось*

і *турэц* — прыняліся б як тэрміны беларускага мовазнаўства.

Далей Уладзімер Дубоўка апісвае некалькі спосабаў, якімі беларуская мова ўнікае такіх зьбегаў, вяртае сабе плаўнасьць зьмены зычных і галосных.

## В+О+РША

Вернемся да *Оршы/Воршы*, каб пабачыць спосабы дасягненьня мілагучнасьці, якіх у гэтым слове ажно два.

У найстарэйшых тэкстах (напр., у Іпатаўскім летапісе) была РЪША. Этымолягі бачаць у ім корань *р(ъ)ш*, параўн. *Ірша* — рака на Валыні. Знакаміты літоўскі мовазнаўца Казімерас Буґа (зь якім пагаджаўся мэтар славянскай этымалёгіі Макс Фасмэр) углядаў тут адзін корань са словамі *русло* і *rusėti* ‘цекчы’ (літоўск.). Стары кароткі галосны, які абазначаўся літарай **ъ**, зьнік, і атрымаўся цяжкавымоўны пачатны зьбег двух зычных **рш-**.

Значыць, **о-** тут прыстаўны галосны гук, які палягчае вымаўленьне двух пачатных зычных, разбаўляе іхны зьбег — ***турэц*** па-дубоўкаўску.

Яўхім Карскі ў „Беларусах“ („Мова беларускага народу“, вып. 1, 1903) узнаўляе эвалюцыю імя гораду:

Першапачаткова націск, верагодна, быў на канцы і толькі пры злучэньні з прыназоўнікамі націск ставіўся на *ó*: кó Ръши [параўн.: нá Ръши...], а

затым з разьвіцьцём галоснага перад *р* паводле аналёгіі падобных выпадкаў націск назаўсёды заставаўся на *о*.

З *ко Ръши* атрымалася *к Орши*. Карскі таксама прыводзіць аналёгіі з прыстаўным **о-** (→**а-**) зь беларускіх гаворак: *аржаны*, *аржа* (і *іржа*), *амшара*, *Амцiслаў*.

Іншую пераканаўчую этымалёгію назвы гораду (але не супярэчную вышэйзгаданай) дае вядомы беларускі тапаніміст Іван Яшкін. У сваіх родных мясьцінах на Прапойшчыне (цяперашні Слаўгарадзкі р-н) ён зафіксаваў словы *аршá* і *аршáвіна* ‘балота з камякамі жалезнай руды; гразь, што ніколі не перасыхае, зь плёнкай вокісу жалеза паверх’.

У кожным разе, атрымалася *Орша*. Слова з пачатным губным галосным **о-**.

Але і такія словы у беларускай мове зазналі далейшае „ўмілагучненьне“. Пачатныя галосныя, найперш **[о]**, **[у]**, прыкрываліся пэўным зычным. Асабліва ж лёгка гэта адбывалася пасьля прыназоўніка **у**, калі ўтвараўся зьбег галосных, ***жось*** па-дубоўкаўску:

**у оку* → **у[w]оку* (устаўны губны паўгалосны гук) → у ***воку***.

Дакладна гэтаксама — *у **Воршы***. Сказаць „у Оршы“ па-беларуску ненатуральна, трэба выломваць язык. Адсюль і пайшла **Ворша** — ва ўсіх склонах і словазлучэньнях.

## Ворша, але ня Вош

Беларускі гук [**в**] часта розьніцца ад расейскага, ён плаўнейшы, санорны, бо вымаўляецца дзьвюма вуснамі, а расейскі — толькі шумны, губна-зубны. Таму беларускі гук лёгка пераходзіць у „паўгалосны“ **ў**, і „рыса гэтая кідаецца ў вочы нярускім назіральнікам“, кажа Яўхім Карскі. Далучэньне **в-** да словаў з пачатнымі **о-, у-** стала правілам для ўласнабеларускай лексыкі: *вобмаль*, *Восіп*, *Вольга*, *Вуляна*, *вох*, *вой* (выклічнік).

Таму ў беларускай мове зусім мала словаў, якія пачынаюцца на **о-** (у параўнаньні з расейскаю ці польскаю). Наагул частотнасьць літары **о** ў нас меншая, і на добры лад месца **о** ў беларускім раскладзе клявіятуры мела б быць збоку (а вось **э** — бліжэй да сярэдзіны, чым у расейскім).

Параўнальна недалёка ад Воршы гнязьдзіцца назва *Обаль*: рака, прыток Дзьвіны; возера ў Гарадоцкім р-не; мястэчка („гарадзкі пасёлак“) у Шумілінскім раёне на р. Обаль; вёскі ў Гарадоцкім і Сеньненскім раёнах.

Знаўца тапонімаў Валянціна Лемцюгова тлумачыць іхную этымалёгію празрыста: „Паселішча, заснаванае на обельнай (вобельнай) зямлі, г. зн. набытай на правах абсалютнай уласнасьці. Ад старажытнага слова **обел (вобел**) ‘у поўную ўласнасьць’“.

Я б, аднак, дадаў, прынамсі што да назвы ракі. Гідронімы, як правіла, больш старажытныя за назвы паселішчаў. Вельмі шмат балцкіх назваў рэк з падобнымі каранямі; зьвязаныя яны ці не

зь яблыняй — *obelis* (літ.) — ня гэтак істотна. У кожным разе мусіць стаць асноўнай форма ***Вобаль***.

Асобна мушу сказаць пра раку, прыток Бярэзіны (Усходняй), назва якой фіксуецца ў афіцыйных даведніках у двух варыянтах: *Ольса* і *Вольса*. Іван Яшкін узводзіць яе да народнага слова *вольс* ‘нізінны альховы лес’ (бывае і *алёс*). Ёсьць аднакаранёвыя — возера *Волься* ў Пастаўскім р-не. Думаю, для тых, хто ўжывае гэтую назву, важна ведаць: беларускай фанэтыцы адпавядае толькі *Вольса*. А ўжывае яе і ансамбль „Стары (В)Ольса“, які выконвае твор паводле матываў старых песень „Слава Воршы ўжо нязгорша!“

Пачатнае **О-** (а ня **Во-**) — часта індыкатар небеларускасьці назвы. *Ош* мы не перарабляем у „Вош“, *Омск* у „Вомск“.

Але ў некаторых рэгіёнах Беларусі з прычыны ці то асаблівасьцяў гаворак, ці то іншамоўных уплываў пачатковы **о-** магчымы (поўнач Беларусі, Заходняе Палесьсе — г. зн. не асноўны масіў).

Укладальнікі шасьцітамовага даведніка „Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь“ на чале з Валянцінай Лемцюговай паспрабавалі разьвесьці, паклясыфікаваць беларускія тапонімы на **О-** і **Во-** (і аналягічна на **У-** ці **Ву-**):

у залежнасьці ад мясцовага вымаўленьня пісаць *Водруб* ці *Отруб*, *Востраў* ці *Остраў*;

назвы зь цьмянай этымалёгіяй пісаць бяз **В-** (*Олтуш*, *Ордань*, *Урведзь*, *Устронь*, *Уць*);

назвы рэк неславянскага паходжаньня пісаць бяз **В-** (*Олксна*, *Опса*, *Ужа*, *Узда*, *Ула*, *Уса*, *Усяжа*, *Уша*);

і толькі ў геаграфічных назвах славянскага паходжаньня пісаць прыстаўны **В-** (*Вобчае*, *Восава*, *Воступ*).

Крытэры, на жаль, размытыя. Напрыклад, ці „славянскі“ балтызм *вольс*, якому ў мове нашых продкаў многія сотні гадоў?

Але ў кожным разе *Ворша* трапляе хутчэй у чацьвертую групу, а значыць, мае пісацца з **В-**.

Зь іншага боку, нават у прозьвішчах ня ўсе беларусы маюць прыстаўное **В-** перад **О-**: *Орда*, *Орса*, магнаты *Осьцікавічы*. Але ці добра мы робім, калі айца ўкраінскага канстытуцыяналізму Піліпа *Орліка* (1672—1742), народжанага ў Касуце пад Вялейкай, не называем *Ворлікам*? Пагатоў ёсьць дыялектнае (віц.) слова *ворлік у* значэньні ‘званочак’, ёсьць *ворлікі* (Aquilegia) — кветкі сям. казяльцовых (расейскімі адпаведнікамі розныя аўтары называюць „колокольчики“, „водосбор“, „голубки“, „орлики“), бывае і такая мянушка каня.

Паводле школьнага правіла, прыстаўны **в-** „прыкрывае“ пачатны галосны **о-** пад націскам, а калі ён пераходзіць у **а-**, то не „прыкрывае“. Таму — *вокны*, *возера*, але *акно*, *азёры*. Праўда, жывая мова гэтаму правілу супрацівіцца, яно непасьлядоўнае (*вочы* — *вачэй*). Бо інакш як *у[в]азёрах* ня скажаш. У кожным разе, перад **а-** правіла ня жорсткае. Таму *Ворша*, але ўсё ж *аршанскі*.

**Белорусский зверь ожик**

Расейцы чуюць гэтыя нашыя прыстаўныя/устаўныя, але спрабуюць іх адкідваць, калі перадаюць па-свойму нашыя ўласныя найменьні. Назвы ракі *Вольша* (або Сухадроўка, прыток Лучосы) і возера *Вольшыца* (у Бярэзінскім запаведніку) па-расейску перадаюць „Ольша“ і „Ольшица“. Хаця варта захоўваць у любой мове арыгінальную беларускую форму. Гэтага ня робіцца, і ў выніку ўзьнікаюць экзатычныя назвы накшталт „Ожики“ (гэта нашыя свойскія і сымпатычныя *Вожыкі*, вёска ля Радашкавічаў).

Некалі на маіх моўных курсах бываў чалавек з прозьвішчам, якое па-расейску пісалася *Вариоцкий* (прашу ў яго прабачэньня, што прыводжу прыклад, але ж важна для іншых). Калі фармальна, паводле фанэтычных правілаў, перадаць такое напісаньне па-беларуску, атрымліваецца *Варыёцкі*. Этымалёгія прозьвішча зацямняецца канчаткова. Але ў Беларусі пашыраныя прозьвішчы *Варывода*, *Варыводзкі*, з празрыстым паходжаньнем, утвораныя ад старадаўняй мянушкі. Відавочна, расейскія чыноўнікі некалі прынялі гук [в] у сярэдзіне слова за ўстаўны (накшталт *Иларион — Ларывон*) і выкінулі яго.

Дарэчы, у беларускай мове такія грэцкія з паходжаньня імёны, як *Лявон, Радзівон, Ларывон,* асвоіліся вельмі даўно і таму вымаўляюцца й пішуцца з устаўным **-в-** (не „Радыён“, гэта памылка).

І вымавіць слова „наогул“ адпаведна яго напісаньню няма як. Або зьяўляецца ўстаўны гук

**в** — [навогул] — або ссоўваецца націск, атрымліваецца *наагу́л,* прычым [аа] сьцягваецца ў адзін гук.

---

* Правільны адказ: гетман Астроскі перамог пад харугвамі з Пагоняй.

## Чаму па-беларуску немагчыма сказаць „нерв“ і „Лукомль”

Заплаціце аркестры, каб болей ня йграла…
або
Як змагацца са зьбегамі зычных

Нагадаю: мілагучнасьць беларускае мовы — ня толькі паэтычная гіпэрбала, а навукова сфармуляваная моўная зьява: чаргаваць зычныя з галоснымі, унікаць цяжкіх для вымаўленьня зьбегаў зычных і зьбегаў галосных. У савецкім мовазнаўстве пасьля арышту тэарэтыка мілагучнасьці Ўладзімера Дубоўкі тэма доўга замоўчвалася, у афіцыйным правапісе праявы мілагучнасьці перадаюцца непасьлядоўна.

Усе ведаюць верш Алеся Ставера „Жураўлі на Палесьсе ляцяць“ з дыскусійнай, на маю думку, філязофіяй: каб любіць Беларусь нашу мілую, абавязкова трэба ў розных краях пабываць. Маўляў, інакш Радзіму не ацэніш. Але да верша. Ён таленавіта пакладзены на музыку Ігарам Лучанком, шмат хто гэтую песьню сьпявае.

Робім тэксталягічнае дасьледаваньне. Спачатку паслухайма ўважліва другі радок другога куплету ў выкананьні гурта „Сябры“ і Анатоля Ярмоленкі:

*Што ім тыя пагоды паўднёвыя,*
*Што ім зелень платанаў і айв,—*

выводзіць сьпявак усьлед за паэтам, які экзотыку асацыяваў з плятанам і пладом айва.

Цяпер слухайма клясычных „Песьняроў“:

*Што ім пышны платанавы рай,*

— падаюць яны іншую вэрсію.

І ўрэшце той самы радок сьпявае Данчык (Багдан Андрусышын) і выпраўляе жураўлёў яшчэ далей — у *бананавы рай*. Тут ужо няма ніякіх сумневаў у экзатычнасьці іхнага выраю (давялося правяраць: сапраўды, нашыя жураўлі ў Паўночнай Афрыцы й на Блізкім Усходзе могуць бачыць завезеныя туды бананавыя дрэвы).

Вось жа „Песьняры“ не імправізавалі з тэкстам. Яго зь цягам часу зьмяніў сам аўтар. Магчыма, учуў у песьні на свой верш, як ненатуральна гучыць у слове *айв* зьбег зычных **[й]** і **[в]**.

Беларуская мова імкнецца нязручныя зьбегі зычных, асабліва ў канцы слова ці склада, разбаўляць галоснымі. Так і хочацца сказаць ці то „аяў“ — але тады слова зусім цьмянае, ці то „айваў“ — будзе правільна, але ж рассыпаецца паэтычны радок. То Ставер памяняў радок цалкам. Стаіць *пышны платанавы рай* — зусім бяз айваў.

Пагатоў можна знайсьці іншую беларускую назву гэтага плада — не цюркізм *айва*, а даўні агульнаславянскі грэцызм *ґдуля* (як у Вацлава Ластоўскага); назва гатунку грушы *дуля* — таго самага паходжаньня.

**Апошняя рэзэрва маіх нэрваў**

Прычына супраціву мовы тут і ў тым, што ў канцы слова апынуўся гук **[в]**. Беларускі гук **[в]** розьніцца ад расейскага, ён плаўнейшы, санорны (санорныя гукі можна цягнуць і яны не аглушаюцца), бо ў многіх пазыцыях вымаўляецца дзьвюма вуснамі, а расейскі — толькі шумны, губна-зубны. „Рыса гэтая кідаецца ў вочы нярускім назіральнікам“,— казаў Яўхім Карскі.

Таму беларускі **[в]** лёгка пераходзіць у „паўгалосны“ **[ў]**: *раве — роў.* А расейскі шумны зычны [в] аглушаецца ў [ф]: корова — коров, вымаўляецца [кароф]. Па-расейску скажуць [платанаф и айф], [нерф], [резерф]. Нездарма клясыкі нашай лексыкаграфіі Сьцяпан Некрашэвіч і Мікола Байкоў у вялікім „Расійска-беларускім слоўніку“ 1928 году замацавалі формы назоўнага склону *нэрва*, *рэзэрва* (зрэшты, абодва словы ў звычайнай мове часьцей бываюць у множным ліку: *нэрвы, рэзэрвы*). Дадам: як *кансэрвавы завод* — не „кансерўны“ — так і *рэзэрвовыя магутнасьці*, і нават *драйва на рэйвавай вечарыне.*

Калі канцавы зьбег зычных заканчваецца на іншы санорны гук — **[р], [м], [л], [н]** — у вымаўленьні таксама зьяўляецца галосны гук або паміж зычнымі, або пасьля.

Некрашэвіч і Байкоў усьлед за народным вымаўленьнем далі назву зьвера ў двух варыянтах: *тыгар* і *тыгра*.

Васіль Вітка, пісаная пасьля 2-й Усясьветнай вайны дзіцячая паэма „Вавёрчына гора“. Бусел знаходзіць для каваля жалеза:

*А праз гадзіну ўжо бусел*
*Вярнуўся:*
*— Так і так.*
*Ляжыць у канаве „**тыгра**“ —*
*Нямецкі танк.*
*Пайшоў каваль*
*З прыладамі, —*
*Чоран воран, —*
*Паставіў кавадла,*
*Распаліў **горан**,*
*Скінуў кажух,*
*Надзеў хвартух,*
*Узяў абцугі,*
*Прайшоў раз-другі.*
*Жалеза не відаць —*
*Гара іржы.*

Такая гістарычная памяць. Дарэчы, відаць, яшчэ доўга немагчыма будзе надаваць новай ваеннай тэхніцы назвы ад Вэрмахту. Прынамсі, у Беларусі. У Расеі ж без згрызотаў сумленьня „Тыграмі“ называюць вайсковыя панцырныя аўтамабілі.

### Што дазволена Юпітэру — не дазволена пюпітру *(С. Сокалаў-Воюш)*

Народныя словы *горан* (печ), *дзёран*, *сябар* і *сябра*, даўно асвоеныя імёны накшталт *Зьміцер, Францішак, Пётра* й *Пятро* і вымаўляюцца, і пішуцца з устаўнымі ці далучанымі галоснымі і ў савецкім правапісе. Але ж папраўдзе ў вымаўленьні (а ў клясычным правапісе — і на пісьме)

устаўныя галосныя пашыраныя значна больш. Напрыклад, *аркестар*, а ў дыялектным вымаўленьні — *аркестра*, што добра ведае горадзенскі сьпявак і актор Віктар Шалкевіч:

***Заплаціце аркестры,*** *каб болей ня йграла,*
*Хай штось вып'юць, закусяць, хай адно*
*раўненьне направа...*

(„Ганка, дзеўка з Пагулянкі“)

Імя *А-ля-ксан-дар* мае чатыры выразныя склады. (Сказаць „Александриванч“ і нават „Алексанванч“ можна толькі па-расейску, бо там галосныя рэдукуюцца аж да зьнікненьня.) Таксама *тэатар, цэнтар, літар, мэтар, пюпітар, майстар* (і *майстра*).

Але: *да* ***тэатру*** *сто* ***мэтраў****, сёньня там п'еса „Пан* ***Міністар****“ Францішка Аляхновіча:* устаўны галосны пры зьмене слова прападае.

***Увага:*** словы *катэр, лідэр, Юпітэр* зьбегаў зычных гістарычна ня мелі, пры скланеньні **„э“** ў іх не выпадае, а таму і зьберагаецца ў клясычным правапісе.

Дзеля мілагучнасьці ды зручнага вымаўленьня не абсякаецца канчатак роднага склону множнага ліку ў словах накшталт *нормаў, формаў, сарнаў, выдраў.*

**Электрастанцыя — Навалукамская**

Старадаўнія назвы, у канцы якіх некалі быў зьбег „зычны + **ль**“, цяпер маюць устаўныя галос-

ныя або іншыя зьмены дзеля мілагучнасьці: *Амсьціслаў*, *Браслаў*, *Заслаўе*, *Рослаў*, *Бягомель* (і *Бегамля,* і *Бегам'е*), *Хотамель і Хотамле*, *Відамля*, *Супрасьля*, *Лукам'е*.

Прыметнікі ад іх таксама бязь зьбегаў: *лукамскі*, *рослаўскі*, *бегамскі*, *Супраскі* манастыр (хаця пішуць і *Супрасьлеўскі*).

Таксама цэлая чарада назваў гарадоў, што ўтварыліся ад імёнаў рэк, па-беларуску ў назоўным склоне вымаўляецца (а ў тарашкевіцы і пішацца) з устаўным галосным **„а“** дзеля зручнасьці й мілагучнасьці: *Полацак*, *Слуцак*, *Клецак*, *Друцак*. Але: у *Полацку*, *у Слуцку*.

***

У расейскай літаратурнай мове падобныя ўстаўныя галосныя не дазваляюцца ані на пісьме, ані ў вымаўленьні. Хаця ў тамтэйшых гаворках і ў гутарковай мове яны ёсьць. Таму ахоўнікі чысьціні расейскай мовы з гэтых жывых рысаў кпяць:

*Весь мир — театор,*
*а ты в нем негор,*
*допивай свой литор,*
*замеряй свой метор.*

(Іван Сальнікаў)

Расейскія мовазнаўцы (напр., Д. Ермаловіч) патрабуюць вымаўляць слова *джентльмен* у два склады, хаця расейскія літаратары клясычнае пары чулі ў ім тры склады: „*...Царь Александр Первый / Настал ему взамен, / В нем слабы были*

*нервы, / Но был он джентльмен“* (А. К. Талстой).

Тут, дарэчы, і імя *Александр* у чатыры склады. Затое пракруставаму ўзору адпавядае нейкая Людміла Скабрёзная (а не Талстой):

*Фигура — класс, большого роста,*
*одетый стильно, как джентльмен.*
*Ну я поправила причёску,*
*зашла... Тьфу, пакость! Манекен!!!*

У арыгінале, у ангельскай, гэтае слова трохскладовае (**l** там утварае склад). І мы вымаўляем гэтае пазычаньне з ангельскай у тры склады, а ў клясычным правапісе так і пішам: *джэнтэльмэн*.

## Панславіст назваў беларускі гук „брыдкім“. Як яму адказаць?

Пра „асабліва мяккія“ зычныя ў беларускай мове

У беларускай мове, як і ў многіх іншых, ёсьць цьвёрдыя і мяккія зычныя гукі: **[н]** у слове *кон* і ***нь*** **[н’]** у слове *ко**нь***.

Але чатыры мяккія зычныя — **[с’]**, **[з’]**, а таксама **[ц’]**, **[дз’]** — ня проста мяккія. Нават нem спрактыкаванае вуха чуе: яны *асабліва мяккія*, „прыцемненага“ тэмбру.

Гэтая асаблівасьць уражвала іншаземцаў, а навукоўцаў вымушала доўга падбіраць словы й тэрміны, каб яе апісаць. На жаль, у школе на гэтую адметнасьць нашае фанэтыкі не зьвяртаюць увагі. Між тым,

*“...**[с’], [з’]** уяўляюць сабой адну з самых яркіх рыс фанетычнага ладу беларускай мовы“,*

— пісалі фанэтысты Аляксандар Падлужны і Віктар Чэкман у першай у нашым мовазнаўстве манаграфіі, заснаванай на лябараторных дасьледзінах (*„Гукі беларускай мовы“,* 1973).

У некаторых даведніках такую мяккасьць пазначаюць падвойным значком:

**[с”], [з”], [ц”], [дз”]**

Як жа гучаць „асабліва мяккія“ гукі? Акрамя дыялектных запісаў, трэба паслухаць клясыкаў. Янка Купала — ня толькі носьбіт віленска-маладэчанскіх гаворак (асновы сучаснае літаратурнае мовы), але і адзін са стваральнікаў апошняе. На

жаль, засталося вельмі мала запісаў, дзе ён сам чытае свае вершы. Верш „Песьня будаўніцтву“ напісаны ў 1931 годзе, ужо зь цяжкім адбіткам бальшавіцкага ціску (хаця, як заўсёды ў Купалы, ёсьць і прыхаванае другое дно). Безадносна да зьместу, фрагмэнты гэтага аўдыязапісу[1] трэ будзе ўключыць у будучую фонахрэстаматыю „Беларускае літаратурнае вымаўленьне вуснамі клясыкаў“.

*Прыйдзе новы — а мудры — гісторык,*
*А ён прыйдзе — ужо ён ідзе —*
*І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак*
*І да зорак аб нашых прасторах,*
*Аб падзеях, людзях павядзе...*

*Прый**дз**е, і**дз**е, **дз**іўны, **зь**нішчаючы, **сь**мела…* Купалавыя **[дз”], [з”], [с”]** узорныя: не сьвісьцячыя, як расейскія, але і не сярэднеязычныя шыпячыя, як польскія.

Спрабуючы апісаць характэрны тэмбр, казалі пра „шапляватасьць“ гэтых гукаў: перш нейкі ананімны аўтар, якога цытавалі яшчэ Восіп Бадзянскі ды Яўхім Карскі, а потым згаданыя А. Падлужны і В. Чэкман.

Слова Яўхіму Карскаму:

Интересно свидетельство об этой черте в одном смоленском говоре… в Собрании Бодянского: „шепелеватый звук (средний между *с* и *ш*) имеем

[1] http://adverbum.org/node/290, доступ 13.12.2015.

только перед (…) мягкими (…): *сёлета, сяннi, ёсь, святэй, свiтаiць, валосся*“.

(Е.Ф. Карский. Белоруссы. Том II. Варшава, 1908. С. 457)

Думаю, нiхто зь iх не ўкладаў у тое слова прынiжальнага сэнсу, хаця фанэтыст Пётра Садоўскi лiчыць, што адмоўнае адценьне ў iм ёсьць.

Зрэшты, задоўга да Карскага вакол гэтых беларускiх гукаў разгарэўся мiжнародны скандал. Быў такi высокаадукаваны вучоны, харват з паходжаньня Юрай Крыжанiч, што бачыў шанец да паяднаньня славянаў пад бэрлам маскоўскага цара. З iдэямi стварэньня адзiнай славянскай мовы i пераадоленьня веравызнаўчага падзелу праехаў праз розныя славянскiя краiны, у тым лiку Беларусь, i дабраўся да Масквы, дзе яго ўрэшце, як водзiцца, палiчылi гэрэтыкам i саслалi ў Сыбiр. Не ўратаваў нават складзены для цара плян заваёвы Крыму.

Пiсаў Крыжанiч iм жа штучна створанаю „агульнаславянскаю“ моваю. У працы „*Објасньенје виводно о писмѣ словѣнскомъ*“ (напiсаная ў Табольску, выйшла ў 1666 г.) ён апiсаў беларускае вымаўленьне гукаў **[дз”], [ц”]**. Замест

Бу́дет, Хо́дит, Ва́дит, и такови́хже; гово́рят, Бу́дзjечь, Хо́дзичь, Ва́дзичь: jли Бу́дзjець, Хо́дзиць, Ва́дзиць: и тако́во бра́дко о́дурно изгова́рање, чаjу́т би́ти не́ токмо праведно и подли́нно, него jеще то́нко, ла́годно, и двора́нско. Вса́кому чу́ш свое ла́по. J вса́кiй терго́вец сво́й това́р хва́лит.

(С. 42 перавыданьня 1891 г.)

Вось такая навукова ўзважаная ацэнка: „*бри́дко о́дурно изгова̂ранје*“ — ‘брыдкае агіднае вымаўленьне’ беларускіх мяккіх гукаў **[ц”], [дз”]**. Так вырашыў Юрай Крыжаніч, першы ідэоляг панславізму. Хаця самі „беларусцы“, паводле мовазнаўцы, лічаць такое вымаўленьне „ня толькі правільным і сапраўдным, але яшчэ і тонкім, лагодным і шляхотным“.

Наагул беларускія моўныя рысы Крыжаніч часьцей за ўсё называў „мерзкімі“ ды лічыў іх вынікам моўнага зьмешваньня. Іронія ў тым, што акурат мова, на якой ён гэта пісаў, была ім створаная шляхам штучнага спалучэньня пераважна старaславянскіх, расейскіх і сэрбскіх моўных рысаў. І, відавочна, у прапанаванай Крыжанічам расейскаму цару „агульнаславянскай мове“ не было месца беларушчыне.

Годна адказаць ваяўнічаму панславісту на абразу беларускае мовы мог бы ўсьлед за фальклярыстам М. Фэдэроўскім акадэмік Яўхім Карскі (з выкарыстаньнем асабліва мяккага **[с”]** з эмацыйным падаўжэньнем):

> Особь статья усиленное *с* при произношеніи съ особымъ чувствомъ, въ возбужденномъ состояніи (бранное — ныс-сяру̑ Матер. Б. № 18 Вит., nassierrù wam Федер. II, 95 Волк.). Знали ли усиленное с старинныя западнорусскія произведенія, сказать трудно, хотя попадаются такія написанія, гдѣ стоитъ два свистящихъ вмѣсто одного, каковые случаи можно объяс-

(Я. Карскі. Згаданая праца. С. 456. Цытуе „Материалы для изучения бел. говоров“ (Віцебшчына) і „Lud białoruski na Rusi Litewskiej“ Фэдэроўскага (ваколіцы Ваўкавыска)

У кожным разе Крыжаніч пакінуў нам важнае сьведчаньне: і ў XVII стагодзьдзі беларусы вымаўлялі гэтыя гукі адметна. **Такіх няма ні ў воднай суседзкай мове.**

Скажам, мяккія гукі польскай літаратурнай мовы [ś], [ź], [ć], [dź] — са значна большым „шыпячым“ кампанэнтам.

(Зрэшты, у тутэйшай polszczyźnie kresowej — „пальшчызьне крэсовай“ — у словах dziwny або świat адпаведныя гукі вымаўляюцца дакладна як беларускія; можна не сумнявацца, што і Адам Міцкевіч іх так вымаўляў).

Бадай што найбліжэйшыя да беларускіх будуць адпаведныя японскія мяккія гукі, як у кулінарным слове 寿司 — гучыць на беларускае вуха як *сусі* (а ня „сушы“!). Таксама *Тосіба* — не „Ташыба“, *Кунасірі-то* і г.д. (Кунасіры, г.зн. Кунашыр).

## Роля языка ў мове

Адпаведныя расейскія мяккія [с’], [з’], як і цьвёрдыя, утвараюцца кончыкам языка, які набліжаецца да зубоў. Яны паводле фанэтычнай клясыфікацыі і ёсьць зубныя і чыста сьвісьцячыя.

А нашыя — **пры апушчаным кончыку языка** і прыўзьнятымі пярэдняй і часткова сярэдняй яго часткамі. Імі язык набліжаецца ўверх, да пярэдняй часткі **паднябеньня** — palatum па-лацінску. То і называе такія гукі мовазнаўчая навука асаблiва: ці *краепалятальнымі* (г. зн. утворанымі на краі паднябеньня), ці *прэпалятальнымі* (у пярэдняй частцы паднябеньня) гукамі.

У працы „Гукі беларускай мовы“ публікуюцца візуальныя вынікі рэнтгенаграфіі руху маўленчых органаў, а таксама палятаграмы — адбіткі дотыку языка да паднябеньня. Г. зн. навукоўцы робяць высновы на аб’ектыўным грунце.




Рэнтгенаграмы мяккіх сьвісьцячых у расейскай (*а* — цьвёрдыя, *б* — мяккія) і ў беларускай мовах. А. Падлужны, В. Чэкман. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973. С. 121.

*“На палатаграмах украінскіх і рускіх [с’], [з’] выразна адлюстравана іх больш пярэдняе, у параўнанні з беларускімі, месца ўтварэння; яны з’яўляюцца тыповымі зубнымі гукамі. ...Язык дакранаецца разцоў і клыкоў, а струмень паветра накіраваны на зубы“*. (С. 123)

А ў беларускіх мяккіх [с’], [з’] *„...струмень паветра накіроўваецца на прэдарсальную* [пярэднюю] *зону паднябення...“.* Адзначаецца *„...таксама шырокая шчыліна, па якой паветра праходзіць“*.

Такая артыкуляцыя абумоўлівае *„вельмі характэрнае гучанне гэтых гукаў. На слых беларускія [с’] і [з’] робяць уражанне не чыста свісцячых,*

*а „шапляватых“ зычных. Гэтым яны адрозніваюцца як ад рускіх, так і ад украінскіх [с’], [з’]. Польскія ж [ś], [ź] характарызуюцца большай ступенню „шапялявасці“, але па месцы і спосабу ўтварэння гэта тыповыя палатальныя (сярэднепаднябенныя-сярэднеязычныя) гукі“*. (С. 122)

І ўрэшце:

*“Больш плоская шчыліна, зрух месца артыкуляцыі і высокае становішча языка ствараюць уражанне большай мяккасці гэтых гукаў, чым адпаведных гукаў рускай мовы“*,

— падсумоўваюць лінгвісты ў акадэмічным выданьні „Фанетыка беларускай літаратурнай мовы“ (1989). То зьберагайма сваё.

## За што рэпрэсавалі мяккі знак, або Ці фашыст Васіль Цяпінскі?

Наш *клясычны правапіс* (або *тарашкевіца*) прыкметна розьніцца ад афіцыйнага цяпер правапісу (фактычна ўведзенай у 1933 годзе *„наркамаўкі“)* большай колькасьцю мяккіх знакаў. У клясычнай традыцыі Браніслава Тарашкевіча на пісьме пазначаецца мяккае вымаўленьне чатырох гукаў — **[с, з, ц, дз]** — перад наступнымі мяккімі зычнымі гукамі:

*с**ь**вет, з**ь**нічка, З**ь**міцер, з**ь**ява, ц**ь**вік, дз**ь**веры.*

Чаму — бо так па-беларуску вымаўляецца. І ў літаратурнай мове, і ў бальшыні гаворак. А па-расейску — не (ці амаль не). Ахвочыя могуць прыслухацца, як вымаўляюць гукі **[с]** і **[з]** у словах „свет“, „здесь“ расейскія журналісты ці акторы (балазе расейскіх тэлевізійных каналаў з даставай на дом у Беларусі поўна). І параўнаць іх зь беларускім народным вымаўленьнем слова ***сьпяваюць***, да прыкладу, акторкі тэатру і кіно Тацяны Мархель[1].

Гукі **[с, з, ц, дз]** гучаць мякка перад наступнымі мяккімі ўсюды, нават у прыназоўніках. *Зь вялікай ахвотай. Пойдзем бязь іх. Церазь вёску.* (Гэта акрамя становішча перад заднеязычнымі

[1] Напр., у гутарцы з музыкам Алегам Хаменкам, http://www.youtube.com/watch?v=crmLJGD6iJs, доступ 13.12.2015.

гукамі *г, к, х*. Тады мяккасьці няма: *рас**х**істаць; вярнуўся з **К**іева*. Толькі ў гаворках паўночнага ўсходу Беларусі скажуць „зь Кіева“).

Памякчэньне ў гэтым становішчы беларуская мова ведала вельмі даўно. Дасьледнік старабеларускае мовы Аркадзь Жураўскі вызначыў, што на пісьме адным зь першых пачаў паказваць гэтую рысу выдатны беларускі асьветнік Васіль Цяпінскі ў сваім перакладзе Эвангельля з царкоўнаславянскае мовы на беларускую (каля 1580 г.):

У радзе выпадкаў... ужыванне літары *ь* можна разглядаць як свядомае імкненне абазначыць асімілятыўную мяккасць зычных:
*зьведенье, злосьть, масьть, радосьть, сьветъ, сьвиренъ, сьмерть, сьнегъ, тьвердосьть, часьть, есьли, есьть...*

(А. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. I. Мн., 1967. С. 204)

Тарашкевічаў правапіс, упершыню выдадзены ў 1918 годзе, не замацоўваў мэханічна на пісьме ўсе нюансы вымаўленьня (гэта задача навуковае транскрыпцыі). Але ён перадаваў асноўныя рысы беларускае фанэтыкі, адрозныя ад суседніх моваў — у прыватнасьці, ад расейскай і польскай. Так Тарашкевіч ды іншыя пачынальнікі сучаснага правапісу дадалі ў яго *прынцып міжмоўнае дыфэрэнцыяцыі: пазначай на пісьме адметнае.*

## Ахвяра вайны зь беларускасьцю

Аўтарытэт правапісу Тарашкевіча вынікаў не з фармальнага зацьверджаньня нейкаю дзяржаўнаю ўстановаю, а з грамадзкага ўхваленьня. Прычым і ва ўсходняй (пад савецкай уладай, з цэнтрам у Менску), і ў заходняй (пад польскай уладай, з цэнтрам у Вільні) частках падзеленае Беларусі. Зрэшты, у бальшыні эўрапейскіх краінаў вырашаюць моўныя пытаньні ня ўладныя структуры, а грамада адказных носьбітаў мовы.

Беларуская мова ў 1920-я гады імкліва разьвівалася па абодва бакі так званае „зялёнае“ мяжы, зьяўляліся новыя словы, пашыралася дыялектная аснова літаратурнае мовы. Пачаліся стыхійныя навацыі ў правапісе і нават у альфабэце. Трэ было дамаўляцца — шырокім колам навукоўцаў і творцаў.

Вынікам дыскусіі стала склíканьне Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі 14—21 лістапада 1926 г.

На дзіва, бальшавіцкая ўлада БССР пагадзілася ня толькі на канфэрэнцыю, але і на яе міжнародны характар. За гэтым стаяў палітычны разьлік: „беларусізацыя“ мела прывабіць да Саветаў нацыянальна сьведамых людзей і ў падсавецкай Беларусі, і — асабліва — у Заходняй. Канфэрэнцыя праходзіла на дзяржаўным роўні, на яе запрасілі найлепшых мовазнаўцаў абедзьвюх частак Беларусі, беларускай дыяспары, іншых краінаў. У канфэрэнцыйнай зале нават чырвоны сьцяг спачатку не павесілі.

У працы канфэрэнцыі брали ўдзел зоркі тагачаснага мовазнаўства Сьцяпан Некрашэвіч, браты Язэп і Антон Лёсікі, Пятро Бузук, Язэп Воўк-Левановіч, Мікола Байкоў, Уладзімер Дубоўка (Менск); Павел Растаргуеў з Масквы, Канстанцін Німчынаў з Харкава, знакаміты этымоляг русіст Макс Фасмэр зь Нямеччыны. З Латвіі былі выбітны паэт Яніс Райніс і мовазнаўца Эрнэстс Блесэ. Зь Літвы — рэктар унівэрсытэту Мікалас Біржышка. З Коўна, Рыгі й Прагі прыехалі Вацлаў Ластоўскі, Кастусь Езавітаў, Уладзімер Жылка.

Польскі ўрад ня даў згоды на выезд у Менск віленскім беларускім навукоўцам, таму ані Антон Луцкевіч, ані сам Тарашкевіч у працы форуму ўдзелу ня брали (Ян Станкевіч, маючы магчымасць паехаць, застаўся „дзеля салідарнасьці пратэсту“).

***

Навукоўцы скарысталі „вакно магчымасьцяў“ і правялі сур’ёзнае абмеркаваньне. Канфэрэнцыя прыняла некалькі правапісных рашэньняў з рознай ступеньню абгрунтаванасьці: скасаваць складанае правіла яканьня ў другім складзе перад націскам (замест *нячуваны* пісаць *нечуваны*); пашырыць аканьне ў чужаземных словах (замест *рэмонт, поэзія* пісаць *рамонт, паэзія*); не пазначаць яканьне ў *не, без*. Ухвалілі нават зьмены ў графіцы — асобныя літары для **[дз]** і **[дж]**.

Закранулі і пытаньне мяккіх знакаў. Некаторым у БССР 1920-х гадоў здавалася, што бела-

русізацыя адбылася незваротна, іншамоўныя ўплывы скончыліся і вымаўляць свае словы беларусы не развучацца, як бы тыя ні пісаліся. Браты Язэп і Антон Лёсікі прапанавалі прыбраць мяккі знак з словаў накшталт *сьвята, радасьць* дзеля эканоміі месца. Але трэба сказаць, што іхны праект рэформы правапісу наагул быў радыкальны, пярэчыў многім Тарашкевічавым пастулятам (напр., скасаваць ненаціскную літару ***е*** і пісаць *белянькі*, у *лесі*; не пісаць ***ў, й*** у пачатку слова ды інш.

Бальшыня прапановаў Лёсікаў не прайшла. Наконт асыміляцыйных мяккіх знакаў варта прывесьці аргумэнтацыю Сьцяпана Некрашэвіча, на той момант старшыні Аддзелу мовы і літаратуры Інстытуту беларускае культуры:

Напісаньне павінна быць па магчымасьці блізка да жывога вымаўленьня (…) Можна многа павыкідаць значкоў і дайсьці ўрэшце да кітайскай азбукі… Азбука і правапіс тады добрыя, калі яны па магчымасьці азначаюць кожныя гукі, ва ўсякім выпадку характэрныя з іх. А што нашы мяккія зычныя, асабліва сьвісьцячыя, гукі характэрныя, аб гэтым і гаварыць ня прыходзіцца. Зубныя з характэрным сьвістам беларускія гукі і зубныя з характэрным шыпеньнем польскія — наагул зьяўляюцца асаблівымі сярод падобных гукаў іншых славянскіх моваў. (…) Гэтыя-ж гукі часта азначаліся і ў нашых помніках і пры традыцыйнай [старабеларускай.— *В. В.*]

ортографіі: *третьтии, сьнегъ, зьверъ* і г.д. Іншая рэч, як азначыць гэтыя мяккія зычныя на пісьме,— мяккім знакам, ці якім іншым знакам, але гэта ўжо галіна графікі (…).

Як бачым, Некрашэвіч нават без сучасных інструмэнтаў акустычнага і маторнага аналізу гукаў выдатна адчуваў адметнасьць беларускіх „асабліва мяккіх“.

П. Растаргуеў, прафэсар Маскоўскага ўнівэрсытэту, таксама абараняў напісаньне мяккага знаку ў падоўжаных зычных:

Рашуча выказваюся супроць таго, каб ня пісаць *ь* пасьля *з, с, ц, дз* у тым выпадку, калі яны стаяць перад наступным мяккім зычным і ў падвойных злучэньнях літар: *з, дз, с, ц, л, н.* Напісаньне *звер, дзвёх, мядзведзь, свет, цвет, судздзя, жыццё, ралля, чытанне* бяз *ь* будзе мецьвынікам усваеньне няправільнага вымаўленьня падобных слоў.

Скасаваньню асыміляцыйных мяккіх знакаў асабліва рашуча запярэчылі пэдагогі-практыкі. Яны пераконвалі, што зьнікненьне мяккага знаку абцяжарыць навучанне грамаце.

Сяргей Мялешка, настаўнік Полацкага пэдагагічнага тэхнікуму:

*...Для дзяцей ніякае няяснасьці і туманнасьці ў гэтым правіле, фактычна кажучы, няма...*

Янка Бялькевіч, дырэктар Амсьціслаўскага пэдагагічнага тэхнікуму, дыялектоляг, лексыкограф:

*...Гукі* ***з, ц, с*** *больш мякка азначаюцца ў псыхіцы дзяцей, чым іншыя гукі. Гэта паказвае, што мяккі знак выкінуць нельга. Дзеці ніколі ня робяць гэтай памылкі — яны ніколі не прапушчаюць мяккага знаку пасьля літар* ***з, ц, с****.*

Відаць, Язэп Лёсік не ўлічыў быў гэтага дыдактычнага чыньніку.

Супраць прапановы скасаваць асыміляцыйны мяккі знак выказаліся і Янка Купала, і яшчэ да канфэрэнцыі Б. Тарашкевіч.

Канфэрэнцыя нічога ня вырашыла наконт пазначэньня асыміляцыйнае мяккасьці. Даручылі далей разглядаць неразьвязаныя пытаньні Правапіснай камісіі Інстытуту беларускае культуры (потым — Беларускай акадэміі навук). У 1930 годзе камісія выдала брашурай праект рэформы правапісу, куды прапанова зьняць асыміляцыйны мяккі знак была ўстаўленая „самаю нязначнаю большасьцю галасоў“ толькі ў карэктуры. Асобную думку выказаў С. Некрашэвіч:

Асаблівасьць адменна мяккага,
сьвісьцяча-сычачага вымаўленьня беларускіх
сьвісьцячых *„з, с, ц, дз“* перад мяккімі зычнымі
і ётаванымі галоснымі катэгорычна вымагае,
каб гэтыя гукі, як гукі асобныя, знайшлі на
пісьме свой адбітак… Зусім-жа не азначаць

іх на пісьме — гэта значыць сьцерці адну з характэрных асаблівасьцяй беларускае мовы.

Яго падтрымалі Купала і Ластоўскі, які цяпер прапаноўваў пазначаць мяккасьць рыскай, як у лацінцы. Карацей, ішла даволі нармальная навуковая палеміка, а на практыцы заставаўся Тарашкевічаў правапіс.

**Прыйшла брыгада**

Але палітычная атмасфэра імкліва мянялася. На XVI зьезьдзе ВКП(б) ў 1930 годзе Сталін сказаў дастаткова ясна: „Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у агульную культуру з адной агульнай мовай“.

Патэнцыял часовай „беларусізацыі“ для кадравага і мабілізацыйнага ўмацаваньня бальшавіцкай улады быў скарыстаны, прыйшла пара асадзіць назад — мацаваць расейскую імпэрыю пад савецкай маскай. „Вакно магчымасьцяў“ абярнулася пасткаю.

У Акадэміі навук зьявілася **„Брыгада катэдры марксізму-ленінізму“**, якая ў брашуры „«Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі“ (1931) грамiла беларускіх мовазнаўцаў — удзельнікаў Правапіснае канфэрэнцыі — за „кулацкія“ ўхілы. Цягам 1930—1931 гадоў НКВД арыштаваў абодвух навуковых апанэнтаў — Сьцяпана Не-

крашэвіча і Язэпа Лёсіка, а таксама Ластоўскага, Бялькевіча, Байкова, Дубоўку і многіх іншых — бальшыню ўдзельнікаў Канфэрэнцыі.

У такой атмасфэры ў 1933 годзе зьнянацку, без грамадзкага абмеркаваньня (і практычна бяз мовазнаўцаў — Бузуку заставалася некалькі месяцаў да арышту) была праведзеная бальшавіцкая рэформа беларускага правапісу (і граматыкі!). Замест навуковай аргумэнтацыі — татальнае ўвядзеньне правапісных і граматычных нормаў, якія банальна набліжалі беларускую мову да расейскай. У гэтым шэрагу апынулася і скасаваньне асыміляцыйных мяккіх знакаў. Бальшыня пунктаў рэформы ішла насуперак рашэньням і самому духу Правапіснае канфэрэнцыі 1926 году. Запярэчыць гэтаму ў БССР ужо не было каму...

Так была ўпершыню закладзеная завядзёнка рэгуляваць беларускі правапіс пры дапамозе дзяржаўнае дубінкі ды выкарыстоўваць яго як палітычны інструмэнт — для расправы зь няўгоднымі.

Заходнебеларускія навукоўцы, якія не падпаліся спакусьліваму сьпеву бальшавіцкіх сырэнаў і не пераехалі ў БССР, аднадушна асудзілі рэформу 1933 году як русыфікацыйную. Антон Лёсік, які цудам выжыў пасьля сталінскіх жорнаў і здолеў выдаць некалькі правапісных падручнікаў, ніколі не вяртаўся да ідэі скасаваньня асыміляцыйных мяккіх знакаў.

Блізкі родзіч Лёсікаў Якуб Колас, вымушаны, як і іншыя пісьменьнікі, нешта сказаць пра рэформу, зрабіў гэта з прыхаванай ironіяй:

"...Асноўных прынцыпаў (рэформы) тры: палітычны прынцып, навуковы і прынцып практычны (...) Палітычнае ўгрунтаванне не патрабуе каментарыяў — яно ясна і проста".

Аднак бальшыня пісьменьнікаў, якія пакуль заставаліся на свабодзе, выказаліся больш пэўна. Адмыслова для іхных прысудаў моўным „шкоднікам“ быў выдадзены зборнік **„Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце і рэформа правапіса беларускай мовы“** (1934 г.). Чытво для людзей з моцнымі нэрвамі, бо кожнае абвінаваўчае слова там азначала начны „варанок“, допыт у падвале і сьмерць. Навука ўжо ня мела значэньня. Бадай, найбольш уражвае выказваньне за подпісам паэта Ізі Харыка:

„...беларускія фашысты таксама „скорбят“ аб лёсе літары „мяккага знака“, прычым вельмі ясна выступае за гэтым плачам і брэхам другі знак, а іменна фашысцкі, і вышчараныя воўчыя зубы гэтых паноў“.

Зрэшты, мо і ня сам Харык пісаў гэтыя словы. У кожным разе яго, як і іншых „аўтараў“ выкрываўчага зборніку, гэта не ўратавала. Яго разам

зь іншымі пісьменьнікамі расстраляла НКВД 29 кастрычніка 1937 году.

Яны расстралялі б і Васіля Цяпінскага, але ён пасьпеў адысьці ў іншы сьвет больш як за 400 гадоў да таго.

**Наступствы**

Між тым Сьцяпан Некрашэвіч меў рацыю. Функцыі беларускае літаратурнае мовы, яе жывое гучаньне з 1930-х гадоў скарачаліся. Са скасаваньнем асыміляцыйнага мяккага знаку нават тыя, хто вучыў прадмет „беларуская мова“ ў школе на выдатна, часта ня ведаюць, як трэба вымаўляць слова „сьвята“, або ведаюць, але забываюцца: на пісьме ж памякчэньня не відаць.

Цяперашняе правіла цяжкое, у ім робяць памылкі ня толькі школьнікі, але й салідныя выдавецтвы (пішуць у тэкстах афіцыйным правапісам *дзьвюх, разбяр, дзесяці).* Сапраўды, аўтаматызаваць напісаньне наступных параў: *ледзьве — абедзве, хтосьці — госці, разьбяр — пясняр, вазьміце — Зміцер* практычна немагчыма. Хоць вымаўленьне адпаведных гукаў ідэнтычнае.

А беларускія ж гукі **[з”, с”, ц”, дз”]** мяккія ад самага пачатку артыкуляцыі — адрозна ад іншых мяккіх гукаў, як, напрыклад, [б’] *у* слове *белы*, дзе мяккасьць гучыць не адразу. Гэта „памералі“ экспэрымэнтальнымі дасьледзінамі: фанэтыст адцінае другую палову гуку і пытае носьбіта мовы, цьвёрды або мяккі гук той чуе.

Ці мякка чытаць адпаведную зычную літару, школьнік-пачатковец даведваецца, зазірнуўшы

на літару наперад: ***сі**ні* (а ня ***сы**н*), ***це**мра* (а ня ***цэ**тлік*).

Калі ж у слове зьбег зычных, то паводле цяперашняга афіцыйнага правапісу зазіраць давядзецца на **дзьве** літары наперад: „***збе**г*“. А то і на **тры-чатыры (!)** літары наперад: „***дзве***“, „***сцве**рдзіць*“.

Мэтодыка навучаньня дзяцей беларускай грамаце наагул не прадугледжвае такога складанага, на мяжы дрэсаваньня, вызначэньня якасьці гукаў:

Вучні павінны ўсвядоміць, што зычную трэба чытаць цвёрда або мякка ў залежнасці ад таго, якая літара ідзе далей: калі пасля зычнай — галосная, то літары *а, о, у, э, ы* з'яўляюцца паказчыкамі цвёрдасці зычнага гука, а літары *я, ё, ю, е, і* — паказчыкамі яго мяккасці. Напрыклад:

У Ю**л←і** ябл**←ы**к.

*л* у зліянні *лі* чытаецца мякка, таму што далей ідзе *і*… Зычную літару перад мяккім знакам трэба чытаць мякка (канькі, конь); калі да зліяння З[ычная +]Г[алосная] або Г[алоснай] прымыкаюць адна ці некалькі зычных літар, то яны абазначаюць цвёрдыя зычныя гукі…

(Методыка выкладання беларускай мовы ў пачатковых класах / Я. Івашуціч, М. Лукашук, Б. Пятровіч, А. Шанько.— Мн., 1986. С. 80—81)

Адсутнасьць мяккага знаку ў словах „*цвёрды*“ і пад. пярэчыць гэтаму слушнаму прынцыпу. Вынік — дзеці ад пачатку навучаюцца чытаць словы накшталт „*цвёрды*“ ці „*дзверы*“ з артыкуляцыйнаю памылкаю.

Аўтарытэтны лінгвіст, пісьменьнік-эсэіст і ўнівэрсытэцкі прафэсар Фёдар Янкоўскі, прымаючы ўступныя іспыты, наслухаўся тысячаў абітурыентаў. Магчыма, гэта было адным з матываў, якія натхнілі Янкоўскага ўкласьці даведнік „Беларускае літаратурнае вымаўленне“ (вытрымаў некалькі выданьняў у 1960-я — 70-я гады й зусім не састарэў):

На ўступных экзаменах у педагагічныя інстытуты была звернута ўвага на няправільнае вымаўленне некаторымі абітурыентамі свісцячых зычных ***з, с*** перад наступнымі мяккімі зычнымі. (…) Калі чуеш цвёрдае вымаўленне зычных ***з, с*** у словах тыпу *з'ява, з'ехаць, сніць, песня,* **ствараецца непрыемнае ўражанне, быццам бы ў таго, хто гаворыць, кончык языка патоўшчаны і ня мае неабходнай рухавасці.**

(Вылучэньне маё.— В. В.)

У савецкі час крытыкаваць сталінскі правапіс не было дазволена. Ф. Янкоўскі перавёў стрэлкі вінаватасьці на настаўнікаў: „Зразумела, у свой час у школе вучылі называць гукі няправільна; зычныя ***з, с*** і ***з', с'*** чыталіся аднолькава і ў словах

*збудаваць, ...спаць, ...*і ў словах *разбіць, развітацца, разліваць, часцінка, пасля*“.

А згаданы Янкоўскім „кончык языка“ за дзесяцігодзьдзі сапраўды страціў рухавасьць у многіх, у тым ліку тых, чыё вымаўленьне мае быць узорным. Вядомы сьпявак выконвае вядомы гіт (верш У. Някляева, музыка В. Іванова):

*Сёння ў нашай хаце* ***свята****,*
*Калі ласка, у нашу хату...*

На жаль — у пачатку слова ***свята*** чуем цьвёрды гук [с].

У 1983 годзе пад грыфам Інстытуту мовазнаўства выйшла наватарская на той час калектыўная праца „Фанэтыка слова ў беларускай мове“. Аналізавалі вымаўленьне носьбітаў беларускай літаратурнай мовы — пісьменьнікаў, фальклярыстаў, дыктараў радыё. Дасьледзіны паказалі, што ў публічных выступах людзі не памякчаюць ***с, з*** у словах кшталту *„свята“* часьцей у параўнаньні з прыватнымі размовамі. Значыць, зьявілася падсьвядомае ўяўленьне, што памякчаць — прыкмета ледзьве не прастамоўя. Заўважана таксама, што маладзейшыя памякчаюць менш. Так, народжаныя пасьля вайны памякчалі адпаведныя зычныя на 8—12% радзей, чым старэйшыя людзі.

Асабліва ж пацярпелі ў выніку русыфікацыі вымаўленьня сутыкі словаў накшталт *зь Міхасём*. У дыктараў радыё і тэлебачаньня ў 61% выпадкаў на сутыках словаў гук [з] быў цьвёрды (і ў 36%

выпадкаў, што таксама нямала, такія гукі цьвёрдыя ў сярэдзіне слова). Так рэформа 1933 году, нібыта правапісная, праз паўвеку адгукнулася ў вымаўленьні.

***

Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў алегарычную паэму „Мяккі Знак“. Менавіта гэтая ціхая літара стала сымбалем супраціву русыфікацыі беларускае мовы.

*Самых цьвёрдых бралі сьпярша:*
*Гэта цьвёрдыя чыняць шкоду,*
*Гэта ў іх не баліць душа*
*Пра патрэбы свайго народу.*

*...Бралі ж лёгка і без развагі,*
*Пазбаўлялі падсудных лавы,*
*Бо кароткае слова „враг!“*
*Бараніцца зьнішчала права.*

*...І тады, быццам цень, няўзнак,*
*Безгалосы слуга граматык,*
*Раптам выступіў Мяккі Знак*
*На арэну сьмяротных схватак.*

*Самы мяккі пайшоў у бой,*
*Браў, як цьвёрды, сьцены крутыя,*
*Каб цьвярдзейшых прыкрыць сабой,*
*Каб пасьпелі ачуцца тыя.*

*...Высьпяваў спакваля закон,*
*Як мярцьвяк ажываў пад сьнегам:*

*Мяккі Знак асудзіць на скон,*
*Як буржуйскага здрайцу-шпега.*

*...Хто згадае той гук і зык,*
*Хто паўторыць яго нанова?*
*Калі* ***зме****йны ва ўсіх язык,*
*Калі ён двайны да паловы...*

*Уцякаю, бягу — куды?*
*Дзе ні ткніся, паўсюдна „****змеі****“:*
*Як жахліва „сіпяць“ гарады,*
*Як пачварна вёскі нямеюць!*

*Быццам хто апрануў аброць*
*Ды кіруе сьвет зацугляны,*
*І ніхто ні слова супроць,*
*Толькі продкаў крывяняць раны.*

*Мо таму і маўчым цяпер,*
*Што на гэтай крыві паўсталі,*
*Што, як ікламі ў цела зьвер,*
*Нам у гены уеўся Сталін...*

## Часам трэба крычаць ґвалту

Беларусы „гэкаюць“.

*І ўсё мілагучна для слыху майго:*
*І звонкае „дзе“, і густое „чаго“.*

Пімен Панчанка

Шчылінны (праточны, фрыкатыўны) гук [г], калі вібруе задняя частка языка — як у словах *гэты, год, га!* — адна з адметных рысаў беларускага маўленьня, нас дзякуючы ёй пазнаю́ць.

Падобны гук [г] — асноўны таксама ва ўкраінскай, у славацкай, чэскай, горнасэрбскай (верхнялужыцкай) мовах. (Лацінскай графікай абазначаецца як **Hh**, яго вымаўленьне дваякае — або задняй часткай языка, або глыбейшае, фарынгальнае, глоткай. Украінскі гук [г] хутчэй фарынгальны, а ў беларускай мове бываюць абодва вымаўленьні.)

У польскай, паўднёваславянскіх, балцкіх мовах нашаму шчыліннаму [г] адпавядае выбухны гук, абазначым яго [g]. Ён нарматыўны і ў расейскай літаратурнай мове. Але на поўдні цяперашняй афіцыйнай прасторы расейскае мовы, напрыклад, у Растоўскай вобласьці (зрэшты, можна казаць і пра ўкраінскі субстрат тых дыялектаў), бытуе шчылінны [г]. Там носьбітаў маскоўскага моўнага стандарту дражняць:

*Гуси гогочут, город горит,*
*Каждая гадость на „гэ“ говорит.*

Або:

*Гришка, гад, гони гребёнку:*
*гниды голову грызут!*

**Беларускі год — не расейскі**

Кірылічная азбука створаная ў IX ст. Канстанцінам (Кірылам) з Солуні для паўднёваславянскай мовы. Баўгары скажуць, што для старабаўгарскай, а македонцы — што для старамакедонскай. У кожным разе не для беларускай, хаця на той час славянскія мовы былі бліжэйшыя міжсобку, чым цяпер. У гэтым сэнсе і спачатку кірыліца, і пазьней лацінка прыйшлі да нас звонку й былі прыстасаваныя перадаваць адметныя беларускія гукі.

Літара **Г** кірыліцы стала абазначаць у розных мовах два розныя гукі. Словы *год* ці *рог* у беларускай і расейскай пішуцца аднолькава, але вымаўляюцца розна (як, напрыклад, і словы зь літарай **Ч**).

Уклад беларусаў ва ўдасканаленьне кірылічнай азбукі вельмі значны. Яшчэ ў XV ст. пісары ВКЛ стварылі літару **Э**, пазьней — літару **Й**, якімі цяпер карыстаюцца і іншыя мовы з кірылічнай графікай. У межах кірыліцы фармаваліся іншыя патрэбныя беларускай мове графічныя сродкі.

## Жыкгімонт на дрыкганце

Усе, хто спасьцігаў багацьце беларускае мовы з твораў Уладзімера Караткевіча, спыняліся на таямнічым слове *дрыкганты*:

…Гэта былі сапраўдныя палескія **дрыкганты**, парода, ад якой зараз нічога не засталося. Усе ў палосах і плямах, як рысі або леапарды, зь белымі ноздрамі і вачамі, якія адлівалі ўглыбіні чырвоным агнём. Я ведаў, што гэткая парода вызначаецца дзіўнай трывалай, машыстай інахадзьдзю і падчас намёту імчыць вялізнымі скачкамі, як алень. Ня дзіва, што ў тумане мне такімі вялізнымі здаваліся іхныя скачкі…

(„Дзікае паляваньне караля Стаха“)

Разгубленыя акторы, што запісвалі Караткевічавыя творы для радыёспэктакляў, імкнуліся вымавіць назву старадаўняй пароды коней палітарна — „дрык-ганты“, але выходзіла ня надта пераканаўча. Усё прасьцей. Калі старадаўняя беларуская мова пазычала зь іншых моваў — з балцкіх, зь нямецкай, з лаціны, з польскай — словы з выбухным гукам [g], то гэты гук нейкі час (або і надоўга) зьберагаўся, не пераходзіў у шчылінны [г]. Казалі *Я[g]айла, [g]рунт, кале[g]а, дры[g]ант*.

Нашыя продкі ў XIV—XVII ст. для перадачы ў кірыліцы выбухнога гуку [g] выкарыстоўвалі дзьве літары — **КГ.** Ад першай бралася выбуховасьць, ад другой звонкасьць, і дзьве літары

абазначалі адзін гук — звонкі выбухны [g]. Відавочна, Караткевіч вычытаў слова ў старых тэкстах менавіта ў такім выглядзе:

*...дрикгант был под королем велми спрацованы*[s]*...*

(Пераклад Кронікі Мацея Стрыйкоўскага, XVII ст.).

Хаця пісалі і праз звычайнае **Г**:

*...А коли жъ еще ляхъ какъ жеребецъ ржетъ коло дѣвокъ какъ дрыгантъ коло кобылъ...*

(Прамова Мялешкі, 1-я палова XVII ст.).

Спачатку адпаведны гук перадавалі і праз **кг**, і праз **гк** (не без уплыву спалучэньня **γк** грэцкай мовы для такога ж гуку), **к:**

*Се я княгиня ѡгльгкирдовая оульяния оуставила єсми брати на церковъ божию...*



Укладная грамата княгіні Юльяніі, Альгердавай жонкі, царкве ў Азярышчах на права зьбіраць падаткі. 1377 год. *З „Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі“ Вацлава Ластоўскага*

Але пасьля некалькі стагодзьдзяў беларускія пісары ўжывалі менавіта спалучэньне **кг** (як заўважае гісторык мовы Аляксандар Булыка, яно

дазваляе лёгка адрозьніць тэксты, створаныя ў Вялікім Княстве Літоўскім, ад пісаных у Маскоўскай дзяржаве).

Статут Вялікага Княства Літоўскага. Ад найясьнейшага гаспадара караля яго міласьці Жы**кг**імонта Трэцяга на каранацыі ў Кракаве выданы року 1588

Як бачым, княскія імёны балцкага паходжаньня захоўвалі выбухное вымаўленьне [g].

**33-я літара**

Нарэшце ў беларускім і ўкраінскім пісьменстве (яны былі тады моцна ўзаемазьвязаныя) зьявілася адмысловая літара для выбухнога гуку [g]. Яе прыдумаў невядомы нам моўны рэфарматар.

На гэты момант адмысловая рукапісная літара ўпершыню фіксуецца ў Перасопніцкім эвангельлі, створаным на Валыні ў сярэдзіне XVI ст., а друкаваная — у „Адэлфатэс“, грэцка-славянскай граматыцы, надрукаванай у Львове ў 1591 годзе. У XVII стагодзьдзі яна масава ўжываецца ў беларускіх рукапісах і друках. Літару ўзаконьвае мовазнаўца Мялет Сматрыцкі ў „Граматыцы славенскай“ (Еўе пад Вільняй, 1618—1619).

Прыклад яе ўжываньня — тытульны аркуш выданьня „Вертаград душэўны“, Вільня, 1620. Літара **Ґ** — у словах „Тѵпоґра́фскимъ“ і „Тѵпоґра́фіи“:



*З „Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі“ Вацлава Ластоўскага*

Літара захавала пачатны закруглены кшталт у рукапісным варыянце, а ў друку паступова набыла цяперашняе аблічча — **Ґґ**.

**Так гаворыць народ**

З **[ґ]** пажадана вымаўляць словы, якія так і бытуюць у беларускай народна-дыялектнай мове. Гэта даўно асвоеныя пазычаньні зь іншых моваў (*ґузік*), словы-гукаперайманьні (*ґаґаць* — пра гусей), а таксама ўласнабеларускія словы словы з каранёвымі зьбегамі зычных **зґ, жґ, дзґ, джґ** (*мазґі*).

У 1987 годзе пад грыфам Акадэміі навук выйшаў „Слоўнік беларускай мовы“. Савецкім правапісам, але ў ім, хай непасьлядоўна, пазначаецца вымаўленьне, якое не супадае з напісаньнем — напрыклад, „свята [сьвя]“. У гэтым слоўніку з пазнакай „*[выбухн. г]*“ знаходзім словы:

*газа, газьнічка, газоўка* (маецца на ўвазе вадкасьць ґаза, якая па-расейску „керосин“); *ганак; гонта, гантовы* і *гонтавы* (пра драўлянае пакрыцьцё даху); *гарсэт; гарнец* і *гарчык; гвалт, гвалтоўна; гергетаць; гзымс* ‘карніз’; *гіз,*

*гізаваць* (муха-крывасмок і рэакцыя жывёлы на яе ўкусы); *гіль* ‘сьнягір’; *гільза; гіпс; гуз, гузак; гузік; джыга; джыгіт; джгаць* ‘джаліць’ і ‘хутка ісьці’; *завэдзгаць; мазгі; нягеглы; розга; рэзгіны* ‘прыстасова насіць сена’; *швагер; цэгла, цагельня, цагляны; цугляць* (і каня, і некага ў пераносным значэньні); аднакаранёвыя з названымі ды іншыя словы.

А ў беларускіх гаворках пачуем *аґрэст, возґры* ‘насавая сьлізь’, ***ґ****лю****ґ****а* ‘вялікая дзюба’, ***ґ****мах,* , ***ґ****ло****ґ*** (па-расейску „боярышник“), ***ґ****е****ґ****а* ‘парода гусей’ (Койданава) і ***ґ****е****ґ****а* ‘крэмень’ (Дзятлава, Масты); ***ґ****вэ****ґ****ня* ‘багна’ (Вялейка); ***ґ****ер****ґ****уны* ‘тыя, хто гавораць па-літоўску ў суседніх вёсках’ (Жодзішкі) і сотні іншых. ***Ґ****ар****ґ****ара* — так скажуць пра занадта вялікі прадмет; слова будзе пасаваць несувымерна груваcткім навабудам у гістарычных цэнтрах нашых гарадоў.

Выбухны **[ґ]** захоўваецца ў спалучэньні **зґ** і падобных: *сьлізґаць* (па лёдзе), *плявузґаць* (абы-што), *джґір* ‘рыба ёрш’. У дасьледаваньнях Пётры Садоўскага (калектыўная праца „Фанетыка слова ў беларускай мове“, 1989) носьбіты літаратурнае мовы старэйшага пакаленьня гаварылі таксама *ґазэта, ґуст, інтэліґенцыя.*

Правільна ўжытыя ў народных словах **г** і **ґ** сьведчаць пра натуральнасьць беларускае мовы ў вуснах чалавека. Прыкладам, вакол слова *ґузік* абяртаецца сюжэт дзьвюх песень. Адна — „Бойка на лузе“ з „Народнага альбому“:

*Вось дык наступствы*
*Сустрэчы на лузе:*
*Ходзіць па вёсцы*
*Бяз ґузіка Юзік!*
*Аёй, аёй!..*

Сапраўды, аўтэнтычны Юзік можа быць толькі з [ґ]узікам!

Другая песьня — *„...І застаўся ад яе толькі гузік“* гурта „Нейра Дзюбель“. Варта павагі й ухвалы, што гурт запісаў песьню па-беларуску. Але вымаўленьне *[h]узік* выдае, што беларуская мова ў яго пакуль не з жыцьця, а з друкаванага тэксту, трэба дасканаліцца.

**Бяз крайнасьцяў**

Гукавое багацьце беларускае мовы натхняе. Часам новадалучаныя да беларушчыны, даведаўшыся пра гук [ґ] у нашай мове, пачынаюць ужываць яго вельмі шырока, ледзьве не ва ўсіх словах іншамоўнага паходжаньня. Кажуць (і пішуць), напрыклад, „ґеаґрафія“, „дыяґностыка“. Аднак асноўным для нашае мовы гукам усё ж быў і ёсьць [г] фрыкатыўны, і ў шматлікіх новых пазычаньнях, тэрміналёгіі наўрад ці трэба ўсюды захоўваць [ґ].

Украінцы маюць падобныя праблемы. Аўтарытэтны мовазнаўца Аляксандар Панамарыў заўважае, што ў грэцкай мове выбухны [ґ] таксама перайшоў у шчылінны [г], а значыць, *„дзіўна было б украінцам „ґэкаць“* у *грэцкіх словах, калі самыя*

*грэкі „гэкаюць“*. І нам варта ўжываць такі падыход — да грэцкай з паходжаньня *дыягностыкі*.

Калі-нікалі [ґ] вымаўляюць, кіруючыся найлепшымі памкненьнямі, там, дзе яго няма і ў іншых мовах-крыніцах. У песьні „Народнага альбому“ сантымэнтальная Аліцыя слухае маркотныя сьпевы жабаў і робіць менавіта такую памылку:

„…і чытала на памяць Ґорацыя“.

Арыгінал лацінскага імя паэта — QVINTVS **H**ORATIVS FLACCVS. Родавае імя Horatius пачынаецца з фрыкатыўнага гуку — вельмі блізкага да беларускага шчыліннага [г], не выбухнога.

## Сеціва: лепш ґуґель, чым падонкі

У канцы слова зычныя аглушаюцца, і наш гук [г] пераходзіць у [х]: *стог* вымаўляецца [стох]. Нейкі час таму ў расейскамоўным інтэрнэце зьявілася мода пісаць з памылкамі („язык падонкаф“). Калі па-расейску напісаць *мальчег*, то прачытаецца гэта ўсё адно [мальчик], бо расейскае **г** аглушаецца ў [к]. Калі нехта спрабуе (а спрабуюць!) перанесьці расейскае вычварэньне на беларускую глебу і пісаць „хлопчэг“, атрымліваецца абы-што, бо вымавіць гэта можна хіба што [хлопчах], а зусім ня *хлопчык*.

Іншае ўзаемапранікненьне беларускае мовы зь сеціваам яшчэ патрабуе дасьледзінаў. *Ґуґіль* або *ґуґель* у беларускіх гаворках мае і такія значэньні: 1. Бабка. *Ґуґіль рабілі так: у драную бульбу грэцку муку дабаўлялі, як сьпячэш, яго кускамі рэжаш* (в. Лісна В.-Дзьв. р-ну) 2. Вельмі густая страва.

*Не зацірка, а ґуґяль* (в. Кіралі Шчуч. р-ну). І нагул выраб зь цеста (параўн. ням. і ідыш *Gugel, kugel*; літоўск. *kugelis*). Як вядома, у 1938 годзе малы Мілтан Сірата на просьбу свайго дзядзькі-матэматыка Эдварда Казнэра для абазначэньня ліку $10^{100}$ прыдумаў слова *googol*, ад якога пазьней пайшло найпапулярнейшае слова сьвету *Google*. Хай бы гісторыкі кампутарызацыі высьветлілі, ці не паўплывалі на хлопчыка ўспаміны пра кулінарныя вырабы ягоных усходнеэўрапейскіх продкаў ☺ .

## Хай жывуць Ґётэ і „Ґёсэр“

Браніслаў Тарашкевіч выдаваў „Беларускую граматыку для школ“ лацінкай і кірыліцай. У першай ёсьць літары **H** і **G**, у другой адпаведна **Г** і **Г’.** Пры гэтым мовазнаўца зазначыў, што выбухны гук „у беларускай мове сустракаецца рэдка“. Літару **Ґ** папулярызаваў Ян Станкевіч, яе ўжывалі некаторыя выданьні, найперш віленскія.

Ва ўкраінскай мове **Ґ** была паўнавартаснай літарай альфабэту, што ўплывала і на беларускую моўную практыку. Але з пачаткам русіфікатарскай рэакцыі ў БССР і УССР у 1930-я літару **Ґ** цалкам выкаранілі як сьведчаньне адрознасьці гэтых моваў ад расейскай. Ва Ўкраіне літара **Ґ** аднавіла правы ў 1990 годзе як пятая літара альфабэту.

У цяперашніх правілах беларускага клясычнага правапісу літара **Ґ** (назва *ґе*) у альфабэце факультатыўная, пры разьмяшчэньні словаў у альфабэтным парадку яна роўная літары **Г.**



ЛІТАРЫ БЕЛАРУСКАГА ЛАЦІНСКАГА АЛЬФАБЭТУ
і адпаведныя ім у кірылічным шрыфце

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| A a | а | G g | г | N n | н | T t | т |
| B b | б | H h | г | Ń ń | нь | U u | у |
| C c | ц | I i | і | O o | о | Ŭ ŭ | ў |
| Ć ć | ць | J j | й | P p | п | V v | в |
| Č č | ч | K k | к | R r | р | Y y | ы |
| D d | д | L l | ль | S s | с | Z z | з |
| E e | э | Ł ł | л | Ś ś | сь | Ź ź | зь |
| F f | ф | M m | м | Š š | ш | Ž ž | ж |

Беларускі лацінскі альфабэт у падручніку Валянтыны Пашкевіч „Fundamental Byelorussian / Беларуская мова“, кн. 1. Таронта, 1974.

Рэкамэндуецца не пісаць літару **ґ** у агульнай лексыцы, а ўжываць толькі ў запісаных па-беларуску іншамоўных імёнах і назвах — для іх дакладнай перадачы. Напрыклад, у нямецкай мове прозьвішчы паэтаў Goethe і Heine пачынаюцца зусім з розных гукаў, і ў беларускай мове мы можам гэта перадаць: *Ґётэ*, але *Гайнэ*. Ці мо каму бліжэйшая іншая сфэра — „Gösser“ і „Holsten“ будуць „*Ґёсэр*“ і „*Гольстэн*“.

***

А крычаць часам трэба менавіта ґвалту, але пісаць так — неабавязкова.

## „Мне чарку акавіты!“, або Чаму Скарына ня меў моўнага бар’еру ў Эўропе

Чаму ў беларускай мове сЭнсар і кансЭнсус? Бо 450 гадоў таму лацінская мова падказала нам, у чым сЭнс.

Нядаўна быў знакавы, але публічна не заўважаны юбілей. Вось жа споўнілася **450 гадоў кнігадруку на лацінскай мове ў Беларусі** і ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У 1564 г. у Нясьвіжы выйшла друкам кніга „*Antidotum contra articulos fidei novæ*“ (поўная назва, як тады было прынята, даўжэйшая: …a Sarnicio Varsaviae exhibitos, tamquam a novo papa; seu Antidotum contra Canones decretorum Sarnicki).

Лацінізм *антыдот* усе ведаюць з вайсковай ці мэдычнай падрыхтоўкі: проціатрута. Аўтар Gregorius Paulus Brzezinensis, або Грыгор Павал з Бжэзіны, што меў італьянскія карані, але прыехаў у Нясьвіж з Кароны Польскай, назваў кнігу *„Антыдот супраць пунктаў новае веры (...)“* Чарговая гарачая пратэстанцкая палеміка — антытрынітары супраць кальвіністаў, Бжэзінскі супраць Сарніцкага (іхных поглядаў тут не разь-

біраем, нагадаўшы, што ВКЛ у тую пару было прастораю рэлігійнае талерантнасьці й свабоды слова).

Фундатарам друкарні ў Нясьвіжы быў ваявода віленскі Мікалай Радзівіл Чорны. Сузаснавальнік друкарні — Сымон Будны. Ён за два гады да таго, у 1562-м, выпусьціў — тамсама — свой *Катихисісъ* па-беларуску.

І Будны пісаў лацінскія вершы ды палемізаваў па-лацінску, і зь ім палемізавалі, як Якуб Палеалёг у адмысловай кнізе „*Liber de magistrate politico curante Simone Budnæo“*. Карацей, лаціна ў Нясьвіжы і ва ўсёй дзяржаве жыла і працьвітала. З гэтае прычыны 450 гадоў таму на ёй пачалі і кнігі друкаваць.

Але мы цяперашнія слаба ўсьведамляем, як моцна ў свой час паўплывала на нашую культуру беларуская лацінамоўная цывілізацыя. Дасьледнік новалацінскай літаратуры Алесь Жлутка слушна кажа:

За гэтай заслонаю схаваныя сапраўдныя скарбы: сотні старадрукаў і манускрыптаў — гістарычных, філязофскіх, літаратурных, музычных. Багаты сьвет лацінскай пісьмовасьці Беларусі яшчэ і сёньня застаецца неспазнаным краем, аддзеленым ад сучаснасьці адмысловай заслонаю, бар’ерам мовы.

Дадам — і замоўчваньнем гэтае зьявы з ідэалягічных прычынаў у часы Расейскай і савецкай імпэрыяў.

**Ва ўсім вінаваты Міндоўг**

Сярэднявечная лаціна прыйшла ў Вялікае Княства ў XIII — пачатку XIV ст.: на ёй складзеныя многія дакумэнты канцылярыі караля Міндоўга. Спачатку на гэтай мове міжнароднае дыпляматыі ды камунікацыі пісалі службоўцы-іншаземцы. Але з XV стагодзьдзя ў вялікакняскай канцылярыі зьяўляюцца бясспрэчна тутэйшыя людзі, якія валодалі лацінскай мовай: так, у 1440—1450 г. тут працавалі *Сямён Сапега, Пузыр, Логвін.*

Умацаваў пазыцыі лаціны ў дзяржаве прыход заходняга хрысьціянства, стварэньне кляштараў і аддзелаў ордэнаў. Але памылкова атаесамляць тагачасную лаціну вылучна з каталіцкаю царквою. Лаціна была міжнароднаю моваю навукі, абавязковым прадметам і доўгі час моваю выкладаньня ў школах і акадэміях незалежна ад канфэсійнай прыналежнасьці — ня толькі ў рыма-каталіцкіх, грэка-каталіцкіх і пратэстанцкіх, але і ў праваслаўных брацкіх. Скарына, як мяркуюць, вывучыў лаціну яшчэ ў Полацку, бо інакш як бы ён пасьпяхова вучыўся ў Кракаве й Падуі? Наагул моладзь ВКЛ масава выяжджала па навуку ў Цэнтральную і Заходнюю Эўропу, а значыць, моўнага бар’еру ня мела.

**Latinitas**

Пра ролю лацінскае мовы, якою валодалі ўсе адукаваныя людзі ў старасьвецкай Беларусі, ужо напісана нямала. Пра мастацкую літаратуру Беларусі на лацінскай мове цяпер тэарэтычна ведае і школьнік — дзякуючы „Песьні пра зубра“ Міколы Гусоўскага ў праграме (яе перакладалі Язэп Семяжон, Уладзімер Шатон, Натальля Арсеньнева). Але гісторыя нашае літаратуры ведае таксама іншыя вялікія лацінамоўныя паэмы. Гэта найперш „Пруская вайна“ Яна Вісьліцкага, „Радзівіліяда“ Яна Радвана, „Каралямахія“ Крыштафа Завішы (магчыма, Л. Боера; назва азначае „бітву Караляў“ — гетмана Яна Караля Хадкевіча і караля швэдзкага Караля IX пад Кірхгольмам), а таксама іншыя.

Latinitas — гэта лаціншчына. Яе дасьледзінамі ў Беларусі займаліся і займаюцца па-добраму апантаныя знаўцы: Якуб Парэцкі, Віктар Дарашкевіч, Алесь Жлутка, Сяргей Кавалёў, Жанна Некрашэвіч-Кароткая (пераклала тры вышэйзгаданыя паэмы на беларускую). А Ўладзімер Шатон, адзіны перакладнік „Песьні пра зубра“, што перадаў рытм і памер арыгіналу, даказваў існаваньне *беларускага варыянту сярэднявечнай лаціны* і адраджаў яе ў практыцы. Цікаўных адсылаю да агляду Ж. Некрашэвіч-Кароткай „LATINITAS у гісторыі беларускай культуры: духоўны скарб продкаў, шлях да нашчадкаў“.

Падам толькі некаторыя колькасныя зьвесткі пра найбольш прагрэсіўны на той час спосаб пашырэньня інфармацыі — кнігадрук. Іх сабрала

віленская дасьледніца Дайва Нарбуцене. Зьвесткі пярэчаць пэўным стэрэатыпам.

Кніг на лацінскай мове ў ВКЛ толькі ў XVI—XVII ст. выйшла друкам, паводле Д. Нарбуцене, 1085 назваў. Амаль палова ўсёй кніжнай прадукцыі дзяржавы. Такім чынам, гаварыць пра суцэльную паланізацыю прынамсі ў гэтай сфэры не выпадае. Нават у XVII ст., калі, як здаецца, у Княстве запанавала моўная паланізацыя, кніг па-лацінску (865) надрукавана больш, як польскамоўных (818). З 1580 па 1650 г. штогадовы адсотак лацінскіх кніг ад агульнай колькасьці выдадзеных друкам складаў 45—75%.




Дынаміка выданьня кніг у Вялікім Княстве Літоўскім у 1560—1650 г. *Дыяграма Дайвы Нарбуцене.* ● Агульная колькасьць кніг ■ Колькасьць кніг на лацінскай мове

Як і цяпер, выдавецкая справа тады канцэнтравалася ў сталіцы. У Вільні надрукавана 934 назвы, у Любчы 20, у Лоску (цяпер Валожынскі р-н) 10, у Нясьвіжы 4 (8?), у Слуцку 1. А ў XVIII стагодзьдзі па-лацінску выходзілі вялікімі — колькі-

тысячнымі — накладамі навуковыя й навучальныя кнігі таксама ў іншых гарадох, напрыклад, у Полацку аж да закрыцьця царскімі ўладамі Полацкай езуіцкай акадэміі ў 1820 г.

Чвэрць кніг на лацінскай мове аўтарства грамадзянаў ВКЛ пасьпяхова друкавалася за мяжой — папулярнасьць працаў Казімера Семяновіча, скажам, „Artis Magnæ Artilleriæ pars prima“ („Вялікага мастацтва артылерыі першая частка“, Амстэрдам, 1650) тое пацьвярджае.

Паводле жанравай прыналежнасьці 45% выданьняў на лацінскай мове XV—XVII ст.— мастацкая літаратура (паэзія, прамовы і г.д.), у тым ліку тутэйшых аўтараў. 30% — рэлігійныя выданьні, у тым ліку палемічныя. Гуманітарным навукам прысьвечана 11,5%, дакладным (матэматыка, фізыка, астраномія) — 1,5% выданьняў.

Такім чынам, лацінамоўны кніжны пласт абслугоўваў шырокі спэктар патрэбаў адукаванага грамадзтва, ня толькі рэлігійную сфэру (хаця ў старабеларускай мове бытавалі два значэньні слова *лацінскі* — і для мовы, і ў сэнсе ‘каталіцкі’).

„*Ужываньне лацінскае мовы ў канцы XV ст. замацавалася ў асноўных галінах палітычнага, рэлігійнага і культурнага жыцьця дзяржавы. І гэта, і ўсё больш багатыя і трывалыя сувязі дзяржавы з Заходняй Эўропай у XV—XVII ст. перадвызначылі вялікую колькасьць і разнастайнасьць лацінскага друку. Усе гэтыя акалічнасьці зьняпраўджваюць дасюль паноўнае ў гістарыяграфіі меркаваньне, што ў друку Княства ў пэ-*

*рыяд, які нас цікавіць, дамінавалі выданьні на славянскіх (польскай і русінскай) мовах“,*— падсумоўвае Д. Нарбуцене („русінскай“ у літоўскай навуцы прынята называць старабеларускую мову).

## Польска-лацінская трасянка

Так карэктуецца стэрэатып наконт таго, якая мова ў XV—XVII стагодзьдзях канкуравала зь беларускай мовай у справаводзтве ды інтэлектуальнай прасторы нашае дзяржавы. Ня толькі польская, а нават ня гэтулькі польская.

Польская мова пачала разьвівацца як літаратурная пазьней за старабеларускую. Да XIV ст. суцэльных тэкстаў на польскай мове не было, у Польшчы панавала лаціна. Нездарма Ян Казімер Пашкевіч пісаў у вядомай „эпіграме“ 1621 г.:

*Польска квітне лацінаю,*
*Літва квітне рушчызнаю.*
*Бяз той у Польшчы не прабудзеш,*
*Бязь сей у Літве блазнам будзеш.*

Таму з Кароны і з каралеўскай канцылярыі ў Вялікае Княства прыходзіла найперш лаціна. А тэксты на польскай мове спачатку былі макаранічныя, г. зн. насычаныя ня проста пазычанымі з лацінскае мовы словамі, а цэлымі граматычнымі канструкцыямі й сказамі.

Таму лацінская мова ў Княстве была ўсюдыісная. Яна не магла не ўплываць на беларусаў усіх станаў, прычым безбалесна і непасрэдна.



№ 7.

stą Strubiskim, surrogatorem tegoż woiewodstwa Wilenskiego stanowszy personaliter ociec Ewfemius Ulaszewicz, namieśnik monastyru przy cerkwi Swiętego Ducha w Wilnie będącego, opowiadal y do akt w sposob przenosu podał przywiley od Nayjaśnieyszego Krola Jmść Pana naszego milosciwego Augusta Wtorego approbuiąc dawnieysze prawa y przywileja na monastyry y cerkwie na Białey Rusi y w całym xięstwie Litewskim czerncom Ritus Graeci veteris służące, tymże czerncom służący w grodzie Warszawskim aktykowany y extraktem wydany, ktory wpijąc w xięgi de verbo ad verbum tak się w sobie ma.

Фрагмэнт прывілею Аўгуста II Моцнага праваслаўным жыхарам і сьвятарству „Беларусі і ўсяго Княства Літоўскага“.

У гэтым дакумэнце 1726 году, калі польская літаратурная мова ўжо добра разьвілася, бачым своеасаблівую польска-лацінскую трасянку.

## Водар воцату

Вобраз злоснага начальніка інтэрнату, які сочыць за насельнікамі, увайшоў у студэнцкі фальклёр, пра яго сьпявае гіт гурт „Крама“:

*Каханьне можаш мець тады,*
*калі яго дазволіць камэндант!*
*Сядзіць унізе камэндант...*

*Камэндант* — адзін са старых беларускіх лацінізмаў. У старабеларускай дзяржаўнай сыстэме гэта быў па-цяперашняму начальнік РУУС, судовы выканаўца або проста паліцыянт: *Пасылалі камэндантаў у пагоню за чынам Уваравым, бо быў уцёк з турмы (1692 г.).*

Такіх старых лацінізмаў мноства. *Аркуш, атэстацыя, статут, трыюмфаваць* і *фунда-*

*ваць, натура* і *колер, турбацыя* і *рацыя* (вядома, у значэньні ‘падстава, праўда’, а не расейскага скароту слова *радыёстанцыя*). Мы ня ведаем, як вымаўлялі свае словы антычныя рымляне. Але ў сярэднявечнай лаціне нормаю было цьвёрдае вымаўленьне бальшыні зычных перад гукам [е] (а таксама мяккі [l] і шмат што іншае). У народных беларускіх лацінізмах зьберагаліся рысы такога вымаўленьня: *акуляры, лямант, сэнс, вэлюм.* Словы асвойваліся і набывалі некаторыя беларускія фанэтычныя рысы: *ц**ы**р**ы**монія, ц**ы**дулка* (запіска); ***в**одар* і ***в**оцат* ужываюцца зь беларускім прыстаўным в-. Такія важныя словы, як *кварта* — аб’ём вадкасьці — і *акавіта* ад *aqua vitæ* — жыцьцядайная вада, то бок гарэлка (у прыватнасьці, настойка),— таксама рымскага паходжаньня:

*Да ўпала я ў дзела,*
*Цела маё ўпацела,*
*Гарэлачкі захацела,*
*Гарэлачкі-акавітачкі*
*Для мяне працавітачкі.*

(слоўнік І. Насовіча)

Літара **э** ў кірыліцы — інавацыя беларускіх кніжнікаў, але ў старабеларускай практыцы ўжывалася непасьлядоўна. У значэньнях сучасных **е** і **э** з канца XV ст. пасьля зычных часьцей пісалася **е**. Але да нас дайшлі напісаньні **э** пасьля зычных у лацінізмах: *апэлевати, апэляцыя, вэтовати* (ад veto), *комэта, пэрсуна; Вэрона, Нэаполь,*

*Пэрс; Вэнус* ‘Вэнэра’ і ‘пачуцьцёвасьць’: *Атыля... быў... барады рэдкае, носу закрыўленага, паходу гордага, да вэнуса вельмі склонны* (Гісторыя аб Атыле, каля 1580).

Ведала старабеларуская мова і *комэдыю.* Гэта грэцызм, але прыйшоў ён праз лацінскую мову і студэнцкія тэатральныя пастаноўкі. У народнай мове *камэдзія* ці *кумэдзія*, *камэдны, камэдзіць* ‘гарэзаваць, жартаваць’, *камадыяніцца* ‘вычварацца’.

Наагул жа народна-дыялектная мова падказвае, у якім гукавым абліччы прыходзілі лацінізмы. *Messias* у лацінскай мове — гэбраізм. Па-старабеларуску пісалася *месіяшъ.* А ў сучаснай народнай мове знойдзем: *масіяш* — дападлівы.

*Ад масіяша нідзе праходу німа ні ўдзень ні ўначы* (Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна). *Мяне як не па ўзросту хітрага і зь языком, як памяло, звалі Масіяш* (Пётра Садоўскі, Полаччына).

Гэтае *ма-* сьведчыць, што слова запазычвалася зь цьвёрдым [м] — [мэ], а потым [э] не пад націскам пераходзіць у [а], як у словах *сакрэт* і *сакратар, момант* (у гаворках *мамэнт*). „*Ці помніш ты, Ганна, шчасьлівы мамэнт?..*“ — пачынаецца Коласаў верш, пакладзены на музыку І. Лучанком.

Як *мамэнт* — так і *аргумэнт,* і *дакумэнт,* і *цэмэнт*. (*Мент* ня з гэтага шэрагу!)

Іван Насовіч, які ня надта сымпатызаваў паланізмам, у той жа час сумленна фіксаваў народ-

ныя лацінізмы: *сэдасік* — донца ў кілішка; *сэрыё* — сярдзіта, сувора; *сэрыя* — сярдзіты твар. Шлях лацінізмаў з кніжнае навукі ў штодзённае жыцьцё беларусаў Насовіч паказаў на яскравым прыкладзе:

**Сэмпітэрня**. От лат. sempiternus — всегдашний. Задница, как бы всегдашняя ответчица за шалости и леность (слово перешедшее от школьников к простому народу). *Усыпалі ў сэмпітэрню дзясяткі два, няхай носіць здароў.*

Як бачым, для такога важнага пазычаньня з урачыстае мэталічнае лаціны зусім не спатрэбілася польскае пасярэдніцтва. І [сэ-] тут зь цьвёрдым зычным гукам. Аналягічна *сэсіі* або *ўнівэрсытэту.*

**Агульны калодзеж. Казьлёначкам ня станеш**

У беларускім савецкім мовазнаўстве доўга было прынята лічыць, што словы лацінскага, германскага, іншага заходнеэўрапейскага паходжаньня прыходзілі ў старабеларускую мову вылучна праз пасярэдніцтва мовы польскай.

Пры гэтым ня браліся пад увагу ані беларуска-нямецкія гандлёвыя і палітычныя кантакты пачынаючы з Полацкай эпохі, ані паўнацэнная прысутнасьць лацінскае мовы ў інтэлектуальным і дзяржаўна-праўным жыцьці Вялікага Княства. Але ўсё гэта было, а значыць, былі і шляхі для наўпроставага запазычваньня.

Калі ўжываньне польскае ці расейскае мовы няўхільна вядзе да адмовы ад свае моўнае ідэнтычнасьці, то лацінская мова ў тыя часы — нічыя і ўсіхная, агульнаэўрапейская. Яе ўжываньне не падрывала нічыёй, у тым ліку беларускай, тоеснасьці.

**Асобны шлях**

У Расейскай імпэрыі толькі ў XVIII ст. кнігі па-лацінску пачала друкаваць Акадэмія навук. Лацінізмы ў расейскую мову пранікалі позна, або праз пасярэдніцтва беларускай і ўкраінскай, або наўпрост з кніг. Таму яны не захоўвалі гукавога аблічча першаўзору.

Адсюль у сучаснай расейскай літаратурнай мове вымаўленьне лацінізмаў непасьлядоўнае — нават у аднакаранёвых і падобных словах. Напрыклад, вымаўляць [т] у словах *термин*, *текст, аттестат* патрабуюць мякка, як „те“, а ў словах *тенденция, терция, тембр, тест* (хоць ён аднакаранёвы *аттестату)*,— цьвёрда, як „тэ“.

Яшчэ прыклады вымаўленчага разнабою ў расейскіх лацінізмах. У слове пішацца літара **е**, а вымаўляецца яно часам так, быццам напісаная літара **э**.

Зь цьвёрдым зычным (з [э]) трэба чытаць словы: *секста, секс, сенсуализм, сентенция, септический, экземпляр, экзема, инертный.*
Зь мяккім зычным (з [’е]) трэба чытаць словы: *секстет, сексология, сенсация, сенсорный, сепаратор, секция, серия, экзекуция, инерция.*

(Крыніцы — „Словарь ударений“ Разэнталя
і „Орфоэпический словарь“, прычым і паміж імі
няма поўнай адпаведнасьці.)

## Бессэнсоўная с*е*нсацыя

На жаль, бессыстэмнасьць расейскага *вымаўленьня* лацінізмаў мэханічна пераносіцца ў афіцыйны *правапіс* беларускае мовы: паводле яго, трэба пісаць *экзекуцыя,* але *экзэмпляр* і *экзэма.* Музычныя інтэрвалы — *секста*, але *сэптыма. Сэнс*, але *сенсацыя. Сэпсіс*, але *антысептык*. (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, 1996).

У дапаможніках з „афіцыйнага“ варыянту літаратурнае мовы асобнага разьдзелу пра вымаўленьне й правапіс зычных у запазычаньнях папросту няма, г. зн. не заўважаны велізарны корпус лексыкі й не прадугледжаны спосаб адаптацыі наступных запазычаньняў. Вось як разьбіраецца цяперашні афіцыйны правапіс з гэтай праблемай:

Літара /э/ ў запазычаных словах пасля губных
зычных, а таксама пасля /з, с, н/ пішацца згодна
з літаратурным вымаўленнем. Так, словы /
капэ́ла, сурвэ́тка, экзэмпля́р, маянэ́з, тунэ́ль,
сэ́рвіс, інтэрнэ́т/ пішуцца з літарай /э/, а словы
/меда́ль, ме́неджмент, не́рвы, парла́мент,
перспекты́ва, газе́та, сервí́з/ — з літарай /е/. (…)
У запазычаных словах, адзначаных у пунктах 2

і 3 гэтага параграфа, напісанне /э, е/ вызначаецца па слоўніку.

Зразумець лёгіку і вывучыць гэтае „правіла“ (а яно закранае многія тысячы словаў) немагчыма. Гэта спадчына савецкай традыцыі, пачынаючы з 1933 году. Кадыфікатары „паразытавалі“ на расейскай мове, якая мела наўперад асвоіць усе магчымыя запазычаньні.

Праблема для афіцыйнага правапісу крыецца і ў перадачы ўласных імёнаў. Алесь Жлутка ў рэцэнзіі на беларускі пераклад „Прускае вайны“ слушна заўважае:

…Цяжкасьць паўстае пры перадачы лацінскіх ненаціскных **o**, **e**, калі па-беларуску ў гэтай пазыцыі паводле сёньняшніх артаграфічных правілаў павінна было б дзейнічаць аканьне/яканьне. Так… побач з больш частаю формаю *Вергілій* сустракаем і варыянт *Вяргілій*, а таксама *Непт, Пелід,* але *Няптун*… Магчыма, часткова вырашыць праблему можна было б, пасьлядоўна перадаючы лацінскае е беларускім э, не зьмякчаючы папярэдняга зычнага (апрача пазыцыі пасьля зычных **l** і **g**),напр. *Вэргілій, Нэпот, Пэлід*, пар. у перакладзе *Карнэлій.*

## Сэнсацыйны кансэнсус

Калі беларуская мова ізноў станавілася літаратурнай, для аўтараў і граматыстаў не было

пытаньня, як пісаць лацінізмы. *Сэнс* і *сэкунда, фэст* і *прафэсія, камэта, мэта* (дарэчы, вярнуў у літаратурную мову У. Дубоўка) і *мэтро*, якое паходзіць ад лацінскага metropolitanus ‘сталічны’. Русыфікатары 1933 году без тлумачэньняў скасавалі вымаўленьне накшталт *унівэрсытэт* ці *мэтодыка*, не пасьмеўшы, аднак, пераправіць такія ўкарэненыя ў гаворках словы, як *сэнс* ці *мізэрны*. Але жыцьцё вяртае незаслужана адпрэчанае. Скажам, слова *кампутар* па-беларуску перамагае англа-русізм *камп’ютар*: першае лягчэй вымаўляць, але і генэтычная памяць падказвае: быў у нас лацінізм *кампут*, што значыць рахунак, вылічэньне.

Клясычны беларускі правапіс і вымаўленчая норма імкнуцца да захаваньня, дзе магчыма, гукавога аблічча зычных у пазычаньнях з эўрапейскіх моваў. (Не забываймася, што Тарашкевіч паводле адукацыі клясычны філёляг.) Памякчэньне зычных у беларускай мове часам радыкальна мяняе іхную прыроду (д > дзь, т > ць, з > зь, с > сь), і праз гэта бальшыня зычных у пазычаньнях захоўваюць цьвёрдасьць.

Падобным чынам у пазычаньнях з новых заходніх моваў: *Рэнэсанс, сэрвіс*.

І не выпадае нам падладжвацца пад усходніх суседзяў, вымаўляючы й пішучы *сенсацыя*, бо маем у народнай мове здаўна ўзяты з лацінскай першакорань — *сэнс*. Таму ў беларусаў яшчэ будзе *сэнсацыйны кансэнсус*.

## Ведрас квасо

Некалі ў Вільню хадзіў цягнік „Чайка“ за тры рублі (далей ён ішоў у Рыгу і Талін). І вось у 1978 годзе я купіў у Вільні вінілавую (іншых тады не было) кружэлку. Вітаўтас Кярнаґіс, аброслы хлопец у акулярах на вокладцы, падаўся свойскім і несавецкім.

Паўтара дзясятка песень пад акустычную гітару сталі для мяне каўтком кіслароду ў той бэтонны час. Так я ўведаў літоўскую паэзію. А Кярнаґіс быў першы і дагэтуль найвыдатнейшы літоўскі выканаўца сьпяванай паэзіі (ці то акустычных балядаў) — той, што ў расейскай традыцыі называецца „бард“. У 60-я — 70-я пачынаў як вальнадумны гіпі-бітламан і рок-музыка. Ніхто як ён ня здолеў прасьпяваць такіх паэтаў, як Марцэліюс Марцінайціс зь яго цыклем пра народнага дзядзьку Кукуціса, які то выганяе кабылу са свайго вуха, то назірае за ўласным пахаваньнем (ёсьць пераклады Алеся Разанава), як Саламея Нярыс, як сюжэтны Сіґітас Ґяда ці рамантычная Даля Саўкайціце.

Шмат пісаў Кярнаґіс уласных песенных тэкстаў — ад гімнавых („Белая птушка“) да іранічна-спагадлівых балядак пра простых людзей (Песьня сантэхніка зь мястэчка Укмярґе). У ягоных песьнях на вершы розных аўтараў бываюць і беларускія рэаліі — ёсьць рок-н-рол пра гружаны буракамі гоначны грузавік МАЗ (словы Ю. Эрліцкаса).

Вітаўтас Кярнаґіс паходзіў зь сям'і вядомых літоўскіх актораў, што пераехалі ў Вільню ў 1940-я. (Беларускае прозьвішча Кярнога — балцкага паходжаньня.) Доўгі час мясцовая віленская культура, субкультуры, моўная рэальнасьць, з аднаго боку, і прафэсійная літоўская культура судакраналіся слаба. Кярнаґіс усё жыцьцё ствараў — таленавіта і пасьпяхова — літоўскую культурную прастору Вільні. І раптам — песьня „Сьвята ў Ніжнім замку" (аўтар Ґедрус Кубілюс). Чакаеш сярэднявечнай урачыстасьці, але чуеш такое:

| | |
|---|---|
| Iš ryto skauda galvą: | Зранку баліць галава, |
| Buvau užstūmęs **jušką,** | Бо я быў зачыніў **юшку**, |
| Dėl uždarytos **fortkės** | І **фортка** зачыненая, |
| Jaučiu negerą kvapą. | Таму нядобра пахне. |

Галава баліць хіба не праз пячную юшку, а зь іншай прычыны. Але ж у літоўскай літаратурнай мове няма словаў *juška* і *fortkė*! (Як няма іх у літаратурных расейскай і польскай.)

Далей „лірычны герой" — хлопец з раёну — хоча наталіць смагу:

| | |
|---|---|
| Kažkotai noriu gerti. | Чамусьці хачу піць. |
| Žinau: už taburetės | Ведаю: за зэдлікам |
| Buvo minimum | Было мінімум |
| **viedras kvaso,** | **вядро квасу**, |
| Turėjo likt nors | Мусіў застацца хаця б |
| **sloikas!** | **слоік**! |

Зноў жа — няможна па-літоўску сказаць *viedras kvaso*, а толькі *kibiras giros* ‘вядро квасу’. *Sloikas* таксама не прапусьцілі б праз моўны блёк-пост.

Герой, вытрымаўшы пакуту смагі, самасьцьвярджаецца:

| | |
|---|---|
| Tik man nereikia aiškint,<br>Kaip ką turiu daryti —<br>**Kansaras** viską žino,<br>Kansaras čia karalius! | Толькі ня трэба мне тлумачыць,<br>Што як маю рабіць —<br>**Кансáр** усё ведае,<br>Кансар тут кароль! |

Значыць, герой — не абы-хто, а кароль раёну. Зь мянушкай *Кансар* (*Канцар*). Ад „жаргоннага“ слова kancaras ‘недакурак’, у якім пры жаданьні можна ўгледзець беларускі *канчáр* (‘аддзелены канец чагосьці’, той самы недакурак).

Далей наш кароль раёну, ужыўшы нелітаратурныя словы *čainikas, petelnė* ‘патэльня’, *čierka* ‘чарка’, *skarbonkė*, нарэшце выбіраецца на вуліцу, каб прагна выпіць *газіроўкі* ля прыпынку *троліка*, а там стаіць ягоная *chebra* — хэўра — і спакушае:

| | |
|---|---|
| „Važiuojam pas Marytę:<br>Ten mūsų laukia **Vycka**!“ | Паехалі да Марыце:<br>Там нас чакае **Віцька**! |

Можна толькі здагадвацца, хто ж той эпічны віленскі *Віцька*, але ён зь цеканьнем, ня „Вітька“.

І толькі на завяршэньне гучыць ні з пушчы ні з поля: „Сёньня ў Ніжнім замку сьвята“. Маўляў, адзін сьвет — віленская высокая культура, другі — простыя хлопцы з раёну, перадаць мову якіх давялося, натуральна ж, трасянкай — беларуска-літоўскай.

***

Маю тоўсты і рарытэтны літоўска-расейскі слоўнік Бэньяміна Сярэйскага (Коўна, 1933). Ён такія словы падаваў сотнямі, але паводле наказаў патрыярха літоўскага мовазнаўства Ёнаса Яблонскіса пазначаў іх як памылковыя, як барбарызмы, славізмы, падлеглыя замене: *Kvietka* „памылкова замест gėlė“.

Таксама Б. Сярэйскі патрабуе замяняць на словы ўласна літоўскага паходжаньня такія запазычаньні, як *kočėti* ‘качаць, напр., бялізну’, *čestavoti* ‘частаваць’, *čerevykas* ‘чаравік’, *kvatera, budauninkas* ‘будаўнік’, *čyras* ‘шчыры’, *sereda, zvanas* ‘звон’, *zacirka*... І — як жа бяз гэтага — *arielka* ‘гарэлка’. Гэтыя словы ніяк нельга палічыць русізмамі або палянізмамі.

Калі-нікалі літоўскі „барбарызм“ дазваляе рэканструяваць форму і значэньне слова, якога сёньня ў беларускай літаратурнай мове няма. Скажам, *zoslanas* узыходзіць да беларускага *заслон* са значэньнем ‘услон, лаўка’ (фіксуецца ў старабеларускай мове і дыялектах).

Такім чынам, падобныя словы літоўскія мовазнаўцы зь літаратурнай мовы — дзеля яе чысьціні — выкараналі бязьлітасна шчэ зь міжваен-

нага часу. Але, відаць, зь пераменным посьпехам, інакш не было б патрэбы і падставы пісаць такія іранічныя песьні.

Зь іншага боку, у беларускай мове ёсьць мноства літуанізмаў (дакладней, балтызмаў), праўда, іх ніхто асабліва не выкараняў.

**10% жывучасьці**

У 2010 г. выйшла калектыўная манаграфія „Miestai ir kalbos“ („Гарады і мовы“) з вынікамі шматгадовага сацыялінгвістычнага дасьледаваньня мовы трох вялікіх гарадоў Літвы — Вільні, Коўна, Клайпеды. Аказваецца, беларускай мовай у Вільні валодаюць 10% — кожны дзясяты.

Гэта няшмат (у параўнаньні зь літоўскай — 97%, расейскай — 95%, польскай — 63%). Але ж паводле перапісу ў Вільні толькі 4% мясцовых жыхароў, што лічаць сябе беларусамі. І ёсьць інстытуцыянальнае забесьпячэньне расейскай і польскай моваў — дзясяткі школаў толькі ў Вільні (беларуская — адна), усюдыісная мэдыяпрастора (праўда, ёсьць мясцовыя штотыднёвыя беларускія праграмы на радыё і ТБ), урэшце, магутная палітычная падтрымка адпаведна Расеі і Польшчы.

У публічнай прасторы цяперашняй Вільні беларуская мова роўная сярод іншых хіба ў Канстытуцыі самаабвешчанай і вольнай Рэспублікі Зарэчча (Ùžupis) — кварталаў творчай багемы за рэчкай Вялейкай.

У дадатак ёсьць праблема з моўным самавызначэньнем чалавека, які гаворыць мясцовым

дыялектам: ён ня можа суаднесьці гэты дыялект з моваю школы, тэлебачаньня, гарадзкіх надпісаў, а таму называе сваю мову „тутэйшай“. Таму 10% уражвае і сьведчыць пра жывучасьць нашае мовы.

Гэта істотны сыгнал для тых, хто езьдзіць у Вільню,— і ў музэі, і ў гандлёвыя монстры. Гаварэце па-беларуску, а не па-расейску (зрэшты, літоўскую таксама не пашкодзіць вывучыць — хаця б формулы этыкету). Паводле тэорыі імавернасьці, прынамсі кожная дзясятая касірка „Акропаліса“ вас зразумее (асабліва калі яе завуць, напрыклад, Ядвіга Тарашкевіч. Укладальнік нашага правапісу нарадзіўся ў падвіленскіх Мацюлішках).

Тады да беларускай мовы павернуцца і гаспадары віленскіх гандлёвых цэнтраў. Да 85% усіх іншаземных пакупнікоў там складаюць нашыя суграмадзяне, якія ўсе па-беларуску прынамсі разумеюць. А тыя цэнтры ў мэтавых ільготных праграмах (ёсьць нават VIP-карты пакупніцкай ляяльнасьці выключна для грамадзянаў Беларусі) пакуль што ўжываюць расейскую мову.

## Дзяды. Адаме Міцкевічу, kto ty jesteś?

*Куцьця* і *туман, гасьцінец* і *пірог,* а нават *страшны суд* — Міцкевічавы беларусізмы

*Дзяды* пасьля таталітарна-імпэрскага перапынку пачалі вяртацца ў агульнанацыянальны каляндар у 1987 годзе дзякуючы „Тутэйшым“, а ў 1988-м, арганізаваныя „Тутэйшымі“ і „Талакой“, вярнуліся канчаткова — з імпэратыўным напамінам пра ахвяраў камуністычнага таталітарызму і на традыцыйным народным грунце адказнасьці перад продкамі.

Цягам вякоў Дзяды як каляндарны абрад былі каштоўнаснаю, сьветапогляднаю пазнакаю беларускай цывілізацыі. Зусім натуральна, што Міцкевіч — першы вялікі, усясьветна знаны творца XIX стагодзьдзя, народжаны ў Беларусі,— творам усяго свайго жыцьця лічыў паэтычную драму „Дзяды“.

Твор гэта трагічны і містычны, складанай жанравай прыналежнасьці й дзіўнай кампазыцыі (з нумарацыі частак пачынаючы), поўны мэтафараў — і празрыстых, і дасюль не расшыфраваных, разважаць пра яго можна бясконца; лепш чытайма і перачытвайма „Дзядоў“ у арыгінале і ў беларускіх перакладах.

Крыху пра Міцкевічавы „Дзяды“ з моўнага гледзішча. Ужо назва Dziady, для беларускае мовы адзіна магчымая, у польскай мове другасная: там асноўная форма множнага ліку асабо-

вага назоўніка dziad — dziadowie. Сам Міцкевіч падкрэсьлівае, што абрад памінаньня продкаў *Дзяды* бытуе на Літве (у тагачасным значэньні), у Курляндыі й Прусіі. Такім чынам, *Дзяды* розьняць Беларусь і ад Расеі, і ад кароннай Польшчы, дый ад Украіны.

Дзядоўская сымболіка лучыць усю складаную будову Міцкевічавага твору — ад народнага абраду на чале з Гусьляром да палітычна-філязофскіх алюзіяў і высноваў.

Лінгвіст і колішняя амбасадарка Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова ўвяла ў навуковае абарачэньне дасьледзіны Алімпіі Сьвяневічавай, родам з-пад Радашкавічаў. Яна даводзіць, што апетыя Міцкевічам Дзяды ў беларусаў былі перадусім восеньскім сьвятам, з паходжаньня дахрысьціянскім, якое стала пазьней неад’емнаю часткаю ўніяцкага календара. Расейская праваслаўная царква зацята з восеньскімі Дзядамі змагалася. Але Дзяды адзначалі і пад Расеяй — патаемна. Колішні Лепельскі павет, в. Бабынічы, запрашэньне духаў на могілках, дыялёг Старца і Хору:

*Старац:* У госьці мы к вам прышлі.
*Хор:* Дзяды, дзяды.
*Старац:* Малачко прынясьлі.
*Хор:* Дзяды, дзяды.
*Старац:* Кашу, мёду нясьлі.
*Хор:* Дзяды, дзяды.
*Старац:* Ня бойцясь, душы, ні ксяндзоў, ні папоў, самі сваі прышлі.

*Хор:* Дзяды, дзяды.
*Старац:* Ежце, пійце, душы.
*Хор:* Дзяды, дзяды.
*Старац:* Ежце, пійце ўсе.
*Хор:* Дзяды, дзяды…

Гэты аўтэнтычны запіс перагукаецца з заклёнамі Гусьляра з II часткі Міцкевічавых „Дзядоў“. Сам Міцкевіч прызнаецца: *„…абрадавыя сьпевы, замовы і закляцьці вялікай часткаю пададзеныя дакладна, а недзе і* ***даслоўна*** *ўзятыя з народнай паэзіі“*.

У III частцы паэмы мэтафара ачышчальнага рытуалу Дзядоў — ужо пра лёс Айчыны. Маладыя ўдзельнікі таемных віленскіх таварыстваў сустракаюць беларускі дзень памяці продкаў у кельлях-камэрах Базылянскіх муроў, куды іх кінула расейская ўлада. Правобразы герояў — рэальныя людзі: Конрад, за якім постаць самога паэта, Жагота — Ігнат Дамейка, філямат, будучы знакаміты навуковец, таксама арыштаваны ў лістападзе 1823 году, Тамаш Зан ды іншыя ўнівэрсытэцкія вальнадумцы — будучыя паўстанцы 1830—1831 гадоў. Сваімі ідэямі, творчасьцю, чыннасьцю яны стварылі ўмовы для новага беларускага адраджэньня канца XIX стагодзьдзя, бо пачалі зьвяртацца да культуры, традыцыяў, мовы беларускага народу.

***

Беларусізмы ў мове Міцкевіча бачылі ды сыстэматызавалі польскія дасьледнікі, пачынаючы

ад Галіны Турскай і Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай, і, вядома, беларускія навукоўцы — Станіслаў Станкевіч, Вітаўт Тумаш (псэўд. Сымон Брага), Генадзь Цыхун.

Серж Мінскевіч, аўтар поўнага перакладу „Дзядоў“ на беларускую, абараніў дысэртацыю на тэму драмы, дзе таксама закранаў мову паэта. На беларускую „Дзяды“ пераклаў цалкам і Кастусь Цьвірка, а фрагмэнты перастваралі Максім Танк, Максім Лужанін, Міхась Машара, Янка Сіпакоў.

Мовазнаўцы задаюць пытаньне, наколькі Міцкевіч выкарыстоўваў беларусізмы пад уплывам жывой беларускай мовы, якую чуў ад нараджэньня на Наваградчыне, у тым ліку ад старога слугі Блажэя з Завосься, а наколькі яны пранікалі ў ягоную творчую мову з тагачаснага так званага „культурнага дыялекту“ польскай мовы, якім гаварылі адукаваныя па-польску людзі на этнічна няпольскіх тэрыторыях („пальшчызны крэсовай“).

Эльжбета Смулкова знаходзіць у Адама Міцкевіча мноства рэгіяналізмаў (то бок беларусізмаў), якія і выконваюць мастацкую ролю, і трапілі ў ягоныя тэксты незаўважна, натуральным чынам. У ліставаньні паэта беларусізмаў, у тым ліку граматычных, значна болей, чым у творах: „Przyślij *mnie* „Świteź“ i inne Twoje nowe rymy“ (‘Прышлі *мне* „Сьвіцязь“ ды іншыя твае новыя вершы’),— просіць ён Яна Чачота. Тут замест przyślij *mi* — фактычна „прышлі *мне*“. „Zostałem *jeden*“ ‘я застаўся *адзін*’ (замест поль-

скага zostałem *sam*). Шматкроць піша *z im* ‘зь *ім*’ (замест польскага літаратурнага z *nim*). Праф. Смулкова фіксуе ў Міцкевіча беларускія словы: *szkodować*, дай *busi* (замест buzi) і нават студэнцкі жарганізм „Historia u mnie *zawalana*“ (заваленая; трэба zarzucona).

Асабліва шчодра Міцкевіч сыпаў беларусізмамі ў эпічнай паэме „Пан Тадэвуш“, бо там пра малую радзіму. Праф. Генадзь Цыхун клясыфікуе іх, напрыклад, паводле ступені фанэтычнай палянізацыі (як з так званым поўнагалосьсем: з аднаго боку *młódź* — па-беларуску моладзь, па-польску młodzież, а з другога боку *chołodziec* і *czereda*). Г. Цыхун лічыць, што першыя Міцкевіч наўпрост уводзіць у польскую літаратурную мову, а другімі падкрэсьлівае мясцовы калярыт.

### Чаго не разумеюць палякі

Але і ў „Дзядах“ моўнае беларушчыны ня можа ня быць. У польскіх выданьнях драмы вялікі даведкавы апарат. Цікава, якія словы і выразы не зусім зразумелыя сучасным палякам. З камэнтароў да польскага выданьня 1995 году, якія трапілі ў дзьвюхмоўнае выданьне Мінскевіча (тут часткова іду ягонымі сьлядамі).

*Cudzy świat* — у літаратурнай польскай у такім значэньні obcy świat. Па-беларуску *чужы сьвет*;

*Dotkliwa* „уразьлівая, чулая“. Як і беларускае *датклівая*. Па-польску dotkliwy — ‘дакучлівы; які спрычыняе боль дотыкам’.

*Sumnienie* „старапольская форма слова sumienie, якая пераважае ў Міцкевіча“. І — дадам — ужываецца ў значэньні ‘сумленьне’.

*Jeszcze rano* (*яшчэ рана* назваць прозьвішча) — па-польску za wcześnie.

*Ani szaśnie* „правінц.— nie zaszeleści“. *Шастаць, шаснуць* у беларускай мове абазначае ня тое, што ў размоўнай расейскай. *Шастаць*, паводле І. Насовіча,— ‘нешта кідаць з шумам’. *Ані шасьне.*

*Turma* замест „więzienie“:

S t a r o s t a
Po *turmach* siedzi młodzież nasza,
Nam każą iść na bal.
С т а р а с т а
Сядзіць па *турмах* наша моладзь,—
Нам загадаў прыйсьці на баль.

(Пераклад С. Мінскевіча)

Граматычныя беларусізмы:

*wytcze* „старапольская форма, wytka“ — *вытча* (ад *тчэ*);

*mozgi* „правінцыялізм — mózg“. Па-беларуску толькі ў множным ліку: *мазґі.*

Пані Ралісон (да ка́та-сэнатара, які загадаў імітаваць самагубства яе сына, палітычнага вязьня): *Gdzie ty! — znajdę cię, **mozgi** na bruku rozbiję..!* *У* перакладзе С. Мінскевіча сэнатаравы мазгі, на жаль, прапалі: *Дзе ты! Твой чэрап я на бруку разаб’ю..!*

Сынтакс: *u mnie cela* (‘у мяне кельля/камэра’) — „русізм, характэрны для пальшчызны крэсовай, па-польску ja mam celę“.

Міцкевіч ужывае слова *stroik* для апісаньня адзеньня модных дамаў, польскія камэнтатары тлумачаць, што гэта аздобленае пакрыцьцё галавы. Зьвяртаемся да беларускага дыялектнага матэрыялу — і беспамылкова знаходзім на роднай Адаму Наваградчыне: *строік* — галаўны ўбор, які даўней сталыя кабеты насілі пад хусткай.

А яшчэ *куцьця, туман, гасьцінец, пірог, гляк, скрадаць, магільнік, май у* значэньні ‘зяляніна’, *людзкасьць у* значэньні ‘чалавечнасьць’... І нават *выжнік* і *ніжнік* — ‘дама’ і ‘валет’ у картах, у Ластоўскага *вышнік* і *ніжнік*. А яшчэ фанэтычныя беларусізмы *zmije* замест żmije ‘зьмеі’, *pohański* замест pogański з [г] фрыкатыўным…

Урэшце, фразэалягізмы:

*Oczy na łeb wybiegły* „wytrzeszczyły się, wystąpiły z orbit“. Вочы на лоб вылезьлі.

*Straszny sąd* — па-польску „sąd ostateczny“. Што-што, а гэты выраз Міцкевіч, відаць, чуў зь дзяцінства па-беларуску, прычым у двух варыянтах: *страшны суд* і *Божы суд*. І нават ужыў яго ў жартоўным, але суворым сяброўскім папярэджаньні, у адзіным рукапісным радку па-беларуску, які да нас дайшоў: *Na Bożom sudzie wsiem w ż... budzie.* (Хаця для нас цяперашніх скарочанае слова хутчэй русізм, маем сваё.)

**Імпэрыя і Беларусь**

Слова *дзяржава* (па-польску państwo) — у фрагмэнце пра Пятра І ды яго наступнікаў, але ў вельмі актуальным кантэксьце:

*Zagrabiać cudze dokoła dzierżawy,*
*Skradać poddanych, płacić cudzoziemców,*
*By zyskać oklask Francuzów i Niemców,*
*Ujść za rząd silny, mądry i łaskawy.*
*Разрабаваць суседнія дзяржавы,*
*Перакупіць і звабіць іншаземцаў,*
*Каб захапленьні чуць французаў, немцаў,*
*Што цар вялікі, мудры і ласкавы.*

(Пераклад С. Мінскевіча)

**Імя Айчыны**

Міцкевіч не прымае чужацкую ўладу і прысьвячае твор „пакутнікам нацыянальнай справы“, „якія цярпелі перасьлед за любоў да Айчыны“. Айчыны пад рознымі імёнамі.

Назвы *Літва* і *Польшча* ў „Дзядах“ выступаюць у розных кантэкстах. Літва — родны край. Але пры гэтым ліцьвіны — дзеці адзінай маткі-Польшчы. С. Мінскевіч дзе-нідзе ў такіх выразах замяніў слова *Польшча* на *Рэч Паспалітую* — калі разумець яе як страчаную палітычную радзіму для Міцкевіча. Але, зь іншага боку, Польшча для паэта-ліцьвіна таксама і культурная мэтраполія, прынамсі з гледзішча мовы.

*Зь Літвы пан, і па-польску? Не! У зман зьвялі?*
*Я думаў, што ў Літве ўсе цалкам маскалі,*

— зьдзіўлена пытае камэр-юнкер у Варшаве.

Ёсьць у Міцкевічавых „Дзядах“ і слова *Беларусь* — у ягоных уласных камэнтарох пра гандаль людзьмі. У змрочным і зноў жа мэтафарычным кантэксьце:

*Кабетаў падчас голаду на Беларусі ў Пецярбургу прадавалі за дзьвесьце франкаў. З сорамам трэба прызнаць, што некаторыя польскія паны зь Беларусі пастаўлялі гэты тавар.*

Лякалізацыя гэтай Беларусі няясная, як і стасунак яе да Літвы. Але з выказваньняў Міцкевіча пазьнейшай пары ясна відаць: ён выдатна ведаў, што такое беларуская мова. Нагадаю дзьве клясычныя цытаты, крыху ўдакладніўшы іх пераклад:

*Гаворкаю Белай Русі, званаю русінскай ці літоўска-русінскай (беларускай), размаўляе... больш-менш 10 мільёнаў; гэта гаворка найбагацейшая і найчысьцейшая; некалі яна разьвівалася* [było ono (narzecze) niegdyś uprawne]: *у пару незалежнасьці Літвы вялікія князі карысталіся ёю ў дыпляматычным ліставаньні.*

(Зь лекцыі 1842 г.)

*З усіх славянскіх народаў русіны, г. зн. сяляне Пінскай і частак Менскай і Горадзенскай губэрняў, захавалі найболей славяншчыны. У іхных казках і песьнях ёсьць усё. Пісаных помнікаў мала, толькі Статут Літоўскі пісаны моваю, найбольш гарманічнаю і наймене скажонаю з усіх славянскіх дыялектаў. Усё*

*іхнае жыцьцё ў духу. На зямлі яны прайшлі ўсю гісторыю ў жахлівай галечы ды ўціску.*

(Размова з А. Ходзькам, 1847 г.)

Апошні сказ цытаты ў беларускім дыскурсе цытуюць неахвотна. Бо надта ж выразная ілюстрацыя да самаўсьведамленьня „шляхоцкага народу“ і адукаваных людзей Беларусі той эпохі: беларуская мова ёсьць, яна і чыстая, і прыгожая, і разьвівалася, і галоўны дакумэнт дзяржавы Статут Літоўскі напісаны па-беларуску, але… „пісьмовых помнікаў мала“ і цягам вякоў гэта мова выключна гаротных сялянаў. Беларусы = сацыяльныя „нізы“. Міцкевіч не заўважае, што пярэчыць сам сабе. Пэўна, не было як прызнацца ў тым, што і ягоныя продкі пачынаючы ад далёкага Міцькі (ад якога прозьвішча Міцкевіч) гаварылі акурат гэтаю моваю, а ня польскаю.

Дарэчы, пра Статут Літоўскі Адам Міцкевіч згадвае невыпадкова. Сын наваградзкага адваката, ён зь дзяцінства ведаў пра Статут, а потым і чытаў яго па-старабеларуску і ў першых польскіх перакладах (зь беларускім уплывам і не перанасычаных лацінізмамі). Як лічыў польскі гісторык права Юльюш Бардах, менавіта дзякуючы генію Міцкевіча нямала словаў і выразаў Статуту трапілі ў польскую літаратурную мову.

У кожным разе, слова *Айчына* ў творы Міцкевіча нашмат часьцейшае, чым яе імёны. Айчына і ёсьць галоўная гераіня драмы. А ў адказнасьці перад Айчынай — ключ да таемства Дзядоў, нацыятворчага для беларусаў.

## Ці ў беларусаў лопаюцца ныркі? Пра багацьце беларускай лексыкі

### Чаму беларусы прынцыпова не ядуць сьметанковага масла, або Калі расейскаму слову адпавядае некалькі беларускіх

З 1930-х гадоў ажно да 1980-х у мовазнаўчай навуцы БССР была абавязковая вось такая апалягетыка:

„Беларуска-рускі білінгвізм… робіць рускую мову асноўнай крыніцай узбагачэння слоўнікавага складу беларускай мовы неабходнымі лексічнымі і іншымі моўнымі сродкамі“.

(А. Баханькоў. „Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд“. Менск, 1982)

Не лексычнае багацьце гаворак, не адроджаныя старабеларускія і ня створаныя пісьменьнікамі словы, а запазычаньні з расейскай — „асноўная крыніца ўзбагачэньня“. У становучасьці гэтае зьявы нельга было сумнявацца. А каб не было непатрэбных спакусаў, спэцыяльна зазначалася:

*„Асаблівае значэнне мае ўзаемадзеянне кожнай нацыянальнай мовы [у СССР] з рускай як сродкам міжнародных і міжнацыянальных зносін і ўзаемадзеянне нацыянальных моў між сабой з дапамогай рускай мовы“* (Тамсама).

Г. зн. узаемадзеяньне паміж, прыкладам, беларускай і ўкраінскай мовамі дазвалялася толькі праз пасярэдніцтва расейскае.

На шчасьце, шторaз, калі беларуская літаратурная мова адраджаецца пасьля чарговай эпохі ўціску, аднаўляюцца і жывыя крыніцы яе папаўненьня словамі, і сумнеў наконт карысьці манапольнага расейскага ўплыву.

**Што ішча саіскацель?**

„Збліжэньне моваў“, якім займаліся савецкія бальшавікі, папраўдзе выглядала так: расейскаю моваю, нібыта прэсам, перафарматоўвалі беларускую моўную тканку, чым наносілі ёй доўгатэрміновую, адчувальную дагэтуль шкоду.

Людзі, якія вяртаюцца да беларускай мовы ад расейскае, робяць падсьвядомыя памылкі, ужываючы русізмы,— гэта непазьбежна на першым этапе. Праўда, нярэдка такія русізмы можна знайсьці ў слоўніках (прычыну гл. вышэй). Зь відавочнымі выпадкамі накшталт „саіскацеля“ ці „ізлажэння“ ўсё зразумела: трэба *спаборнік* і *пераказ.* Дарэчы, слова „іскаць“ у літаратурнай мове няма, а ў дыялектах ёсьць — са значэньнем ‘шукаць у галаве вошай’: *Дай я цібе буду іскаць* („Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны“ М. Шатэрніка). „Сачыненне“ — такі самы непрыхаваны русізм, як і „ізлажэнне”: слова „сачыняць“ няма; гэта *твор*). Тут у беларускую мову жывасілам зацягнуты чужародны моўны матэрыял.

Цяжэй усьведамляюцца сэмантычныя памылкі, калі на беларускую глебу пераносіцца

сэнсавая матрыца, абсяг значэньняў расейскага слова. Гэта прыхаваныя русізмы.

Памкненьне ўнікаць словаў, якія супадаюць з расейскімі,— цалкам натуральнае, гэта праява моўнага пурызму (ад лац. purus ‘чысты’). Так сьцьвярджаюць самабытнасьць сваёй мовы пасьля вякоў навязваньня чужой. Але калі-нікалі беларускае слова, вонкава супадаючы з расейскім, мае інакшае ці крыху адрознае значэньне. Або аднаму шматзначнаму расейскаму слову ў беларускай мове адпавядаюць два ці болей, а гэта ж багацьце нашае мовы.

**Вочкі строяць, а войска шыхтуюць**

„Строить дом“ — па-беларуску *будаваць дом*. Але ж „строить отношения“ (ці там „выстраивать“) — не „будаваць (выбудоўваць) адносіны“, а *наладжваць дачыненьні*. Затое можна *строіць вочкі*, можна з нагоды сьвята *выстраіцца* — выштукавана апрануцца. Таксама *строіць дурня* і *строіць жарты*. Войска ж стае ў *шыхт*.

Расейскія выразы „оказаться в воде“ і „оказаться лицемером“ па-беларуску гучаць розна: *апынуцца ў вадзе*, але *аказацца* (ці *выявіцца*) *крывадушнікам*. „Розгалас апынуўся вельмі вялікі“ — на жаль, такую памылку нярэдка робяць тыя, хто прыходзіў да беларускае мовы ад расейскае. Прычына — мэханічны пераклад кожнага расейскага „оказаться“ беларускім *апынуцца* без увагі на значэньне. Але ў расейскай мове слова „оказаться“ мае розныя значэньні: адно — ‘выявіцца’, другое — ‘патрапіць у нейкае месца або

становішча’, прычым у другім значэньні яно мае сынонім „очутиться“.

Разьмежаваньне праводзяць і клясычныя слоўнікі 1920-х, і афіцыйныя расейска-беларускія слоўнікі пасьляваеннае пары:

Оказываться, -заться *чем* — зьяўляцца, зьявіцца; стаць, стацца;
оказаться *где* — апынуцца.

(С. Некрашэвіч і М. Байкоў. Расійска-беларускі слоўнік. 1928)

Оказаться. 1. (*выясниться, обнаружиться*) аказацца, выявіцца; … у глебе аказаўся пясок; 2. (*очутиться*) апынуцца; … апынуцца ў глухім лесе.

(Руска-беларускі слоўнік, выд. 4-е. Т. 2. 1993)

Слова *аказацца* ў значэньні „выявіцца паправдзе“ і слова *апынуцца / апыніцца* ў значэньні месца пасьлядоўна разьмяжоўвалі клясыкі, напрыклад, Купала:

*„...**аказаўся** гэта такі шчыры беларус, якога і ў родным краі са сьвечкай пашукаць“* („Думкі з пабыцьця ў Фінляндыі на Іматры“, 1910).

*Пакуль **апыніцца***
*За лесам сонца,*
*Як золатам льсьніцца*
*Дзіўна ў ваконцах.*

(„Нядзеля“, 1906)

Слова *аказацца* ў беларускай мове таксама шматзначнае, але другое значэньне ў яго зусім не такое, як у расейскай, а менавіта: ‘падаць голас, вестку; азвацца, загаварыць'. Цікавы прыклад падае Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: *Вось* ***аказаўся*** *і гудок цягніка, у якім* ***апынулася*** *Марылька* (Алесь Якімовіч).

***

Часам высьцерагаюцца слова *пагода*, хаця ў беларускай мове яно ёсьць. І значыць ‘добрае надвор’е’. Іншая рэч, што нават у беларускамоўных мэтэаралягічных прагнозах амаль ніколі не пачуеш: *„Сёньня пагода. Пагодны дзень“*. Антонім — *непагадзь*.

Ня трэба цягнуць з расейскае канцылярыт ці штучныя тэрміны, калі маем свае жывыя словы й выразы:

пчеловод — *пчаляр*, пчелопитомник — *пасека*, домашние животные — *свойская жывёла*, свиноматка — *мацёра*.

Якуб Колас палічыў патрэбным асобна пракамэнтаваць тую „сьвінаматку“:

*Сама сьвіньня падвышана ў сваёй сацыяльнай клясыфікацыі, і яе далікатна называюць „сьвінаматка“. І зьнімаюць зь яе фатаграфіі... Асабліва зварачаў увагу на сябе тут адзін кныр, сур’ёзны, важны, з даўжэзнымі выгнутымі ікламі. Справядлівасьць вымагае зьмяніць і яго назву* ***кныр*** *адпаведным „сьвінататка“.*

## Кампутар перамагае чалавека ў шахі, але ня ў мове

Кампутарныя праграмы перакладу спрасьцілі жыцьцё. Але перакладаць якасна ўсё ж можа толькі чалавек, бо мова — зьява жывая і не заўсёды паддаецца таблічнай сыстэматызацыі.

Як вам такая пачутая ў пэўнай радыёпраграме фраза: „Прыгонная сьцяна“. У арыгінале гэта было зусім не пра бязьлітасных фэадалаў, якія запрыгонілі яшчэ і сьцяну. Гэта была „крепостная стена“ — *замкавы мур* па-нашаму. Або:

„Лопаюцца ныркі і распускаюцца клейкія аркушыкі“.

Не, гэта не сцэнар вядомага фільму жахаў пра чужака-прыхадня — касьмічную пачвару, што адкладае яйкі ў зямныя арганізмы, зь якіх потым вылазяць новыя пачвары. Гэта Google Translate — мэханічны перакладнік у сеціве — пераклаў расейскі сказ „Лопаются почки и распускаются клейкие листочки“.

***

Мэханічныя мазгі пакуль не заўсёды разумеюць, што аднаму расейскаму слову могуць адпавядаць два або тры беларускія. „Почки“ — беларускія *ныркі* і *пупышкі*, „лист“ — беларускія *ліст* і *аркуш*, „зерно“ — *зерне* і *збожжа,* хрэстаматыйны „лук“ — *лук* і *цыбуля*.

„Масло“ — *масла, алей* і *аліва* (тэхнічная). Прычым масла толькі з малака, расьлінны харчовы тлушч — алей. У словазлучэньні „сьметанковае/вяршковае масла“ першае слова лішняе.

І плады, што растуць на аліўным дрэве, па-беларуску толькі *аліўкі* (дарэчы, насуперак пашыранаму меркаваньню, у расейскай літаратурнай мове „оливки“ і „маслины“ — сынонімы).

Таксама „любовь“ — *каханьне* і *любоў*, „брак“ — *брак* і *шлюб* (гэта ж трэба, як у суседзкай мове небясьпечна супалі гучаньнем два розныя паняцьці!).

„Мир“ — *сьвет* і *мір*. Адсюль бывала праблема зь перакладам назвы раману Л. Талстоя „Война и миръ/міръ“ — у расейскай мове да рэформы 1918 г. два значэньні слова перадаваліся розным напісаньнем. А таксама няправільны пераклад на беларускую савецкага лёзунгу „Миру — мир“: трэба было, вядома ж, „сьвету — мір“.

Багацьце беларускае мовы дазваляе па-рознаму перадаць значэньні расейскага слова „угол“. Як вучылі В. Ластоўскі й К. Дуж-Душэўскі, кут — нутраны, вугал (вугол) — вонкавы, рог — аб'ёмны (Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў. Коўна, 1923).

УГОЛ — кут, вугол, рог; линейный (плоский) угол — кут; двугранный угол — вугол; многогранный угол (телесный) — рог (мнагасьценны кут, рог).

[Калі дзьве напоўпростыя выходзяць з аднаго пункту, то фігура, створаная гэтымі напоўпростымі разам з часьцю пласма, абмежанага імі, завецца кутом. Два куты лічацца роўнымі, калі пры накладзе яны могуць сумесьціцца.

Два напоўпласмы выходзячыя з аднае напоўпростай, разам з часьцю прастору, абмежанага імі твораць (двусьценны) вугол.

У тэрміналёгіі дарусыфікацыйнага пэрыяду як асноўны тэрмін для нутранога кута замацавалася слова *кут*. У „Слоўніку матэматычнае тэрмінолёгіі“ Інстытуту беларускае культуры ў Менску (1927) слова *кут* падаецца ва ўсіх значэньнях. Шкада, што ў 1990-я гады не ўдалося пераканаць матэматыкаў прадоўжыць традыцыю (так, у „Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ“ 1993 году асноўным ідзе *вугал*, а *кут* — факультатыўны варыянт).

Але ў жывой мове ўсе тры словы патрэбныя. Напрыклад, *рог* вуліцы, слова, якім гуляе Сяржук Сокалаў-Воюш у дзіцячай кніжцы „Азбука ня забаўка“ (ізноў герой — нацыянальны татэм☺):

*Рох-рох, рох-рох,*
*Завярнуў парсюк за рог,*
*А на гэным на рагу*
*Прадавалася рагу.*
*Парсюку ж рагу ня далі,*
*Бо ня стаў ён у чаргу.*

## Сюдою туды, а тудою сюды. Расейская мова ў вуснах беларусаў

Цягам гісторыі ня толькі мова ўсходніх суседзяў уплывала на беларускую. Бывала і наадварот. Разам зь беларускімі навукоўцамі й майстрамі (часьцяком прывезенымі ў Масковію гвалтам) прыходзілі і словы.

Прыкладам, з Захаду ў Масковію ішло гарматнае майстэрства. Беларускія літнікі й гарматнікі адлівалі й выпрабоўвалі там гарматы (той самы Андрэй Чохаў, „Кашпіраў вучань“, аўтар Цар-гарматы, паводле некаторых зьвестак, беларускага паходжаньня).

Беларусы называлі гарматны рыштунак па-свойму. Так, начыньне для пораху — гэта *пушка*. Слова вядомае і старабеларускай мове, і сучасным гаворкам. *Пушка запалак*. Паходжаньне цьмянае, узводзяць да лацінскай. Але маскоўцы, якія пераймалі рамяство, перанесьлі назву скрыначкі на ўсю гармату. Мяркую, гэта праўдападобна тлумачыць значэньне расейскага слова *пушка*.

Празь беларускую і ўкраінскую мову ў расейскую прыйшло нямала „культурных“ лацінізмаў і грэцызмаў. Лацінізмы *автор, лекция, оратор, студент, фамилия* ды інш., даўно вядомыя старабеларускай мове, у расейскай зьявіліся толькі ў XVII ст. „праз украінска-беларускае пасярэдніцтва“ (паводле вядомага расейскага лінгвіста Ўладзіміра Жураўлёва). Мастом для перадачы

агульнаэўрапейскай навукова-адукацыйнай лексыкі былі выданьні ды ўстановы, створаныя Мялетам Сматрыцкім, Сымонам Полацкім (Самуйлам Пятроўскім-Сітняновічам), Лаўрэнам Зізаніем, Пятром Магілам ды іншымі.

**Голый васар в кишенях**

Гэта высокія сфэры. Што ж да нізкіх, то старое і сучаснае расейскае крымінальнае арго зьдзіўляе непасьвячонага такімі беларусізмамі, як *хата, конать, куток, шибеница, халява, мастак, кишеня*, *газ* ‘ґаза’ („керосин“), а таксама беларускімі ці ўкраінскімі ідышызмамі *хевра, бэбахи, голый васар* (параўнай бел. *варголы* ‘кіпень’).

Шаноўны чытач дазволіць мне не падаваць значэньняў усіх гэтых словаў у мове расейскай „братвы“.

Шляхі фармаваньня гэтага арго былі, відаць, прыблізна такія. Злодзеі (і адпаведна вязьні) імкнуліся, каб іх не разумелі навакольныя і турэмныя дазорцы. Пасьля захопу Беларусі і Ўкраіны насельнікі былога ВКЛ розных нацыянальнасьцяў адыгралі пэўную ролю ў фармаваньні цалкам закрытых ад улады крымінальных станаў у Расейскай імпэрыі, жыхары гэтых земляў патраплялі ў вязьніцы, і лексычныя асаблівасьці іхных моваў аказаліся ў прыгодзе. Пра тое пераканаўча сьведчыць колькасьць беларусізмаў, украінізмаў, гэбраізмаў, палянізмаў у асноўных арго расейскага злачыннага сьвету XIX—XX ст.

## „Четверьг“ і „прачешная“ вас не ўратуюць

Многія беларусы гавораць па-расейску. Дакладней, думаюць, што па-расейску. І ў сваёй расейскай мове вымаўляюць словы гэтак: [**я**йцо] або, скажам, [**Я**пония]. Слова „яйцо“ пішацца праз **я-** — дык і выгаворваюць, як напісана. Але як артыкулююць самі расейцы?

Усе памятаюць журботную песеньку Караля з мультыплікацыі „Сьлядамі Брэмэнскіх музыкаў“ у выкананьні кампазытара масквіча Г. Гладкова:

*Состоянье у тебя истерическое,*
*Скушай, доченька, **яйцо** диетическое.*
*Или, может, обратиться к врачу?*
*— Ничего я не хочу!!!*

Выразна чуваць: [й**и**йцо], [й**и**чко]. Ніякага „я“ няма, вымаўленчыя нормы расейскай мовы яго не дазваляюць. А ў радку зь беларускай казкі — *„Нанесла курачка яечак поўны падпечак“* — слова ***я**ечак* з выразным „яканьнем“. У першым складзе перад націскам і каранёвае „я“ зьберагаецца: ***я**ечка, **Я**понія*.

У нас моцнае аканьне: *ч**а**сы цяпер цяжкія*. Калі беларус кажа па-расейску [ч**я**сы], ён падсьвядома захоўвае гэтую рысу беларускага вымаўленьня. Па-расейску — [ч**и**сы], [**Е**пония]. Таму нават калі вы авалодалі мяккімі расейскімі шыпячымі, а таксама ўмееце казаць [четверьг] і [прачешная], вас усё роўна выкрыюць як беларуса.

У расейскай мове ненаціскныя галосныя рэдукуюцца — г. зн. моцна скарачаюцца і набываюць невыразны тэмбр. Часам да зьнікненьня — [зрасть] „здравствуйте“. У маскоўскай норме гук [а] перад націскам часам расьцягваюць: [ну даавай]. У беларускай усе галосныя зьберагаюць свой тэмбр, рытм мовы раўнейшы. Гэта моцна і незаўважна для беларусаў уплывае на іхнае расейскае маўленьне. Але расейскамоўныя вядоўцы „Глаўнага эфіру“ БТ стараюцца падладжвацца пад сваіх маскоўскіх калег і кажуць: [паадробнсти], [зделт] („сделает“), [ридаавымі] („рядовыми“). Кантрастам іхнаму вымаўленьню гучыць артыкуляцыя расейскай мовы ў выкананьні А. Лукашэнкі, у якога ня толькі чуваць цьвёрдыя шыпячыя, але і няма рэдукцыі галосных. Міжволі паўстае пытаньне, ці не парушаюць тыя вядоўцы субардынацыі.

**А вам не мулит?**

Гэтаксама выбіраючы слова ці складаючы выказваньне па-расейску, беларусы міжволі выкрываюць свае беларускія моўныя карані. Часта ўжываны расейскамоўнымі беларусамі для апісаньня жыцьцёвых і палітычных сытуацыяў ёмісты выраз „цирк на дроте“ расейцы, аказваецца, не разумеюць, у іх жа і слова *дрот* няма. І даслоўна перакласьці не атрымаецца, няма фразэалягізму „цирк на проволоке“. Такога патрэбнага штодзённага слова, як *шуфляда*, расейская літаратурная мова таксама ня ведае. „Выдвижной ящик стола“. Усім у нас вядомая школьная *сьцірка* там „лас-

тик“. Гульня ў *квача* або ў берасьцейскім двары майго дзяцінства ў *бэрыка* — у іх „салочки“, у *сьляпога ката* — „жмурки“.

На працу там бяруць не *ссабойку*, а „тормозок“. „Мне мулит, всё ляснулось, полная жменя, наклеить цетлик, 100 грамм сальтисона, не сёрбай, лузгать семки“ — гэта не па-расейску, бо *муляць*, *ляснуцца*, *жменя*, *цэтлік*, *сальцісон* і *семкі* — беларускія словы, іх няма ў расейскай літаратурнай мове.

Звычайнае для нас цёплае дзіцячае слова *бусько — дай маме буську* — таксама невядомае расейцам. Яны выносяць гэтае слова ў загалоўкі сваіх падарожных нататак як дзівосны беларускі экзатызм. А ў самой беларускай мове слова самае што ні ёсьць жывое. *Буся, буська, пабусяць*. Паходжаньне, хутчэй за ўсё, гукаперамальнае.

Беларусы ў сваім расейскім маўленьні, нават афіцыйных і кніжных стыляў, адмаўляюць верагоднасьць нечага выразам: „*Ни в коем разе!*“ Але ж гэта калька з нашага — *ні ў якім разе*. Фразэалягізм у беларускай мове заканамерны, са словам і коранем „раз“ у значэньні ‘выпадак’ у нас такіх выразаў нямала: *за кожным разам, раз за разам, штораз*. А вось у расейскай літаратурнай мове трэба казаць „ни в коем случае“. Пры гэтым выраз „ни в коем разе“ там ведаюць, але ён лічыцца нізкастылёвым. Ён ёсьць у дыялектах, дзе знойдзем ці мала словаў, падобных да беларускіх або нават магчымых беларусізмаў

(калі гаворкі перасяленскія). Скажам, ва ўральскіх гаворках:

„вехотка“ (мочалка), „враз“ (сразу), „голбец“ (подпол; параўнай наш *гаўбец* ‘балькон’), „гомонок“ (кошелек; параўнай наш *гаманец*), „ни в коем разе“ (ни в коем случае), „обабок“ (подберезовик), „стайка“ (сарай) — ці не ад *стайні*.

**Сюдою бліжэй, але далей**

Расейскія ваяўнікі за культуру мовы змагаюцца супраць пранікненьня беларусізмаў і ўкраінізмаў, запісваючы іх у прастамоўе — нізкі стыль маўленьня. (Калі-нікалі падобныя словы ёсьць або былі ў расейскіх дыялектах, але ня трапілі ў літаратурную норму.)

Але дзіва, калі расейская лексычная вайна перакідваецца на нашыя прасторы. Я быў кагадзе двойчы ўражаны. Разьвітваемся з крэўнымі. Галава вясковай паходжаньнем (з Палесься), але цяпер збольшага расейскамоўнай сям’і пытаецца: *Кудою паедзем?* — і дастае ад жонкі прачуханца: што гэта за „кудою“, абы-што, непісьменны! І другі эпізод: пачуўшы ад мяне словы *сюдою* і *тудою*, беларускамоўны фізык (родам з Паўночнай Беларусі) крывіцца: такіх словаў у правільнай мове няма!

Ня ведаю, ці продкаў маіх суразмоўцаў за беларускі акцэнт і беларускія словы *фізычна* ставілі на калені ў кут з насыпаным сушаным гарохам. Але што некага там *маральна* ставілі на віртуальны гарох за словы *кудою — сюдою — тудою*, дык пэўна. І займаліся гэтым носьбіты расейскай

мовы, навязваючы беларусам сваю моўную матрыцу. У іхным літаратурным стандарце такога няма. А ці ёсьць такія словы ў „правільнай“ беларускай мове і што яны азначаюць?

Іван Насовіч у „Слоўніку беларускай мовы“ (1870) фіксуе *сюдою* і *тудою* з фанэтычнымі варыянтамі:

**Сюдою.** Этою дорогою. *Сюдою лепей ехаць.*
**Тудэй.** Туда, тою дорогою. *Тудэй паедзеш, ды назад вернесься: бо тудэй з вазамі ніхто ня езьдзіць.*
**Тудою.** Там. *Тудою лепей будзець ехаць.*
Яшчэ Насовіч запісаў цікавы прыметнік, які дае адказ, як утварылася форма прыслоўя *тудою*:
**Тудый, тудая, тудэе.** Прыметнік. Там пролегающий, говорится о дороге. *Тудая дарога калюгвіста. Тудэй дарогі я ня знаю. Тудэю і тудою дарогаю дальшы, да лепі ехаць.*

„*Тудою* дарогаю лепей ехаць“! Вось жа *тудою* (*тудой, тудэю, тудэй, тудэма*) і *сюдою* (*сюдой, сюдэю, сюдэй, сюдэма*) — зусім ня тое самае, што *туды* і *сюды*. Для перакладнога слоўніка я даў бы ім такое тлумачэньне: „непереводимые на русский наречия, обозначающие соответствующий цели выбор маршрута“.

Пытальнае слова — *кудою* (з гукавымі варыянтамі). У клясычным „Беларуска-расійскім слоўніку“ Міколы Байкова і Сьцяпана Некрашэ-

віча (1926 г.) яно ілюструецца прыкладам змрочным, але з Купалы:

*Скрогат нясецца з асін...*
*Рабству паклоны біў дзед,*
  *Гнуўся пад палкамі ў крук;*
*Бацька — за дзедам; усьлед*
*З бацькам пляцецца і сын;*
  *Ты ж **кудой** пойдзеш, унук?..*

(„Бедныя буднія дні...“, 1912)

*Кудой* — пісаў клясык, заснавальнік новае літаратурнае мовы. Але цяперашнія афіцыйныя слоўнікі або ігнаруюць гэтыя прыслоўі (як Тлумачальны 1996 году), або пазначаюць маргіналізатарскім кляймом „абл.“ — г. зн. слова „абласное“, не агульнабеларускае, ня вартае ўжываньня ў нэўтральных стылях літаратурнае мовы. Хаця і там прыклады — зь Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Янкі Брыля *(„З коньмі сюдой не пралезеш! — сказаў Серада“.)* Як бачым, пісьменьнікі з розных абшараў Беларусі. Дык якія ж тыя словы „абласныя“?

Палымяна выступіў у абарону літаратурнага, агульнанацыянальнага статусу прыслоўяў *тудою — сюдою* тонкі знаўца слова, мовазнаўца і пісьменьнік Фёдар Янкоўскі. Вось ягоныя думкі і прыклады (1986 г.):

…І раптам наткнуўся на такое: *туды* і *тудою* (*тудой*) — аб’ект спрэчкі, шуканьне

дыялектызма. Што? Ці не падганяньне пад
іншамоўныя слоўнікі?
— *А як вы думаеце дабірацца? Тудою? Трамваем? Ці сюдою? Аўтобусам?*
Ад пэўнай мясьціны ... можа быць і не адна сьцежка (дарожка, дарога, шлях), а дзьве сьцежкі (дарожкі, дарогі). На гэта і паказваюць яны — два словы: *тудою — сюдою.*
[Запісаныя гэтыя словы] пад Слуцкам
і Бабруйскам, Любаньню і Асіпавічамі,
Радашкавічамі і Лідаю.

*Сюдою бліжэй, але далей, а тудою далей, але бліжэй* = Як пойдзеш нацянькі, то праходзіш тры дзянькі.

*А ў бары, у бары*
*Тры дарожанькі,*
*Тудою ішлі*
*Тры жаўнерыкі.*

…З правам (і без аглядак: „А што ў іншых мовах?“) ужываецца *туды* і *тудою*
ў літаратурнай мове.

Так што маем чарговае сьведчаньне адарванасьці савецкай лексыкаграфічнай завядзёнкі ад жывой мовы.

Зрэшты, бальшыня беларусаў праблемы з гэтымі словамі ня мае. Слоўкі займаюць такую патрэбную сэмантычную нішу, што іх зусім неўпрыкмет уплятаюць у сваю мову і расейскамоўныя жыхары Беларусі (ды Ўкраіны таксама).

„Точно. Слышал. И ещё слышал, как экскурсоводша родом из Белоруссии сказала «сюдой»“.
„Я не украинец, я беларус, говорю исключительно на русском. „Сюдой“ и „тудой“ употребляю часто, но не бездумно. Это совсем не то же самое, что „сюда“ и „туда“. *Сюдой — через сюда. Тудой — через туда*“.

Так гаворыць народ на расейскім інтэрнэт-форуме.

Паўднёвыя суседзі такімі слоўкамі, ужытымі менавіта ў расейскай мове, казыраюць і нават на іх зарабляюць. Рэкляма экскурсійных паслугаў у Адэсе: „Экскурсии тудой и сюдой“.

***

І нашым расейскамоўным ня варта баяцца беларусізмаў у сваім маўленьні, з чаго, аднак, не вынікае, што трэ прызнаваць і ўзаконьваць нейкі „беларускі варыянт расейскае мовы“. Як ні стараймася ўдаваць зь сябе расейца, нашае маўленьне нас выдасьць. Таму лепш проста гаварэма па-беларуску.

## Вышыванка — „Слова 2014 году“

Ці пагражае беларускай мове ўкраінізацыя?

Перад выпускнымі сьвятамі па школах ды гімназіях ходзяць камэрцыйныя агенты і агітуюць пазычаць стандартныя выпускныя сукенкі ды гарнітуры, купляць прывезеныя з Расеі чырвоныя стужкі з залатым на кітайскі лад надпісам *„Выпускник“*, замаўляць фотаальбомы з МТЗ ды Нацыянальнай бібліятэкай у віньетках і г.д.

Але некаторыя вучні выпускных клясаў Менску ужо хадзілі на ўрачыстасьці ў вышываных строях (і вырашылі былі гэтак зрабіць яшчэ да апошняга вышыванкавага буму).

Надышоў час увасабляць па-беларуску падзею, эпахальную для шматлікіх выпускнікоў (а іх у дзяржаве штогод каля 55 тыс.). Прычым ніхто не запярэчыць, калі самі героі ўрачыстасьці так захочуць. Дзяўчаты ў вышываных (аздобленых) прафэсіяналамі урачыстых сукенках, хлопцы ў вышываных кашулях (зрэшты, могуць быць і элемэнты беларускага шляхоцкага строю) — гэта можа зрабіць сьвята незабыўным.

Патрэбная канцэпцыя іншых аздобаў — скажам, не перадавіцкіх ці сватоўскіх стужак цераз плячо, а бантаў або разэтак са стужак нацыянальных колераў ці арнамэнтаваных; вяночкаў для дзяўчат; разьвітальных ручнікоў для цырымоніі; акадэмічных шапак з кутасікамі ды інш. А для аднаўленьня нашых аўтэнтычных выпускных

рытуалаў трэба сабраць успаміны выпускнікоў Віленскай, Наваградзкай ды іншых міжваенных беларускіх несавецкіх гімназіяў. Але гэта тэма іншых артыкулаў.

Гэтак слова „вышыванка“ актуалізуецца яшчэ ў адной сфэры — пасьля таго як яно стала „Словам 2014 году“ паводле вэрсіі Радыё Свабода.

**Слова-чэмпіён**

Крыху пра „словы году“. Завядзёнку прыдумалі немцы (Таварыства нямецкай мовы), а падхапілі ангельскія мовазнаўцы. Крытэры ў розных журы адрозныя. Скажам, Амэрыканскае дыялекталягічнае таварыства і выдаўцы слоўнікаў Merriam-Webster's часта аддаюць перавагу словам, якія ўзьніклі або зьмянілі значэньне ў адпаведным годзе, а оксфардзкія гуру выбіраюць слова не абавязкова новае, але вельмі частотнае ў адпаведным годзе. „Слова 2013 году“ паводле оксфардзкіх лексыкографаў — *selfie*.

У нас лінгвісты пакуль не дамовіліся пра крытэры і мэханізм выбару беларускага „Слова году“ (а варта). Таму стыхійныя адказы на журналісцкае пытаньне былі розныя. Я быў назваў назоўнік *вышымайка* — імітаваная друкам на майцы вышыванка. Хаця спосаб яго ўтварэньня не ўласьцівы беларускай мове, але я палічыў (зважаючы на традыцыю амэрыканскіх дыялектолягаў), што слова ўзьнікла ў адпаведным годзе і пранікла ў розныя сфэры ўжываньня з камэрцыйнай улучна.

Іншыя калегі надалі чэмпіёнства самому слову *вышыванка* — паводле оксфардзкага крытэру: слова ня новае, але імкліва набрала новую вагу ў Беларусі менавіта летась. І з гэтым выбарам можна пагадзіцца.

Але ў камэнтарох хто-ніхто назваў слова *вышыванка* ўкраінізмам. Пытаньне сур'ёзнае і шырокае: якія словы лічыць украінізмамі?

**Вышыванка — наша**

Сапраўды, у сучаснай украінскай рэальнасьці слова *вишиванка* пашырана куды больш, чым у нас (як і адпаведная рэч). І фіксуецца слоўнікамі даволі рана: яго падае ўжо А. Афанасьеў (Чужбінскі) у „Словаре малорусскаго наречія“, укладзеным у 1855 г. Мела два значэньні — працэсу і вырабу. Бытуе ў суседзяў з двума націскамі: *вишива́нка* і *виши́ванка*.

У беларускіх дыялектных слоўніках, здаецца, слова гэтае не запісанае. Але ж і для беларускае мовы называць прадмет ці зьяву як атрыбут або вынік пэўнага дзеяньня на *-нка* цалкам натуральна: *калыхаць — калыханы — калыханка*, *мураваць — мураваны — мураванка* (пра цаглянную будыніну).

Ёсьць і праславутая *трасянка*; *мачанка*, *коўзанка* (ледзяны каток), *чытанка* (хрэстаматыя). Таксама *раскладанка* (тое, што з расейскім суфіксам — „раскладушка“). І нават *каханка* належыць да гэтай словаўтваральнай мадэлі.

Знаўца словаўтварэньня Павел Сьцяцко вылучае асобную групу такіх назоўнікаў менавіта

са значэньнем адзеньня, тканіны: *пацяганка* ‘кажух, абцягнуты сукном’; *пісанка* ‘размаляваная кашуля’ (і велікоднае яйка так завецца); *перабіранка* ‘саматканы дыван’.

Бліжэй да шытва. *Падшыванка* — гэта ня толькі дзяўчынка-*падшыванец*. Гэта ватоўка, па-расейску „стёганка“, той самы „ватнік“, што выконвае ролю цывілізацыйнага маркера. Беларускія гаворкі ведаюць слова *абшыванка* — лодка, выдзеўбаная са ствала, абшытая для ўстойлівасьці дашчанымі бартамі. Назва засталася з пары, калі дошкі не скалочвалі, а менавіта сшывалі віцінаю (лазою). Абшыванка была пашыраная на Падняпроўі.

Мова лёгка ўтварае з двух словаў — дзеепрыметніка/прыметніка і назоўніка — адно. *Падшываная* вопратка — *падшыванка*. *Абшываная* лодка — *абшыванка*. *Вышываная* кашуля — *вышыванка*. Такія кашулі вядомыя былі нашым продкам адвеку:

*...у каторым тлумку было дзей ... кашуль коленскіх шэсьць ... дзьве не* ***вышываных****, тыя кашулі каштавалі грошай коп паўшасты...*
(1582 г.)

„Коленскія кашулі“— гэта з Кёльна.

Вышываныя рэчы бывалі аб’ектам рабаваньня:

*...Памянёныя асобы ... хустку,* ***вышываную*** *чырвоным ядвабем, ... паграбіўшы ... дадому ... адвезьлі* (1617 г.)

У Скарынавых перакладах таксама сустракаецца гэты прыметнік. Ёсьць і слова *вышывач* — майстар адпаведнага рамяства:

*Цар ... Завядзе ўсіх ерусалімлян, і ўсех князей, і ўсех сілных дзесяць тысячэй палону. І ўсіх масьцяроў і вышывачоў...* (Чацьвертая кніга Царстваў)

Мадэль „вышываная кашуля/сарочка“ жыла і жыве ў гаворках. „Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны“ Міколы Шатэрніка (1929 г.) гэта пацьвярджае: *Надзеў вышыванаю сарочку* (вёска Ста́рына).

Таму і слова *вышыванка* даўно магло ўтварыцца на беларускай глебе. У шасьцітамовым Тлумачальным слоўніку (т. І, 1977 г.) яно ёсьць. Праўда, стылёваю паметаю „размоўнае“ гэты слоўнік адпраўляе слова *вышыванка* ў моўнае гета. Але да саветызацыі слова ўжывалі без стылёвых абмежаваньняў. Так, Інвэнтарную кнігу Музэю імя Івана Луцкевіча Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні ўкладаў сваёю рукою ў 1922 годзе сам Антон Луцкевіч, аўтарытэтны і ўплывовы знаўца беларускае мовы. Пад нумарам 112 экспанат „*Вышыванка дробнымі пацер-*

*камі. Пэйзаж*“ — то бок вышываная на тканіне выява.

Уласна слова *вышыванка* — ключавое ў агульнавядомай песьні „Іванка ты, Іванка“:

*Іванка ты, Іванка,*
*Сарочка-вышыванка,*
*Высокі да й страйны,*
*Высокі да й страйны,*
*Шчэ на барадзе ямка.*

Песьня, як і многія, супольная для беларусаў і ўкраінцаў. Хутчэй за ўсё ўкраінскага паходжаньня. Але даўно свая для беларусаў, бо запісаная ад Мазыршчыны да Вялейшчыны (напр., у вёсцы Давыдкі студэнтамі-філфакаўцамі).

**Нястрашныя ўкраінізмы**

Такім чынам, слова *вышыванка* — у роўнай ступені набытак дзьвюх моваў. Беларуская і ўкраінская мовы лексычна і граматычна блізкія міжсобку. Прынамсі да XVII стагодзьдзя два народы фактычна карысталіся двума варыянтамі адной літаратурнай мовы. Навукоўцы вядуць млявую дыскусію пра разьмежаваньне старадаўніх помнікаў беларускага і ўкраінскага пісьменства. Скажам, чыім лічыць перавыдадзены ў 1653 г. у Куцейне пад Воршай „Лексікон“ Памвы Бярынды, які большую частку жыцьця правёў ва Ўкраіне.

У савецкі час афіцыйнае мовазнаўства змагалася з узбагачэньнем беларускае мовы вернутымі з даўніны або створанымі наноў словамі,

залічваючы іх да архаізмаў і запазычаньняў (не з расейскай мовы — зь яе дазвалялася запазычваць дасхочу). Таму Пётра Садоўскі эмацыйна пісаў пра

…так званыя „забытыя“ словы, якія сучаснымі мовазнаўцамі называюцца „старасьвецкія“, „нашаніўскія“, „украінізмы“, „палянізмы“ і г.д. Гэта словы тыпу: *ганараваць, запачаткаваць, пустацікавец, багажня, гасьцёўня, пачакальня, дахоўка, спаборнікі, гульцы (...)* і г.д. Некаторыя зь іх сапраўды могуць супадаць цалкам або адрозьнівацца толькі марфалягічным афармленьнем з пэўнымі ўкраінскімі ці польскімі словамі, але ж гэта нармальна. Мы ж не абʼяўляем небеларускімі беларускія народныя песьні, якія маюць падабенства ў мэлясе і ў вобразах з украінскімі ці якімі іншымі.

(Пётра Садоўскі. Час одуму. Полымя, 1986, № 5)

Блізкія мовы могуць утвараць падобныя словы незалежна адна ад аднае. Часам слова бытуе ў гаворках абедзьвюх моваў, але становіцца літаратурным толькі ў адной зь іх. Наяўныя ў беларускай мове (ці яе асобных гаворках) словы пад уплывам украінскае мовы могуць мяняць значэньне: *прыгадваць* ‘лічыць’ — на ‘ўспамінаць’, *прыдбаць* ‘нажыць’, ‘займець дзякуючы працяглым намаганьням’ — на проста ‘купіць’.

У сучаснай гарадзкой беларускай мове ёсьць *марозіва*, хутчэй за ўсё, пазычанае з поўдня, ад-

нак яно добра пачуваецца сярод *печыва, варыва* ці там *зябліва*.

У Ластоўскага *зморазь* (шкада, што не прыжылася), у Некрашэвіча і Байкова — *марожанае*. Хаця жыхары Давыд-Гарадка, што здаўна, задоўга да рэфрыжэратараў, вазілі гэты прадукт ажно ў Варшаву (во дзе тэхналягічная загадка!), называлі яго *лёды*. І зусім ня факт, што гэта палянізм, бо на гістарычнай Тураўшчыне словам *лёды* называюць мноства лёду: *Ой, велікіе лёды булі на рэцэ! У* сучасных афіцыйных слоўніках толькі *марожанае.* Але яно, як і *лёды,* прагуляла спаборніцтва *марозіву*, бо словы занадта выглядалі на русізм і палянізм.

У моўнай гісторыі беларусаў былі пэрыяды палянізацыі, а пэрыяд русыфікацыі доўжыцца дасюль. І калі чалавек імкнецца да „чыстага“ маўленьня па-беларуску (г. зн. становіцца моўным пурыстам), ён рэфлекторна ўнікае словаў, якія супадаюць з расейскімі. (Часам на шкоду багацьцю мовы, але пра гэта асобная размова.) Да пэўнае мяжы, ведаючы польскую, можна распазнаць палянізмы. З украінскаю моваю інакш: яна дужа падобная да беларускай ва ўсім, акрамя фанэтыкі, і адчуваньне чужасьці сьціраецца.

Сапраўды, усе ў нас у той ці іншай ступені ведаюць расейскую мову.

Удалай я лічу замену недарэчнага вакзальнага „пуця“ (яго і скланяць нармальна па-беларуску ня ўмеюць, хаця ёсьць усходнебеларуская прыказка „Стары з *пуця* не зьвядзець”) на *каляіну* (*„Цягнік Менск—Вільня прыбудзе на 23-ю каляіну“*) —

слова спрадвечна нашае, але пашырэньне сэмантыкі падказала ўкраінская *колія* — усе чулі гэтае слова ў чыгуначным значэньні на кіеўскім або чарнігаўскім вакзале.

Ёсьць і „лішнія“ ўкраінізмы. У нашаніўскіх клясыкаў нормаю былі *сумніў, сумніўны* — украінізмы чыста фанэтычныя, нематываваныя, і таму слушна замененыя на *сумнеў* і *сумнеўны* (за гэта ваяваў Янка Станкевіч). Дакладна непатрэбны ў беларускай мове навамодны ўкраінізм *адрэса*, бо маем здаўна *адрас.*

**Караткевіч як экспартэр украінізмаў**

Жменю ўкраінізмаў у новую беларускую літаратурную мову ўвёў Уладзімер Караткевіч, які вучыўся ў Кіеве і працаваў настаўнікам на Кіеўшчыне.

Прыкладам, слова *спаруда* ‘будыніна’. Слова заняло сваё месца ў адпаведным сынанімічным шэрагу: „Тая *спаруда* ня толькі цэнтральны праспэкт сталіцы сапсавала, а ўвесь наш горад!“ (архітэктар Ю. Градаў пра гатэль ля цырку) — са значэньнем ‘каструбаваты, недарэчны будынак’.

Часам, магчыма, Караткевіч не заўважаў, што ўжывае ўкраінізмы. Скажам, *піхвы* ў значэньні ‘футарал для халоднай зброі’: *Блішчэлі сталь дзід і срэбныя піхвы крывых татарскіх шабляў* (“Хрыстос прызямліўся ў Гародні“). У старабеларускай мове, у слоўніку С. Некрашэвіча і М. Байкова ў гэтым значэньні *похвы*: *Але Ісус сказаў Пятру: укладзі меч у похвы* (Эвангельле паводле Лукаша, пераклад Васіля Сёмухі).

Бывала, што рэдактар Караткевічавых тэкстаў трапляў у пастку праз „фальшывых сяброў перакладніка“ — словы, што гучаць у дзьвюх мовах падобна, але маюць featureзнае значэньне:

*Поўня, калі рака плыве зямной дарогаю, даўно адышла* („Ладзьдзя Роспачы“).

Сказ незразумелы. У аўтарскім арыгінале тут была „повень“, як сьведчыць Г. Лабадзенка (і мяркуе, што рэдактар меў рацыю, замяніўшы ўкраінізм на падобнае гучаньнем беларускае слова). Але па-ўкраінску *повінь* — гэта паводка. У беларускіх гаворках ёсьць *повань* з тым самым значэньнем (паходзіць таксама ад кораня *поўн-ы*). І тады сказ становіцца на сваё месца.

Караткевіч ужываў таксама іншыя ўкраінізмы, якія, аднак, не прыжыліся ў беларускай мове: *выстачаць* ‘ставаць’, *краяць* (напр., сэрца — ‘кроіць, рваць’), *сяйва* ‘зьзяньне’, *развважацца* ‘забаўляцца’.

***

Калі-нікалі ва ўкраінізмы залічваюць словы, у роўнай ступені вядомыя беларускай мове, як *назаўжды, прыкмета.* Ёсьць больш відавочныя ўкраінізмы, як *напрыканцы, распавядаць.* Але яны не ствараюць праблемаў неразуменьня. Украінізм *напрамак* лепш замяняць *кірункам* (а вось „накірунак“ — штучны гібрыд гэтых двух словаў).

А што да *вышыванкі*, то гэтае беларускае слова — разам са зьявай —неад’емнае ўжо і ад сучаснай беларускай урбаністычнай культуры.

## „Ванітас“ на менскай вуліцы, або Брэнд сівой кабылы

Пару гадоў таму Менск заставілі вэртыкальнымі зашклёнымі білбордамі з прэтэнзіяй на густы beau monde, з выяваю *бутэлячкі да пáхмяцяў* (© Вацлаў Ластоўскі) і з словамі

*„Новый запах от Versace — Ванитас / Vanitas“.*

„Vanitas Versace — это хвалебная ода женственности… Этот сияющий и обворожительный парфюм будет мощным оружием прекрасной покорительницы мужских сердец“,— удакладняе рэкляма.

Пэўна, мэнэджэры Versace (як і многіх іншых фірмаў) не задумваліся, што беларускі рынак розьніцца ад расейскага яшчэ чымсьці, акрамя грашовага размаху. У прыватнасьці, моўна й мэнтальна. (Самі расейцы часта перакананыя, што нічым, і гоняць нам сюды „Суворовскую кашу“.) А прадстаўнікі Versace на беларускім рынку засьведчылі некампэтэнтнасьць, не папярэдзіўшы цэнтральны офіс.

Для расейскамоўных расейцаў у гэтай рэкляме няма недарэчнасьцяў (амаль; усё ж пэўны корань са значэньнем паху чувáць). Знаўцы лаціны або прынамсі ангельскае мовы ўбачаць у назьве рэклямаванае *пахмяці* лацінскі корань vanitas ‘пыха’ (параўн. назву раману Ўільяма Такерэя „Vanity Fair“ — „Кірмаш пыхі“).

Але рэч у тым, што носьбіт беларускае мовы — маю на ўвазе як актыўных моўцаў, так і тых, хто валодае моваю пасіўна, г. зн. яе разумее — ня можа не прыгадаць у зьвязку з рэклямаю, пагатоў што ў ёй ужытае слова „запах“, словаў *ваніты, ванітаваць*. Яны таксама паходзяць з лацінскай, але ад іншага кораню — vomere (адпаведнае дзеяньне) > vomitus (вынік).

Абавязак рэклямніка — „прагнаць“ назву праз усе мовы, якімі карыстаюцца пакупнікі на адпаведнай тэрыторыі. У савецкай гісторыі былі прэцэдэнты, калі дадзеную партыйным начальствам — дзеля асабістых геаграфічных сантымэнтаў — назву „Жигули“ для экспарту давялося мяняць на „Ладу“, у т. л. з прычыны сугучнасьці з gigolò, пашыранаю адразу ў некалькіх эўрапейскіх мовах назваю ня самай шаноўнай мужчынскай прафэсіі.

**„Шэўрале“ ня едзе**

„Лякалізацыя брэндаў“ — асобная, вялікая, грашаёмістая галіна маркетынгу. Фірмы, якія не зважаюць на лякалізацыю, нясуць страты. Хрэстаматыйныя прыклады — General Motors, якія запусьцілі на гішпанамоўныя рынкі Chevrolet Nova, але зганьбіліся, бо no va значыць ‘ня едзе’; цікаўныя самі даведаюцца, чаму Mitsubishi Pajero на тыя ж рынкі пайшоў як Mitsubishi Montero.

Блізкі да нашай сытуацыі з „Ванітасам“ выпадак, калі касмэтычны брэнд Clairol запусьціў у Нямеччыне прадукт Mist Stick. Па-ангель-

ску ўсё прыгожа, напрыклад, mist — туман — клубіцца ў знакамітай песьні Пола Маккартні:

*Mull of Kintyre,*
*Oh mist rolling in from the sea*
*My desire is always to be here*
*Oh Mull of Kintyre...*

Але ў гутарковай нямецкай der Mist азначае ‘гной’ і ўжываецца як лаянка. У розных мовах падобныя словы нярэдка маюць іншае, а то і кантраснае, значэньне, як беларускае *ўсьміхацца* і расейскае *усмехаться*. Ода Маккартні любімай шатляндзкай мясьціне аніяк з таго не цярпіць, ён гэтага лексычнага кур’ёзу ня мусіў ведаць. Але брэндмайстры акурат павінны ведаць такія рэчы, бо фактычна ўкараняюць словы ў тую ці іншую мову.

Урэшце сур’ёзныя кампаніі пачалі зважаць на моўную лякалізацыю сваіх прадуктаў. Але ў кожным разе стратэгічнае рашэньне прымае кампанія. Так, нягледзячы на амаль векавую гісторыю пратэстаў абаронцаў чысьціні польскае мовы супраць электрычнага брэнду OSRAM, кампанія ня стала мяняць сваю ўсясьветна вядомую назву. У прынцыпе назвы кампаніяў, калі трэба глябальная пазнавальнасьць, не мяняюцца. А вось імёны канкрэтных прадуктаў (мадэляў) — часта. Вось і карэйцы памянялі для расейцаў назву распушчальных локшынаў „Досирак“ (гэта прыблізнае вымаўленьне слова 도시락 ‘абед’, і спачатку яны так і зваліся па-расейску) на „Доширак“.

**Паглядзім, што кажуць самі беларусы**

На жаль, іншаземцы ў апраўданьне могуць спаслацца на глухату да беларускае мовы тутэйшых брэндмайстраў, рэклямнікаў, журналістаў. Аўтары расейскамоўнага споклічу „Болей за Беларусь!“, скарыстанага ў рэклямах хакейнага чэмпіянату (білборды якога ўжо быў пракамэнтаваў Сяргей Дубавец) і Эўравізіі, відавочна, не задалі сабе пытаньня „Куды ўжо болей!“

*„Жадаем вам больш забіваць!“.* Гэта першая паласа „Вячэрняга Мінску“ яшчэ ў пару ягонае дзьвюхмоўнасьці. Пераклад з расейскай без увагі на тое, што ў беларускай мове ключавое слова можа мець іншыя значэньні ды/або асацыяцыі. На ўсякі выпадак скажу, што гэта заклік да футбалістаў.

Ёсьць адваротны бок пытаньня. Калі тыя самыя расейцы ў разьліку на беларускі рынак перакладаюць як умеюць (перадусім праз Гугаль-Трансьлейт) назвы тавараў ці стандартныя тэксты на ўпакоўках — гэта варта вітаць. Хоць бы сустрэўшы там хрэстаматыйныя ўжо *„тлушчы, вавёркі, вугляводы“* ці нават *„Пшанічную пакуту“* (у сэнсе муку!).

**Бяз плачу ды лёзунгаў**

Нехта скажа са спасылкай на сацыёлягаў, што ў Менску ды іншых гарадах беларускамоўных мізэрны працэнт. Маўляў, прагматычны бізнэс эканоміць на неэфэктыўных выдатках. Але ж беларуская — гэта ня толькі літаратурная мова ва ўсіх яе варыянтах, але таксама дыялекты й

„трасянка“ (піджын ці кайнэ), а нават беларускамоўныя ўстаўкі ў лексычна расейскую моўную плынь. Урэшце, ёсьць пасіўнае валоданьне моваю, калі чалавек яе разумее. А такіх людзей у беларускіх гарадах дакладна бальшыня.

І ёсьць такая матэрыяльная рэч, як імідж фірмы. Калі кіраўніцтва разумнае, яно ўзважыць, што лепш: настойваць на назьве ці патрапіць у анэкдоты. Праблема, зразумела, не ў Versace. Хай самі дбаюць пра імідж. Дарэчы, я задаволены, што пасьля згадкі мною ў сеціве ванітасавага паху фірма Versace трапіла ў чорную намінацыю аднаго зь беларускіх рэклямных конкурсаў — акурат праз моўную глухату.

Праблема ў бачаньні Беларусі як *асобнага* рынку з *адметнай* моўнай сытуацыяй усімі дастаўцамі тавараў і паслугаў. Сюды ж залічым брак беларускае мовы сярод моваў інструкцыяў да тавару ці пераліку складнікаў прадукту на ўпакоўцы. Для спажыўца гэта азначае, што і краіны Беларусі — няма.

Рэальная мэта — улучэньне веданьня беларускае ў сьпіс крытэраў прафэсійнае прыдатнасьці для нанятых замежнымі фірмамі. Каб не было, сярод іншага, так, што ў Макдональдсе просіш каву, а даюць какаву. Варта заўважаць кожную падобную хібу і зьвяртацца менавіта ў галоўныя офісы замежных кампаніяў. Там не саўкі, яны ведаюць, што такое лякалізацыя брэндаў. Маем зручную магчымасьць бяз плачу (*гіне-мова-гіне-культура*) ды лёзунгаў тлумачыць капіталу на ягонай, капіталу, мове, што трэба зважаць

на эстэтычныя пачуцьці некалькіх мільёнаў патэнцыйных пакупнікоў. Можа, звольняць сваіх некампэтэнтных прадстаўнікоў у Беларусі ды набяруць тых, хто прынамсі слухае і чуе беларускую мову.

На добры лад, ва ўнівэрсытэтах, дзе вучаць на маркетолягаў і рэклямістаў, мусіць быць адпаведны спэцыяльны курс. Колькі гадоў таму я быў запрошаны на зборку гуртка беларускае мовы ў „наргасе“ (гуртка, натуральна, ужо няма); там былі акурат студэнты-маркетолягі, і мы разважалі пра гэтыя рэчы; хтосьці браўся курсавыя пісаць. Дык вось будзе попыт ад бізнэсу — будзе і кадравая прапанова. *Ванітас* ад Вэрсачэ падказаў стратэгічную справу.

## Сьнягурачка як інструмэнт цывілізацыйнага выбару

Як Дзед Мароз, так і Сьнягурачка ня маюць дачыненьня да беларускіх традыцыяў і зімовых рытуалаў. Імі абаімі ў савецкі час выбівалі хрысьціянскія і народныя традыцыі Калядаў ды шанаваньне Сьвятога Мікалая.

Дзед Мароз ад апошняга істотна розьніцца — функцыянальна і мэнтальна, але з гэтым хай разьбіраюцца фальклярысты й знаўцы міталёгіі. Скажу толькі, што Сьвяты Мікалай, як то сьвяты, і падарункі нясе патаемна, і ня мае ў сваім экіпажы дзяўчат.

Разьбярэмся са Сьнягурачкай — з моўнага гледзішча.

У расейскай мове, паводле Ўладзімера Даля, слова *снегурочка* было зь некалькімі значэньнямі. *Снегурка, снегурочка* — гэта птушка: пуначка або жаваронак. Таксама

Девочка снегурка — рожденная от снега.
Снежник и снегурка — складенный из снега болван, подобие человека, снеговик.

У нас той „балван“ усё ж *сьнегавая баба*.

Але Далева дзяўчынка-сьнягурка літаратурнага паходжаньня, а не народная. Яна не фігуравала ў даўнейшай славянскай міталёгіі, а зьявілася ўпершыню як пэрсанаж расейскай казкі пра „Снегурку“ або „Снежевиночку“, запісанай

у XIX ст. Далей ужо працавала кабінэтная мітатворчасьць. Асаблівую папулярнасьць вобраз Сьнягурачкі набыў, калі А. Астроўскі напісаў п’есу пра дачку Дзеда Мароза і Вясны-Красны, а потым М. Рымскі-Корсакаў стварыў для яе музыку. Але галавакружную кар’еру Сьнягурачка зрабіла ў савецкую пару. Зьявіліся Сьнягурачкі ў піянэрскіх гальштуках і з чырвонымі сьцягамі.

Слова *сьнягурка* не адпавядае словаўтваральным мадэлям беларускае мовы. Птушак называць *сьнегурамі* маглі і ў беларускіх гаворках: гэта сьнягір, прыкладам, у Ляхавіцкім раёне. (*Снігур* таксама па-ўкраінску, адкуль адпаведнае прозьвішча — украінскае і ад яго малдаўскае: першы прэзыдэнт незалежнай Малдовы — Mircea Snegur, Мірча Снэґур.)

Але пра беларускія назвы людзей на **-ýр(а)** знаўца пытаньня Павел Сьцяцко кажа, што яны

…абазначаюць асоб паводле занятку ці схільнасьці да адпаведнага дзеяньня з экспрэсіяй зьніжанасьці: вазіць — *вазюр* ‘вазак’, хадзіць — *хадур* ‘жабрак’, мазацца — *мазýр* ‘замурзаны’, *лізýра* ‘лізун, падлізьнік’,“ *пячýра* — дамасед…

А словы на **-урá** дык і зусім

…абазначаюць групу аднародных жывых істот і маюць экспрэсію непахвальнасьці: немец — *немчурá*, воўк — *ваўчурá*…

Вось чаму па-беларуску не „дачурка“, а *дачушка*; і рас. „девчурка“ адпавядае беларускаму слову *дзеўчаня, дзеўчанё*. Хай шаноўны чытач уявіць сам, якога чалавека па-беларуску маглі назваць словам Сьнягур*,* Сьнягýра або Сьнегурá.

Карацей, ня наша тая Сьнягурка. Нашыя — каляднікі й Сьвяты Мікалай, які вытрымаў праверку савецкім замоўчваньнем ды канкурэнцыяй Дзеда Мароза і трыюмфальна вярнуўся.

У старадаўнім пантэоне адказны за мароз быў *Зюзя*, і добра, што на Пастаўшчыне завёўся Зюзя Паазерскі, які, адрозна ад афіцыйнага Дзеда Мароза ў Белавескай Пушчы, не цураецца беларускае мовы.

Нацыянальны калярыт беларускаму зімоваму сьвяту надае гурт каляднікаў з Казою, Механошам, Жоравам, Медзьвядзём і нават культавай у нас Сьвінкай. Роляў не бракуе для любой колькасьці ўдзельнікаў, іх можна творча дадаваць. Прычым каляднікі не раздаюць, а зьбіраюць падарункі, г. зн. не канкуруюць зь Мікалаем.

# Паказьнік
разгледжаных беларускіх словаў, формаў і выразаў*

**Б**

## Д

**Е**

**Ё**



**Ж**



**З**

**Н**

**О**



**П**

**Р**

**С**

**Т**

* Скароты: в.скл. = вінавальны склон; вул. = вуліца; гл. = глядзі; д.скл. = давальны склон; кл.скл. = клічны склон; м.скл. = месны склон; мн.л. = множны лік; пл. = плошча/пляц; р.скл. = родны склон; ст.м. = станцыя мэтро; тв.скл. = творны склон.

## Пра аўтара



Вінцук Вячорка нарадзіўся ў Берасьці 7 ліпеня 1961 г. Дыплём філёляга ў БДУ абараняў на тэму беларуска-літоўскіх моўных узаемаўплываў. У асьпірантуры Акадэміі навук вывучаў мову выданьняў Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Публікаваўся ў гадавіку „Беларуская лінгвістыка“, у энцыкляпэдыі „Беларуская мова“ (1994). Ініцыяваў сучаснае ўпарадкаваньне беларускага клясычнага правапісу, аўтар зводаў „Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі“ (1995); „Беларускі клясычны правапіс“ разам зь Ю.Бушляковым, З. Саньком і З. Саўкам (2005).

Выкладаў у БДПУ, чытаў лекцыі ў Віленскім унівэрсытэце ды інш. Укладаў (разам з П. Садоўскім) першыя беларускія праграмы і чытанкі для дашкольных установаў. Аўтар праграмы „Гісторыя і культура беларускай мовы“ для ліцэяў. У 1990-я гады намесьнік старшыні Тэрміналягічнай камісіі пры міністэрстве адукацыі.

Удзельнічаў у выданьні часопісаў падпольнай Групы Незалежнасьць „Люстра Дзён“ (1979—1980) і „Бурачок“/„Вітажэнец“ (1986—1987). Сузаснавальнік „Майстроўні“, „Талакі“, Беларускага Народнага Фронту.

Намесьнік галоўнага рэдактара часопіса „Спадчына“, дзе вяртаў ва ўжытак тэксты эпохі беларускага адраджэньня 1-й паловы XX ст. Аўтар навукова-папулярных тэкстаў і кніг пра нацыянальную сымболіку.

На Радыё Свабода ў пачатку 1990-х гадоў вёў праграму, прысьвечаную беларускай мове, у 1997—1999 г.  быў суаўтарам цыклю „Неабжытая спадчына“. З 2014 г. вядзе сэрыю папулярных нарысаў пра беларускую мову.

## Summary

"In Belarusian With Vincuk Viačorka" is a series of essays based on the eponymous Radio Liberty internet page program. Viačorka, an expert philologist, encourages his audiences to dissect the rules and principles of authentic Belarusian, a tongue which suffered serious distortion in the wake of Communist mandates on "language merger." Vocabulary and onomastics, grammar and pronunciation, spelling and syntax are all covered in concise, easy to read lessons. Viačorka gives long overdue attention to a distinct and vibrant language which is an indivisible component of the modern European linguo-cultural space.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.



**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012



Альгерд Бахарэвіч.
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.



*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.* **Сем худых гадоў.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.* **Дзевяноста чацьверты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :) вясёлыя карцінкі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** 3-е выд., дап. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.